# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

1

(710) СТУДЗЕНЬ, 2013
Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:

# Тэма: 20 гадоў Без СССР

**Юлія ДАРАФЕЕВА, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «ЖЖ. Женский журнал»:**

— За мінулыя 20 гадоў вонкавы бок жыцця змяніўся кардынальна. Мы забыліся на дэфіцыт рэчаў, атрымалі магчымасць дакрануцца да сусветнага досведу ў сферы культуры, навукі, найноўшых тэхналогій, сталі вальнейшымі ў сваіх жаданнях і праяўленнях. Але ці азначае гэта, што новая форма істотна змяніла ўнутраны змест? Савецкага Саюза 20 гадоў як няма, а «савок» жывейшы за ўсіх жывых. Я маю на ўвазе, што добрае, светлае і прыемнае з таго, што адзначала сабой тую эпоху, там і засталося, а рознай дрэні мы пацягнулі з сабой цэлую плойму. Не буду казаць пра згубленыя высокія мэты, маральныя арыенціры і ідэалы: у свядомасці тых, хто родам з СССР, гэтыя паняцці назаўжды набылі рысы гумарыстычнага пафасу, хоць і добрыя гэтыя паняцці, і вельмі нам іх не хапае. Найбольшае гора, што мы так і не набылі адказнасці. Без яе ў сучасным свеце нікуды, а мы ў масе несамастойныя, прычым на ўсіх узроўнях — ад працы да мыслення. Як прывыклі 70 гадоў хадзіць за правадырамі, так і дасюль шукаем, за кім ісці. Былі «дзеці партыі» — сталі проста дзецьмі без партыі, і шчэ не вядома, што горш. Бо што адрознівае дзяцей? Імкненне шукаць вінаватых у сваіх няшчасцях, звычка трымацца за чыюсьці руку і цвёрдая ўпэўненасць, што заўтра будзе як заўжды.

Выбіць глебу з-пад ног проста, а пасеяць новае складана. Асабліва калі не засталося насення…

**Максім ГАЛЬПЯРОВІЧ, галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса»:**

— Прайшло ўжо больш як 20 гадоў пасля распаду СССР, але і сёння ідзе дыскусія пра значэнне гэтай падзеі для гісторыі, у тым ліку і гісторыі Беларусі. У асяродку даследчыкаў прынята лічыць, што ацаніць гістарычную падзею ўсебакова, абгрунтавана і ўзважана можна толькі праз 50 гадоў пасля таго, як яна адбылася. Мне хочацца падкрэсліць адзін вынік гэтай падзеі, які, на маю думку, мае найважнейшае значэнне для Беларусі. Упершыню ў сваёй гісторыі беларускі народ атрымаў права мець незалежную і суверэнную дзяржаву. Упершыню ў гісторыі беларускі народ сам прымае рашэнне, якім шляхам ісці, як будаваць дзяржаўнасць і, што надзвычай істотна, сам нясе адказнасць за лёс сваёй дзяржавы.

**Тамара БУНТА, галоўны рэдактар часопіса «Алеся»:**

— Я лічу, што адношуся да шчаслівага пакалення. Нарадзілася ў самым канцы 1950-х, калі і СССР, і наша рэспубліка, і мая сям'я здолелі ажыць і грунтоўна стаць на ногі пасля гора, разрухі, нястачы. Дзяцінства маё было басаногае, бясклапотнае і сытае. Рэвалюцыі, войны, рэпрэсіі — пра ўсё гэта мы толькі чыталі ў кніжках або бачылі ў кіно і ўспрымалі суадносна, як нешта вельмі далёкае і нерэальнае. Таму шчыра верылі ў савецкія ідэалы і ахвотна ўступалі ў акцябраты, піянеры, камсамол. Дарэчы, выхаваўчая работа там вялася вельмі добра. Я і тады не ведала, і сёння магу толькі здагадвацца па імёнах і прозвішчах, хто ў нашым класе быў беларус, хто рускі, хто ўкраінец, хто паляк, хто яўрэй. Інтэрнацыяналізм — вялікі здабытак савецкага ладу. Другі важны здабытак — сацыяльная роўнасць. Гэта вельмі важна — адчуваць, што нароўні з іншымі ты маеш права вучыцца, лячыцца, працаваць, займацца творчасцю, дасягаць поспеху дзякуючы руплівасці, стараннасці, працавітасці, таленту, а не грашам і прыналежнасці да пэўных грамадскіх колаў.

Калі грымнулі 1990-я, нашаму пакаленню зноў пашанцавала. Нам было тады па 30—35 гадоў. У гэтым узросце яшчэ лёгка памяняць погляды, працу, сувязі, ды і наогул усё пачаць нанава.

20 гадоў без СССР. Няўжо ўсяго 20?! Здаецца, гэта было ў мінулым жыцці. Ці ўзгадваю я яго? Канешне! Там засталіся маленства, юнацтва, маладосць, там — мае яшчэ жывыя бацькі, сястра, брат. Хацела б вярнуць тое жыццё? О, не! Сёння жыць цікавей і зручней.



*Вольга ШЭЛЯГОВІЧ*

# У адным кроку ад цуда

Яшчэ год таму я прачыналася з жанчынай (не кідайцеся перачытваць — верце вачам). Час ад часу хацелася яе прыдушыць! Яна жыла ўнутры і падавала голас. Раніца ў людзей пачынаецца па-рознаму: з шаленства будзільніка, моцнай кавы, прасавання кашуль, а ў мяне — з унутранага голасу. «О! Прачнулася. Спі давай. Толку з цябе. Панапісваеш якой лухты», — запэўнівала мяне жанчына-Скептык і з хуткасцю халерыка хавала тапкі пад ложак. Вечарам гаварылася наступнае: «Ну, і для каго гэткі макіяж? Твой даўно знайшоў сабе новую “цацку”». Пад знакам сумненняў ішоў дзень за днём. Пакуль на самай справе артыкулы не ператварыліся ў смецце, а новыя «цацкі» не ўсплылі на паверхню адносін з другой паловай. А праз два дні пачынаўся новы год…

Сёння я пішу гэты матэрыял, увогуле многа пішу без адчування, што калі ўсё гэта і друкаваць на паперы, то выдаваць трэба ў рулонах. У верасні я была нявестай, і каханне мяне напаткала такое, што забабонныя людзі пра яго б прамаўчалі. Год таму мне надакучыла драма, жанчына ўнутры, якая культывавала ў душы трагічнасць замест райскага саду пачуццяў. І як сустрэла я 2012 год — вольнай ад усіх самотных думак — так яго і правяла.

Акурат цяпер той час, калі многія вырашаюць пачаць усё з пачатку. Можа, тое ідзе з падсвядомасці: святкаванне аналага сённяшняга свецкага Новага года ў Старажытным Рыме было прысвечана Янусу — богу выбару, дзвярэй і ўсіх пачаткаў. Янус Янусам, але ў гэты час нарадзіўся Хрыстос, а потым уваскрос — цуд чыстай вады. А з другога боку (варыянт не для вернікаў), святкі, як ні парадкасальна, час варажбы, калі праз сны, люстэркі, агонь свечак паўзе ў наша жыццё нешта таемнае, невытлумачальнае, магічнае і фатальнае. І як змяшаліся ў гэты перыяд года хрысціянства і язычніцтва, так змяшаліся і думкі чалавека, які, з аднаго боку, верыць у цуд, раздае даўгі, пачынае новае жыццё, а з другога, думае, што, напэўна, здзяцінеў, калі спяшаўся да дванаццатага ўдару курантаў перакуліць фужэр з шампанскім ды попелам ад спаленай паперкі, на якой напісаў запаветнае жаданне.

Ва ўяўленні дамінуючай часткі людзей цуда — гэты нешта звышнатуральнае. Як гаварыла непараўнальная актрыса ФаінаРанеўская: «Жыццё можа патраціцца на тое, каб плаваць ва ўнітазе стылем батэрфляй, і чалавеку можа хапіць розуму, каб пражыць бязглузда». Актрыса прызналася, што яе жыццё прашмыгнула, а яна нават ніколі не чула, як спяваюць салаўі. І ў кожнага, як мне падаецца, ёсць свае «салаўі» — цуды індывідуальнага маштабу. Адзін крок да саду з салаўямі, адзін крок да таго, што здзіўляе і натхняе вас. Я знаёма з адным мастаком, які не ходзіць і амаль не можа рухаць паль-

цамі. У 17 гадоў атрымаў траўму пазваночніка, і з той пары бацькоўская хата стала яго заўсёдным прытулкам. Анатоль— так яго імя — трымае пэндзаль у зубах і піша чароўныя пейзажы. Такія ж у яго і вершы — глыбокія, філасофскія. Аднойчы ён прызнаўся блізкаму чалавеку, што закахаўся, і сэрца яго пры сустрэчы з той дзяўчынай так стукала, што хацелася зляцець з ложка. Ці не цуд, што ў чалавека прачнуўся ўнікальны талент, і душа не стала чэрствай, хоць і гартавалася болем? Гэты талент разбудзіў сам Анатоль сваёй упартасцю, настойлівасцю і вялікім жаданнем напоўніць непаўнацэннае жыццё. Адзін крок!

Адна знаёмая жанчына рашылася і нарадзіла ў 40 гадоў першае дзіця. У той час яна была адзінокая. Сёння ў яе ёсць дачушка і муж. А яшчэ яна змяніла месца жыхарства — пакінула вёску, дзе працавала да цяжарнасці. Для яе ў 40 жыццё толькі пачалося. Адзін крок!

Мае «салаўі», мой цуд — найперш мужчына, які цяпер побач. Я, як дылетант ў пытанні цудаў, яго доўга не заўважала, мяшала попел з шампанскім і спадзявалася на нябесную манну. А трэба было проста ўпусціць у жыццё чалавека, які жадаў мне дабра. Адзін крок!

Няма розніцы, калі пачынаць мяняць і мяняцца, глядзець і заўважаць. Чым добры для гэтага студзень? З першага месяца года добра весці адлік ад пачатку перамен. Вось і мне ўзгадалася сёння, колькі раніц я сустрэла без унутранага голасу скептыка. Рухайцеся наперад, не бярыце прыклад з камянёў, пад якія не цячэ вада. І няхай дапаможа вам правіла аднаго кроку.

**Сёння я пішу без адчування, што калі ўсё гэта і друкаваць на паперы, то выдаваць трэба ў рулонах**

# Ад рукі


Віктар Гардзей

Трыадзінства

Ў ёсць яна, вялікая Бяда,
Калі затрубяць роспачна анёлы;
Бядой такою — горкая вада,
Начныя сны-кашмары і нуда,
Ў кожны дзень да скону невясёлы.

Ў ёсць яна, вялікая Згуба,
Калі настроіць грэшных у калоны;
Ў працягнецца апошняя труба,
Ў выбегуць, як спешная мальба,
Замест кожны вараньня клоны.

Ў ёсць яна, вялікая Віна,
Калі і дуб ніжэй за дуб нахілен;
Чало нахмураць думы не адна,
Ў кубак свой, не выпіты да дна,
Якога паднясць ужо замала сілы.

ВГардзей —

20 лістапада 2012 г.

**Сваіх юбіляраў** віншуе Беларускі саюз музычных дзеячаў. У студзені нарадзіліся: **Уладзімір Дарохін —** кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі; **Леанід Нікольскі, Надзея Мікуліч —** папулярныя спевакі, нястомныя прапагандысты песень беларускіх аўтараў, заслужаныя артысты рэспублікі; **Уладзімір Сяргейчык —** адзін са старэйшых музычных педагогаў краіны, настаўнік некалькіх пакаленняў выпускнікоў Гродзенскага каледжа мастацтваў, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.

**Рым у цэнтры Мінска!** Нічога нерэальнага! Праўда, каб адчуць магію «вечнага горада» ў будзённай калатнечы сучаснага беларускага мегаполіса, варта пераключыцца са штодзённай мітусні на хвалю вобразнага ўяўлення і высокіх эмоцый. Забыцца на свае праблемы і слухаць подых старажытнасці. Слухаць — калі, вядома ж, вам пашанцуе трапіць 31 студзеня ў Беларускую дзяржаўную філармонію, на канцэрт «Музычныя сталіцы Еўропы. Рым». Праграма ўключае сімфоніі, кантаты, духоўныя гімны кампазітараў эпохі барока: Алясандра Скарлаці, Арканджэла Карэлі, Георга Фрыдрыха Гендэля. Імпрэзу рыхтуе творчы калектыў Беларускага саюза музычных дзеячаў «Камерныя салісты Мінска» пад кіраўніцтвам знанага расійскага маэстра Дзмітрыя Зубава. У канцэрце ўдзельнічаюць італьянская спявачка Ганна Карбанера і Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь.


ПРОЗА
Уладзімір Караткевіч
ЧОРНЫ ЗАМАК АЛЬШАНСКІ
РАМАН
В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю.
Частка 1. ГРОЗНЫЯ ЦЕНІ НАЧНЫЯ
З чаго мне, чорт пабірай, пачаць? З таго прадвесня, калі за акном было сутонне і мокры снег?
А што вам да леташняга снегу й сутоння? Пачаць з таго, хто я такі?
А што вам, урэшце, да мяне, звычайнага чалавека ў вялізным горадзе? І нашто вам мая самахарактарыстыка?
Адразу браць быка за рогі і расказваць? А якое я маю права на вашу ўвагу? Тое пра-
Мал. П. Драчова
3 «Маладосць» № 7
17

*З калекцыі аўтографаў. «Маладосць» № 7, 1979 год.*

**Кожны панядзелак а сёмай вечара на Незалежнасці, 39 у Мінску.**

Творчая майстэрня часопіса «Бярозка» запрашае на штотыднёвыя сустрэчы школьнікаў і студэнтаў малодшых курсаў! Што чакае яе сяброў у лютым? Працяг ланцужка сустрэч — майстар-класаў з беларускімі літаратарамі і журналістамі. Практычныя заняткі: абмеркаванне «сваіх» твораў, праца-вучоба з «чужымі» тэкстамі. А таксама спантанныя гутаркі на нечаканыя тэмы і незапланаваныя шпацыры пасля заняткаў.

***Сардэчна запрашаем! Хто ведае, можа быць, сцены рэдакцыі, якія багата творцаў запомнілі, падзеляцца з вамі натхненнем?***

**«Шаляпін супраць Эйфелевай вежы».** Пад заваблівай назвай — захапляльны біяграфічны расповед пра Фёдара Шаляпіна, легендарнага рускага спевака і акцёра, рэфарматара опернага тэатра, надзеленага яркім талентам мастака. Напісаў кнігу вядомы сербскі спявак Браніслаў Яціч. З яго згоды выданне гэтай манаграфіі (упершыню ў перакладзе на рускую мову!) рыхтуецца і ў нас — як сумесны праект Беларускага саюза музычных дзеячаў і выдавецтва «Чатыры чвэрці». Прэзентацыя мае адбыцца падчас урачыстасцей, прысвечаных 140-годдзю са дня нараджэння Фёдара Шаляпіна. У Мінску ўвага да яго асобы асаблівая: пад патранатам Саюза музычных дзеячаў нават створана «Шаляпінскае таварыства Беларусі», якое ўзначальвае наш славуты оперны бас Алег Мельнікаў, — лаўрэат І прэміі Першага міжнароднага конкурсу імя Ф. Шаляпіна ў Казані. Таварыства аб'яднала спевакоў, музыкантаў-інструменталістаў, рэжысёраў, журналістаў, мастакоў, захопленых феноменам гэтага сусветнага куміра. Гісторыкі высветлілі, што роўна сто гадоў таму Фёдар Іванавіч прыязджаў з канцэртамі ў Мінск ды Магілёў, і даследаванне «шаляпінскага следу» ў Беларусі працягваецца.

Аксана СІВЕЦ

# ПОБАЧ З ЗОРАМІ, ПА-НАД ДАХАМІ...

* * *

Неўзабаве зіма,
І ведаю —
Вінавата сама
У гэтым я.
Мне душу замяце
Ўспамінамі…
Па сняжочку — хадзем
За зімамі!
Побач з зорамі,
Па-над дахамі —
За каханнем
З чароўнымі пахамі…

У сэрцы маім шмат месца.
Захочаш — прыходзь пагрэцца!

* * *

Трэцяга ліпеня
Болю пабольшала.
Вымаўчу збольшага
Ўсё, што змагу.

Трэцяга ліпеня…
Дзённікі блытаю.
Неяк кахала,
Ды больш не магу.

Робіцца горшае, верыцца ў лепшае,
Ды застанешся ў ліпені тым
Ты назаўсёды са мной незавершаным,
Досыць маўклівым і толькі маім.

* * *

Тры кулі ў позірку.
На дахах — туманы,



***Аксана Сівец нарадзілася 23 мая 1991 года ў Вілейцы. Вучыцца ў БДПУ імя Максіма Танка. Вершы друкаваліся на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», часопіса «Бярозка», а таксама гучалі ў эфіры канала «Культура» Беларускага радыё. Цікавіцца радыёжурналістыкай, захапляецца тэатрам і сучаснай паэзіяй. Натхняюць цікавыя людзі і ноч.***

Агні згасаюць на сівым дасвецці.
Пад подыхам бялёсае маны
Радкі злятаюць недасохлым квеццем…
Ліецца з вуснаў прысмак цішыні, —
Ты словы кулямі ізноўку падмяніў.

* * *

Горад вітае пахамі снегу,
Лёгкага бегу
Да матчынай хаты
І звычаем перадкалядным —
Душу частаваць вершамі і «чакалядай».

* * *

У шэрым абліччы туману
Адрэзала крылы. Наўзрыд
Табе наўздагон заспявала,
Заплакала без пары.

Ты слаўны! Ды, ведаеш, зоркам
Не трэба спяваць ўсё наноў.
Дагэтуль тым зоркам горка
Ад нашых з табой туманоў.

Мы слаўныя, ды не зараз —
Такімі былі увосень…
Схаваліся ў сны і мары,
У чыстую неба просінь.

Адтанчылі і адспявалі
Свае ганарлівыя ноты.
І ты адлятаеш у далі,
А я — у сваю адзіноту.

**РАЗЫДЗЕМСЯ!**

Ты не бачыў нічога, апроч
Маёй радасці, злосці і хмелю.
Развітаемся у нядзелю —
Толькі цемру апусціць ноч!

Дзякуй богу, не бачыў слёз —
Мне б самой іх не бачыць! — І вершаў!
Не апошні ты і не першы,
Але грукае ў скроні ўсур'ёз.

Мы разыдземся. Можа быць,
Дзесь сустрэнемся потым вачыма.
Я табе усміхнуся, магчыма,
А пакуль яшчэ трохі баліць.

* * *

Не люблю! Не люблю! Не люблю!
…Кахаю.
Не хачу!Не хачу!Не хачу!
…Жадаю.
Не крыўдую, а плачу.
Хаваю няўдачы.
Глытаю без здачы
Гарачы каньяк.
А вечар скуголіць,
Забыць цябе моліць…
Забыцца! Забыцца! Забыцца!
…Ды як?

* * *

На далонях тваіх раскрываюцца гарады,
На маіх — мегаполісы. У снах мы блукаем там часам,
Шпацыруем паўночы па авеню, і тады
Асфальт джазам гучыць пад маім абцасам.

*Алена КАМІСАРАВА*

# БЕЗЗАГАННЫ

*Апавяданне*

Кампанія склалася даўно. Хлопцы вучыліся разам, а потым, пасля размеркавання, і працавалі пэўны час усе чацвёра на адным прадпрыемстве. Ні з'яўленне каханак, ні розная хуткасць руху па кар'ерных прыступках не разбілі студэнцкае сяброўства.

Першым ажаніўся Алесь, яшчэ на перадапошнім курсе. З жонкай яны пражылі крыху больш як два гады і ніводнага дня без сваркі. Шлюб быў скасаваны праз месяц пасля таго, як наступны адважны таварыш, Стась, вырашыў паспытаць сваю ўдачу, і адносіны з Тасяй былі аформлены афіцыйна. Калі пра першую жонку Алеся ўсе ведалі, што яна існуе і пастаянна лаецца з мужам, то Тася адразу заваявала сімпатыю ўсіх таварышаў. Яна была пекнай дзяўчынай з разважлівым выразам твару і пільным паглядам шэрых вачэй. Здавалася, што такое спалучэнне немагчыма, але разумненькая і зычлівая прыгажуня ўжо колькі гадоў была ва ўсіх навідавоку і ніводнага разу не дала падставы сапсаваць сваю рэпутацыю. Шмат хто казаў, што такую трэба яшчэ ўтрымаць, але сябры бачылі, што Стась і Тася ладзяць паміж сабою. А потым закруцілася: Мікалай і Юрка закахаліся ў дзвюх сябровак Ганначку і Галю, так што вяселлі згулялі з перапынкам у два тыдні, а следам і Алесь паведаміў, што знайшоў сваю сапраўдную каханую. Так да кампаніі далучыліся і жанчыны: Тасю ведалі раней за астатніх, паспелі прывыкнуць, Ганна і Галя паміж сабой ужо сябравалі, а Алесева новая жонка Таня сама ўлілася ў калектыў.

Два-тры разы на год сябры збіралася ў кагосьці на дачы на выхадныя. Здаралася гэта альбо падчас святаў, ці па жаданні адной з пар. Маўляў, трэба развеяцца і адпачыць ад штодзённай руціны. Традыцыя перарывалася ці падтрымлівалася няпоўным складам толькі тады, калі дзеці былі занадта малыя, каб пакідаць іх бабулям на цэлыя два дні. Старэйшай Стасевай дачцэ — Марысі — было восем год, малодшай — Анцы — пяць.

Апошнім часам збіраліся на дачы Мікалая, якая была найбольш даведзена да таго стану, калі загарадны дамок можна з поўным правам назваць паўнавартасным чалавечым жытлом. Вось і гэтым разам аддаліліся на



***Алена Камісарава нарадзілася 23 красавіка 1984 года ў Магілёве. Скончыла Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання. Лічыць, што мінус трыццаць лепш, чым плюс сорак (гэта пра надвор'е), а паміж цяжкімі гітарнымі рыфамі і высокімі абцасамі няма ніякай супярэчнасці. Нават тысяча сяброў з сацыяльнай сеткі не дасць таго ведання чалавечай натуры, якое можна атрымаць пры асабістых стасунках.***

звыклыя восем кіламетраў ад горада, каб разняволена правесці час у кампаніі старых сяброў.

Неба напрыканцы лета было нізкім, але беззаганна чыстага блакітнага колеру. А малочна-белыя аблокі нагадвалі вялізныя шматкі ваты, прышпіленыя так блізка да зямлі, што калі забрацца на дах высокага будынка, то абавязкова схопіш пяцярнёй нябесны кавалак.

Тася і Стась прыехалі апошнімі, таму сябры сустракалі іх на прыступках дома. Лецішча Ганначкі і Мікалая ўяўляла з сябе двухпавярховы дом, з тэрасай па баках ад увахода, які атачалі кветкі: перад домам раскашавалі дзве клумбы, вазоны стаялі на травяным газоне ўздоўж сцежкі, што вяла ад брамкі. Сад яшчэ не ўвабраўся ў сілу, мала якія дрэвы пладаносілі, але маштаб пасадкі ўражваў. За домам хавалася альтанка, а крыху далей месціліся гараж ды лазня.

— Сапраўдную сядзібу адбудаваў! — Стась пацiснуў руку Мікалаю, потым павітаўся з Алесем і Юрам. — Табе ўжо і турыстаў запрашаць не сорамна.

— А што, і турыстаў можна! Як ты, Аня, на гэта глядзіш?

— Вы прыдумаеце! — Аня не падтрымала жарт.

— Ты малайчына! Усё квітнее. Такая прыгажосць, — Тася абняла гаспадыню.

— Дзякуй, мне і самой падабаецца. Удалыя кветнікі атрымаліся. Давайце нясіце свае рэчы наверх, уладкоўвайцеся.

Перыядычнае скрыгатанне ды неразборлівыя галасы сведчылі, што мужчыны дапамагалі Мікалаю рабіць чарговую перастаноўку ў гасцінай (гаспадары нешта мянялі ў інтэр’еры ледзь не кожны год), а жанчыны сабраліся на кухні гатаваць абед.

— Мне ўчора вечарам сястра такога нарасказвала! — у голасе Галі чулася сапраўднае абурэнне. — Вось што за людзі бываюць! Калі не ім пашчасціла, дык лепш, каб нікому наогул долі не было. А сябрамі называюцца.

— Што такое здарылася? — Таня падняла галаву ад салаты, якую наразала да абедзеннага стала.

— Падрабязнасці, сястра сказала, будуць пры сустрэчы, а ў двух словах…

— У двух словах, цягам двух гадзін, — на парозе кухні стаяў Юрка, — не, вы гаманіце, я толькі хацеў спытаць, чым можна прыбраць смецце, мы разбілі вазон, — убачыўшы Ганначкіны вочы, ён хутка дадаў, — але кветачка цалюсенькая!

— Сама ўяві, што можна адчуваць, калі з цябе ні за што ні пра што робяць дурніцу, — Галя працягвала пра сваё.

Ганначка, якая, відаць, ужо чула гісторыю Галінай сястры, і якую пакаёвая кветка хвалявала ў гэты момант значна больш, выйшла з Юркам паглядзець, што паспелі нарабіць мужчыны, застаўшыся без нагляду.

— Дык ты расказвай, калі пачала. Што ж здарылася? — Тася выцягнула мяса з духоўкі. Ёй падалося дзіўнаватым, што Мікалай, гаспадар, не ведае, дзе знаходзіцца венік, і чаму не ён прыйшоў пра гэта спытаць.

— А здарылася так, што мая Надзя пазнаёмілася з хлопцам, які ёй спадабаўся. А была яна тады разам з сяброўкай. Гэты хлопец запрасіў іх абедзвюх на вечарыну ў сваю кампанію. Дык, вы ўяўляеце, тая сяброўка, заўважыўшы, што асноўная ўвага кавалера звернута не на яе, а на маю Надзьку, так паводзіла сябе ўвесь вечар, што большасць прысутных прыняла і маю сястру, і яе сяброўку ці то за непапраўных сцерваў, ці то за безнадзейных дурніц.

— Што яна такое рабіла? — у голасе Тані гучала лёгкае здзіўленне, праз якое праглядваў недавер.

— Малая сказала, што сяброўка быццам з ланцуга сарвалася: то яна распавядала, якія справы можа рабіць, то дэманстратыўна хмыкала на тое, што лічыла заганным, то сядзела ў куточку ледзь не ў слязах. У Надзі вочы як акругліліся ў пачатку вечара, так выраз твару і не змяніўся. Яна ўпершыню бачыла сяброўку гэтакай. А яны ж жывуць у адным пакоі з першага курса, дабраліся ўжо да чацвёртага.

— Яна так расхвалявалася? — у пытанні гучаў прыхаваны здзек. Тасю чамусьці не вельмі здзівіла, што, здавалася б, добра знаёмы чалавек раскрыўся раптам не з самага лепшага боку.

— Надзя лічыць, што гэта наўмысна. Хто ведае. Але яна ўвесь вечарваждалася з прыяцелькай, а з хлопцам нават не пагаварыла.

— А што хлопец?

— Баіцца, не ведаю. Ветліва вітаецца, але больш нікуды не запрашае.

— Пры чым тут твая сястра? Кожны можа так уляпацца, — Таня запраўляла салату.

— Надзя ж прывяла гэту дзяўчыну як сяброўку. Вось усе і ўспрынялі яе па той, з кім яна водзіцца.

— Глупства гэта ўсё. Такі ён кавалер! Чаму не ратаваў тваю сястру ад шалёнай сяброўкі падчас вечарыны? — Тася перасмыкнула плячыма. — Лепш выкінуць яго з галавы.

— Як па Надзі, дык ці яна больш перажывае з-за хлопца, ці злуе на суседку па пакоі, не ведаю. Але эмоцыі віруюць.

Бульба зварылася, і можна было накрываць на стол.

За абедам Юрка пацікавіўся гісторыяй з жончынай сястрой:

— Ну як, выслухалі аповед пра сабе падобных?

— І што ты разумееш пад «сабе падобнымі»? — Ганначка зрабіла выгляд, быццам рыхтуецца да абароны.

— Гэта мой муж намякае, што мы, жанчыны, маем вялікую схільнасць да ўсялякіх непрыгожых метадаў барацьбы.

— Я і не намякаю. Я кажу, што, калі сяброўка наўмысна сябе гэтак паводзіла, то так і ёсць.

— Дык мы, Юра, не толькі саперніц прыбіраем са шляху, а яшчэ і ўсялякія пасткі на мужчын расстаўляем, каб яны, калі патрапяць, ужо ніколі не выбраліся, — на нейкі момант Тасі падалося, што жанчыны ўсміхнуліся праз сілу, нібы спачуваючы чалавеку, што трапіў у няёмкае становішча, а мужчыны апусцілі вочы. Вось толькі яе Стасік ніяк не змяніўся.

— Якія такія пасткі? — здавалася, што ў голасе Мікалая прагучала агрэсія.

— Я пра Пятра, які вучыўся на вашай спецыяльнасці.

— А! Пра таго, што маладзейшы на тры гады? — напружанне, здалося, крыху адступіла.

— Так. А памятаеце яго Крысю? З якой ён сустракаўся. Яе бацькі жывуць непадалёк ад нас, часам бачым і моладзь.

— Яны ўсё ж не рассталіся? Там той Крысі было. Ды Пётр нешта ж у ёй знайшоў, — можна было падумаць, што Мікалая гэта пытанне насамрэч хвалявала. Ва ўсялякім разе ён больш не падаваўся Тасі варожым.

— Тады — было б той Крысі, а сёння — было б таго Пятра, — Алесь перахапіў ініцыятыву. — Я іх таксама бачыў з месяц таму. Цяпер яны роўна выглядаюць. А ў чымсьці і Крыся на фоне мужа выйграе.

— Не можа такога быць! Што ў Крысі знайшлося такога, каб выйграваць, — не даваў веры Юрка.

Таварышы нечакана ўхапіліся за абмеркаванне староннняй сямейнай пары, якая ніяк не магла сябе абараніць. Жонкам было незразумела, як іх мужы наважыліся параўноўваць жанчыну з мужчынам, ды яшчэ на карысць апошняга, які мог бы выбраць лепшую (з яго-та дадзенымі!), і наогул, так прыцíснулі Крысю да зямлі. Тася, якая бачыла абодвух віноўнікаў спрэчкі на ўласныя вочы і распачала гэту гаворку, вырашыла ўмяшацца:

— Яна ніколі не была страшнай, але і прыгожай таксама не была. Для мяне асноўная прывабнасць Хрысціны-Крысі заключалася ў тым, што яна ўся свяцілася ад шчасця. А цяпер — самазадаволеная. А Пётр стаў дужа ёмкім і непаваротлівым, а твар як не яго: раней рысы былі тонкія, а цяпер — падбародак падобны да кавадла. Пазнаць можна, але чалавек зусім іншы.

Стась, відаць, таксама вырашыў, што пара змяніць тэму размовы і запытаў у жонкі:

— Ты жартавала пра жаночыя пасткі, што расстаўляюцца на мужчын, а ў выніку мы сур'ёзна абмяркоўваем аднаго няшчаснага, які распаўнеў і больш не здаецца прывабным. Ты, канешне, не любіш згадкі пра жаночую логіку, але дзе сувязь?

Тася не паспела нічога адказаць, бо Ганначка і Галя адрэагавалі першыя і ў два галасы:

— Гэта ж відавочна! Яна яго раскормлівае, каб ён іншым не быў патрэбны і заставаўся пры ёй.

— Дык што! — Стась не сунімаўся. — Ён малое дзіця, якое кормяць з лыжачкі, адмовіцца не можа?

— Вось наконт адмовіцца, калі любая на стол накрывае, — тут сапраўды ніяк нельга. — Алесь вырашыў пагадзіцца з тым, што вінаватая жанчына. — Яна ж пакрыўдзіцца, калі забудзешся, што з рук каханай…

— Не ў гэтым справа, — Ганначка не дала дагаварыць субяседніку. — Разумная жанчына зробіць так, што ты не зможаш адмовіцца: усё смачна, пах прывабны. Каб ты захапляўся тым, якая твая жонка добрая гаспадыня.

— Атрымліваецца, даражэнькая жонка, што ты смачна гатуеш выключна дзеля таго, каб я з трэскам прабіраўся праз дзвярны праём, які з цягам часу будзе лепей замяніць на ангарныя вароты?

— Здаецца, праз дзверы ўсе прысутныя праходзяць свабодна, — Галя заступілася за сяброўку.

— Проста ў некаторых жонкі занадта прыдзірлівыя і патрабавальныя, таму і трымаюць мужоў у выдатнай форме дзеля сябе.

Рэпліка Стася, звернутая да кожнай з прысутных жанчын, здалося, зноў згусціла атмасферу за сталом. На імгненне павісла цішыня. А ў Тасі было адчуванне, што ўсе ў гэты момант глядзяць на яе. Толькі Галя ніяк не супакойвалася:

— Ці некаторыя мужчыны самі занадта заклапочаны тым, каб падабацца не толькі жонкам, — гэтыя словы адцягнулі ўвагу ад Таісіі. Юрась паспрабаваў супакоіць жонку. Таня маўчала. Мікалай з Алесем ці жартам, ці ўсур'ёз развівалі папярэднюю думку пра тое, што мужчыны стараюцца выключна для жонак, а Ганначка глядзела ўбок.

Нарэшце ўсе сышліся на тым, што, калі абодва з сямейнікаў глядзяцца роўна, то, значыцца, яны знайшлі адно аднаго, і завяршэнне абеду прайшло ў больш лёгкай абстаноўцы.

Пасля ўсе разбрыліся па розных кутках. Мужчыны важдаліся ў Мікалаевым гаражы. Таісія накіравалася да жанчын. Ганначка і Галя пра нешта шапталіся на вузкай верандзе, перагнуўшыся праз парэнчы, нібы глядзелі на вазоны з кветкамі,

вынесеныя на сонца. Няёмка было іх трывожыць. У супрацьлеглым ад увахода ў дом баку, у альтанцы, сядзела Таня, і Таісія накіравалася да яе, але Таццяна не ўзняла галавы. Побач з ёй ляжалі часопісы. Адзін, разгорнуты, яна трымала ў руках, толькі цяжка было паверыць, што позірк жанчыны трапляе на старонкі, а падціснутыя вусны канчаткова пераканалі Тасю, што падыходзіць не варта.

За агародамі раскашавала пустка, парослая травой, праз якую была пратаптана сцежка да ракі. Жнівеньскія дні рэдка бываюць аднолькава спякотнымі ад раніцы да змяркання. Часцей сонца пячэ некалькі гадзін запар, а потым, у лічаныя хвіліны, пахмурнее, і калі не пачынаецца дождж, дык вецер ужо не дае забыцца на хуткае набліжэнне восені. Сонца яшчэ прыпякала сцежку, але бліжэй да вады перамагала халоднае паветра з вільгаццю і мошкамі, таму Таісія радавалася, што прыхапіла кофту.

Вада была цёмная. Нават каля самага берага немагчыма было разгледзець, што хавае дно. Прамяні святла слізгацелі па паверхні, але ніяк не прыадчынялі таямніцу, што ляжала на глыбіні. Вада заўсёды заварожвала Тасю, якая сядзела на бервяне і глядзела на яе, не зважаючы на час. Плынь у гэтым месцы была ледзь прыкметная воку, але рака ніколі не прыпыняла свой рух.

— Ты чаго тут адна? — Стась нахіліўся і паклаў рукі жанчыне на плечы. — Штосьці здарылася?

— Не.

— Тады пайшлі патэлефануем малым, — яго голас гучаў ля самага вуха, так што Тася адчувала на скуры прыемную цеплыню ад подыху. — Усё нармальна?

— Так. Проста… Нічога.

— Ты пасварылася з кімсьці з дзяўчат?

— Не, — Тася ў пацвярджэнне пакруціла галавой. — Я не сварылася ні з кім, але ўсе неяк коса на мяне глядзяць.

— Коса — гэта калі ты прыйшла на прыём пры поўным парадзе: сукенка, прычоска, макіяж і ў гумовых ботах!

— Ты з мяне кпіш?

— Каму тут скоса на цябе глядзець? Усе ж свае.

— Таму і не зразумела.

— Ты прыдумала, — Стась прыгарнуў жонку да сябе. — Пайшлі патэлефануем, і трэба астатніх паклікаць рыхтаваць вячэру, а то расцягнуліся па вуглах.

За той час, што Тася правяла на беразе, нічога не змянілася: Галя з Ганначкай гаманілі, толькі перамясціліся з веранды на лаву каля дома, Таня сядзела ў той жа альтанцы, а па галасах можна была зразумець, што мужчыны знаходзяцца ў гаражы. Прынамсі так было да таго, пакуль Стась і Тася дабіраліся да дачнага ўчастка сяброў. А далей яны ішлі нібыта на парадзе. Таня павярнула галаву ў іхні бок, усе трое мужчын стаялі каля ўвахода ў гараж, а калі муж і жонка, абдымаючыся, параўняліся з дзвярыма дома, Галя і Ганначка змоўклі.

Пасля размовы з дочкамі, Тася крыху забылася на дзіўнаватыя паводзіны старых сяброў. Да таго ж, да Стася з гэтай тэмай нельга было падступіцца. Ва ўсялякім разе, знаходзячыся ў гасцях.

Пакуль збіралі на стол, распальвалі вогнішча, Таісія не магла адмахнуцца ад разважанняў пра тое, што вячэра на паветры, печаная бульба — усё гэта больш не выглядае як бязвінная забава, часовы ўцёк у юнацтва. Упершыню ў яе ўзнікла пытанне: а ці варта было прыязджаць? Яшчэ раніцай яна адчувала ўздым і бесклапотнасць у чаканні невялікага адпачынку. А цяпер усё больш пераконвалася, што для астатніх гэта была толькі дадатковая нагрузка. І не магла прыгадаць, хто ўсіх

паклікаў гэтым разам. І з папярэдняй сустрэчы перапынак быў даўжэйшы, чым звычайна. Тася больш не разумела, чаму яны ўсе тут. Дух бесклапотнасці і свята знік.

Беззваротна.

Жанчына паставіла ўжо талеркі, бакалы, расклала відэльцы, калі адчула, што па спіне прабег халадок. Пашукала вачыма мужа — таго нідзе не было. Яна падзяліла стосік папяровых сурвэтак на дзве часткі і паклала палову на іншы край стала.

Адчуванне няўтульнасці не праходзіла. Пільны погляд, які можна адчуць фізічна, працягваў свідраваць яе. Нібы хтосьці праслізнуў па спіне, потым паказытаў шыю, ізноў прайшоўся па спіне. Жанчына была ўпэўнена, што за ёй сочаць. «Дзе Стась? Толькі ж тут круціўся!» Яна стаяла, няздольная паварушыцца. Вельмі хацелася павярнуць галаву і паглядзець, хто там, але замест гэтага пачала павольна мяняць месцамі салатнік і хлебніцу. Таісія пачала ўспамінаць, што за спінай было вогнішча, там — Алесь. Здаецца так. Нічога страшнага.

Тася, пераадольваючы здранцвенне, павярнулася і ўбачыла Алеся, а яшчэ Мікалая і Юрыя.

Таісія добра ведала, якое ўражанне рабіла на мужчын. Многія гублялі раўнавагу, баяліся яе. Але каб так паводзілі сябе даўнія мужавы сябры? З імі яна знаёмая не першы год. Яны калісь насамрэч глядзелі на яе з захапленнем. Той час даўно сышоў: было і ўмомант знікла. Відаць, з'явілася звычка. Цяпер было нешта іншае. Цікаўнасць, непрыемная і зласлівая. Быццам на яе пачалі глядзець з нейкім асуджэннем, а мужу спачуваюць.

Жанчына накіравалася ў дом. Павольна, як толькі магла. Ёй хацелася пабегчы, але яна стрымлівалася, ішла спакойна і роўна. Яна ўжо хацела прыбавіць ходу, схаваўшыся за кутком дома, але сустрэла Галю і Ганначку.

— Куды ты так ляціш? — з Галінага пытання вынікала, што Тася ўсё ж не цалкам авалодала сабой. — Ужо час сядаць за стол.

— Я ў дом.

— Стася шукаеш? — Галя нібы жартавала, Ганначка за яе спінай злёгку ўсміхалася. — Думаеш, ён за пару хвілін без цябе паспеў заблукаць?

Нікога яна на ланцугу не трымае! Пра што яны? Тася ад такіх жартаў яшчэ больш разгубілася і не заўважыла, як хутка ўзнялася па прыступках і ўляцела ў пярэднюю.

Стась заўважыў па абедзе пахмурны выраз твару жонкі, таму імкнуўся не аддаляцца ад яе. Але Юрась аклікнуў яго:

— Схадзі, дапамажы Ганначцы з Галяй вызначыцца з напоямі, — поплеч з ім стаяў Мікалай.

— А вы што самі не змаглі? — Стась не разумеў, куды яго адпраўляюць.

— Мы выйшлі з даверу, а калі жанчынам такі выбар пакінуць, то будзем піць салодкую ваду.

Стась перасмыкнуў плячыма, так і не дацяміўшы, чаго ад яго патрабуюць, і накіраваўся ў кухню. Яго сябры пайшлі ў бок Алеся, які варушыў попел у вогнішчы. Ён паспеў ужо з'есці адну бульбіну і пераканацца, што тая гатовая, але не клікаў нікога і працягваў корпацца ля кастрышча.

На кухні дзве жанчыны за размовай збіралі ежу на паднос. На стале стаяў плецены кошык, з якога выглядвалі коркі ад бутэлек. Стасю прыйшло ў галаву, што незнаёмцы павінны былі прымаць іх за сясцёр: Ганначка і Галя, дзве пафарбаваныя бландзінкі з залацістым загарам, насілі падобныя сукенкі аднаго адцення, толькі

рознай колеравай насычанасці. Далёка не кожны мужчына адрозніваў такія дэталі. Блізняты, ды і толькі!

Жанчыны заўважылі яго і спынілі гаворку.

— Стасік, ты каго шукаеш? Тася была на вуліцы, — Галя гаварыла з прыемнай усмешкай на твары.

— Я быў з Тасяй, але мяне накіравалі вам дапамагчы, Мікалай з Юрыем.

— Нам дапамагчы? — Ганначка была здзіўлена. — Ведаеш, адкаркуй бутэлькі і нясі, толькі не разлі па дарозе.

— Мы пойдзем, даганяй!

Стась зрабіў тое, што яму загадалі, і накіраваўся да выхада, дзе ў дзвярах на яго наляцела Таісія, так што віно і сапраўды пралілося.

Тася прачнулася ад таго, што пад акном нехта сварыўся. Па галасах яна вызначыла Таню і Алеся. На гадзінніку была палова на сёмую. Калі Тася ўстала, апранулася і падышла да акна, то аказалася, што сварліўцы знаходзіліся не пад домам, а ў той альтанцы, дзе Таня правяла частку ўчарашняга дня. У сельскай ранішняй цішыні гэтага было дастаткова, каб разагнаць сон.

Таісія накіравалася ўніз.

Мікалай у свой час намудрыў з планіроўкай: кухня, дзе гатавалі, была прахадным пакоем, з якога дзверы вялі ў сталовую і ў калідор да ванны і прыбіральні. Праз прыадчыненыя дзверы сталовай жанчына заўважыла Ганначку, якая там спала на канапе. Калі Тася вярталася, то ў кухні сутыкнулася з Галяй, якая была прыкметна збянтэжана такой сустрэчай.

— Ээ, табе таксама не спіцца? — відаць нічога лепшага Галя не прыдумала.

— Не, я спала, — Таісін погляд затрымаўся на дзвярах, што вялі ў сталовую. Яны былі шчыльна зачынены.

— Так, сапраўды яшчэ можна спаць, — Галя выслізнула ў калідор.

Тася паднялася ў спальню. Але як толькі забралася ў ложак, зразумела, што замест Тані з Алесем на паветра выйшлі высвятляць адносіны Галя з Юрам. Яны не абцяжарылі сябе хаваннем ў альтанцы, а спыніліся пад вокнамі. Таісія не ведала, ці чуў іх хто іншы, а яна сама — кожнае слова.

— Значыцца, ты яго падтрымліваеш?

— Я не падтрымліваю таго, што зрабіў Мікалай. Але я не збіраюся ўмешвацца ў іх адносіны. І хто цябе ўчора за абедам за язык цягнуў? Мужы, «якія не для жонак стараюцца», нічога лепшага не знайшла сказаць?

— Але ты яго абараняеш!

— Галя, супакойся. Я нікога не абараняю. І не буду сварыцца з сябрам.

— Значыць, ты сам на такое здольны.

— У чым ты мяне вінаваціш? Хіба мы даўно з табой сварыліся з-за таго, што ты ўвесь час верцішся каля Ганны?

— Мы сябруем. З кім яшчэ ёй тады дзяліцца?

— Сябруй на здароўе. Толькі не забывайся, што ў нас сваё жыццё, не трэба блытаць яго з чужым.

— Ганначка мне не чужы чалавек. Я думала, што Мікалай для цябе таксама не чужы. Але як паводзіць сябе твой сябар?!

— Спыніся! Ты дакладна вырашыла пасварыцца.

— Не. А яшчэ Тася раніцай хадзіла па першым паверсе.

— І бачыла Ганну?

— Не ведаю. Я, калі ўбачыла яе, зачыніла дзверы на кухню. Ці паспела яна нешта заўважыць?

— Ну, падказалі новы спосаб дапячы мужа.

— Думаеш, яна такога не ведае?

— Як яны жывуць…

Апошнія словы Таісія чула горш, відаць, яны ўсё ж вырашылі аддаліцца ад дома.

«Ці не зашмат навін для адпачынку на выхадных».

Стасік спаў, у цішыні зноў заснула і Тася.

Прачнулася ад таго, што муж будзіў яе на сняданак.

— А чаму мяне не паклікалі дапамагаць гатаваць?

— Я прапаноўваў схадзіць, але сказалі, што са сняданкам самі ўправяцца. Чаго тады цябе паднімаць.

Сняданак прайшоў звычайна, за выключэннем таго, што акрамя Тані, якая маўчала ўвесь папярэдні дзень, ані слова не вымавіла і Таісія. Затое Ганначка і Галя пустаслові́лі за ўсіх і рагаталі, дэманструючы небывалую ажыўленасць. Мужчыны намагаліся падтрымліваць іх тон, а калі не атрымлівалася, ніхто пра гэта не клапаціўся: ні сяброўкі, ні іх мужы.

Тася назірала такую карціну з учарашняй вячэры: балбатня, жарты з падвохам (так яна іх успрымала) і, праступаючае праз непераканаўчую маскіроўку, напружанне. Калі яна і Стась уселіся за стол, а іх паспрабавалі (усё тым жа жартам) рассадзіць па розных баках, Тасю пакінулі рэшткі пачуцця гумару і жаданне падтрымліваць кампанію. Раніцай нічога ў душы не прачнулася. Заставалася вытрымаць развітанне на мажорнай ноце.

— Вы адразу за дзецьмі? — Ганначка зазірала ў твар.

— Не, — Стась, відаць, заўважыў, што ў яго жонкі няма жадання размаўляць, — малыя сказалі, што мы можам прыехаць і раней, але дадому яны паедуць вечарам, як нагуляюцца. Мы вырашылі, што тады за імі і паедзем.

Тася моўчкі ўсміхнулася. Настолькі, наколькі ў яе атрымалася.

Дачок забралі ад бабулі з дзядулем, і тыя ўжо спалі ў сваіх ложках.

— Ведаеш, я не магу сказаць, што прыемна правяла выхадныя, — Таісія сядзела на канапе, падабраўшы пад сябе ногі. — А твае сябры быццам асуджаюць мяне за штосьці.

— Ты прыдумляеш. З чаго б ім? І сябры ж агульныя.

— Не прыдумляю. Я ўжо казала, што яны скоса глядзяць. Нейкая нацягнутасць з’явілася. Людзі ненатуральнымі сталі. Быццам выкрыць мяне жадаюць.

— Ты сур’ёзна?

— Цалкам. Не магу я так!

— А ты спакойна адрэагуеш ці ўсё ж дасі мне дыхту, калі я раскажу, у чым справа? — на імгненне ўсталявалася цішыня.

— А што ты зрабіў? — Тася ўтаропілася на мужа.

— Гэта было пасля вяселля. Я сказаў сябрам, што ў цябе дрэнны характар, што ты на людзях спакойная і добразычлівая, а як са мной застаешся, то адразу пахмурнееш і пачынаеш пілаваць за тое, што не так я зрабіў, сказаў… — Стась стараўся вымавіць усё як мага хутчэй, не засяроджваючы ні на чым увагу.

— Ты так мне прапануеш адпусціць цябе? — Таісія яшчэ глыбей свідравала мужа вачыма. — Мы ж настолькі не сварыліся, каб ты такое казаў.

— Не. Я ж кажу, што гэта было даўно. І прэтэнзіі былі не да цябе. Я ляпнуў са злосці, мне неяк падалося, што яны на цябе занадта аблізваюцца. А я з кампаніі адным з першых ажаніўся, раней толькі Алесь. А ты навідавоку. Прыгажуня. А што дурненькая, не прайшло б: ужо досыць ведалі. Ну, а хто не паверыць, што дзяўчына, зрабіўшыся жонкай, пачынае пілаваць мужа, патрабаваць ад яго немаведама чаго, і наогул, робіцца ўсім незадаволенай, асабліва тым, што раней ёй найбольш падабалася. Я і прыдумаў табе загану.

— Дык гэта ў жанчын усялякія хітрыкі і метады подлыя?

— Цішэй, калі ласка, — Стась перасеў на канапу і паспрабаваў пагладзіць Тасю па плячы, але тая вызвалілася, — малых разбудзіш. Я не адразу ўсё гэта наплёў. Дакладней, спачатку сябры супакоіліся ў адносінах да цябе, ім быццам палягчэла ад такога прызнання, а потым яны забыліся на мае словы. Толькі апошнім часам пачалі неяк цікавіцца, як мы жывём, спачуваць маёй сямейнай нядолі. Няёмка было прыдумляць апраўданне на ману, якую я стварыў, а ўсе паверылі і, як аказалася, працягваюць верыць. Адступаць не было куды, інакш пакрыўдзіліся б. Вось я і працягваў маніць.

Спачатку ўсе лёгка паверылі, а потым падмацоўвалі сваю веру бязвіннымі жартамі. А потым падзяліліся са сваімі жонкамі. А тады кожная атрымала магчымасць казаць незадаволенаму мужу, што той сам ведае, як усё дрэнна ў Стася. Хай радуецца, што яму яшчэ пашчасціла. Таісія не змагла сябе стрымаць:

— Цікава, у якіх фарбах ты ўсё абмаляваў?

— Прабач. Ты ж ведаеш, як я да цябе стаўлюся, — гэтым разам, нягледзячы на супраціўленне жонкі, ён не адняў руку ад пляча.

— А да іх ты як ставішся? Яны засталіся для цябе тымі ж сябрамі, якімі былі да нашай сустрэчы? — Таісія ўсё намагалася прасвідраваць мужа поглядам. — Спачатку ты западозрыў, што нехта пазірае на тваю жонку, потым заўважыў, што ўсім палепшала, калі яны даведаліся, што табе пашчасціла не больш за астатніх. А шкадаваць — шкадуюць.

— Знікла нешта… Але адносіны самі сабой захаваліся. Прынамсі іх знешні бок. Мы ж дагэтуль сустракаемся…

Таісія глядзела з-пад ілба на мужа, па-ранейшаму пільна і пранізліва. І не гаварыла ні слова.

— Ты пакрыўдзілася? Прабач! Не маўчы, — Стась прысунуўся бліжэй і дадаў, зусім як шкадлівы хлапчук: — Ты вельмі злуеш?

— Я б злавалася, калі б мне дрэнна з табой жылося…

*Таццяна БАРЫСЮК*

# РЭІНКАРНАЦЫЯ КАХАННЯ



***Таццяна Барысюк нарадзілася 18 кастрычніка 1971 года ў Мінску. Скончыла філфак БДУ і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, дзе працуе малодшым навуковым супрацоўнікам. Аўтар паэтычнай кнігі «Аўтапартрэт». Выступае як паэт, літаратуразнаўца і крытык. Піша дысертацыю: «Ідэйна-жанравыя пошукі ў сучаснай беларускай паэзіі».***

## МОДНІЦА

Ёсць настрой — будзь красуняй гламурнай
ці пяшчотнай пухнатаю коткай,
каралеваю снежнай пахмурнай
ці Кармэн з бранзалетам-бразготкай.

Ёсць настрой — будзь джынсовай прынцэсай
ці наскрозь дзелавой бізнес-лэдзі.
Хай народ языкамі пачэша
і пачнуць абмяркоўваць суседзі.

Ёсць настрой — дык магчыма дзівацтва.
Хай ствaральны імпэт не астыне,
і фантазій агонь не тушы.

Бо жанчына — карціна мастацтва,
адпаведная ўласнаму стылю,
гэтаксама, як стану душы.

## СТЫХІІ ТАНЦАЎ

*На дне агню танцуюць саламандры...*
А. СЫС

У памяці гісторый старасвецкіх,
на злосць усім наканаваным драмам,
на балях княжацкіх вялікасвецкіх,
узнёслая, танцую пекнай дамай.

З зямлі да сонца вабіць дар натхнення,
не страшныя сняжынка ці дажджынка,
наяве і ў чароўных лёгкіх сненнях
на небе я танцую аблачынкай.

Згарацць іскрыстых жоўтых зор пасевы —
калі я чую водгулле вяснянкі

або вядзьмарскі дух купальскіх песень,
у возеры танцую свіцязянкай.

Як мой сусвет напоўняць успаміны,
працягла ноч спявае шчасця мантры
і саграваае полымя каміну,
на дне агню танцую саламандрай.

Калі пануе сум або шанцуе,
для вас, сяброў, для любага, для Бога
ў віхурах і вірах стыхій танцую —
мая душа мелодый помніць многа.

## РЭІНКАРНАЦЫЯ КАХАННЯ

***М.К. → NN***

Мрояй твой намалюю партрэт,
хоць даўно мы на розных планетах.
Сэрца помніць — і час не сатрэ,
не зруйнуе ўспамінаў дашчэнту.

Як зляціць шэрых дзён мітусня,
я змагу закахацца аднойчы,
бо тваё будзе мець ён імя
і смарагдава-карыя вочы.

## ЯКІ ТОЙ СВЕТ

А я ўявіла на імгненне,
які той свет, жахліва-скрушны.
Што там не будзе вымярэнняў,
ні пахаў, фарбаў, смакаў, гукаў,
ні слоў, ні думак, ні пачуццяў,
не будзе душ — нямыя здані,
у атмасфернай каламуці
без жыццясэнсу і кахання.

## ФАНТОМЫ НЯВОЛІ

***(Самапрадказанне па картах Таро)***

Вочы завязаны, звязаны рукі,
стрыманыя, нерашучыя рухі.
Збегчы хачу я з няшчасця вязніцы.
Сон той дагэтуль, свабоднай мне,
сніцца.
Страх, што ўцякачку дагоняць
і вернуць.
Птушкай слабою душа мая чэзне.
Ды небяспекі — фантазій хімеры.
Любы, ты — шлях мой да знойдзенай
веры!

## УЯВА І ЯВА

***Думка рэальная,***
***матэрыя ілюзорная.***

З фільма
«Куды прыводзяць мары».

Бяссонных роздумаў працяг
святло высновы мне наблізіць,
што дыялектыка жыцця
не абвяргае саліпсізму.

Так, ёсць матэрыя — вядома,
ды толькі думка
каласіцца,
што ёсць адно мая свядомасць,
а ўсё астатняе мне сніцца.

## ЗАКОН
## ЗАХАВАННЯ ПАЭЗІІ

Калі зачараваны светам,
задумам цесна ў галаве,
калі ты спраўдзіўся паэтам,
табой Паэзія жыве.

Бывае — тлум ці сіл нястача,
не йдзе паэзія з душы.
Шукай і думай — Бог убачыць —
ты ж сэрца чыстым зберажы.

Разгоніць сонца хмараў зграю
і будзе ўхвалены парыў.
Паэзія — не памірае
ў тым, хто яе калісь стварыў.

*Жанна КАРАЛЁНАК*

# АПАВЯДАННІ



***Жанна Каралёнак нарадзілая 28 лістапада 1969 года ў Калінінградзе. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, курсы псіхалогіі ў Беларускім аб'яднанні «Веды». Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры, рэдактарам рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Акадэміі МУС Беларусі. Аўтар кнігі «Мой род — мая сіла», апавяданні друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.***

## КАЛІ СЭРЦА НЕ СПЯВАЕ…

— Сваты! Сваты! Сваты едуць! — крычалі дзеці, бегучы па дарожцы да Антосевай сядзібы. — Дзядзька Антось, сваты едуць!

Антось павольна павярнуўся да дзяцей і грымнуў:

— Чаго лямантуеце? Цішэй!

Дзеці змоўклі і ціхенька сталі каля паркана, збіўшыся ў гурток.

Антось, вялікі і заўсёды павольны, неяк патупаў на месцы, перакідваючы з рукі ў руку граблі, а потым кінуў іх у кучу з лісцем. Некалькі хвілін ён стаяў разгублена і раптам хрыпла, ледзьве чутна спытаў:

— Хто?

— Янка Макрыцкі, — таксама ціха адказаў старшы з хлопчыкаў.

Антосіха, якая была тут, у садзе, і ўвесь час моўчкі сачыла за мужам, залямантавала:

- О, Езус! О, Свенты Езус! А дзе ж наша Стэфачка? Яе ж няма. Недзе з дзяўчатамі пайшла да капцоў. Дзеткі, ляціце па яе.

Пры гэтых словах дзеці, як спалоханыя вераб'і, у адно імгненне сарваліся з месца і панесліся па вуліцы.

— Маўчы! — глуха прыкрыкнуў Антось. — Можа і добра, што яе няма. Пайшлі.

* * *

По дарозе імчала брычка, упрыгожаная стужкамі і кветкамі. На ўсе лады гаманілі шаргуны. Гэтак жа радасна білася і Янкава сэрца. Хлопца весяліла сама язда, смешна закручаныя дзядзькавы вусы, яркая цётчына хустка, дрэвы, што мільгалі насустрач па гасцінцы. Так хораша на душы ў Янкі было толькі тады, калі ён упершыню ўзяў яе, сваю каралеўну, за руку і прытуліў да сябе. Тады ён упершыню адчуў гнуткі дзявочы стан, пах яе валасоў і нешта трапяткое пад рукой. Гэта білася яе сэрца. Яму здавалася тады, што недзе ўсярэдзіне любай дзяўчыны, у яе душы, пяе маленькі срэбны зва-

ночак. Як зачараваныя прастаялі яны моўчкі да світанку. Ды і нашто было гаварыць, калі спявалі іх сэрцы.

* * *

— Стэ-фа, Стэ-фач-ка! Бя-жы хутчэй да-моў! Да ця-бе сва-ты прые-халі! — запінаючыся ад хуткага бегу, пракрычала малая Марылька.

— Сваты! Што ты кажаш? А хто?

— Янка!

— Янка! Няўжо?

— Ой, дзеванькі, наша Стэфачка замуж пойдзе! Вось табе і няпраўда гаданне тое! — весела прашчабятала Ядзя. — Ой, сяброўвачка мая даражэнькая, пагуляем на вяселлі!

А Еўка-пяюха падхапіла:

Наша маладая, як золата,
А ваш малады, як долата…

Дзяўчаты весела рагаталі, а Стэфка стаяла, як спутаная. Дзявочае сэрца моцна трапятала, чамусьці стала вельмі страшна, аж вочы павільгатнелі.

— Чаго ж ты стаіш, дурнічка? Бяжы хутчэй дадому, — штурхнула Стэфку цётка Агата.

— І мы з табой! — залапаталі дзяўчаты.

* * *

Першым з брычкі злез сват дзядзька Стась. Ён выглядаў так, быццам сам жаніцца сабраўся: у новых портках, нашараваных ботах, гладка прычасаны, з іскрынкамі ў вачах. А як жа іначай?! Ён жа Янкаў хросны бацька. А яшчэ першы на вёсцы жартаўнік, самы гаваркі і кемлівы.

Яго жонка цётка Броня ледзьве спусцілася з брычкі. У сваёй вялізнай квяцістай хустцы сёння яна была падобна да шырокай, разагрэтай печкі, ад якой патыхала пірагамі. Ды і нядзіўна! Яна трымала ў руках каравай, загорнуты ў святочны ручнік.

Сваты ішлі паперадзе, Янка за імі. Так і ўвайшлі ў хату:

— Нех бэндзе Езус пахвалёны! — прывітаўся дзядзька Стась і пакланіўся.

— На векі векаў, — адказалі гаспадары.

— Мы купцы заморскія, шукаем тавару не ляжачага, а хадзячага, калі ёсць, пакажыце ліцом, а мы пахвастаем сваім таварцом.

Пры гэтых словах дзядзька Стась павярнуўся да Янкі, вочы ў якога свяціліся, бы зоркі ў марозную ноч. Цётка Броня падхапіла:

— Нашага князя маці нарадзіла, месяцам абгарадзіла, зарой падперазала і дарожку ўказала. А дарожка цераз горы і лес шла ды да вас прывяла, дзе ясна зорачка свяціла, малада паненачка хадзіла.

— Але ж ці не зблудзілі вы? — разгублена адказала гаспадыня. — Няма ў нас такога тавару.

— Аддавайце, не бойцеся, каяцца не будзеце. У нас маладухам добра: бочкамі ваду возяць, а катламі есці вараць, — працягвала сваха.

Гаспадары неяк разгублена запрасілі гасцей да стала. Цётка Броня паклала на стол каравай, кусок кумпяка, дзядзька паставіў бутэльку. Прыселі.

— Пакажыце нам тую кветку, што цвіце зімой і ўлетку, — не сунімалася сваха.

— А як жа, чаму ж не паказаць, — ледзь чутна выціснула Антосіха і выйшла.

* * *

— А вось і наша малада, як сыр бяла, — дрыжачым голасам вымавіла гаспадыня.

Янка, які дагэтуль, апусціўшы вочы, моўчкі слухаў размову сватоў, узняў галаву. І раптам зоркі ў вачах патухлі і ён крыкнуў:

— Дзядзька!

Сваты ад нечаканасці сцішыліся. Знайшлася цётка Броня:

— Ой, кумачка-галубачка, то кветка ваша, а дзе ж наша?

Госці разгублена глядзелі на збялелую дзяўчыну, якая ад хвалявання калацілася, як дробненькі лісток на дрэве. Устаў Антось і сказаў:

— Для цябе, Янка, у нас тавар адзін — Маня… Другога няма і не будзе. Не аддам я за цябе Стэфку, ніколі не аддам. Не можа малодшая пайсці раней за старэйшую… Ганьба гэта. А дзяўчына яна добрая, працавітая, паслухмяная… Табе добрай жонкай будзе… Бяры. Не адмаўляйся… Няхай не такая прыгожая, але з твару вады не піць… Добрай будзе жонкай…

— Не, дзядзька! Што вы кажаце? Так нельга… Навошта яна мне? — амаль крыкнуў Янка.

— Пашкадуй, Янка, і нас, і яе. Не ганьбі. Стэфку кожны возьме… А я за Маняй добры пасаг дам і хату дапамагу паставіць. Мы выйдзем, а вы падумайце. Добра падумайце…

* * *

Стэфка бегла дамоў кароткай дарогай, праз дубы. Побач шчабяталі дзяўчаты, але яна іх не чула. Думкі былі пра Янку. Тут, у дубах, яны сустракаліся. Гэта было іх месца. Тут Янка чытаў ёй верш, што вывучыў спецыяльна для яе. Нядаўна Янкаў брат прывёз нейкую кніжку з Ліды, казаў свайго паэта, што з Люцынкі. Думкі ў дзяўчыны скакалі, вершаваныя радкі блыталіся з гоманам сяброўак. Толькі вось нешта цяжкое душыла ў грудзях. Божа, чаму ж так страшна і млосна?

Ля брамкі да Стэфкі падышла цётка Ганька:

— Не хадзі туды, дзіцятка, не хадзі. Не трэба…

— Чаму?

— Не да цябе яны прыехалі… — цётка адвярнулася, каб не заплакаць.

У гэту хвіліну дзяўчына ўсё зразумела. У грудзях так сціснула, што яна не магла дыхаць, ногі падкасіліся. Яна, як падбітая птушка, некалькі разоў узмахнула рукамі, нібы крыламі, схапілася імі за галаву і кінулася бегчы. Але куды? Каля брамкі і плота стаялі нейкія людзі, усе на яе глядзелі. Сяброўкі загаманілі, а яна іх не чула. Як адурэлая Стэфка пабегла праз двор і ўскочыла ў хлеў. Тут яна была адна, побач — нікога. Дзяўчына кінулася на салому, што бацька прынёс раніцай для каровы і загаласіла. Ніхто з сяброўак не адважваўся зайсці да яе.

— О, Матачка Найсвеншая! Ратуй! За што ж яны так са мной? Як гэтак можна, чаму? А што ж мне цяпер рабіць? — амаль бязгучна шаптала Стэфка.

* * *

Па дарозе ляцела брычка, упрыгожаная стужкамі і кветкамі. На ўсе лады гаманілі шаргуны. Сваты і малады радасна віталі сустрэчных. Толькі адзін чалавек не адказаў на такое вітанне. Ён сумна паглядзеў ім услед, яго пашарэлы твар, згаслыя, быццам выгаралыя, вочы сведчылі пра вялікі смутак. Ён збочыў з дарогі, прысеў на камень і задумаўся.

Чалавек успомніў сябе яшчэ зусім маладым, шчаслівым. Колькі мар і спадзяванняў у яго тады было! Шчасце распірала, хацелася ўзляцець, ён нават вершы чытаў. Як гэта даўно было. Можа, не з ім? Чалавек успомніў дзень сватання, сябе, адурэлага ад шчасця, сватоў, збялелую, ледзь прытомную Маню, пасля вяселле з ёю. Праўду казаў некалі Антось, добрая Маня жонка, ціхая, паслухмяная, маўклівая, ніколі не пярэчыць, дагаджае заўсёды, але побач з ёю шчыміць у грудзях, сціскае нечым халодным. А так хочацца хоць разочак адчуць унутры цяпло. Ды дзе там будзе цяпло тое, калі сэрца не спявае, прымоўкла яно ў дзень заручын. Быццам швайкай, так балюча пратыкае яго, калі ён сустракаецца з той, каго так пакрыўдзіў. Ад гэтага болю пячэ ўнутры агнём — не вытрываць. Яго віна ў тым, што жыццё ў Стэфкі не склалася: праз год пайшла яна замуж за хворага на сухоты чалавека, нарадзіла дачушку, а праз два гады ён памёр, а яна жыве адна, працуе, аж валіцца ад стомы. Як жыць з усім гэтым? Хто даруе, калі сам сабе дараваць не можаш? Людзі кажуць, што жорсткі стаў, злы. А як можна быць добрым, калі гаспадарыць не ўмеюць, у калгас сагналі, а нічога не робяць, хітруюць, цягнуць, хіба так трэба?

Адно радуе: дачка Галіна, прыгожая, жвавая, як тая ластаўка, і да яго, бацькі, ласкавая. Яна трымае ды надзея на знаёмца аднаго, што абяцаў выклік прыслаць на далёкія землі, на Стаўраполле. Казаў, што багатыя там землі і калгасы, людзі добрыя, працавітыя, работы шмат. Гэтага яму і трэба. Новае месца — новае жыццё… Вось туды і трэба ехаць. Можа, там адліга на сэрцы будзе…

## КАЛЯДНІЦА

Зіма. Другі тыдзень трашчаць маразы. Асабліва лютуюць яны па начах, пацяшаюцца, страляюць то ў полі, то ў садзе, а то і ў рог хлява ці хаты. Снегу наваліла столькі, што ледзьве-ледзьве штыкецiны выторкваюцца. А ад Лёксавага хлява адна страха і засталася. Старыя кажуць: даўно не было такога снегу, да дабра гэта. Бабулькі на неба пазіраюць, нешта там выглядваюць, варожаць.

Асабліва рады такому надвор'ю дзеці. Які холад можа ўтрымаць іх дома?! Снег, мароз — любата! Большыя хлопцы ставок расчысцілі, «казу» зрабілі. Малым не дазваляюць — куды там. А самі кожны вечар катаюцца. Рогат і весялосць на ўсю вёску.

Вось і сёння старшыя Рэгіна і Стась пабеглі ўжо, а меншую Валечку не пушчаюць, бо моцна кашляе. Малая просіцца, капрызіць. Ды дзе там! Нельга — і ўсё. А як жа ўседзець, калі ўсе каля стаўка — старыя і малыя. Адны, каб з моладзі падзівіцца, сябе ўспомніць, другія, каб пагуляць ці проста пакоўзацца.

Дзед Адам шкадуе малую, сваю «ўлюблёную» ўнучачку:

— Хай пойдзе, Волечка. Ёй жа хочацца!

— Куды? Чаго? Яна кашляе. Ды і малая яшчэ.

— Дык яна ўжо, як той казаў, і не кашляе, — хітруе дзед. — Можа, трошкі. Няхай бяжыць. Дзе ж уседзіш? Можа, і я схаджу.

Пры гэтых словах Валечка рогам хусткі закрыла рот, каб маці не чула яе выбухаў, хутка нацягнула паліто, накінула цёплую хустку на галаву і выбегла з хаты. Дзед з цеплынёю паглядзеў ёй услед, усміхаючыся. Стары-стары, а душу дзіцяці разумее.

— Якое што дапамагчы трэба? — запытаўся дзед у Волькі, што завіхалася каля печы, гатуючы вячэру на сёння і сёе-тое назаўтра, на святочную вялікую куццю.

Стары на хвілінку задумаўся, потым агледзеў хату. Добра тут, утульна. Хоць і малая хатка, але свая. Волька ўсё да свята прыбрала, выскрабла. Дзеткам ёлачку паставілі. Нават ён, Адам, папяровыя цацкі з унукамі клеіў. Якая-ніякая, а пацеха дзецям і самому весялей каля іх.

— Заўтра мак стаўчэш. А сёння нічога. Хутка Янка прыйдзе, вячэраць будзем. Па дзяцей, можа, схадзі, — стомлена адказала гаспадыня, спыняючы думкі свёкра.

Адам кіўнуў, згаджаючыся, і патупаў да дзвярэй. Зазірнуў цераз нявестчына плячо ў місы, у якіх ужо дымілася квашанне. Эх, добрая і смачная вячэра будзе ды і свята някепскае. Парсючка асвежавалі, нарабілі каўбас, скварачку засалілі, кумпячок да Вялікадня таксама будзе.

Накінуўшы кажушок і ўзяўшы кій, дзед выйшаў на двор. У твар дыхнула холадам і прыемным дымком. Відаць, у Антака палілі ў печы, там таксама рыхталіся да свята. Свяціліся вокны і ў Юзіка, другога брата. Вось так і жылі яны, тры браты, побач. Была яшчэ і сястра Юля. Хата яе тулілася ля самага Адамавага двара. Некалькі гадоў таму памерла яна, мужык яе ажаніўся з Адэляй. Жанчына прыгожая, але характар… Хай яе халера. А хто другі за ўдаўца з дзецьмі пойдзе? А яна пайшла і сына яшчэ нарадзіла. Калісьці ўвесь гэты край вёскі належаў іх бацьку. А потым сыны выраслі, пажаніліся, бацька кожнаму выдзеліў палоску. Мала, вядома, але ёсць за што рукі зачапіць. Небагата жывуць, але сёе-тое ёсць. У іншых яшчэ горш.

Адам накіраваўся да брамкі. На некалькі хвілін затрымаўся, аглядаючы сад. Парадаваўся, што добра снегам ухутаны дрэвы, — не змерзнуць. І няхай кажуць, што зямлі пад сад адпусціў многа, а яму сад па душы. Ён сам пасадзіў яблыні, грушы, вішні. Вішні стары любіў асабліва. Як хораша цвілі яны вясной! Такая прыгажосць! Вішнёвай мяцеліцай называў ён тую пару. Ад таго хараства рабілася лягчэй на душы і хацелася жыць.

Прыемныя думкі перарваў мароз. Так укусіў старога за шчаку, што той пацёр твар рукавіцай і патупаў на вуліцу.

Здалёк чуліся смех і гоман. Здавалася, уся вёска сабралася каля стаўка. Весялосцю і радасцю напаўнялася наваколле.

— Вечар добры, пан Макрыцкі! — прывітаўся стары Франук.

— Вечар добры!

— Во што робіцца, паглядзі, — кіўнуў Франук у бок дзіцячай чарады.

— Як той казаў, і жук, і жаба, — з усмешкай адказаў Адам.

— А ты што, паглядзець прыйшоў, а, можа, пакоўзацца хочаш.

— Адкоўзаўся я. Па сваіх прыйшоў. Цямнець пачало, ды і мароз.

* * *

Новы дзень для малых пачаўся з прыемных пахаў і мяккіх гукаў. Мерна стукалі ходзікі на сцяне, побач з Валяй «спявала», зажмурыўшыся, Рыска, даносіліся ціхія галасы маці, бацькі, дзеда і нейкае шамаценне. Рэгіна адразу здагадалася, што труць мак на куццю. Хто не любіць гэты ласунак! Такое смакоцце гатуецца толькі раз на год.

Дзеці хуценька апрануліся і пабеглі мыцца-часацца. Без гэтага «мыцца-часацца» не дазваляла маці снедаць. Акуратыстка была першая на ўсю вёску і дзяцей да чысціні і акуратнасці прывучала.

На сняданак дзецям падалі бліны, змазаныя варэннем, і па вялікаму кубку малінавага чаю. Дарослыя паснедалі ўжо і займаліся сваімі справамі.

Дзед сапраўды цёр мак. Па ўсім было відаць, што справа яму падабалася. Гэта работа хутка не рабілася, патрабавала цярпення, часу і сілы. А рукі ў дзеда ўжо не такія дужыя, таму рабіў ён гэта павольна, часта адпачываючы і папраўляючы цёрніцу. Гэту цёрніцу берагла Волька і абы-каму не давала. Некалі яго, Адамава, жонка, якую таксама Волькай клікалі, прынесла яе з сабой у пасаг, і колькі гадоў гэтай рэчы — невядома.

Волька завіхалася ля печы: яшчэ не ўсё нагатавана. Трэба, каб хапіла на некалькі дзён, бо ніхто ў святочныя дні гатаваць не будзе: свята ёсць свята. А на стале павінна быць дванаццаць страў — па колькасці месяцаў у годзе: селядцы з алеем, поліўка з грыбамі, рыба, пампушкі, бліны, кісель, капуста, агуркі, мак і, нарэшце, куцця. Усе прысмакі гатаваліся поснымі.

На куце, пад абразамі, ужо стаяў саганчык з куццёй — кашай, аздобленай мёдам. Есці яе можна будзе толькі вечарам, калі ўсе збяруцца за сталом. А сёння ў госці чакаюць Вольчынага брата Ваньку з сям'ёй.

Пасля снядання дзяцей выправілі на двор дапамагаць бацьку разграбаць снег. Дзядзька прыедзе на кані, трэба будзе сані ставіць, а снегу вунь колькі. Дзеці працавалі навыперадкі, з настроем. Хутка ў двары выраслі вялізныя белыя гурбы.

Бацька прынёс з лесу яловых лапак, з якіх зрабілі два вянкі. Адным упрыгожылі брамку, а другім, аздобленым стужкамі і папяровымі кветкамі, — дзверы ў хату.

За цікавай працай час ляцеў хутка. Неўзабаве пачало цямнець: зімовы дзень кароткі. А трэба яшчэ і стол накрыць да першых зорак. Гаспадыня паклікала ўсіх у хату.

Янка і Стасік паставілі стол пасярэдзіне пакоя, Волька пасцяліла на яго сена, а дзяўчаты накрылі саматканым вышытым абрусам. Волька любіла гэты абрус і вельмі шанавала яго. Некалі сястрыца Ніна зрабіла гэты абрус Вольцы ў пасаг. Дзе ж цяпер Ніна? Што робіць у далёкай невядомай Амерыцы? Ці святкуе Каляды? Волька часта думала пра сястру, бедавала па ёй. Гэты боль свярбеў у Вольчынай душы, але яна цёмныя думкі адганяла. Ды нягожа ў свята сумаваць.

Нарэшце прыехалі і госці. Хата напоўнілася смехам і гоманам. Дарослыя радаваліся сустрэчы, а дзеці гасцінцам — цукеркам ды пернікам.

З першымі зоркамі селі за стол. На куце — дзед Адам, дзядзька Ванька, яго жонка цётка Вера, Янка, Волька, потым дзеці. На куцці запалілі свечку.

Волька раздала па кавалачку аплаткі, дзед прачытаў пацеры. Усе ўзялі па лыжцы куцці. Выпілі па чарачцы. Завязалася размова: гаманілі пра надвор'е, гаспадарку, успаміналі былыя часы, сваякоў. Гаварылі ціха і павольна. Як жа?! Сёння — святы вечар. Забавы і весялосць заўтра будуць. Дзядзька Ванька нахвальваў поліўку і расказваў, як хадзіў у грыбы ў лес за Сінюю гару.

Дзеці сядзелі ціха, але па ўсім бачылася, што ім надакучылі размовы бацькоў і хацелася заняцца сваімі справамі, тым больш, што пад ёлкай іх чакалі цукеркі.

Дзед Адам, першы іх сябра, хітра падміргнуўшы Валечцы, сказаў:

— Волька, нясі дзецям маку. Сядзяць, як той казаў, быццам вуглі пад імі.

Усе засмяяліся. Волька прынесла мак з пампушкамі. Упяцёх яны хутка апаражнілі міску і, падзякаваўшы, пабеглі гуляць. Ваньчыных Сярожу і Валю даўно не бачылі, а так хацелася ім ёлку паказаць ды пагуляць.

За размовамі час ляцеў хутка. Каля дзевяці гадзін госці пачалі збірацца дадому. Ехаць ім далекавата, а па такім марозе і небяспечна. Зазбіралася і Волька. Дамовілася з жанчынамі ехаць да касцёла аж у Вішнева. Дарога не блізкая, але ж і свята якое… Грэх не быць у касцёле. І ксёндз вельмі добры, так хораша набажэнства праводзіць — заслухаешся.

З ад'ездам гасцей у хаце стала ціха і прасторна. Дзед закамандаваў усім ісці спаць. Дзеці ніяк не ўкладваліся.

— Як той казаў, вазьму лазу ды зад надзяру, — пастрашыў дзед. — А ну спаць. Гвалтам сваім дзядам перашкаджаеце. Самі напіліся-наеліся, а іх не пушчаеце.

— А як мы іх не пушчаем? — запытаўся Стасік.

— Яны цішыню любяць, а вы шуміце. Вось як.

Дзеці змоўклі, бо бачылі, як пазірае на іх бацька, і палезлі пад коўдры.

Валечка спала з дзедам, так павялося з маленства: дзе дзед, там і яна.

Дзяўчынка сядзела на ложку, укруціўшыся ў коўдру, і сачыла за штодзённым дзедавым рытуалам. Ля ложка стаяла шырокая, яшчэ панская тумбачка. У ёй было шмат розных пляшачак, пакецікаў і пахла нейкімі лекамі. Дзед па чарзе даставаў дзве ці тры бутэлечкі, піпеткай капаў лекі ў маленькую шкляначку з вадой, выпіваў, затым адлічваў некалькі маленькіх жоўценькіх таблетак, закідваў іх у рот, узмахваў галавой і глытаў, запіваючы вадой. Гучна прыцмокваў, быццам пасля нечага незвычайна смачнага.

— Ну, вось і ўсё. Давай класціся. Хутка прыйдуць вячэраць баба Волька, маці мая, тата, брат, усе, каго ўжо няма, — спакойна гаварыў дзед, пазіраючы на стол, на якім засталіся рэшткі вячэры.

— Дзеда, а як яны прыйдуць, калі іх няма? — са страхам пыталася Валечка.

— Як той казаў, нам тое невядома. А ты спі. Не думай. Не ўсё на зямлі чалавеку можна ведаць. Ёсць тайна Божая.

Валечка накрылася коўдрай з галавой: яна моцна баялася нябожчыкаў, а тут яшчэ яны ўсе да іх у хату прыйдуць. Малая душылася пад коўдрай, але раскрыцца баялася. Спацеўшы, калацілася ад страху. Яна ніяк не магла зразумець, пра якую тайну дзед гаворыць і чаму яе ведаць няможна. А так цікава даведацца. Дзед, засынаючы, ціхенька прамовіў:

— Спі, унучка, не трапячы, як лісток. Я побач. Добра, калі дзяды прыходзяць. Значыць, помняць нас і берагуць.

Стары засоп, а дзяўчынка, учапіўшыся за дзедаву руку, высунула з-пад коўдры нос, каб лягчэй было дыхаць, і думала пра нябачных дзядоў, пра таямніцу, пра тое, што з дзедам ёй не страшна, бо ён у яе вунь які баявы, смелы і разумны. Аднаго разу яна чула, як дзед расказваў старому Франуку, што быў на Імперыялістычнай вайне, потым арыштоўваў цара. А цар вунь які чалавек: усе яго баяліся і слухаліся, а дзед, відаць, не баяўся. А потым дзед быў у пана аканомам. А пан таксама страшны. Настаўніца казала, што паны пілі народную кроў, людзей душылі. А дзед жывы, значыць, ён дужэйшы за пана. Так разважаючы, малая перакаканалася ў дзедавай смеласці, і ёй палягчала, паспакайнела на душы. Яна, трохі пакруціўшыся, хутка заснула.

* * *

Волька вярнулася з касцёла, калі ўжо віднела. У хаце яшчэ спалі. Яна прыбрала са стала рэшткі вячэры. Сена занесла ў хлеў карове і парсючку, кінула жменьку і пад печ, дзе сядзелі куры. Нанава накрыла на стол. Сёння можна есці стравы мясныя. Акрамя квашання, каўбасы, вантрабянкі паставіла, бліны, бульбачку з журавінамі.

Пакуль гатавала стол, прачнуліся Янка, Адам і дзеці. Прыбраўшыся, усе селі за стол. Сёння святкавалі Каляды ў цесным сямейным асяродку.

За снеданнем Волька расказвала пра службу. Валечка слухала маці, але думкі былі пра іншае. Яе цікавіла толькі адно, ці прыходзілі ж дзяды на вячэру. Яна так і не ўбачыла, заснуўшы, што было ноччу.

— А дзе куцця? — хітра спытала яна.

— Дзяды з'елі, — адказаў Стасік.

— А хіба яны прыходзілі?

— А як жа, канешна, прыходзілі ды колькі з'елі, нічога не пакінулі, — усміхаўся Адам.

Малая не верыла дзеду і вырашыла, што ў наступны раз абавязкова не засне.

Вечарам жа за акном пачуліся песні. Па вуліцы ішлі калядоўшчыкі — невялікія групкі маладых людзей, якія спявалі калядныя песні, праслаўлялі святы вечар і гаспадароў. У хату ўвалілася вясёлая кампанія з гоманам і смехам. Паперадзе Дзед — сімвал Роду, далей Каляда з Зоркай, Каза, Механоша, Мядзведзь і Варажбітка. Госці заспявалі:

Го-го-го, каза...
Го-го-го, каза,
Го-го, шэра,
Ты расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму дому
Гаспадарскаму.
Гаспадар сядзіць,
На казу глядзіць,
А гаспадынька —
На журавелька.

Пад гэтыя спевы Каза адразу пайшла па хаце, заглядваючы ва ўсе куткі, у клець, на печ. Куды паглядзіць яе вока, будзе ў новым годзе стаяць мяшок з зернем, мукой, бульбай, ляжаць каўбасы. Гаспадары пляскалі ў далоні і весела падпявалі. Дзеці гучна рагаталі, бо вельмі смешна матляла Каза барадой. Пахадзіўшы ўсюды, Каза пачала бадацца і біць капытамі. Каго яна стукне ці бадне, будзе той увесь год здаровы і вясёлы. Таму ўсе падстаўляліся Казе, асабліва дзеці. А як толькі Каза каго-небудзь бадала, з піскам уцякалі. Столькі смеху і шуму нарабілі, што аж куры пад печкай закудахталі. А котка сперапуду скочыла на печ. Скончыўшы баданне, Каза пакланілася гаспадыні, і ўсе калядоўшчыкі заспявалі:

Гаспадынька мая,
Будзь ты ласкава,
Вазьмі свечаньку,
Пайдзі ў клецечку,
Зазірні ў бачок,
Там стаіць мачок,
Да вазьмі мачку
На талерачку,
Нашай козаньцы
На гарэлачку.
Нашай козаньцы
Нямножка трэба:
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Рэшата грэчкі,
Наверх яечкі.

Гаспадыня падала пачастункі. Механоша сабраў усё ў вялізны мех, у якім ўжо было поўна розных прысмакаў. На гэтым дзеянне скончылася. Вясёлую кампанію запрасілі за агульны стол, каб пачаставаць смачным. Моладзь села за стол і з поўнымі чаркамі віншавала гаспадароў.

Калі калядоўшчыкі пайшлі з хаты, гаспадары з палёгкай уздыхнулі: добра, што зайшлі — не абмінулі, будзе ў хаце дабрабыт.

Не паспелі зачыніцца дзверы за калядоўшчыкамі, прыйшла суседка Жэня, за ёй прыбеглі яе дзеці. Праз якую хвіліну завітала і цётка Ядзя.

— Ці не ад вас гэта пайшлі калядоўшчыкі? — з парога спытала яна.

— Ад нас. А як жа добра калядавалі, а смешна. А як жа спявалі! А да вас ці прыходзілі?

— Прыходзілі. Бакі парваць з гэтых артыстаў. А мая ж ты Волечка, што ў нас рабілася, каб ты толькі паглядзела. Гэна Каза ды майго Юзюка так спалохала, што, мусіць, піць кіне. Далібог кіне! Ён жа на ложку задрамаў, а Каза тая ды і давай яго рогам пароць. Ён ускочыў, не зразумее, што робіцца. А тут і Мядзведзь да яго ды з рыкам. Ён уцякаць ды з мацюкамі, а Каза за ім. Пакуль ён, бядак, разабраўся што да чаго, мы ледзь не кончыліся ад смеху.

Цётка не проста расказвала, яшчэ і паказвала, як Каза за дзядзькам бегала. Смяяліся ўсе, асабліва развесяліліся дзеці. Стасік, прыставіўшы растапыраныя пальцы да галавы, быццам рогі, бегаў за Валяй, а тая ўцякала ад яго і хавалася за дзеда.

— А дзе ж ён, гэты перапалоханы, цяпер? — спытаў Янка, рагочучы.

— Дык недзе на вёску пайшоў. Мусіць, да Мікадзея мужчыны на карты сабраліся.

— Добра! Дык і я пайду, што мне тут з вамі, бабамі, рабіць.

Жанчыны яшчэ доўга гаварылі пра калядоўшчыкаў, пра песні, што тыя спявалі. Цётка Ядзя пыталася, ці пазналі, чый дзяцюк быў за Казу. Потым гаворка зайшла пра свята. Волька расказвала пра касцёл.

А дзеці тым часам сабраліся каля дзеда. Ён прапанаваў малым высветліць, хто самы кемлівы. Дзеці гэтую забаву любілі.

— Адгадайце такую загадку. Пасярод двара стаіць гара — сперад вілы, ззаду мятла.

— Я ведаю, — выкрыкнуў Стасік. — Карова.

— Добра. Далей. Поўны падпечак чырвоных яечак.

— Ягады? — нясмела прагаварыў суседскі Казік.

— Не.

— Агеньчыкі, — сказала Валечка.

— Не, думайце.

— Вугольчыкі.

— Маладзец, Галіна. Як той казаў, малая ды ўдалая.

— Наступная задача вам такая. Поле нямерана, каровы нялічаны, а пастух рагаты.

Дзеці задумаліся. Ніяк не маглі здагадацца, што ж гэта такое. Тады дзед параіў ім паглядзець у акно, можа, там што ўбачаць. Зноў ніяк.

— Паглядзіце на неба, небаракі. Што бачыце?

— Неба, зоркі, месяц, — пералічвалі дзеці.

— Ага, — здагадаўся Казік, — поле — неба, каровы — зоркі, пастух — месяц.

— Малайчына, — пахваліў яго дзед.

— Дзеда, а чаму мамка казала, што Вішнева — святое месца? — спытала Валечка.

— Дык а як жа?! Самае святое і ёсць. Вось слухайце. Прыкладна ў 1424 годзе на месцы касцёла на вішнёвым дрэве з'явілася Матка Боская. Людзі гэта ўбачылі і назвалі сваё мястэчка Вішнева, каб усе ведалі і памяталі пра такое незвычайнае здарэнне. Такое нячаста адбываецца ды не ўсюды — толькі ў асаблівых месцах. На тым месцы, дзе бачылі Матку Боскую, стала біць крыніца з гаючай вадой. Над ёй людзі пабудавалі касцёл. А вакол касцёла пасадзілі вішні. З тых часоў і месца тое, і вада, і касцёл лічацца святымі.

— А вішні? — спытала Валечка.

— І вішні, — дадаў дзед.

— А ў нашым садзе таксама вішні ёсць. Хіба і яны святыя? — працягвала дзяўчынка.

— Усё жывое на зямлі — тварэнне Божае, усё душу мае, усё жыць хоча. Як той казаў, няма нічога святейшага за жыццё. Значыць, усё святое. Усе расліны, звяры, людзі — святое.

— А чаму тады парсюка забіваюць? — пацікавіўся Казік.

— А таму, што справа яго такая святая — людзей карміць. У тым яго карысць. У кожнага на зямлі свая справа і свая карысць. А калі ад тваіх спраў няма карысці, то дарэмнае тваё жыццё, Богу нямілае. Вось вы добра думайце, што і як робіце, каб ад вашага жыцця карысць была. Будзе карысць — будзе шчасце.

Уважліва слухалі дзеці дзедаву навуку, запаміналі. Так заўсёды было: старыя перадавалі малым мудрасць і законы жыцця, традыцыі, вучылі разумець жыццё і наваколле. Гэтыя размовы былі сапраўднай жыццёвай школай. Менавіта гэта перадавалася ад прадзедаў спакон веку.

За гаворкамі час ляцеў хутка. За вокнамі даўно ўжо сцямнела, вечар сыходзіў, але на гэтым святыя вечары не заканчваліся, калядніца працягвалася і працягвалася жыццё. Наперадзе яшчэ багатая куцця, ці шчодры навагодні вечар, і многа іншых дзён і вечароў, важных і святых па-свойму, бо кожны дзень жыцця — гэта святая таямніца, якая нясе мудрасць і святую навуку. Важна гэту навуку ўцяміць і жыць па святых законах Жыцця.

Васіль ГІГЕВІЧ

# ЦЁМНАЯ ВАДА

*Апавяданне*



***Васіль Гігевіч нарадзіўся 3 студзеня 1947 года ў вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна. Скончыў Харкаўскі дзяржаўны ўніверсітэт і вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Аўтар кніг прозы «Спелыя яблыкі», «Калі ласка, скажы», «Астравы на далёкіх азёрах», «Доказ ад процілеглага» і іншых.***

## I

Халодныя вятры ў тую познюю восень ніяк не студзілі зямлю. Дыктары па тэлевізары штовечар дапытваліся ў сіноптыкаў, калі ж пачнецца зіма; бы апраўдваючыся, сіноптыкі гаварылі пра глабальнае пацяпленне. Вось ужо і снежань пачаўся — тая пара, калі рыбакі зграямі высыпалі з горада на забелены снегам лёд, але ў гэтую пару аніякага лёду не назіралася, здалёк чорная вада ў рэках і азёрах зыбілася, паблісквала рыбінай луской пад рэдкім нізкім сонцам. Рыбакі днямі таўкліся ў рыбацкіх магазінах, нудзіліся, з адчаю клялі пацяпленне і сіноптыкаў.

І толькі пад Новы год ціскануліі начныя марозікі, цёплую, не скалелую зямлю прыцярушыла сняжком, а на азёрах з'явіўся лёдзік, яшчэ слабенькі, крохкі.

Як звычайна, першымі навіну па горадзе разнеслі ўсё тыя ж дыктары-тэлевізійшчыкі. Людзей уразіла відовішча, паказанае на экранах: чорная прамоіна ў цэнтры ляснога возера, вадалазы ў цёмных скафандрах, падобныя да незямных няўклюдных стварэнняў, высокі чорны з таніраваным шклом «Лэнд Крузар» з белымі дугамі-адбойнікамі. Ён быў яшчэ рэдкасцю на гарадскіх вуліцах, звычайна вадзіцелі пільнымі позіркамі праводзілі такія машыны і дзівіліся, калі з-за руля вытыркаліся галоўкі дзяўчат з цыгарэтамі ў нафарбаваных вуснах. У народзе такія машыны ахрысцілі «грабавікамі». І ўсіх, а тым больш рыбакоў, да болю кальнула: ну чаго, чаго ён папёрся ў цэнтр возера, няўжо не цяміў, што ў любы момант лёдзік трэсне, небарака шухне ў ваду і тады ўжо, адзінокі, ніяк не выберацца на бераг, дзе чарнеў легкавік.

А потым нечакана пачаліся маразы, цёмную прамоіну зацягнула гладдзю, і цяпер сіноптыкі дружна загаварылі пра жаданае пахаладанне. Праз тыдзень-другі на возеры нічога не нагадвала пра здарэнне: усюды бялеў снег, пад ім на цёмнай вадзе ляжаў тоўсты пласт лёду, на які смела ступалі шчаслівыя рыбакі.

## II

Многія казалі, што Андрэй Аляксеевіч быў шчаслівы і ўдачлівы.

Ён нарадзіўся і сталеў пры савецкай уладзе. Маючы ад прыроды высокую прадстаўнічую постаць, прайшоўшы камсамольскую і райкамаўскую абкатку, ён пабываў наменклатуршчыкам, дзе паспеў ухапіць ад тагачаснай улады трохпакаёўку ў прырэчным паркавым раёне, побач з рэзідэнцыяй, які гараджане называлі «андатравым» — з-за прэстыжных у свой час зімовых шапак, якія пагалоў насілі мужчыны таго раёна. Меў Андрэй Аляксеевіч амаль што бясплатныя пуцёўкі ў элітны чарнаморскі санаторый, недарагія прадуктовыя пайкі.

Па сучасных стандартах не надта шмат ён меў.

А так, заланцужаны гальштукам, з рання да вечара карпеў над даведкамі і справаздачамі, пісаў даклады для Першага, сядзеў вечарамі на сходах у прэзідыумах і, пакручваючы перад носам акулярамі, невідушчымі вачыма глядзеў у залу.

Калі разабрацца, то тагачаснае жыццё Андрэя Аляксеевіча было не такім ужо і салодкім, як плявузгалі перабудоўшчыкі, ён быў усяго толькі вінцікам у адладжанай машыне. Як і многіх, яго таксама раздзіраў сум па салодкім сонечным жыцці, якое бруілася на экранах фестывальных фільмаў і пра якое шапталі шчаслівчыкі, што пабывалі там, за «бугром»…

Ці не гэты нябачны сум і разваліў савецкую ўладу?

Андрэй Аляксеевіч адным з першых адчуў, што несла крыклівая «перабудова» на чале з «мечаным» чалавекам, — пакінуў наменклатуру і перабраўся ў міністэрства, якое ніякага дачынення не мела ні да палітыкі, ні да ідэалогіі.

Шумелі і грымелі мітынгі, у пошуках саладзейшага жыцця адчаюгі хапалі інфаркты, інсульты, некаторыя і на казённыя харчы пераходзілі, а Андрэй Аляксеевіч у гэты час паціху ўжываўся ў міністэрстве і гады праз чатыры, калі людзі нечакана са здзіўленнем даведаліся, што жывуць ужо не пры савецкай уладзе, ён быў намеснікам міністра.

Бы карты падчас раздачы тасаваліся міністры, тузы станавіліся шасцёркамі, шасцёркі білі тузоў, а Андрэй Аляксеевіч як быў намеснікам міністра, так ім і заставаўся. Ён засвоіў правіла калі яшчэ быў наменклатуршчыкам, ездзіў у чарнаморскі санаторый і заводзіў патрэбныя знаёмствы: улада мяняецца і будзе мяняцца, а яны, чыноўнікі, вечныя, без іх ніякая ўлада не ўтрымаецца.

Як некалі Андрэй Аляксеевіч прыжыўся пры савецкай уладзе, гэтак жа ўдала прыжыўся і пры новай.

Зацугляны інструкцыямі, абавязкамі, сядзеў на калегіях; у сваім кабінеце, калі візіраваў, а калі адкладаў паперы і, ківаючы галавою ў бок прыёмнай міністра, гаварыў наведвальніку: «Параімся, што шэф скажа», — хоць добра ведаў, што скажа шэф.

Бо ўсе ўсё ведалі і ўсе былі павязаны: кааператары, крышавікі, міліцыя, бандзюганы, чыноўнікі — таму хутка, нібы самі па сабе, раслі ў водаахоўных зонах аграмаднейшыя катэджы, агароджаныя двухметровымі цаглянымі сценамі, а на гарадскіх вуліцах множыліся бліскучыя іншамаркі, якія ні за якую зарплату не купіш.

Штосьці новае аплятала людскія душы — тое, што неслася з запарнушаных і забандзюганеных экранаў, з кніг і часопісаў, з вуснаў моладзі, якая не ведала, ды і ведаць не збіралася, дзе дабро, а дзе зло, балазе, што не ведалі гэтага і старэйшыя, бо нечакана стала ясна: з'явіўся новы бог і суддзя — грошы…

Восеньскія санаторныя паездкі Андрэй Аляксеевіч любіў. Яшчэ зімой ён марыў пра мора, пра знаёмых, з якімі штогод сустракаўся — думаў пра санаторый так, як

думае былы вясковец пра сваё маленства ў вёсцы. Мацэсцінскія ванны, мяккі вецер, што гнаў белапенныя грыўкі да берага, асветлены агнямі бар, дзе пульсавала гаючая музыка, цёплая паслухмяная рука жанчыны, смак каньяку, — усё было салодкім і ўтульным, як узнагарода за службу.

І ў той год паездка ўдалася, — нібы штосьці прадчуваючы, Андрэй Аляксеевіч спяшаўся як мага больш ухапіць наталяючай слодачы: пераплачваў медсёстрам, каб больш паляжаць у мацэсцінскай вадзе, падоўгу плаваў ды загараў, а вечарамі ўсё ніяк не мог адысці ад берага — глядзеў на белы серп маладзіка і бліскучую дарожку на зыбкай вадзе.

Невядома чаму, але па вяртанні дамоў, Андрэй Аляксеевіч адчуў сябе кепскавата.

— Перагуляў, — сказаў яму Грышчук. — Цяпер у лечкамісію дуй, пакуль не позна. Глядзі, каб ты сваімі ваннамі і гульбішчамі сэрца не пасадзіў. Запомні: каньяк і дзеўкі пасля пяцідзесяці бокам вылазяць.

З забеспячэнцам Грышчуком Андрэй Аляксеевіч працаваў у пары каторы год, яшчэ з наменклатурных часоў. Быў Грышчук прахіндзей добры, — тройчы жаніўся і цяпер цягаўся з нейкай…

Сабраўшы выпіскі з бальнічнай карткі, Андрэй Аляксеевіч падаўся ў лечкамісію.

На прыёме сядзела саракагадовая светлавалосая жанчына. Твар яна мела чысты, дагледжаны, на тонкіх вуснах ледзь-ледзь паблісквала памада і, яшчэ, што здзівіла Андрэя Аляксеевіча, у яе былі чорныя бліскучыя вочы. Звычайна такіх людзей называюць вірлавокімі. Напачатку Андрэй Аляксеевіч не мог уцяміць — як гэта спалучыць: светлыя валасы і чорныя вочы. А потым здагадаўся...

Доктарка прагледзела выпіскі з бальнічнай карткі. Коратка слізганула цёмнымі вачыма па постаці Андрэя Аляксеевіча, чамусьці ўсміхнулася і звонкім ясным голасам спытала: «Ну, што рабіць будзем, хворы?»

І было ў яе позірку, у па-дзявочы чыстым голасе штосьці ўладнае, не толькі звыклае адчуванне ўлады ўрача над хворым, не…

Паклалі яго ў палату на дваіх. Пачаліся кропельніцы, таблеткі, працэдуры…

Так ён і пралячыўся дзесяць сутак, не надта сыходзячыся з суседам-адстаўніком Калмыковым, які, прайшоўшы Германію і Манголію, перад адстаўкаў асеў у Беларусі. Казаў, што заплакаў, калі першы раз сюды прыехаў.

Праз дзень Андрэя Аляксеевіча наведваў Грышчук. Па званку мабільніка Грышчук выцягваў Андрэя Аляксеевіча ў бальнічны сквер, дзе без старонніх вушэй яны раіліся пра чарговыя ўмовы тэндарных закупак, пра новыя дамовы, пра адкаты і заказы…

Неяк у палаце Грышчук сутыкнуўся з доктаркай, — седзячы ля ложка, урач правярала пульс у Андрэя Аляксеевіча. Бліснуўшы вачыма на Грышчука, яна чамусьці сярдзіта спытала: «Хто вам дазволіў сюды заходзіць?»

На здзіўленне, звычайна балбатлівы Грышчук, сустрэўшыся позіркам з доктаркай, нічога не адказаў — паслухмяна зачыніў дзверы.

На наступны дзень, калі Грышчук заскочыў да Андрэя Аляксеевіча, ён як адрэзаў:

— А яна — лярва добрая. На цябе вока паклала. Глядзі, цяпер на такіх, з «лапатнікамі» ў кішэнях, паляванне вядзецца…

— Не дуры галаву, — мармытнуў Андрэй Аляксеевіч. — У цябе ўсе то лярвы, то хлюндры. Калі сам падшыванец, дык і астатніх пад сябе мераеш.

### III

Глухазім'е заканчвалася. Яшчэ сцюдзянела зорнымі начамі, яшчэ белыя снягі дымілі над чорнымі асфальтавымі дарогамі, ды ўсё часцей накачвала на чалавека радасць і павесялелымі вачыма глядзеў ён вакол сябе, і позірк сам падымаўся ўгару, да высокіх лёгкіх аблачын, між якіх сляпіла вочы белае сонца.

У гэты час пачынаўся вясенні клёў.

Пакідаючы цесныя задыванeныя кватэры, дзе суткамі тлумілі галовы тэлевізары, рыбакі ўцякалі з горада на азёры і вадасховішчы, — некаторыя прыхоплівалі адгулы, адпачынкі, каб днямі стыць на лёдзе, начаваць у непрыбраных вясковых хатах, у каляровых палатках, у легкавіках, ля якіх усю ноч чадзелі чырвоныя галавешкі. І чамусьці весела было мужчынам ад гэтай няўтульнасці і неўладкаванасці. Праводзячы дні на белым іскрыстым снезе, мужчыны ўмомант загаралі, прыгажэлі, нібы на Канарах пабываўшы.

Да зімовай рыбалкі Андрэя Аляксеевіча прынадзіў усё той жа Грышчук. Ён жа і агледзеў гэтае лясное возера, на якое ездзілі кожную зіму, — на мяжы з заказнікам, не надта вялікае, але глыбокае. Некалі тут сунуўся ляднік, ён і панарываў рэліктавыя азёры. Да возера не паспелі пракласці гравійку, бездарожжа стрымлівала рыбакоў, пабойваліся пасадзіць машыны на днішча ў глыбокіх каляінах.

Яшчэ зацемна, гадзіны ў чатыры, яны выкочвалі за кальцавую і ўліваліся ў ланцуг машын. Адматаўшы сотню вёрст, яны зварочвалі з асфальтаванай дарогі і пачыналі гойсацца па калдобінах і каляінах, высвечваючы белым святлом заснежаную дарогу, блізкія бярозы, сосны, голыя кусты, ельнік з шапкамі снегу на голлі.

Урэшце прыбіваліся да жаданага берага возера, дзе чарнелі, пакінутыя людзьмі, хаціны з бліскучымі вокнамі. Хваткі гаспадарнік Грышчук, гледзячы на хаціны, цмокаў вуснамі: «Пачакай, праз годзік-другі расіяне і тут усё скупяць. Гравійку пракладуць, паляўнічыя вышкі ўздоўж дарогі паставяць — тады не ўваб'ешся. Купляй, пакуль не позна».

Андрэй Аляксеевіч адмоўчваўся: не да вышак і не да хацін яму было.

Выходзілі на лёд з цёмным. І, калі б ні прыехалі, ды ўжо нехта быў на возеры, — ці то ў асветленай знутры палатцы людзі начавалі, ці то хтосьці шорхаў бурам, высвечваючы ля ног белую пляму святла ад налобніка.

І яны гэтак жа свідравалі, закормлівалі лункі. Святлела. Пачынаўся дзень, пра які часта марылася ў шумным горадзе, — ціхі, захмараны, з мяккім сняжком, што нетаропка падаў і падаў на застылыя постаці, якія горбіліся ля лунак.

Ціха-ціха было як у наваколлі, так і ў душах людскіх, — немаведама куды адмяталіся: праца і гарадскі тлум, крыклівая настырная рэклама, якая жыццю вучыла, — адмяталася ўсё, што цывілізацыяй называлася, і ў гэтай рэліктавай цішыні рыбакі адчувалі далучанасць да невядомага жыцця, яны напітваліся гэтым таямнічым жыццём, са здзіўленнем адчуваючы, як многае, што дагэтуль турбавала, без чаго, здавалася, і жыць немагчыма, — хлусня вялікая, мана несусветная.

Гледзячы на бліскучае люстэрка вады ў лунцы, як і іншыя рыбакі, Андрэй Аляксеевіч думаў пра невядомае жыццё, што віравала ў чарнечы, пра вялікіх і малых рыб, якія цяпер круціліся ля салодкай прыкормкі. І здзіўляла, як гэтыя рыбы ўмудраліся адчуваць пах прыкормкі, як яны ўвогуле там, у вадзе, жылі…

Так і не прыкмеціў, калі белы прытоплены паплавок усплыў на паверхню вады. Падсек. Штосьці цяжкое туга пацягнула жылку. Тады Андрэй Аляксеевіч выдыхнуў:

— Здаецца, ёсць…

Грышчук тут жа падхапіўся з рыбацкай скрынкі. Падышоў, трымаючы ў руцэ багорчык:

— Не спяшайся. Парве жылку.

Чамусьці яны загаварылі шэптам.

Нарэшце гэтае цяжкое зрушылася і пачало хадзіць пад лункай кругамі. Перабіраючы пальцамі наструненую жылку, Андрэй Аляксеевіч пачаў прыпадымаць гэтае цяжкое і непаваротлівае.

— Нагамі лунку прыкрый, — шапнуў Грышчук. — Пабачыць святло — парве жылку і сыйдзе.

Туга нацягваючы жылку, Андрэй Аляксеевіч адчуў, як усё хутчэй і хутчэй цяжкое і паленістае падалося наверх, да схаванай зімовымі ботамі лункі.

Цела біла дрыготка: было боязна парваць жылку. Перад лункаю рыба стала. Між ботаў у вадзе Андрэй Аляксеевіч угледзеў белую галаву з круглымі пукатымі вачыма. Рыбіна ў лунку не магла ўвайсці.

— Не адпускай. Я хутка, — Грышчук прысеў ля лункі і, апусціўшы ў ваду багорчык, зачапіў рыбу за жабры. — Трымай, — перадаўшы багорчык ў дрыжачыя пальцы Андрэя Аляксеевіча, Грышчук скочыў па бур, і, вярнуўшыся, зашоргаў ім, свідруючы новую лунку ўсутыч са старой.

Зачэплены багорчыкам лешч не вырываўся, — як бы чакаў, што яго адпусцяць і ён зноўку апусціцца ўніз на сяміметровую глыбіню.

Калі ўсё было скончана і ружаваты, кілаграма на тры, лешч, заблытваючы жылку, трапятаўся на белым снезе, Грышчук усміхнуўся і цяпер ужо гучна сказаў:

— Вось гэтак жа, як ляшчоў, нас, мужчын, бабы вывуджваюць. Мы іх выбіраем? Не, яны нас выбіраюць і вывуджваюць.

Андрэй Аляксеевіч сціснуў зубы: не дарма Грышчук сыпаў слоўцы.

Адкінуўшы ботам ад лункі ляшча, Андрэй Аляксеевіч дрыжачымі пальцамі разблытваў жылку. Так і не разблытаўшы, кінуў яе ў снег, буркатнуў:

— Давай вып’ем.

— Ты ж завязаў пасля Новага года, — Грышчук паднёс да Андрэя Аляксеевіча сваю рыбацкую скрынку. Дастаў закуску, бутэльку каньяку. Ліную сабе ў шклянку і пільна зірнуў у вочы Андрэю Аляксеевічу: — Табе колькі?

— Лі поўную. За рулём ты паедзеш.

Хмелю Андрэй Аляксеевіч не адчуў. Пажаваў скрылік лімона. Сам сабе наліў поўную шклянку. Толькі тады ў галаве пачало яснець, — як бы па-сапраўднаму цверазееў.

Грышчук пільна глядзеў на Андрэя Аляксеевіча. Маўчаў.

Пазіраючы ўдалеч на белае гладкае покрыва, за якім цямнела закамянелая палоска лесу, Андрэй Аляксеевіч спадзяваўся пазбавіцца ад болю, які ўвесь час адчуваў. Як мог, ён праціівіўся гэтаму балючаму і нябачнаму.

Гэтае балючае і тупое з’явілася ў ім восенню, калі першы раз пасля лечкамісіі яны паехалі за горад на шашлыкі і непрыкметна апынуліся на заднім чорным скураным сядзенні «Лэнд Крузара», дзе пачалося тое бессаромна-салодкае, што няпрошана сніцца прыстойным людзям і пра што тыя людзі ніколі нікому не прызнаюцца. Гэтае няпрошана-няправільнае, па-звярынаму салодкае, было як спраўджанне брыдкіх сноў; у нейкі момант паўзабыцця, заплюшчыўшы чорныя вочы, яна выдыхнула: «Сярожка». Андрэя Аляксеевіча гэта на міг працверазіла, але, сам таго не разумеючы, ён быў ужо на кручку. Таму і не мог стрымаць сябе, не мог адарваць

сваё цела ад налітага асалодаю цела і таму розумам паспрабаваў заглушыць тое, што яна выплеснула з сябе і, бы стрэмку, увагнала ў яго.

Тады ён даў сабе зарок парваць усё…

Не мог жа свет белы заклініцца на вірлавокай, якая насіла ў сабе «Сярожу».

А праз месяц ён чакаў яе ля ўвахода ў модны буцік.

— Прыгожанькае, — шапнула яна ў буціку і з удзячнасцю пацягнулася вуснамі да ягонай шчакі.

— Твая на работу да мяне прылятала. Плакала. Кляла мяне, па чым свет… — ціха і неяк надта абыякава прамовіў Грышчук, калі Андрэй Аляксеевіч амаль што адзін апаражніў бутэльку. Як гэта бывае між даўно знаёмымі людзьмі, яны часта невядомым пачуццём спазнавалі думкі адно аднаго.

— Мне яна нічога не казала, — адказаў Андрэй Аляксеевіч.

— А што яна можа табе сказаць? Я вінаваты, я цябе з тропу зводжу. Усё міністэрства пра цябе гудзе. Яшчэ кааператыў гэты. Трэба ён табе: няўжо не здужаеш адарваць доктарку ад сябе?

**IV**

У верасні Андрэй Аляксеевіч, ушчэнт змучаны нябачнай стрэмкаю, паехаў у знаёмы санаторый.

Здавалася, было ўсё гэтак жа, як і дагэтуль: і лячэбныя ванны, і сонцам выбелены галечны бераг, і салёныя хвалі ды вільготны вецер.

І між тым усё было іншым.

Штосьці знікла, — тое, што дагэтуль радавала, весяліла, змушала жартаваць і спадзявацца на яшчэ большую радасць. Сцішаны, бы ў ваду апушчаны, Андрэй Аляксеевіч бавіў час без шумных знаёмых і занадта цвяроза глядзеў на санаторнікаў, якія, свідруючы адно аднаго позіркамі, моўчкі разумелі чаго хочуць.

Дагэтуль, калі Андрэй Аляксеевіч з'яўляўся ў санаторыі і заводзіў салодкія гульні, ён не адчуваў, што ў свеце маецца нешта нябачна-цягучае, што без слоў і жэстаў яднае людзей. Яно, гэтае нябачнае і цягучае, можа быць то салодкім, то горкім. І таму на ўчадзелых кухнях ні з таго ні з сяго разгараюцца крыкі ды скандалы з-за непамытай лыжкі. Вось таму і множацца глухія выпіўкі, якімі няшчасныя людзі імкнуцца заглушыць ці разарваць невытлумачальную повязь еднасці і нянавісці, таму шырыцца хлусня і здрада. Часцей за ўсё людзі ці то не хочуць, ці то саромеюцца прызнацца, што ўсё знешняе: скандалы, выпіўкі і здрады нічагусенькі не вытлумачваюць. Бо нешта іншае ўладарыць над чалавекам.

Што гэта было?

Не ведаў гэтага Андрэй Аляксеевіч.

Ён так і не дабыў аплочаны адпачынак.

Вярнуўся іншым.

Але за той час, пакуль Андрэй Аляксеевіч знаходзіўся у адпачынку, яна таксама змянілася.

Той «Сярожа», якога яна насіла ў душы, знік. Гэта Андрэй Аляксеевіч адчуў адразу ж, як толькі ўгледзеў яе на вакзале.

Яна схуднела, паблякла, знікла бліскучая памада на яе вуснах, і цяпер ужо не пыталася са смехам, як гэта звычайна рабіла пры сустрэчы: «Што рабіць будзем, хворы?» На яе светлых валасах чарнела хустка.

Праз некалькі тыдняў Андрэй Аляксеевіч угледзеў яе ў манастырскім двары. Яна стаяла побач са святаром і трымалася за ягоную белую пульхную руку. Прыціхлая, вінаватым, як у сабакі, позіркам яна аглядала высокую мажную постаць, ад шыі да пят абцягнутую чорным сукном. Як і многія святары, ён быў адкормлены, з чырвонымі вуснамі, з густой чорнай барадой і гэткімі ж чорнымі вірлівымі вачыма. Святар пазіраў паверх яе галавы, туды, дзе бялеў купал, дзе іскрыўся залацісты крыж.

Тады Андрэй Аляксеевіч зразумеў, што цяпер ён навек адарваны ад яе і нічым: ні падарункамі, ні кааператыўкаю — не зможа вярнуць яе да сябе. Бо жанчына бачыла і адчувала ў адкормленым чалавеку таямніцу, праз яго яна імкнулася спазнаць тое, што ўладарыла людзьмі.

І ёю таксама…

Го-о, як жа было балюча Андрэю Аляксеевічу, калі ён ніяк не мог пазбавіцца нябачнага і невытлумачальнага пачуцця еднасці з ёю!

Нейкі таямнічы ды заблытаны свет прыадкрываўся яму. Ён імкнуўся спазнаць гэты свет нябачных слёз і пакут, хацеў разабрацца ў ім, знайсці правілы і законы, якія правяць гэтым светам.

Ды нічога ў яго не атрымлівалася.

І тады ўжо, з адчаю, як і многія разумныя людзі — Андрэй Аляксеевіч лічыў сябе разумным чалавекам — пачаў думаць пра штосьці містычнае, над чым некалі — як даўно гэта было! — пасмейваўся: пра чары, малітвы, загаворы над вадою, без якой ніхто з жывых не абыходзіцца і якая, як даказвалі вучоныя, хавала ў сабе штосьці жывое і таямнічае, што ад чалавека чалавеку перадавалася.

Усё далей і далей адносіла Андрэя Аляксеевіча і ад некалі салодкіх грошай, сям'і, працы, нават ад Грышчука. Тое лагічнае, чым дагэтуль кіраваўся ў жыцці Андрэй Аляксеевіч, размывалася, станавілася абыякавым, абрыдлым. Як чалавек, які хоча сатварыць з сабою нешта нядобрае, ён пачаў стараніцца людзей.

Ні з таго ні з сяго яму ўспаміналася маленства — чыстае, чамусьці асветленае сонцам — без сённяшніх «настаўнікаў»: тэлевізара, рэкламы, інтэрнэту — тады ўпрытык падступалі людзі, якіх добра ведаў, але якіх ён ужо ніколі не мог ні сустрэць, ні ўбачыць; перад вачыма з'яўляўся выразны, як на малюнках Брэйгеля, летні падвячорак, неяк звысоку ён бачыў вясковыя хаты, агароды з зялёным бульбоўнікам, рачулку за імі, зарэчны сасновы бор, адкуль неслася працяжнае і плаксівае:

— Ча-ра-ва-а-ала,
А я хлоп-ца-а ча-ра-ва-а-ала-а…

Тады яшчэ людзі спявалі. Тады яны яшчэ чаравалі. То быў іншы свет, дзе людзі гаварылі тое, што думалі.

Ён нанова спазнаваў той далёкі пакінуты свет, і штосьці да няўцерпу балючае падступала да грудзей Андрэя Аляксеевіча.

І ўсё неадступней перад яго вачыма з'яўляўся незаплямлены ні людзьмі, ні машынамі снег, і думалася ў такія імгненні пра ўсё навек пакінутае, застылае ў цішыні і спакоі, як пра недасяжнае доўгачаканае шчасце, да якога нейкім цудам ён здолее дабрацца…

*Анатоль БРУСЕВІЧ*

# МОВА ПРЫВІДАЎ



***Анатоль Брусевіч нарадзіўся 28 верасня 1977 года ў Гродне. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, магістратуру і аспірантуру. Паэт, перакладчык, даследчык гісторыі польскай літаратуры і польска-беларускіх літаратурных сувязей. Аўтар зборнікаў паэзіі «Дуэль» і «Падаю ў неба», а таксама манаграфіі «Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча».***

* * *

Я, геній Анатоль Брусевіч,
Стаю з усмешкай ля вакна,
Гляджу, як поўначы сцяна
Халодным ценем спіць на дрэве.
Гляджу, як падаюць лісты
На дол з рукі, нібыта лісце,
Бо неба — гэта больш не выйсце,
А сон — кароткі і пусты.
Гляджу на белы феерверк
І пасміхаюся ад шчасця,
Што Вечны Зніч калісьці згасне,
А ноччу прыйдзе Вечны Звер.
Але смяюся і са Звера,
Бо для паэта ўсё адно.
Стаю, гляджу сабе ў вакно,
Я, геній Анатоль Брусевіч.

* * *

Гуляю з паэткаю.
Белымі вершамі воблакі
Плывуць над Гародняю.
Дымлю цыгарэткаю.
Побач гуляюць амёбы
З вачыма халоднымі.
Гуляю з паэткаю,
Ці (не дай Божа) з манахіняй
Па вулках паношаных.
Сталёваю сеткаю
Неба звісае над дахамі,
Як быццам бы ложак мой.

* * *

Аб сонца завостраны вугал
Разбілася неба начное.
«Кахаю!» — шапталі на вуха

Мне зоркі, спадаючы ў Нёман.
Ды толькі я слаба паверыў —
У зораў халодныя вочы.
З нябёсаў спускалася шэрасць
На чэрап купальскае ночы.

* * *

Я духам злым іду каля цябе
Заўсёды злева ціхаю хадою.
Якое гэта шчасце — быць з табою
І частаваць цнатлівасцю кабет,
Якія праплываюць цераз нас,
Каб піць з вачэй вітрын зімовы вечар,
А потым раставаць сярод пустэчы
І воблік свой у цемру апранаць!

* * *

Зноў мы з табою звязаны
Моваю мёртвых прывідаў.
Скачуць навокал блазнамі
Мроі хвілінаў выпітых.

Як мы маглі, наіўныя,
Зблытаць пустэльню з прорваю?
Студзень сахою сіняю
Нашы сляды заворвае.

**ШЧАСЦЕ**

Вось яно, шчасце — прачнуцца ранкам
(Бо можна было б зусім не прачнуцца),
І глядзець, як аблокі будуюць старанна
За вакном тваім сотні цікавых
канструкцый.

Вось яно, шчасце — летам халодным
Адчуваць цяпло жаночага цела,
Адчуваць на вуснах гарачы подых
І ў кіпені жарсцяў тануць звар'яцела.

Вось яно, шчасце — апошнія грошы
Аддаць на віно і напіцца да трасцы,
А потым сядзець з тварам паношаным
І думаць: «Няма ніякага шчасця».

* * *

Хоць шмат было кабет,
Адной табе дазволіў
Навечна адабраць
Адвечны мой спакой.
Усё аддаў табе —
І сны свае, і мроі,
І бэзу сіні пах,
І неба зорны строй.
Усё аддаў, а сам,
Загорнуты ў самоту,
Якую нават ты
Не здолела забраць,
Па вастрыю ляза,
Бліскучым і халодным,
Хаджу туды-сюды,
Як з торбамі жабрак.

**ЗІМА**

Зіма. Атрутна-белы снег.
На гэтым фоне ўсё чужое —
Дамы і постаці людзей,
І нават неба над зямлёю.

Мароз малюе нацюрморт
На шыбах мёртваю рукою,
І ажывае фарбаў лёд,
І шкло становіцца душою,

Таму ні сну, ні слёз няма —
Ёсць толькі бель перад вачыма,
Ёсць толькі вечная зіма,
Зіма, імя якой — Радзіма.

**Яўген МАКАРЭВІЧ**

* * *

Спакойна я гляджу ў далечу,
З хлапечай радасцю ў вачах,
Як міма праплывае вечар
І поўніць чырванню прасцяг.

Усё павінна паўтарыцца
Зноў на журботным рубяжы:
І гэты боль, і навальніца,
І той пагорак на мяжы.

Ўсё пераменліва і тленна,
Свой час на радасць і на гора.
Няхай жа будзе блаславенне
І сённяшняму, і ўчора.

*Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ*

# «ХОЧА БЫЦЬ ВАШЫМ СЯБРАМ...»

*Апавяданне*



***Навум Гальпяровіч нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Дырэктар дырэкцыі міжнароднага вяшчання Белтэлерадыёкампаніі, аўтар кніг паэзіі і прозы, ганаровы грамадзянін Наваполацка і проста чалавек, які ўсё сваё жыццё прысвячае справам на карысць Беларусі.***

Амаль кожны дзень ён сустракаў гэтыя радкі на Фэйсбуку і не пераставаў дзівіцца: як можна мець такую колькасць сяброў? Звычайна ён націскаў на «выдаліць» і з палёгкай пераходзіў на іншыя старонкі, шукаючы тое, што было неабходна менавіта яму.

Сёння, прачытаўшы звыклыя радкі і ўгледзеўшыся ў прозвішча, ён адчуў, як шалёна закалацілася сэрца і кроў прыліла да твару. Паліна Акінчыц… Як ён хацеў забыцца на гэта імя, назаўсёды выкрасліць з памяці яе тонкую постаць, вусны, валасы, што пахлі ветрам…

Ён добра памятаў іх апошнюю размову, што адбылася тры гады таму. Якая стала вынікам гадоў яе халоднасці, абыякавасці да яго, яе разліку атрымаць у жыцці карысць ад іх спатканняў. Дзякуй Богу, у яе хапіла сумлення не адмаўляць гэта, не працягваць бясконцы падман, бясконцую гульню, хоць, напэўна, у яго не стала б сіл і мужнасці самому разарваць іх адносіны.

Неяк яна сказала, што ён занадта правільны, станоўчы, а жанчына шукае нестандартны характар, ёй падабаецца паляўнічы, захопнік, валадар... Ён у думках згадзіўся, бо ў жыцці бачыў безліч такіх прыкладаў: сціплыя дзяўчаты-выдатніцы з іх школы аддавалі перавагу заляцанням мясцовых хуліганаў, а прыгожыя, разумныя выходзілі замуж за дурняў і п’яніц… Гэта заўсёды яго здзіўляла, бо хацелася бачыць гармонію, хацелася, як у любімых кнігах, знайсці тое трапяткое глыбокае пачуццё, тую ўзаемнасць, якая акрыляе, выклікае жаданне быць дужым і смелым.

Яму так хацелася быць каханым… Але, як у вершы Еўтушэнкі «и ходят в праздной суете разнообразные не те…» Іх было дастаткова многа, і ўзгадваць пра гэта даводзілася або з сумам, або са злосцю, або з прыкрасцю.

З форткі падзьмула прахалодай. Ён падняўся і выйшаў на балкон. Стаяла цудоўная пара, якую называюць залатой восенню. Між тым клён за акном гарэў не золатам, а яркай чырванню. Гойдалася нябачнае здалёк павуцінне, неба было напоўнена празрыстай сінню.

Ён раптам у думках узгадаў яшчэ аднаго паэта, радкі якога прачытаў у падоранай сябрам кніжцы:

Толькі-толькі цяпер зразумеў.
Толькі ўвосень,
Што цябе ані ў сонца, ні ў дрэў
Не адпросіш…

У такі вось асенні дзень ён з хваляваннем набліжаўся да студэнцкага інтэрната ў Брэсце. Там жыла яго дзяўчына, яго золатавалосая Алена, з якой ён пазнаёміўся на вяселлі сябра ў прыгожай вёсцы пад Барысавам. Яны цалаваліся пад разлапістай старой яблыняй у садзе за хатай. На небе гарэла поўня, пахла свежымі яблыкамі. Гэты водар змешваўся з водарам яе цела, яе мяккія вусны напаўнялі істоту нястрымным жаданнем і пяшчотай…

Потым яны разам ехалі да яго роднага горада, дзе жылі яго бацькі, і штовечар, штоноч цэлае лета не маглі наталіцца адно адным, і ён жыў у нейкім ачмурэнні.

Потым яна з'ехала на вучобу ў Брэст і нават прыслала ліст, што вельмі сумуе. Што лічыць дні да канца семестра, калі зможа прыехаць на колькі дзён да яго…

А тут здарылася аказія: у іх на працы арганізавалі экскурсію ў Брэст і ён запісаўся адным з першых.

Ён не стаў нічога паведамляць Алене, прадчуваючы радасць ад нечаканай сустрэчы, рыхтуючыся да сюрпрызу, які падорыць дзяўчыне.

Ён падышоў да інтэрната, некалькі разоў папытаўшы для ўпэўненасці, як яго знайсці, у людзей, што здаваліся яму такімі сімпатычнымі і спагадлівымі, быццам ведалі, што ён спяшаецца насустрач свайму каханню.

На вахце ў яго забралі пашпарт, і вось ён ужо грукаецца ў дзверы жаданага пакоя № 408.

— Якім чынам ты тут? — разгублена і, як яму здалося, спалохана спытала Алена. — Ты ж нічога не пісаў…

І, не чакаючы адказу, прашаптала: — Давай выйдзем!

Ён лавіў на сябе зацікаўленыя позіркі дзяўчат, якія былі ў пакоі, і пакрысе радасная ўсмешка знікала з твару.

Яны выйшлі на калідор, падышлі да акна, якое выходзіла на вуліцу.

— Дык чаго ж ты не папярэдзіў? — працягвала яна строга. — У мяне на сёння зусім іншыя планы.

Ён адчуў, як гарачы пот пацёк па спіне.

— Ты што, не рада, што я прыехаў? Я так хацеў цябе бачыць!

— Рада, не рада, папярэджваць трэба! — з прыкметным раздражненнем у голасе прамовіла дзяўчына. — Ладна, пачакай мяне на вуліцы, я хутка выйду.

Ён спусціўся з чацвёртага паверха, забраў у вахцёркі свой пашпарт і стаў чакаць Алену ля ўвахода.

«Сапраўды, можа трэба было папярэдзіць? — круцілася ў галаве. — А то зваліўся, як снег на галаву!» Ён стараўся пераканаць сябе, што гэта ён вінаваты, але ў сэрца, нібы халодная вужака, запаўзала трывога.

Алена так і не выйшла. Замест яе падышла дзяўчына, якую ён бачыў у Алененым пакоі. Яна, адводзячы вочы, паведаміла, што Алена занята, выйсці не можа, і ўвогуле, у яе ёсць хлопец, з якім яны падалі заяву ў ЗАГС.

— Алена перадала, што яна пра ўсё табе напіша, — сказала дзяўчына і хуценька пашыбавала назад.

У той вечар ён па-сапраўднаму напіўся. У гатэлі, дзе размясцілася іх тургрупа, яго старалася суцешыць тоўстая Ляля з бухгалтэрыі. Яны курылі ў яе пакоі, а Ляля ўсё прыціскалася да яго і нешта гаварыла, гаварыла…

Прачнуўся ён у яе ложку пад раніцу, выпрастаўся з-пад яе пульхнай рукі, паглядзеў на яе суседку па пакоі, якая спала, адвярнуўшыся да сцяны на суседнім ложку, на Лялю, якая з адкрытым ротам моцна пасапвала, ледзь прыкрытая коўдрай, на яе станік, што валяўся на падлозе побач з ягонай бялізнай…

Было прыкра, як ніколі дагэтуль, і невыносна сорамна. Ён паспешліва апрануўся, выскачыў у калідор, і, не зазіраючы ў свой пакой, пашыбаваў на вакзал. Добра, што ва ўнутранай кішэні пінжака разам з пашпартам былі грошы, таму на білет да Мінска хапіла.

…Ад гэтага ўспаміну яго адарваў тэлефонны званок. Нехта памыліўся нумарам і настойліва высвятляў, куды ён трапіў.

А ў галаву лезлі іншыя эпізоды яго няўдалых раманаў. Так атрымлівалася, што тыя, хто падабаўся яму, не адказвалі ўзаемнасцю, а ад настойлівых заляцанняў іншых ён проста збягаў.

«Апошняе каханне, як ранішні туман, здаецца прыйдзе дзень, і зноў яно растане, апошняе каханне — спакуслівы падман перад сівой зімою, перад глухім расстаннем…» — недзе ён чуў песню з такімі словамі. Нібыта — пра яго самога. Апошнім каханнем была яна, Паліна Акінчыц. Апошнім і самым моцным. Ён думаў пра яе і ўдзень, і ўначы. Ён прыносіў на кожнае спатканне кветкі, дарыў ёй карціны, купленыя на мастацкіх выстаўках, купляў пярсцёнкі і завушніцы, розныя мілыя дробязі. Абы бачыць яе ўсмешку, яе спагадлівы позірк…

Больш за ўсё ён баяўся страціць яе. Ён быў гатовы на ўсё, каб толькі быць побач, каб толькі слухаць яе голас, глядзець у яе вочы.

Яна не абяцала яму нічога. Ён не прыспешваў яе рашэння, задавальняючыся тым, што ёсць. Ён верыў, што яго глыбокае пачуццё ўрэшце растопіць лёд сумнення, што яна зразумее ўсю сілу яго кахання і з удзячнасцю прыме яго.

Але аднойчы ён пачуў тыя страшныя словы пра тое, які ён харошы, самы лепшы на зямлі, але яна не можа адказаць яму каханнем. Нібыта завучаныя фразы з нейкага кінафільма, гучалі яе словы, што яна даражыць іхнімі адносінамі, цэніць тое добрае, што ён для яе зрабіў, і гатова быць яму верным сябрам.

«Я не хачу быць харошым! — у страшэннай роспачы хацелася крыкнуць яму. — Дрэнным, злым, якім заўгодна, але шчаслівым з табой, адзіным, жаданым…»

Прайшло тры гады. Ён не адказваў на яе званкі, стараўся не думаць пра яе, выкінуць з памяці іх сустрэчы, яе ўсмешку, вочы, вусны…

Аднойчы ён сустрэў на вуліцы сваю былую аднакласніцу Тоню Марозаву. Было золка, хмурна і асабліва адзінока.

— Тоня, у мяне заўтра дзень нараджэння. Прыйдзеш ? — раптам нечакана для самога сябе прапанаваў ён.

— Прыйду, — адказала Тоня.

Цяпер яны жывуць разам. У ягонай аднапакаёўцы яго заўсёды чакае смачная вячэра, добра папрасаваная чыстая бялізна, ціхі рахманы позірк вернай жанчыны. Але на душы па-ранейшаму пуста і холадна.

…Ён зачыніў за сабой балконныя дзверы, падышоў да камп’ютара, выклікаў мышкай знаёмае прозвішча і націснуў на значок крыху вышэй.

«Вы сапраўды хочаце выдаліць Паліна Акінчыц?» — крыху непісьменна спыталася машына.

Ён націснуў на значок «ok».

Фраза: «Хоча стаць вашым сябрам» знікла ў чэраве разумнай машыны.

*Васіль ТКАЧОЎ*

# АПАВЯДАННІ

## ДЖАЛА

Па даху лапаталі кроплі дажджу, а пашкуматаныя напярэдадні хмары віселі на небе дзіравым рэшатам. Сірацюк каторы раз паглядзеў у акно: а там што, на дварэ? У лужынах, што ўтварыліся ў неглыбокіх ямінах на вузкай — як праехаць — дарозе, шпокалі бурбалкі. Нікога з людзей. Ды і хто ў такую восеньскую непагадзь будзе шастаць? Калі толькі патрэба дужа ўжо пільная, а так — сядзі, дачнік, дома, падбівай рыштункі: што вырасла сёлета, што не ўратаваў ад спякоты і шкоднікаў, будуй планы на наступны год. Сірацюку ж было не да ўсяго гэтага: яго выклікалі ў горад, і акрамя паездкі нічога ў галаў не лезла. Там чакаюць. Сказалі строга, каб прыехаў, і ніякіх «не», бо два разы наведваліся да цябе, паважаны, самі і толькі пацалавалі замок. Прыгразілі нават адміністрацыйным спагнаннем… Але як паедзеш, калі з самага ранку лье, бы з вядра? Гэта каб хоць меўся ўласны транспарт, тады б іншая справа. А так пакуль дачыкільгаеш да аўтобуснага прыпынку — прамокнеш да ніткі, ніякі парасон не выратуе: вецер падхоплівае дажджынкі і круціць імі як хоча, таму не пакіне на адзенні жывога месца. «Вось табе і багач, вось табе і куркуль!.. А свайго транспарту няма. Пчаляр, называецца. Трыццаць сем вулляў…» Злуючыся, Сірацюк ссоўваў бровы на пераноссі, хмурыў лоб і думаў: «А хто ж з іх, суседзяў па дачы і пакупнікоў мёду, сапраўды мог падлічыць тыя вуллі? І калі? Быццам жа ніхто не заходзіць далей парога…» Ды і хто ён, той добразычлівец, які напісаў пра яго ў райвыканкам, ды данёс, што Сірацюк замест пяці вулляў, як быццам бы дазволеных па законе, трымае іх на трыццаць два больш? Каму вочы ён муліў сваімі пчоламі? Ды і наогул, існуе такі закон ці пісака ўзяў яго са столі? Хаця не — з райвыканкама ж таксама нешта казалі пра пяць вулляў. Добра яшчэ, што папрасілі прыехаць без іх… А то было б!

Сірацюк у гэтым абласным горадзе аказаўся пасля заканчэння інстытута ў сталіцы, працаваў на «Гомсельмашы» інжынерам. А калі захварэў і дактары параілі знайсці больш спакойны занятак, то уладкаваўся ў заводскім сана-



***Васіль Ткачоў нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Служыў ваенным карэспандэнтам у Туркменіі, працаваў стылістам і спецкарэспандэнтам, быў старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення СП БССР. Аўтар шматлікіх кніг прозы.***

торыі слесарам. Там, на прыродзе, успомніў пра бацьку-пчаляра, якому яшчэ хлапчуком дапамагаў майстраваць вуллі і даглядаць пчол. Бацька на той час быў яшчэ жывы, і Сірацюк паехаў да яго на Міншчыну не проста даведацца, што ён рабіў даволі часта, а каб пагаварыць наконт пчол: маўляў, з'явілася жаданне і магчымасць (пабудаваў нарэшце на дачным участку дамок!) заняцца сур'ёзна пчалярствам. Бацька, вядома ж, ухваліў сынава жаданне, паабяцаў па першым часе памагчы: даць некалькі вулляў з роем, ну, а там, сын, ты і сам пойдзеш, рукі ў цябе залатыя, наробіш вулляў. Ён і нарабіў. Хоць і няпроста было: сям'я ж, ёй увага патрэбна, ды і за працу ў санаторыі трымаўся. Як без працы? Разважаў: выйду на пенсію і займуся тады пчоламі грунтоўна. Але пакуль тая пенсія, ён неяк нечакана і для сябе самога, і для іншых заставіў вуллямі ўсё, што толькі было можна. Але іх ніхто не бачыў. Яны былі пад дахам. Пчолы лётаюць, мёд прадае ўсім жадаючым значна танней, чым на базары, і ўсе быццам задаволены: дзякуй за мёд, Сірацюк! Нават з горада заказы паступаюць.

І вось гэты выклік у райвыканкам, кабінет ён не запомніў, там падкажуць.

А дождж не перастае…

— Паеду! — вырашае нарэшце Сірацюк і наўмысна гаворыць гучна — каб і пчолы пачулі яго. — Паеду!.. А вы тут пабудзьце без мяне. Я ім так і заяўлю, у райвыканкаме: а каму кепска ад таго, што ў мяне пчол багата? У нас тут тры тысячы дачных участкаў, а пчолы толькі ў мяне. Ну і што, што звыш нормы? Старшыня ж мясцовага калгаса пахваліў мяне і словы падзякі сказаў: «Каб не вы, Сцяпан Мікалаевіч, то мы і не ведалі б, што рабіць. Раней пчол шмат было, мы і гора не зналі, а цяпер людзі лянуюцца іх трымаць… А як жа без пчол нам, хлебаробам, абыходзіцца? Гэта ж толькі дзякуючы ім у нас ураджаі грэчкі, яблык, ягад… ды ўсяго ёсць. А каб яны не апылялі тую ж грэчку? Елі б мы кашу, пачакайце!»

Сірацюк пачаў апранацца. Ён канчаткова асмялеў, і яго ўжо не палохаў дождж.

«І яшчэ скажу там, у райвыканкаме, — мужчына павярнуўся тварам да пчол, — што пералічыў значную частку выручаных за мёд грошай у дзіцячы дом. Даведкі, праўда, на руках не маю, бо не хапіла вачэй патрабаваць яе, даведку. Гэта б было, як у газеце чытаў: вось вам, сябры мае, грошы, а вы потым назавіце дзіцячы дом маім імем… Але што было, тое не адымеш: дапамагаў і яшчэ дапамагу. А таксама школу рамантаваў, у якой унукі вучацца. Гэтага мала хіба? — Ён вытрымаў паўзу, падышоў да люстэрка: — Тады дадам, калі ім гэтага мала: а што, скажыце, ці не вашая заслуга, пчолы, што не п'ю і не палю? Лепшага нарколага, чым пчолы, відаць, не існуе… І, можа, мяне не штрафаваць трэба, а хваліць, уганароўваць, што разам ратуем сады і пасевы, га? Ну, паехаў я… А што там скажуць — скажу і вам… Спадзяюся, вярнуся жывы і здаровы… Хаця і дадуць, адчуваю, прачуханку… Як панесці дадуць… Калі не суцяшаць сябе, а прызнацца шчыра, то віна ёсць… Але ж хто думаў, што можна, што не, калі браўся? Магчыма, тады яшчэ і законаў такіх не было?..»

Па дарозе да аўтобуснага прыпынку Сірацюк успомніў пра пчалінае джала. «Цікава, — разважаў ён, — пчала, уджаліўшы чалавека, гіне, а чалавек, уджаліўшы чалавека, жыве і радуецца-пацяшаецца… на сёмым небе ад шчасця… Вось і цяпер, мусіць, глядзіць ён у акно, седзячы ў сухім і чыстым пакойчыку, бачыць на вуліцы мяне, дурня старога, якому больш, чым іншым, трэба, і ажно падскоквае ад задавальнення: "Пчаляра нарэшце на дыван выклікалі! Так яму і трэба! Не будзе грошы грэбці лапатай! Наша ўзяла!.."»

Аўтобуса яшчэ доўга не было.

Не было і «картузіка» на прыпынку, дзе б можна было схавацца ад дажджу…

Затое добра было пад шчыльным дахам пчолам Сірацюка. Ад гэтага — і яму самому.

# САД

Амаль дваццаць год таму гэта быў ягоны сад. Адна груша, бэра, астатнія дрэвы — яблыні: цітаўка, аніс, ранет, штрыфель, белы наліў… І, канешне ж, антонаўка. Без гэтай яблыні быццам бы і сад не сад. Прыкметна пастарэлі ўсе дрэвы, але жывуць. Ну, а пра тое, што былі некалі ў садзе Барыса Іванавіча слівы і вішні, сёння наогул нічога не нагадвае: іх вытралявалі адразу ж, як знеслі дом. Палічылі іх, пэўна, не надта сур'ёзнымі, не інакш — смеццем, яны толькі псуюць агульны выгляд. Ды і догляду патрабуюць. А так дрэвы можна падрэзаць раз на год, траву паміж імі скасіць — і парадак… далёка відаць… Сад-сквер, адным словам, зрабілі камунальнікі. Ну і на здароўе. Атулены ён з аднаго боку карпусамі завода, з усіх астатніх — шматпавярховымі дамамі. І яшчэ — дарогамі.

Сад Барыса Іванавіча зліўся з садамі былых суседзяў, і атрымаўся адзін — вялікі, гектары на тры. Аднак межы свайго ён адразу ж вызначае, і калі прыходзіць сюды, падоўгу стаіць перад дрэвамі. Вунь там, дзе цяпер сцежка, што вядзе да міні-базарчыка, некалі стаяў дом. Моцны дом, цагляны, пад шыферам. У ім мелася пяць пакояў, і жылі тады пад адным дахам два сыны і дачка з сем'ямі, ён, Барыс Іванавіч з жонкай, і не было цесна. А потым, як дом пайшоў пад знос, усе атрымалі асобнае жыллё. І, што цікава, параспадаліся сем'і, нявесткі і зяць пачалі разводзіцца-дзяліцца, і стары зразумеў, чаму так адбылося. Усіх разам трымаў дом. Была маленькая камуна, дзе існавалі свае законы, быў адзін — ён — гаспадар, і кепска-добра было маладым сем'ям, аднак жылі яны па няпісаным законе пра адзінства, вернасць, далучанасць да ўсяго, што адбываецца тут, у гэтых сценах. Другі ж бок медаля, разважаў Барыс Іванавіч, хаваецца ў тым, што дзеўкі ягоным сынам трапіліся з вёсак і ім, мабыць, важна было знайсці ў горадзе не каханага чалавека, а — прапіску. Каб зачапіцца за горад. Таму і маскіраваліся да пары да часу.

Дзіўна сёння Барысу Іванавічу: там, дзе знаходзілася прыбіральня, цяпер вунь расклалі катухі бамжы. Касматыя і мурзатыя людзі корпаюцца ў сваіх рэчах, пра нешта гамоняць, а потым разбрыдаюцца хто куды, толькі адзін з іх застаецца пад яблыняй — вартаваць пажыткі. Таксама маленькая камуна. Пройдзе мо з гадзіну, і гэтыя людзі, не зважаючы на мінакоў, будуць піць віно і закусваць ягонымі яблыкамі, а потым лягуць — упокат — адпачываць. Да іх прывыклі. Да іх няма нікому клопату. Бамжы — што з іх возьмеш?

Барыс Іванавіч сёння зводдалі назірае за гэтымі занядбалымі людзьмі, а ўчора падыходзіў да іх бліжэй, і калі адзін зняў з нагі чаравік і пачаў збіваць ім яблыкі, стары не вытрымаў, заступіўся за дрэва:

— Што ж ты робіш, дзядуля?! — назваў таго ўмысна так, бо на самай справе гэта быў параўнальна малады чалавек, толькі брудны і даўно няголены.

Бомж нічога не адказаў, але і не перастаў збіваць яблыкі, якія зрэдчас разам з голлем ляцелі на дол.

— Ты што, глухі? — нагадаў пра сябе стары.

— А вам што, шкада яблыкаў? — барадаты павярнуўся да Барыса Іванавіча і папытаў на дзіва ветліва. — Іх вунь колькі на дрэве! Калаці і ты, калі не лянуешся, дзед. Усім хопіць. Ці ў цябе няма чаравікаў? То магу даць. У мяне ў торбе запасныя ёсць: сёння нехта выкінуў на сметнік. Падабраў. Пашыраю свой гардэроб. Кідай, стары. Глядзі, як гэта робіцца! — чаравік зноў паляцеў на галлё. — Нам жа нешта есці трэба. А ты як думаў! Дзякуй таму чалавеку, які вырасціў гэты сад!..

— Яны ж зусім зялёныя! Дайце хоць саспець пладам, нехрысці!

— Нам добрыя будуць. А спелых я тут ніколі і не бачыў, — барадаты нагроб у сумку яблыкаў, якую прыткнуў тут жа да дрэва, і сеў побач, затым выцер адзін плод аб зашмальцаваныя штаны і пачаў грызці.

Барыс Іванавіч хацеў сказаць, што ён бачыў тут спелыя яблыкі, і такія смачныя, што іншым і не прысніцца, але змоўчаў. Сам жа падумаў: «Дадуць, чакай, саспець яны яблыкам… Зялёныя патрушчаць… Што людзі, што чэрві…»

Забыўшыся на бамжоў, Барыс Іванавіч звярнуў увагу на мужчыну з мехам. Той прыехаў у сад на веласіпедзе і з доўгай жэрдкай, на канцы якой меўся драцяны кручок. Ён тут жа пачаў трэсці галлё, і яблыкі пасыпаліся на зямлю, як град. Мужчына яму здаўся знаёмым. Ці мо памыляецца?

— Ого! — заўважыў знаходлівага яблыказдымальніка і бомж. — Рацыяналізатар! Ды з мехам, гляньце! Няўжо пачалі ўжо прымаць яблыкі? Ён жа нас пазбавіць заробку!.. Па свеце пусціць!.. Без штаноў пакіне!.. Такі шустры, гляньце вы на яго!.. Трэба прымаць меры!.. Неадкладныя!.. Палундра-а-а!..

Бомж усхапіўся з зямлі і кінуўся, забыўшыся на свае пажыткі, да мужчыны з жэрдкай, і Барыс Іванавіч бачыў, як ён махаў рукамі, нешта даказваў. А потым яны пачалі штурхацца, нарэшце счапіліся, а калі бомж паляцеў на вытаптаны пад яблыняй дол, мужчына зноў пачаў шкуматаць яблыні. Бомж не меў намеру здавацца, ён заклаў у рот два пальцы, працяжна і гучна свіснуў, і неўзабаве прыбыла падмога — два такія ж, як ён, нязголеныя і брудныя хлопцы-дзядзькі. У выніку мех быў адабраны, трафеем бяздомнікаў стала і жэрдка.

Барыс Іванавіч падышоў на колькі крокаў бліжэй, і цяпер ён мог пачуць, як мужчына, сядаючы на веласіпед, паабяцаў выкурыць усіх бамжоў з гэтага саду.

— Пачакай, Герасімавіч! — нечакана для самога мужчыны і яшчэ больш, напэўна ж, для бамжоў, Барыс Іванавіч загадаў таму не спяшацца ехаць. — Затрымайся! Ты што, мяне не пазнаеш, га, сусед? Ай-я-яй!.. Нядобра як!..

Герасімавіч паслухаўся, аднак задаволенасці на ягоным твары Барыс Іванавіч не ўбачыў: відаць, не рады гэтай сустрэчы, трэба так разумець. Сапраўды, глянуўшы на былога суседа, Герасімавіч буркліва спытаў:

— Ну, а табе што?..

Барыс Іванавіч добра ведаў гэтага чалавека. Герасімавіч быў крыху маладзейшы за яго, рабіў на чыгунцы, і з таго часу, як знеслі іхнія дамы, яны мала бачыліся. І тое — мелькам. Герасімавіч сам не жадаў кантактаваць, хіба ж гэта не відаць было, і пры кожный сустрэчы ці тое адводзіў галаву ўбок, ці проста рабіў выгляд, што ідзе і не заўважае яго. Іншы раз Барысу Іванавічу карцела распытаць, як жыве, чым займаецца на пенсіі, кім сталі і як жывуць ягоныя тры дачкі, аднак, ведаючы нелюдзімы характара Герасімавіча, не асмельваўся першым распачынаць гаворку.

І вось цяпер, гледзячы яму, Герасімавічу, у вочы, ён прыгадаў, як дваццаць год таму, калі пачалі разбураць дом, той пусціў у ход бензапілу «Дружба» — і неўзабаве ўсе пладовыя дрэвы былі павалены, а Герасімавіч, задаволены, глянуў тады на яго і зарагатаў:

— А ты што думаў, Барыс Іванавіч, я абы-каму свой сад пакіну? Расціў, песціў, і кату пад хвост? Не-е!.. Мне чужое не трэба і сваё не аддам. Так што падумай, сусед. Падумай. Калі хочаш — дам пілу. Ну, дык што? Даць пілу? Глядзі, як хочаш… Твая справа. Толькі я ўявіць не магу, што ўсе, каму не ўздумаецца, будуць маім садам карыстацца. А ты — як хочаш!..

Іх позіркі зноў сустрэліся.

— Хлопцы, — паглядзеў Барыс Іванавіч на бамжоў, — вярніце гэтаму чалавеку мех і жэрдку. Няхай набярэ яблыкаў. Хоць і няспелых — зялёных… Толькі навошта яны табе, Герасімавіч?

— Ды пайшоў ты! — памуліўся, як укушаны, Герасімавіч, аднак мех і жэрдку ўзяў і, нічога больш не сказаўшы, пакаціў перад сабой веласіпед…

Бамжы заняліся сваімі справамі, а Барыс Іванавіч усё яшчэ стаяў на адным і тым жа месцы і ламаў галаў: навошта яму, Герасімавічу, спатрэбіліся зялёныя яблыкі? Няўжо ён шкадуе для людзей і чужыя, як пашкадаваў некалі свае? Ён што — проста іх знішчае, каб нікому не дасталіся?

Гэтага зразумець Барыс Іванавіч не мог.

## ЗІМЫ НЕ БУДЗЕ

Шыза-чырвоны, з залацістымі пярэсцінамі певень ужо таптаўся на шышкаватых нагах перад ганкам. Было рана, толькі ў тым баку, дзе заўсёды ўлетку ці ўвесну павольна-нетаропка выпаўзае з-за лесу — і тое, вядома, у пагодлівы дзень — кругля-чок сонца, крыху пашарэла неба, аднак на снежным покрыве ляжала густой коўдрай усё яшчэ цемра. Толькі-толькі бралася на дзень, а яму не спіцца. Ведама ж — певень. Хоць таму і няма каго, здавалася б, будзіць, аднак, сваю справу, блазнюк, ведае: пра-кукарэкаў і на гэты раз галасіста, задорна: уставай, маўляў, гаспадар, пакольні курэй звёў, паміраю ад суму-скрухі, то і табе няма чаго спаць. Выходзь, пагамонім. Удвух весялей будзе. Чуеш, гаспадар?

Сцяпан Ануфрыевіч вынес нецярпліваму гарлапану снеданне — добрую жменю пшаніцы ў круглым слоіку з-пад селядцоў, паставіў перад пеўнем, аднак той не спя-шаўся дзяўбці, а нібы стараўся зазірнуць гаспадару ў вочы: нахіляў галаву набок і так, і гэтак, а потым цёрся каля нагі, адыходзіў і лэпаў крыламі, задаволены: ага, так і дам я табе спаць.

— Еш, еш, Пеця, — лагодна казаў Сцяпан Ануфрыевіч. — Ну, што ж паро-біш, калі лёс у нас такі, амаль аднолькавы? Трымайся, братка. Мы ж мужчыны. Перазімуем, а там вясна будзе, я табе курак маладых з горада прывязу. Ажывеш каля іх. Мала засталося чакаць. Еш, еш. Не глядзі на мяне так сярдзіта. Я ўчора ў краме, між іншым, каўбаскі купіў. Табе проса. Усё цяпер у краме, дзякаваць Богу, ёсць. Пайду таксама паснедаю…

Паснедаць жа Сцяпану Ануфрыевічу, як меркаваў, не ўдалося. Толькі ён пера-ступіў парог хаты, як мілагучна заспяваў «Паланэз Агінскага» мабільнік. «Хто б там мог быць?» Турбаваў сын Ануфрый. «І чаго ён у такую рань? Мо здарылася што?» Сцяпан Ануфрыевіч не без хвалявання паднёс да вуха тэлефон. Павіталіся. «Ты дзе, сынку?» — «Амаль дома я, баця. Тры кіламетры якіх не даехаў да цябе. Слізка, машыну занесла, і я ўляцеў у кювет. Але ты не хвалюйся, усё добра. І са мной, і з машынай. Снег свежы, мяккі. Толькі выбрацца сам не магу… Сеў моцна. Схадзі, баця, папрасі Віцю Бародкіна, хай цягане сваім “Беларусам”. Адным словам, ты мяне зразумеў. Чакаю». — «А чаго ты надумаўся так рана, ды ў такое надвор’е? Снегу ж намяло — свету белага не бачна. Неслух ты, Ануфрый!» — «Чаго-чаго? Ды за табой жа еду».

Сцяпан Ануфрыевіч адарваў мабільнік ад вуха, прабурчэў сам сабе: «За мной ён едзе. Ну, і што ты яму, сыну, скажаш? Даў жа ад варот паварот, а ён, бачце, ўсё роўна сваю лінію гне. Баіцца, што замерзну я тут адзін… Я ж і кажу: неслух…»

Віця Бародкін і яго Ануфрый былі равеснікамі і сябрамі, Сцяпан Ануфрыевіч вучыў іх з першага па чацвёрты. Калі ішоў да трактарыста з просьбай, успомніў, як Віцька ў другім ці трэцім класе падняў руку на ўроку, каб папрасіцца па патрэбе ў прыбіральню, а ён, настаўнік, падумаў, што той хоча адказваць і выклікаў яго да

дошкі: «Ну, давай, пакажы нам, Віця, як трэба рашаць прыклад…» Хлопчык не стаў пярэчыць, патупаў да дошкі, ну, а потым адбылося тое, што адбылося: ён, небарака, часта затупаў нагамі, а тады напяўся і скрывіўся ўвесь ад сораму перад аднакласнікамі і ад сваёй часовай безабароннасці, а на падлогу пацёк ручаёк з ягонага сандаліка… І смешна сёння ўспамінаць пра гэта, і грэшна… Але што добра: вучні потым неяк адразу забыліся пра гэты недарэчны выпадак, не тыцкалі пальцам у аднакласніка, а зрабілі выгляд, што наогул быццам нічога і не адбылося. Так, дробязі, звычайная недарэчнасць. З кім не бывае. «Малайцы, дзеці», — падумаў тады пра іх Сцяпан Ануфрыевіч.

Па-рознаму склаліся жыццёвыя дарогі ў Ануфрыя і Віктара. Кожны з іх абраў прафесію свайго бацькі: Ануфрый скончыў універсітэт, жыве ў абласным цэнтры, выкладае беларускую літаратуру ў гімназіі, а Віцька стаў трактарыстам. Пакорлівы, негаваркі, ён бы паспяшаўся на дапамогу кожнаму чалавеку, які трапіў ў такую сітуацыю, у якой аказаўся сын настаўніка-пенсіянера, а тут — Ануфрый!.. І таму Віктар, вызірнуўшы на грук у шыбу і пазнаўшы ў святле, што падала з хаты на падворак, Сцяпана Ануфрыевіча, паспешліва выйшаў на ганак. Выслухаўшы яго, Віцька заўсміхаўся, пажартаваў:

— А я думаю, чаго гэта нос у мяне свярбіць? Чуе, халера, — ён патаптаўся на месцы, прапанаваў ранняму госцю ўвайсці ў хату, бо холадна, а калі той адмовіўся, то заявіў: — Задачу, адным словам, зразумеў. Будзем думаць, як яе выканаць. Як ведаў: учора ўсю саляру зліў у бак, каб раніцай кашай не зрабілася, таму праблем не бачу. Сябрука трэба ратаваць. Хоць, магчыма, і па шапцы атрымаю… Але шапак можа быць многа, Ануфрый — адзін. Трэба і мне, дарэчы, яго нумар у свой мабільнік занесці. Але гэта — потым. Бягу на двор і еду!

Сцяпан Ануфрыевіч не бачыў, а чуў, як пакаціўся «Беларус» ад Віцькавай хаты ў бок Дружбы, за якой і чакае выратавання са снежнага палону сын, а ён сядзеў на зэдліку і абіраў бульбу. Трэба рыхтаваць снеданне. Хлопцы ж прыедуць. Добра, што каўбасы сыравяленай купіў ўчора. Ёсць сала, агуркі, памідоры, капуста. Бляшанка селядцоў таксама. Ну, а што яшчэ трэба ім, мужчынам? Маецца і паўлітра, але ж яны за рулём, а самому і так добра. Ён уявіў, як Ануфрый і Віктар будуць разам умінаць за сталом прыгатаваныя ім стравы, і на вачах з'явіліся здрадніцкія слёзы. Яны, хлопцы, і раней, было, любілі разам паесці. Толькі тады гатавала ім жонка-маці, яна была майстрыхай па кухоннай справе. Паставіць на стол стравы, а сама сядзе насупраць, шчаку падапрэ рукой і любуецца хлопцамі: бач, ажно насы ўпрысядкі ходзяць! Здаровымі растуць, значыць, калі такі апетыт. То і добра. Жонкі няма ўжо амаль пяць гадоў, пастарэў, прыкметна здаў і Сцяпан Ануфрыевіч. Гады ж — амаль восемдзясят пяць, ад іх не ўцячэш, не схаваешся. Хварэе, анягож. Гэты мабільны Ануфрый і набыў яму, прывёз і заявіў, блазнуючы: «Буду трымаць цябе, бацька, на прыцэле. Цяпер ты ад мяне не схаваешся». Кантралюе, адным словам, Сцяпана Ануфрыевіча сын. Стары спачатку ўпарціўся, думаў, што тэлефончык будзе патрабаваць шмат грошай, навошта ён яму, а тады адчуў, наколькі той зручны і неабходны. То дачка патурбуе, пацікавіцца, як здароўе, яна мінчанка, то самы старэйшы сын Мікола; той звоніць радзей, бо жыве ў Маскве. Але — звоніць. Ануфрый жа, сярэдні, бліжэй за ўсіх, таму ён, вядома ж, часцей гасцюе ў роднай хаце.

І вось — едзе забіраць яго ў горад. Сцяпан Ануфрыевіч адразу ж успомніў пра пеўня. А яго куды падзець? Суседцы хіба што аддаць, каб да вясны патрымала? Яна пагодзіцца, бо жанчына добрая. А калі вернецца з горада з куранятамі, а ён вернецца абавязкова, тады і забярэ назад, каб певень вадзіў свой курыны карагод. Войска без камандзіра не бывае.

Пакуль Сцяпан Ануфрыевіч чакаў сына, пра многае перадумаў. Аднак так і не рашыў цвёрда, ехаць яму ў той горад ці не. Там жа, разважаў ён, зімы не будзе. І як гэта ён раней не падумаў пра гэта?! Ну і сапраўды ж яно так. У кватэры заўсёды — круглыя суткі — цёпла, Ануфрый з жонкай і дачкой жыве на сёмым паверсе, то і снегу нават у акно не ўбачыш, не кажучы ўжо пра што іншае. Так і праседзіш у цяпле — як у Афрыцы той. Ды і ад суму памрэш. З аднаго боку добра, што сын і нявестка праяўляюць клопат пра яго, а з іншага — дык і сапраўды ж… выкрасліш зіму з жыцця. Тут жа ранкам трэба і сцежку пачысціць ад снегу, і глядзець, каб дах не праваліўся пад яго цяжарам, і ў сад пайсці пацікавіцца, як там дрэвы маюцца. Цяпер зайцы ажывіліся, галодныя, то маладзейшыя дрэвы могуць і пагрызці, хоць і абвязаў яловымі лапкамі. А наваліць снегу, як у ранейшыя гады, то белякам будзе дзе раскашаваць: дастануць, і рабіць няма чаго, крону. Скокнуць на сумёт — і ласуйся салодзенькімі галінкамі. А раптам у суседскага хлопчыка Міхаські канёк затупіцца? Хто яму навострыць яго? Бабка Насця хіба? Бацька хлопчыка недзе сабакам сена косіць, а маці спілася, тыднямі дома не бывае.

Певень па-ранейшаму тупаў па двары, усцяж расквеціў сваімі лапамі свежы сняжок. Ён, падобна на тое, таксама нешта адчуваў нядобрае, таму прывязаўся да гаспадара: куды той, туды і ён. Толькі ў хату не ішоў, разумеў, туды яму нельга, хоць, калі былі сёлета моцныя маразы, і начаваў колькі разоў ён у пярэднім пакоі, дзе гаспадар паставіў для яго кош, аднак певень аблюбаваў сабе тады месца на спінцы крэсла. Цяпер жа, калі маразы спалі, троху адляглі, ён ведаў, дзе ягонае месца. Разумны ўсё ж ён, певень. Таму і бярог яго Сцяпан Ануфрыевіч.

Калі на мосце паказаўся нарэшце сынаў легкавік, сэрца ў Сцяпана Ануфрыевіча затахкала часцей гатова было, здавалася, вырвацца з грудзей. І каб крыху супакоіць сябе, ён узяў на рукі пеўня, пагладзіў таго шыза-чырвоны грэбень і сказаў даволі гучна і бадзёра:

— А мы так і скажам яму, Ануфрыю: нікуды мы не паедзем, бо там, у горадзе, зімы не будзе… Так і скажам яму… Сын у мяне разумны… Ён усё ж павінен нас зразумець… Нам добра там, дзе ёсць зіма… Асабліва такая, як сёлета: марозная і снежная… Даўно такой зімы не было ў нас… Ну што ж — пайшлі сустракаць Ануфрыя… Да веснічак пайшлі… Так і скажам яму… З табой, Пеця, і мне не так страшна… Верыш? Усё ж удвух… Паставім, паставім Ануфрыя перад фактам: давай, скажам, нам зіму, тады паедзем. А дзе ён возьме яе ў тым горадзе? Пэк-мэк, і — рукі ўгору, і здаўся!.. Бо зіма тут, дзе мы жывём… А ў горадзе зімы не будзе… Не-а…

*Мікола ЧАРНЯЎСКІ*

# «МАЛАДОСЦЬ — ЯК ПОЎНЯ ЗОРНАЙ НОЧЫ...»

*Трыялеты*



***Мікола Чарняўскі нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка». Аўтар шматлікіх паэтычных кніг для дзяцей і дзвюх кніг прозы. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і Васіля Віткі.***

***У вянок Анатолю ГРАЧАНІКАВУ***

**I**

Любіў на ганку пасядзець паэт.
Пад скрып драчоў у ціхі адвячорак
Цыгарку прыпаліць ад першых зорак...
Любіў на ганку пасядзець паэт.

Пагляд сутоніўся, як летні морак,
Нібы ўдыхнуць хацеў увесь сусвет.
Любіў на ганку пасядзець паэт.
Пад скрып драчоў у ціхі адвячорак.

**II**

Спакой на лецішчы — нібыта рай зямны.
Ці можна ў той, што там, вышэй, паверыць?
Няхай усё часцей блазнуе шэрасць,
Спакой на лецішчы — нібыта рай зямны.

Лёс, расчыніўшы ў свет аднойчы дзверы,
Ці кіне раптам яго ў змрок труны?..
Спакой на лецішчы — нібыта рай зямны,
Ці можна ў той, што там, вышэй, паверыць?

**III**

Разрося клён — як манумент паэту,
На пастаменце вечным, на зямлі.
Яго з глыбінь журбы сябры ўзвялі.
Разросся клён — як манумент паэту.

Паэт, хто ў высях гронкі слоў спяліў,
Ці думаў — там дакурыць цыгарэту?..
Разросся клён — як манумент паэту,
На пастаменце вечным, на зямлі.

* * *

Любіць цяжэй ці ненавідзець?
А можа, ўсё — наадварот?
Любоў чарсцвее ад згрызот.
Любіць цяжэй ці ненавідзець?

Нянавісць, каб куснуць, каб выцяць,
Душу капае, як той крот.
Любіць цяжэй ці ненавідзець?
А можа, ўсё — наадварот?

* * *

Дожджык адбівае тэлеграмы —
На зямлі нябёсаў сувязны.
На зялёнай насцежы вясны
Дожджык адбівае тэлеграмы.

Ад былінкі кожнай да сасны —
Ловяць гукі, што вясной найграны.
Дожджык адбівае тэлеграмы —
На зямлі нябёсаў сувязны.

* * *

Яблыні цвітуць — у пчол вяселлі.
У духмяным вэлюме сады.
Май вяснуе, як той малады.
Яблыні цвітуць — у пчол вяселлі.

Зімнія забыўшы халады,
Пчолы голле, як сталы, абселі.
Яблыні цвітуць — у пчол вяселлі,
У духмяным вэлюме сады.

* * *

Я хацеў цябе, як сон, забыць,
Толькі сэрца гэтага не хоча
І па рэйках памяці грукоча.
Я хацеў цябе, як сон, забыць.

Маладосць — як поўня зорнай ночы,
Што і ў змроку золатам зіхціць.
Я хацеў цябе, як сон, забыць,
Толькі сэрца гэтага не хоча.

* * *

Не бойцеся з мінулым расставацца:
З мінулым жыць — сумнення крыж насіць.
Хіба не лепш — былы боль пагасіць?
Не бойцеся з мінулым расставацца.

Як годна жыў — не трэба азірацца,
Як і сабе, сябрам сваім хлусіць.
Не бойцеся з мінулым расставацца:
З мінулым жыць — сумнення крыж насіць.

* * *

Ты гэтак не трасі, гадоў павозка,
Ты ж не па бруку едзеш — па жыцці.
Хоць знаю, дзе пад’ехаць, дзе сысці,
Ты гэтак не трасі, гадоў павозка.

Твой кожны ўстрэс — у сэрцы адгалоскам,
Ды як раўнейшы шлях ужо знайсці?
Ты гэтак не трасі, гадоў павозка,
Ты ж не па бруку едзеш — па жыцці.

* * *

***Прыйшоў Пятрок — сарваў лісток.***
***Да Пятра зязюльцы кукаваць.***

З народнага

Кукуе зязюля чамусь да Пятра,
Як жоўты лісток, яе спеў абрываецца.
І нейкай нязвыклай становіцца раніца.
Кукуе зязюля чамусь да Пятра.

Мо клопатна ёй, мо да дзетак збіраецца —
Па гнёздах чужых іх праведаць пара?..
Кукуе зязюля чамусь да Пятра,
Як з дрэва лісток, яе спеў абрываецца.

* * *

Ці помніш ты, здзічэлы бацькаў сад,
Як гушкаў зоры на галлі-арэлях?
Як патанаў у салаўіных трэлях,
Ці помніш ты, здзічэлы бацькаў сад?

І я, і ты свой лістабой сустрэлі,
Збіраем, як плады, гадоў апад.
Ці помніш ты, здзічэлы бацькаў сад,
Як гушкаў зоры на галлі-арэлях?

* * *

Рассыпаць каралі не спяшаецца
Арабінка на з'інелы дол.
Хоць ёй золка ад вятроў-назол,
Рассыпаць каралі не збіраецца.

Спадзяецца: свята дачакаецца —
Снегіры зляцяцца, як за стол.
Рассыпаць каралі не спяшаецца
Арабінка на з'інелы дол.

* * *

Вянок — надзейны абярэг.
Але ці ўсім вянок пасуе?
Ці звяне ўміг, ці закрасуе?
Вянок — надзейны абярэг.

Ёсць хараство ў душы, ёсць грэх.
Чаго з іх больш у ёй нясу я?
Вянок — надзейны абярэг,
Але ці ўсім вянок пасуе?

* * *

***Маладосць — недахоп,***
***якi хутка праходзiць.***
І. В. ГЁТЭ

Маладосць — недахоп,
Які хутка праходзіць,
Ды чаму ўсе шкадуем,
што нельга вярнуць?
Хоць, згадаўшы яе, як тады, не заснуць,
Маладосць — недахоп,
Які хутка праходзіць.

Каб узняцца вышэй, каб далёка сягнуць,
Не згубіць бы таго,
Што з гадамі прыходзіць.
Маладосць — недахоп,
Які хутка праходзіць,
Ды чаму ўсе шкадуем,
што нельга вярнуць?

* * *

Зязюль куванне — тая ж варажба.
Хоць і не верыш — хочацца паверыць,
На пальцах лёсу спадзяванні зверыць.
Зязюль куванне — тая ж варажба.

Чаму ж душа да іх імкне, да шэрых,
Калі яе ў палон бярэ журба?
Зязюль куванне — тая ж варажба.
Хоць і не верыш — хочацца паверыць.

* * *

Чым болей грошай у цябе,
Тым больш сяброў?
Аднак нішто не лучыць з імі,
Толькі грошы.
І думай сам:
Хто лепшы з іх, хто горшы.
Чым болей грошай у цябе,
Тым больш сяброў?

А крызіс, калі ён,
Што меў, уміг спустошыць,
Хто з іх суцешыць, падтрымаць гатоў?
Чым болей грошай у цябе,
Тым больш сяброў?
Аднак нішто не лучыць з імі,
Толькі грошы.

Серж МІНСКЕВІЧ

# УСМЕШКА ЖАЛОБНАЙ КАРАЛЕВЫ, АЛЬБО ТАЙНА МАГНІТНАГА ЗАМКА

*Аповесць легендарных часоў*



***Серж Мінскевіч нарадзіўся 12 лютага 1969 года ў Мінску. Скончыў філфак БДУ. Працаваў карэспандэнтам у газеце «Культура», рэдактарам аддзела мастацкага перакладу ў часопісе «Першацвет». Цяпер працуе ў НАН Беларусі ў Цэнтры даследавання беларускай культуры, мовы і літаратуры. Выдаў кнігі паэзіі і прозы «Праз Галерэю», «Сад замкнёных гор» і іншыя.***

## I

## ПАКІНЬЦЕ СВОЙ СМУТАК!

Гэтыя незвычайныя падзеі адбываліся, калі па белым свеце вандраваў мастак Дроздзіч.

Хадзіў ён у ботах з чырвонага саф'яну, жоўтых атласных шараварах і скураным паўкафтане з узнятым каўняром. У любое надвор'е яго сівыя валасы прыкрываў зялёны ў кавуновыя паскі берэт, з сярэдзіны якога вытыркаўся кароткі закручаны хвосцік. На плячы ў вандроўнага мастака вісела скураная торба, а пры хадзе ён абапіраўся на парасон-кіёчак, зроблены з кораня чорнага дрэва і празрыстага ядвабу. Калі мастак Дроздзіч стамляўся, ён раскрываў парасон і сядаў пад ім на ўзбочыне. Ядваб парасона быў такім тонкім, амаль паветраным, што Дроздзіч праз яго мог добра бачыць усё, што робіцца вакол. І, акрамя таго, гэты празрысты ядваб, нібы вялікае павелічальнае шкло, набліжаў далёкія прадметы. Мастак Дроздзіч глядзеў скрозь свой павелічальны парасон і бачыў, як там, наперадзе, на яго шляху, людзям жывецца. І калі ён бачыў, што жывецца ім дрэнна, што ў іх бяда-гора, уставаў ды ішоў да іх паспешлівым крокам.

У скураной торбе мастак Дроздзіч трымаў раскладны мальберт, палітру, збанкі з фарбамі, палатно з таго ж празрыстага ядвабу, што і парасон, пэндзлі з тонкімі, як варсінкі вусеняў, валаскамі. А таксама ў яго торбе быў вялікі пузаты слоік. Туды ён клаў скручаную трубачкай свежую карціну. Спачатку ён заўсёды пісаў на палатне з празрыстага ядвабу і заўсёды адно і тое ж. Ён пісаў *усмуткі* людзей. *Усмешка* — гэта ад смеху, тое, што з'яўляецца *ў смеху*, калі куткі вуснаў уверх, а *ўсмутка* — тое, што з'яўляецца ў нас *у смутку*, калі куткі вуснаў уніз. Мастак Дроздзіч напіша на ядвабе партрэт чалавека ў смутку, яго жальжаласныя вочы, яго вусны, як перакуленую лодачку, і пакажа таму чалавеку, а той, гледзячы на сябе, такога шкадобнага недарэку, міжволі ўсміхнецца. Вось тады — хоп! — скруціць мастак Дроздзіч гэты партрэт

з усмуткай, у слоік пакладзе і накрыўкай закрые. І чалавек, партрэт якога напісаў мастак Дроздзіч, больш не будзе такім маркотным і сумным.

А ў пузатым слоіку тым часам чараўніцтва адбываецца: партрэт засмучонага чалавека знікае — ядвабнае палатно зноў празрыстым робіцца, а намаляваныя вусны, з апушчанымі долу куткамі, ператвараюцца ў чорнага вусеня.

Заўважыць мастак іншага маркотнага альбо чымсьці засмучанага чалавека, — каваля, рамесніка, купца, малочніцу ці маладзіцу са слязьмі на вачах, тады акуратна страсе вусеня-ўсмутка з ядвабнага палатна ў слоік, каб той зваліўся на самае дно, і дастае ўжо чыстае, празрыстае ядвабнае палатно. Уздыхне мастак Дроздзіч, абмакне пэндзлік у фарбы, уважліва паглядзіць на смуткуючага чалавека і пачынае пісаць яго партрэт. І чалавек той замест усмуткі з усмешкай застаецца.

Калі побач з мастаком Дроздзічам ужо не застанецца аніводнага засмучонага чалавека, ён прымаецца пісаць іншыя карціны — палі, лясы, хаты, нябесныя зоркі — толькі ўжо на звычайным ільняным палатне, і дорыць іх людзям. Сяляне ці гараджане альбо замчане — жыхары замкаў — у падзяку за гэта запрашаюць вандроўнага мастака да сябе дадому, частуюць яго самым лепшым з таго, што ў іх маецца, на начлег даюць самы цёплы і ўтульны пакой і наймякчэйшы ложак. Старасты вёсак, кіраўнікі гарадоў, князі і нават каралі не раз прасілі яго застацца, пажыць альбо пагасціць у іх даўжэй, але мастак Дроздзіч у адказ толькі дзякаваў, кланяўся і заўсёды паўтараў адно і тое ж:

— У гэтулькіх яшчэ землях мне пабываць трэба.

Браў мастак Дроздзіч свае незвычайныя рэчы і адпраўляўся далей.

Так і падарожнічае ён па свеце, пакуль не набярэцца поўны слоік чорных вусеняў...

Аднойчы ішоў мастак Дроздзіч белай дарогай. Доўга ішоў, змарыўся і, як звычайна, вырашыў прысесці на ўзбочыне адпачыць трошкі. Але не паспеў ён як след уладкавацца пад сваім ядвабным парасонам, як зірнуў наперад і зразумеў, што не да адпачынку яму. Падхапіўся і хутка-хутка пакрочыў далей.

Перад ім, уніз па дарозе, ляжала мястэчка. Як ні ўзіраўся мастак Дроздзіч, не мог разгледзець там ні адной жывой душы. Мястэчка выглядала цалкам пустым. «Што ж гэта такое? Куды ўсе падзеліся?» — думаў мастак. Праз свой парасон ён бачыў адчыненыя дзверы хат, раскінутыя тавары на рынкавай плошчы, перакуленыя вёдры ў лужынах пралітай вады каля студняў. Здавалася, жыхары мястэчка толькі што былі там, займаліся сваімі штодзённымі справамі, і раптам, як быццам у адно імгненне, іх не стала.

Мастак Дроздзіч ішоў таропка, задыхаўся.

Нечакана з-пад каменнага моста, перакінутага па-над ровам, які аддзяляў могілкі ад мястэчка, насустрач мастаку вышлі юнак і дзяўчына. Абодва стройкія, ладныя, з прыгожымі тварамі, вялікімі цёмна-карымі вачамі, але вельмі спалоханымі. Юнак і дзяўчына былі падобныя адно да аднаго, быццам родныя брат і сястра. Хаця, насамрэч, яны не былі нават стрыечнымі братам і сястрой.

На дзяўчыне была белая да каленяў сукенка з гафтам на каўняры і рукавах, мяккія плеценыя з палосак скуры сандалі. Вецер развіваў яе доўгія каштанавыя валасы. Юнак быў апрануты ў ільняную кашулю, падперазаную чырвоным поясам, і палатняныя штаны, запраўленыя ў невысокія боты. На галаве ў яго быў карычневы замшавы капялюш з белым пяром. З-пад капелюша відneліся цёмна-русыя, да плячэй, валасы.

— Не хадзіце ў мястэчка, добры чалавек, — сказала дзяўчына.

— Туды нельга, — папярэдзіў юнак.

— Я здалёк заўважыў, што тут нешта не тое… Але што здарылася? — спытаў мастак Дроздзіч.

— Удзень раптам святло пацямнела, і наляцелі на горад чорныя віхуры, — пачала распавядаць дзяўчына.

— Каго такая віхура закруціць, ператвараецца ў чорны цень і ляціць уверх, туды, дзе віруе чорная хмара, — працягнуў юнак.

— Нашых бацькоў, суседзяў, усіх-усіх, дзяцей і старых, тых, хто быў у дварах, і тых, хто ў хатах хаваўся, усіх закруцілі чорныя віхуры...

— Праз вокны і дзверы, праз коміны ўляталі віхуры ў хаты...

— Усіх-усіх забралі... Толькі мы з Арцінам засталіся. Вось, паспелі схавацца пад гэтым мостам. А ў мястэчку цяпер нікога няма. Пустэча, страх і жах… — казала дзяўчына.

— Нават усе жывёліны разбегліся… Глядзіце! — юнак паказаў на дарогу.

Сотні маленькіх і вялікіх слядоў жывёл і жывёлінак віднеліся на ёй. Усе сляды вялі прочкі з горада.

— Так, вялікае няшчасце прыйшло ў ваш горад, — прамовіў мастак Дроздзіч.

— Ой, прабачце… Мы зусім забылі прадставіцца. Я — будучы віцязь — Арцін, а гэта — будучая яснапанна Алеолла, — сумна сказаў юнак.

— Пакуль проста Алеолла, — дзяўчына зрабіла рэверанс, але з-за гора, якое яна адчувала, не змагла, як неабходна ў такіх выпадках, усміхнуцца, — мне яшчэ толькі належыць стаць яснапаннай. А мястэчка наша завецца Скімень.

— А я — мастак Дроздзіч, — пакланіўся вандроўнік.

— Мы пра вас чулі... — прызнаўся юнак.

— Пра вас, мабыць, усе людзі чулі, — дадала дзяўчына.

— Гэта Алеолла прыдумала схавацца пад мостам побач з могілкамі, — паведаміў Арцін.

— Правільна прыдумала, — пахваліў мастак Дроздзіч. — Я ведаю, што гэта за чорныя віхуры і чорная хмара прайшлі над вашым мястэчкам. Ад іх толькі пад такім мостам, які вядзе ад месца жыцця-радасці да месца жалю-смутку і можна схавацца.

— А што гэта за віхуры і хмары такія? — разам сумна спыталі Арцін і Алеолла.

— Ваш горад наведала Жалобная Каралева Паляндра. Вы, пэўна, чулі пра Снежную Каралеву, уладарку холаду і снегу.

— Так, — кіўнулі Арцін і Алеолла.

— Дык вось, — працягнуў мастак Дроздзіч, — Паляндра — гэта ўладарка гора і смутку. Мне даводзілася яе бачыць — сухая, згорбленая, старая. Твар у яе жоўта-карычневы, а зрэдчас робіцца шэра-зялёным. На ссівелых валасах замест кароны яна носіць вянок з шасці зачаўрэлых чорных руж. І Паляндра заўсёды прагне людскога гора. Гэтак жа, як мы, калі доўга не паямо, адчуваем голад, таксама і яна пакутуе ад недахопу гора. А калі Паляндра вельмі галодная горам, то робіцца чорнай-чорнай, зморшчваецца і ўся трэскаецца, як кара на балотным карчаку. Тады Жалобная Каралева загадвае сваім слугам збіраць чорных вусеняў і варыць з іх поліўку.

Алеолла і Арцін слухалі мастака з шырока раскрытымі вачамі, а той распавядаў далей:

— У Чорным Балоце, у багне, на Імховай Выспе стаіць сплецены з каравых каранёў церам. На страсе яго ў вялізных гнёздах жывуць чорныя чаплі, а Паляндра —

у цераме, у пакоі з няроўнай столлю. Пад церамам знаходзіцца скляпенне для людзей, пераўтвораных у чорныя цені. Паляндра, уся ў чорных строях, лётае па свеце ў чорнай карэце, запрэжанай чорнымі чаплямі — гэта і ёсць тая хмара і віхуры, якія вы бачылі. Чаплі чапаюць і чапляюць людзей, таму яны так і завуцца — чаплі. Як убачаць яны чалавека, закружваюць яго, кружаць, кружаць, пакуль той не ператворыцца ў цень, а потым кідаюць яго ў жалезную ступу, якую Паляндра заўсёды возіць з сабою на задку карэты. Затым Жалобная Каралева разам са сваімі прыслужніцамі-чаплямі кідае цені людзей у скляпенне-цямніцу, пад тым карчакаватым церамам.

Мастак Дроздзіч прымоўк, паглядзеў на неба — ці не збіраецца на даляглядзе чорная хмара — і зноў пачаў апавядаць:

— Вакол той цямніцы ад смутку і гора людскога на балотных купах вырастаюць гнілякі, на якіх і заводзяцца чорна-бурыя вусені. Менавіта з гэтых вусеняў Паляндра гатуе сабе і сваім чаплям поліўку. Але з часам людскія цені становяцца тонкімі, зусім тоненькімі і слабенькімі. Яны ўжо не ў стане сілкаваць балотную зямлю сваім горам, і гнілякі перастаюць расці, і вусеняў на іх заводзіцца ўсё менш і менш. Вось Паляндра кожны год і адпраўляецца за новымі людзьмі. Вы, напэўна, чулі, што раз-пораз дзе-нідзе знікаюць людзі...

Алеолла і Арцін ад гэтага аповеду яшчэ больш засмуціліся.

— Ну досыць ужо, давайце лепш я вашыя партрэты напішу, — прапанаваў мастак Дроздзіч.

— Не трэба, — уздыхнула Алеолла.

— Не да забаваў нам цяпер, — смутна вымавіў Арцін.

— Давайце, давайце.

Мастак звыкла дастаў са скуранай торбы мальберт, пэндзлі і фарбы, адкрыў пузаты слоік, прымайстраваў ядвабнае палатно да мальберта.

Першым мастак Дроздзіч напісаў партрэт Алеоллы, затым Арціна.

У дзяўчыны і юнака трошкі адлегла на сэрцы. Уважлівей, ужо не такім затуманенным ад гора позіркам зірнулі яны на рэчы вандроўнага мастака — на збанкі з фарбамі, на пэндзлікі, на мальберт…

— Ой, што гэта за брыдота ў вас такая? — спытала Алеолла і паказала на вусеняў на дне слоіка.

— А, гэта… Усмуткі людзей. Цяпер там ёсць і вашыя. У мяне дамова з Жалобнай Каралевай — я хаджу па свеце, збіраю ўсмуткі людзей і ў выглядзе чорна-бурых вусеняў, прыношу ёй. Тады яна не так часта да людзей наведваецца. Аднак бачыце, якая яна ненаедная... Абагнала мяне, не паспеў я ў вашае мястэчка прыйсці.

— Пачакайце, паслухайце... — задумаўся Арцін. — Калі нашы людзі знаходзяцца ў яе скляпенні-цямніцы — значыць, іх можна адтуль вызваліць.

— Правільна! — падтрымала гэтую ідэю Алеолла. — Мы іх вызвалім!

Здавалася, знік смутак з твараў Арціна і Алеоллы. Юнак адчуў сябе сапраўдным віцязем, а дзяўчына — яснапаннай.

— Гэта партрэт так падзейнічаў? — спытала Алеолла ў мастака Дроздзіча.

— Не, — адказаў ён. — Калі ў чалавека ў жыцці з'яўляецца мэта, яна здольна выгнаць з яго сэрца смутак і нават заглушыць любы, самы востры боль.

Раптам усё вакол пацямнела. Як ні сачыў мастак Дроздзіч за небам — не ўгледзеў. Закруціліся над імі чорныя віхуры.

— Сюды, да мяне, хутчэй! — крыкнуў мастак Дроздзіч. — Жалобная Каралева дадому вяртаецца!

Мастак раскрыў над сабою ядвабны парасон. Пад яго шмыгнулі і Алеолла з Арцінам. Сяк-так прыціснуліся адно да аднаго.

— Гэты парасон робіць нас нябачнымі для Паляндры і яе паслугачоў, — прашаптаў мастак Дроздзіч.

І праўда — віхуры і хмара хутка пранесліся над імі і зніклі за парослымі лесам узгоркамі.

— Паслухайце, міленькі мастак Дроздзіч, — пачала прасіць Алеолла, — пазычце нам, калі ласка, на пару дзён ваш чароўны парасонік. Мы з Арцінам пойдзем на тое балота, схаваемся пад парасонам і вызвалім людзей.

— А як жа мне быць? — нахмурыў бровы мастак Дроздзіч.

— А вы, — працягвала Алеолла, — пажывіце пакуль пад гэтым мостам, папішыце карціны. Вы ж самі казалі, што чорныя чаплі тут нікога не крануць, а значыць, і вас таксама.

— Зразумейце ж, — сур'ёзна адказаў мастак Дроздзіч, — на свеце так шмат гарадоў, мястэчак і вёсак, дзе я таксама патрэбны. Пакуль буду тут расседжвацца, колькіх яшчэ людзей забярэ Паляндра!

— Тады пойдземце з намі, — настойліва прапанаваў Арцін. — Вы нас атуліце сваім парасонам, а мы зробім човен, пераплывём Чорнае Балота і вызвалім людзей.

— Што вы, — хітнуў галавою мастак Дроздзіч, — Чорнае Балота немагчыма пераплыць на чоўне: пад яго дном балота становіцца глейкім, ліпкім, човен цалкам захрасае. І перайсці гэтае балота нельга: пад нагамі яно ператвараецца ў жыжу, зацягвае на дно. Гэта жудаснае месца. Як толькі ў мяне набіраецца поўны слоік усмутак, я прыходжу на бераг Чорнага Балота, проста хаваюся пад парасон і стаўлю слоік на купіну. Тры разы прасвішчу так, як плача суслік-байбак, скажу замову, і прылятаюць чорныя чаплі, забіраюць слоік. А я чакаю, калі яны вернуць яго пустым. А дачакаўшыся, кладу слоік у торбу і зноў іду вандраваць па свеце, збіраць новыя ўсмуткі.

— Ну зразумейце, нам вельмі трэба неўзаметку пракрасціся да той цямніцы! — усклікнула Алеолла.

— Пракрасціся туды — гэта толькі палова справы, — разважліва прамовіў мастак Дроздзіч. — Нават калі ў вас атрымаецца пераплыць балота, патрапіць у карчакаваты церам і вызваліць людзей, то Паляндра і яе чаплі адразу ж іх убачаць, закруцяцца вялізным смерчам і назад у цямніцу вернуць. І вас пасадзяць туды ж. А на ўсіх людзей майго парасона ніяк не хопіць.

— І што ж нам цяпер рабіць? — з адчаем спытаў Арцін.

— Слухайце сюды, — мастак Дроздзіч прымружыў свае блакітныя вочы, паглядзеў на неба — ці не ляціць якая запозненая чапля, — і шэптам пачаў распавядаць: — Далёка на поўдні, на паўвыспе Дарвіт, якая выступае ў Вечаровае мора, расце дрэва — шаўкоўніца. Яна вельмі-вельмі старая, адна засталася ад старажытнага райскага саду, які калісьці рос па ўсёй зямлі. Яе плады — плады шчасця. Кажуць, што калі гэтыя плады альбо адвар з такіх пладоў з'ядуць чорныя чаплі, то адразу ж на пару хвілін знепрытомняць, а потым і зусім забудуць, як людзей чапаць і чапляць. А вось Паляндра, паспытаўшы гэтых ягад, будзе вечна хварэць і больш ніколі ўжо не зможа лётаць па свеце.

— Вось што, — сказала Алеолла, — мы з Арцінам абавязкова адшукаем гэтую шаўкоўніцу, дастанем яе плады, знойдзем вас, і тады ўсе разам адправімся да гэтага балота.

— Добра, — пагадзіўся мастак Дроздзіч, — а я тым часам поўны слоік вусеняў назбіраю... Вось толькі як вы балота пераплывяце?

— Што-небудзь прыдумаем, — упэўнена прамовіў Арцін.

— Раз так, то дам вам яшчэ адну параду. Ісці да той гары — не блізкі свет. Лепш туды плыць.

— Як жа гэта плыць на гару? — спытала Алеолла.

— Вельмі проста.

— Я ведаю, — пачаў Арцін, — гара стаіць на паўвыспе, паўвыспа ляжыць на моры, а ў мора ўпадаюць рэкі. Значыць, туды лепей плыць па рацэ.

— Так. І выток адной з гэтых рэк недалёка ад вашага мястэчка, — паведаміў мастак Дроздзіч.

— Выдатна, — захапіўся Арцін. — Мы зробім плыт і спусцімся па рацэ!

— Не спяшайся. На плыце дабірацца павольна і вельмі небяспечна. На рэках і моры шныраюць піраты. Вось што я вам скажу. На рачной прыстані, дзе зліваюцца дзве ракі, Прыта і Продзень, гэта прыкладна ў пятнаццаці вёрстах адсюль, збіраецца флатылія рыбацкіх судоў. Раз у чатыры гады рыбакі са Светлых Азёр плывуць да бухты Гняздо Рыб, каб паднесці дарункі рыбіным князям і каралям. Гэтая бухта размешчана каля таго паўвострава. Цяпер менавіта той год. Вы адшукайце ладдзю рыбака Палямона, перадайце яму прывітанне ад мяне і папрасіцеся да яго на ладдзю. Ён чалавек добры, вам не адмовіць. Толькі памятайце, на ладдзі кожны павінен рабіць сваю працу. Ты, Арцін, пабудзеш за матроса, калі трэба ветразь паднімеш і за стырном пастаіш, а то і палубу падраіш. А ты, Алеолла, будзеш гатаваць ежу і ўдалячынь глядзець, сачыць за даляглядам ды песні спяваць, каб не так сумна рыбакам плыць было.

— Мы на ўсё гатовыя, — рашуча адказала Алеолла. — І песень я розных шмат ведаю. Рыбакі-маракі не засумуюць.

— І працы мы не баімся, — падтрымаў яе Арцін.

— Тады, зычу вам поспеху, — мастак Дроздзіч склаў парасон, сабраў усе свае рэчы ў скураную торбу. — Запомніце, тая шаўкоўніца расце на гары побач з горадам Палац Садоў. Толькі не пераблытайце яе з іншымі шаўкоўніцамі.

— Дзякуй, — юнак і дзяўчына разам пакланіліся вандроўнаму мастаку.

Яны развіталіся з ім і пайшлі ў мястэчка. Кожны да сваёй апусцелай хаты. Узялі сабе ў дарогу самае неабходнае. Арцін, як і належыць будучаму віцязю, акрамя ўсяго іншага прыхапіў сваю зброю — меч, лук і поўны калчан стрэл.

У той жа дзень Арцін і Алеолла адправіліся да прыстані, дзе зліваюцца дзве ракі — Прыта і Продзень.

## II

## ПАЛЯМОН І СЫНЫ

Над мысам узвышалася вялізная, вышэйшая за прыбярэжныя сосны скульптура шчупака з разяўленай пашчай. Там, у пашчы каменнай рыбы, заўсёды гарэў агонь, які добра бачыўся і праз яе вочы. Гэта быў рачны маяк, пастаўлены над месцам, дзе зліваюцца дзве вялікія ракі. Злева ад маяка-рыбы працякаў Продзень, справа — Прыта. Дзякуючы зыркаму вогнішчу, якое падтрымлівалі служкі, і зычнаму звону, у які тыя служкі білі кожную гадзіну, на ладдзях у цёмную ноч альбо ў густы туман маглі ўбачыць і пачуць, што праходзяць «стрэлку», і такім чынам маракі правільна вызначалі свой далейшы шлях.

Алеолла і Арцін яшчэ здалёк заўважылі зыркае вока каменнага шчупака, і пайшлі да яго. Неўзабаве яны апынуліся на высокім беразе, пад агромністай скульптурай, на востраканцовым мысе паміж дзвюх рэк.

Сутонела. Вада парыла бялявай імглою.

Арцін і Алеолла наблізіліся да краю мыса і асцярожна паглядзелі ўніз. Пясчаны абрыў стромка спускаўся да ракі. Далёка ўнізе ўздоўж берага была збіта доўгая драўляная прыстань. На хвалях, паціху ўдараючы бартамі аб драўляны насціл, калыхалася каля двух дзясяткаў ладдзей са спушчанымі ветразямі.

Можна было адразу вызначыць, што гэта не купецкія караблі, а рыбалоўчыя. Яны не прызначаліся для перавозкі буйных тавараў, таму па памерах былі значна меншыя за купецкія, і не такія «крутабокія». Некаторыя з іх наогул нагадвалі звычайныя лодкі з касым ветразем.

— Так, калі ў Палямона такая лодачка, то нам будзе цесна, — сказаў Арцін.

Але, да шчасця, яго прадчуванні не апраўдаліся.

На судах і на беразе ажыўлена сюды-туды шнырalі людзі. З вышыні мыса яны падаваліся карузлікамі.

— Гэй! Гэй! — зверху крыкнулі Арцін і Алеолла. — Хто з вас Палямон?

На прыстані адазваўся адзін чалавек. Ён стаяў непадалёк ад досыць вялікай ладдзі з прыспушчаным жоўта-чырвоным ветразем.

— Гэта я! Спускайцеся сюды!

Арцін, не доўга думаючы, саскочыў са стромы і кулём паляцеў па мяккім пяску.

А вось Алеолла агледзелася і знайшла ў пяшчаным абрыве ўтрамбаваныя прыступкі — верагодна, іх зрабілі служкі маяка. Дзяўчына спакойна спусцілася.

Унізе — зусім не так, як зверху — сярод рознакаляровых судоў не проста было знайсці ладдзю Палямона. Добра, што рыбак сам па прыстані выйшаў насустрач Арціну і Алеолле.

Палямон аказаўся вялікім, загарэлым, каржакаватым мужчынам з чэпкімі мазолістымі рукамі. На ім была шырокая палатняная кашуля, падперазаная карабельнай вяроўкай. На нагах кірзавыя боты да калена — у іх запраўлены шэрыя нагавіцы.

— Дабрыдзень, дабрыдзень! З чым да мяне завіталі?

— Дабрыдзень гаспадару! Нас да вас адправіў мастак Дроздзіч, — пачала Алеолла.

Хітаючы галавой, разумеючы што пра што, Палямон да канца выслухаў аповед Алеоллы і Арціна.

— Вядома, мая «Ладачка» вялікая — усім месца хопіць. Са мной яшчэ плыве мой сын Халямон — прыкладна вашых гадоў будзе, і яшчэ два сыночкі Санцелямон і Панцелямон, яны маладзейшыя крыху. Так, яшчэ сабака Брахіндзей.

Сабака Брахіндзей, пачуўшы сваё імя, высунуў кудлатую галаву з вачамі-пацерамі і носам-гузікам над бортам ладдзі і, вітаючы, два разы гаўкнуў. Пасля гэтага сабака схаваўся за бортам. Ненадоўга. Праз імгненне ён выскачыў з карабля на бераг, замітусіўся каля ног гаспадара і яго гасцей. Аказалася, што Брахіндзей — сабака сярэдніх памераў, чорны, калматы, з закручаным дагары хвастом.

Брахіндзей хутка абнюхаў сандалі Алеоллы і боты Арціна ды гаўкнуў яшчэ раз, больш прыязна.

— Вось, вітаецца. Адчувае добрых людзей. Халямон! Санцелямон! Панцелямон! — паклікаў Палямон.

Над бортам з'явіўся круглы васпаваты твар Халямона. Яго галаву ўпрыгожвала капа рудых валасоў, а злева і справа ад яго высунуліся два такія ж васпаватыя, але цёмнавалосыя браты-блізняты.

— Вось яны... Праходзьце на борт. Размяшчайцеся, — сказаў Палямон Арціну і Алеолле, а потым крыкнуў сынам: — Гэй вы! Рыбацкая руя, уладкуйце гасцей!

Ладдзя пахла шкіпінарам і рыбай. Над бортам трапятаў нерат, вяроўкі з развешанай рыбай. На карме стаялі бочкі з рыбіным тлушчам, бочкі з вадой, квасам, півам, мукой і з засоленай рыбай. Асобна ляжалі цюкі з дарункамі для рыбіных князёў і каралёў.

— Праходзьце, праходзьце… Вось тут вы будзеце спаць, — Халямон, як і належыць старэйшаму з братоў, паказаў памяшканне пад палубай з двума гамакамі з рыбалоўчай сеткі.

Арцін і Алеолла паклалі пад гамакі свае рэчы, і Халямон вырашыў правесці іх па ладдзі.

— Гэта шчогла. На ёй ветразь. А вунь там стырно на карме.

— І што там на карме кухня? — спытала «сухапутная» Алеолла. Яна ўжо прыкідвала што, як і дзе будзе рабіць.

Санцелямон і Панцелямон пырснулі са смеху.

— Чаму кухня? — Халямон з ветласці стрымаў усмешку.

— Ну, карма… Дзе трэба карміцца, — выказала здагадку Алеолла.

Санцелямон і Панцелямон не змаглі стрымацца і засмяяліся.

— Ды ціха вы, — прыкрыкнуў на іх Халямон. — Карма, як гэта сказаць, азадак карабля.

Блізняты так і пакаціліся па палубе...

— Не-не, на гэтым азадку усім корм раздаюць, — «падкінуў» жарт Санцелямон, і сам жа яшчэ гучней засмяяўся.

— Ды хопіць вам, — папрасіў братоў Халямон. — Гэй, Санцелямон, лепей пакажы, як трэба стырно на карме трымаць.

— Не, я пакажу! — апярэдзіў Панцелямон.

— Не, я!

У іх спрэчку гучным брэхам умяшаўся Брахіндзей. Ён пачаў скакаць вакол іх і матляць хвастом.

— Вось Брахіндзей і пакажа.

Сабака падбег да стырна, устаў на заднія лапы, а пярэднімі абапёрся на вялізнае вясло.

— Малайчына, Брахіндзей. Цяпер зразумела? — спытаў Халямон.

— Зразумела, — засаромелася ад свайго невуцтва Алеолла.

Арцін тым часам аглядаў снасці на шчогле.

— А гэтымі вяроўкамі кіруецца ветразь, — сказалі блізняты. — Цягнуць цяжкавата. Звычайна Брахіндзей дапамагае. Свіснеш — ён зубамі ўчэпіцца і цягне з такой жа сілай, як і мы самі. Праўда, Брахіндзей?

Сабака ўтаропіўся чорнымі вочкамі на аднаго са сваіх гаспадароў і ўхвальна гаўкнуў.

## III

## «НЕ ЗГУБІ, РАКА, ЛОДКУ РЫБАКА!»

Праз два дні па рукаве Прыты да прыстані падышлі яшчэ сем ладдзей. Яны ішлі з вялікага заходняга возера, якое звалася Герода. Менавіта іх уся астатняя рыбацкая флатылія і чакала.

Палямон, які славіўся сярод рыбакоў як галоўны завадатар, першым павітаў прыбылых. Справіўся, ці гатовыя яны адразу ж адпраўляцца ў шлях. Герадошнікі — рыбакі з таго заходняга возера — весела і дружна заківалі галовамі ў знак згоды.

Палямон падняў жоўты-чырвоны ветразь, абрамлены арнаментам, падобным да вышыванай кашулі, і павёў сваю «Ладачку» на сярэдзіну ракі.

Эх, рака шырокая
Будзь жа нам дарогаю!
Не будзь хваляванай,
Будзь нам паслухмянай!

— заспяваў старажытную рыбацкую песню Палямон. Ён спяваў густым раскацістым басам, а тэнарком падхапіў песню Халямон. Хлапчуковымі галасамі пачалі падцягваць Санцелямон і Панцелямон. Заспявалі і на іншых ладдзях:

Не будзь хваляванай,
Будзь нам паслухмянай.
Не згубі, рака,
Лодку рыбака!

Паляцела песня па-над вадой, распавяла песня наперадзе ўсім-усім, што рыбакі плывуць. Падхапілі гэтую песню Арцін і Алеолла. Звонкі і зычны быў голас у Арціна, а ў Алеоллы — ясны і ў той жа час мяккі.

— Што там за дзеўчына ў Палямона?

— Дзе ён такую маладзіцу прыгасцяваў? — перамаўляліся рыбакі.

Надвор’е стаяла чароўнае. Плаванне ішло спакойна.

Арцін хутка налаўчыўся выконваць марацкую працу. Палямонаўскія сыны яму падрабязна тлумачылі, што рабіць. І нават Брахіндзей з задавальненнем дапамагаў Арціну. Праўда, сабака дапамагаў толькі датуль, пакуль Алеолла не прыступала да сваіх абавязкаў. Тады цікавасць Брахіндзея да марацкай справы цалкам знікала — ён падыходзіў да Алеоллы, клаў ёй сваю галаву на калені і глядзеў вочы ў вочы. Ну, і, вядома, яму сякія-такія ласункі ад яе перападалі.

— Больш за ўсё пашанцавала Брахіндзею, што вы з намі плывяце, — казаў Палямон. — У каго б ён яшчэ столькі мясных абрэзкаў выпрасіў.

Арцін, як адказны працаўнік, гаспадара ладдзі вельмі радаваў — юнак добра спраўляўся з працай. І Алеолла, з выгляду далікатная панначка, клопатаў маракам не прыносіла.

Так вось і плылі.

Некалькі разоў з прыбярэжнай пушчы высоўваліся разбойнікі, узброеныя сякерамі, доўгімі лукамі і пікамі з крукамі. Але варта было ім пабачыць вялікі караван — не жарт! — з дваццаці пяці суднаў, як яны хуценька хаваліся ў лясную глухмень. Часам насустрач рыбацкаму каравану праплывалі па тры-чатыры, а то і па сем-восем купецкія ладдзі. Яны былі прыкметна вышэйшыя за рыбацкія. Купцы і іх ахова глядзелі на рыбакоў зверху ўніз, але ўсё роўна у адказ на рыбацкія прывітанні з радасцю махалі рукой, самі віталіся добрым слоўкам. Сустрэць на сваім шляху караван рыбакоў, які раз на чатыры гады плыве да Гнязда Рыб, у купцоў лічылася добрай прыкметай, — значыць, год у іх будзе «рыбны» — прыбытковы.

А караван плыў далей. І праплывалі ўздоўж берагоў сёлы, гарады.

У стольным горадзе Жоўтарэчча — горадзе Векаве — караван зрабіў прыпынак — рыбакі на прыстані гандлявалі сваімі таварамі: рыбай, снасцямі, рыбіным тлушчам.

Горад Векаў уразіў Алеоллу і Арціна веліччу: мураваныя сцены, каменныя белыя дамы, пазалочаныя купалы храмаў. На прыстані столькі народу і ўсе ў рознай вопратцы. Людзі вясёлыя, усмешлівыя, але дахолыя, значыць, хвацкія. Гавораць на розных мовах, а калі гандлююцца, пераходзяць на ўсім зразумелае купецкае кайнэ.

Пасля Векава, дзе запасліся вадой і правізіяй, некалькі дзён плылі без прыпынкаў.

У нізоўях Продзеня былі парогі. Над імі рака афарбоўвалася ў белы колер, а здалёк падавалася, што гэта цячэ малако. Вада білася, церлася, чаплялася аб каменнае дно, ствараючы незлічоныя бурбалкі пены. Парогі маглі пераадолець толькі чаўны, і то, калі імі кіравалі адважныя людзі.

Не даходзячы з сотню крокаў да парогаў, усе ладдзі рыбацкай флатыліі дружна падплылі да берага. І тут жа да іх пад'ехалі вершнікі, убраныя ў кальчугі. На галовах у вершнікаў былі востраканцовыя шаломы, а ў руках — чырвоныя шчыты ў форме перакуленай кроплі.

— Вітаю рыбакоў! — сказаў віцязь на белым кані.

— Вітаю слыннага віцязя Веліога! — адклікнуўся Палямон.

— Ого! Сёлета аж дваццаць пяць караблёў! І ўсе са Светлых Азёр? — здзівіўся князь Веліог.

— Рыбы ў нашых рэках і азёрах не меншае, — замест адказу зазначыў Палямон. — І сёлета будзе твая дружына ахоўваць парогі?

— Мая. А наступным годам лёс выпаў на Гранея. У яго дружына слабаватая.

— У наступным годзе рыбакі не паплывуць. А вось купцам — цяжэй будзе. Скажы, слынны Веліог, а сінеазёрцы праплылі?

— Праплылі. Суднаў васямнаццаць.

— Гэй, рыбалі! Разгружай! — крыкнуў Палямон.

Рыбакі дружна ўзяліся разгружаць свае ладдзі. З кожнага карабля і карабліка дружыннікам сёе-тое даставалася: бочачка салёнай рыбы, цабэрак квасу ці піва, мяшок мукі, збожжа, бохан хлеба. Трэба ж ахове парогаў чымсьці сілкавацца.

Рыбакі пераносілі, перацягвалі грузы ўніз па рацэ. Затым збіраліся талакою і валачылі па пакладзеных па зямлі драўляных бярвеннях, змазаных рыбіным тлушчам, адну ладдзю за другой.

Пасля ўважлівай праверкі, ладдзі зноў выйшлі ў плаванне.

— Поспехаў, князь Веліог! — крыкнуў Палямон.

— Поспехаў табе, Палямоне!

Эх, рака шырокая
Будзь жа нам дарогаю!
Не будзь хваляванай,
Будзь нам паслухмянай!

— зацягнулі рыбакі, а з імі і Арцін з Алеоллай.

Па трэцім тыдні плавання караван выйшаў на шырокую марскую прастору. Флатылія завярнула налева і паплыла ўздоўж берага на дастатковай ад яго адлегласці, так што суша выяўлялася рудай палоскай на даляглядзе.

Мора зачаравала Арціна і Алеоллу, ім падавалася, што на гэтых прасторах, у гэтым бязмежжы — і ёсць радзіма фантазіі.

Наступнай раніцай пасля выхаду ў мора ўсіх абудзіў Брахіндзей. Ён быў на носе ладдзі і брахаў на ваду.

— Малайчына, — пахваліў яго Палямон, — правільна месца ўчуў. Усё, прыплылі. Тут і ёсць Гняздо Рыб. Кідай катвігу! — крыкнуў ён сваім сынам ды іншым ладдзям.

— Ану! Памажы! — паклікаў Халямон братоў.

Поруч з ім першым апынуўся Арцін. Удваіх з Халямонам яны паднялі абчасаны камень, у якім у адмысловыя адтуліны былі ўстаўлены завостраныя калкі. Гэта была цяжкая катвіга. Хлопцы ледзьве скінулі яе за борт.

— Мастак Дроздзіч казаў, што Гняздо Рыб — гэта бухта. А якая тут бухта? — у здзіўленні спытаў Арцін у Палямона. — Гэта ж чыстае мора!

— Бухта вунь там, — Палямон паказаў на гару, што бачылася ўдалечыні. — Яна як раз насупраць гэтага месца. Тут, дзе мы кінулі катвігу, прэсныя воды Проданя канчаткова зліваюцца з марскімі, салёнымі. Гэта апошняя мяжа сушы і мора. Менавіта тут сустракаюцца на свой рыбіны сойм марскія і прэснаводныя каралі і князі рыб. Давайце, Халямон, Санцелямон, Панцелямон, рыхтуйце пачастункі.

Халямон падкаціў бочку да борта і адкаркаваў яе.

— Дапамагай! — крыкнуў ён Арціну.

Арцін і Халямон падняла яе і нахілілі над бортам. Яшчэ адну бочку высыпалі ў мора Санцелямон і Панцелямон. Трэцюю падняў і нахіліў праз борт сам Палямон.

— Не трэба! — ён адмовіўся ад дапамогі Алеоллы.

Збожжа, мука, хлебныя галушкі ўперамешку з нейкай зелянінай паплылі па хвалях. Усё гэта жоўтымі, светла-салатавымі і белымі ланцужкамі танула ў моры. Праз некаторы час у вадзе паказаліся цёмныя спіны рыб. Вакол драбкоў пачастункаў па паверхні мора пайшлі кругі — рыба, малая і вялікая, пачала іх браць...

— Для чаго вы гэта робіце? — спытала Алеолла.

Яна з цікаўнасцю назірала за дзеяннямі рыбакоў. На іншых суднах рабілі тое ж самае.

— Гэта падкормка, перамяшаная з водарасцямі, азёрным мулам і пяском, узятым з нашых азёр і рэчак, — растлумачыў Палямон. — Рыбы будуць есці і чуць пах нашай вады. Будуць ведаць, што ў нашых вадаёмах поўным-поўна ежы. Вось і паплыве рыба да нас у госці, на нераст альбо на жыццё.

Калі Халямон і Арцін высыпалі ўжо тры бочкі рыбінага пачастунку, Палямон дастаў з торбы зроблены з яловай кары караблік, за ветразь у якога была шырокая драўляная габлюшка, і пусціў яго ў мора.

На борце карабліка старажытным вязьмом былі напісаны імёны Палямона, Халямона, Санцелямона, Панцелямона і маладзейшага Філямона, які застаўся дома з маці. Апрача таго на гэтым карабліку былі імёны іншых паважаных рыбакоў з іхняга мястэчка, што называлася Слаўбор.

— Гэта каб рыбы бачылі, хто іх частуе, — растлумачыў Палямон.

Па моры паміж вялікімі ладдзямі паплылі дваццаць пяць маленькіх караблікаў.

— Тата, глядзі, — з трывогай у голасе сказаў Халямон.

У старэйшага сына быў вельмі востры зрок.

— Што там? — спытаў Палямон.

— Бачу караблі. Яны ідуць па ветры і вельмі хутка набліжаюцца.

— Так-так! Мы таксама бачым! — занепакоена ўсклікнулі Санцелямон і Панцелямон.

— Так... Вунь там — справа… Ідуць караблі, — пацвердзіла Алеолла.

— Сапраўды, — заўважыў і Арцін.

— Бачу, бачу, — сказаў Палямон.

— Эх, цяпер бы парасон Дроздзіча, — уздыхнуў Арцін, — адразу было б відаць, хто там плыве.

— Гавораць, на берагах паўднёвага мора, — пачаў распавядаць Халямон, — з горнага крышталю змайстравалі чароўную трубу. Адным вокам у яе зірнеш — і ўсё, што далёка наперадзе, відаць, як на далоні.

— Няўжо? — здзівіўся Санцелямон.

— Я таксама гэта ведаю, — ганарліва сказаў Панцелямон.

— А ты адкуль? — не паверыў Санцелямон.

— Я такую трубу бачыў у купца, — сказаў Панцелямон, — ён глядзеў праз яе на наш ветразь.
— Калі ты гэта бачыў? — не сцішаўся Санцелямон.
— Калі вы з Алеоллай рыбу чысцілі, а я на носе ўдалячынь глядзеў.
— Ты ўсё прыдумаў.
— Нічога я не прыдумаў.
Пакуль блізняты спрачаліся, Халямон узлез на шчоглу.
— Эх, мне б гэтую трубу… — крыўдаваў ён.
— Ціха… Усім быць пільнымі, — сурова сказаў Палямон.
Ён спусціўся пад палубу і вярнуўся з двума вялізнымі цесакамі ў руцэ. Туды ж спусціліся і Санцелямон з Панцелямонам. Яны ўзялі свае ці то паляўнічыя нажы, ці то кінжалы, а таксама рыбныя гарпуны.
— Арцін, трымай напагатове свае меч і лук, а ты, Алеолла, ледзь што — хавайся ўнізе, — загадаў Палямон.
Арцін агаліў свой меч — Санцелямон і Панцелямон, і нават Халямон з зайздрасцю, вядома жа, не чорнай, паглядзелі на зброю будучага віцязя. Гэта быў сапраўдны меч, падумаеш, трохі меншы па памеры, чым у сталых віцязяў. А лук — проста любата — пругкі, з касцяной устаўкай — для таго, каб надаць страле моцнае паскарэнне. Стрэлы з чырвона-белым апярэннем — роўныя, наканечнікі адпаліраваны, быццам са срэбра.
— Пятнаццаць караблёў. Падобныя да нашых, — крыкнуў зверху Халямон.
— Да нашых? Рыбацкіх?
— Так.
— Можа, гэта сінеазёрцы? Але іх павінна быць васямнаццаць. Палічы добра, — папрасіў Палямон.
— Не, сапраўды пятнаццаць, — засведчыў Халямон.
— Гэта дрэнна. Піраты маглі іх захапіць і пад выглядам рыбакоў набліжацца да нас.
Прайшло паўгадзіны напружанага чакання. Палямон стаяў на носе, скрыжаваўшы перад сабой вялізныя цесакі. Побач з ім плячом да пляча, сціскаючы ў кулаках гарпуны і нажы, прымружыўшы вочы і ўзіраючыся ўдалеч, застылі Санцелямон з Панцелямонам. Алеолла не спусцілася ўніз, а, падняўшы з кармы рыбалоўны трызубец, падышла да блізнят. З такой зброяй у руках яна стала падобная да дачкі падводнага цара. Вецер раздзімаў яе густыя каштанавыя валасы, як быццам жадаў надаць ім форму марской хвалі. Побач з ёй, час ад часу шчэрачыся і рыкаючы, падрыгваў Брахіндзей. Тут жа быў і Арцін. У адной руцэ ён трымаў лук, у другой — стралу, гатовы ў любую хвіліну нацягнуць цеціву і стрэліць.
— Наперадзе ладдзя Вялюкшы. Я пазнаю яго белы ветразь з сінімі палоскамі… А вось і ён сам… Гэй, Халямон, прывяжы залатога карпа на пік шчоглы! — загадаў Палямон свайму старэйшаму сыну, які стаяў на папярочцы шчоглы.
Халямон спрытна абматаў тонкай вяроўкай хвост сушанага карпа і прычапіў, куды было сказана. Луска рыбы ярка заззяла на сонцы.
На караблі Вялюкшы над шчоглай таксама бліснуў залатой лускай карп.
— Усё ў парадку. Адставіць трывогу!
Караблі наблізіліся.
— Прывітанне светлаазёрцам! — крыкнуў Вялюкша.
— Прывітанне сінеазёрцам! — адказаў Палямон.
— Ні хваста, ні рыбінай лускавінкі! — Вялюкша прамовіў гэтае жартаўлівае рыбацкае пажаданне гучным голасам, прыклаўшы далоні да рота так, каб яго пачулі і на іншых ладдзях.

— Ні плаўніка, ні рыбінага зубчыка! — у той жа манеры адказаў яму Палямон.

— Да вадзяніка!

— Да вадзяніка! — пачуўся з іншых суднаў традыцыйны адказ на гэтае прывітанне.

— Як дабраліся? — ветліва спытаў Вялюкша.

— Выдатна! — весела адказаў Палямон.

— А вось мы два дні таму патрапілі ў буру. Толькі жоўтарэчанскія адплылі да сваіх вытокаў, як наляцеў смерч. Раскідаў нас па ўсім моры. Трох караблёў так і не далічыліся.

— Можа яшчэ падыдуць? — пастараўся суцешыць сінеазёрца Палямон.

— Можа і падыдуць. Тады вазьміце іх да сабе. Там Мяркулка, Смоліц і Трыдзеня.

— Возьмем! — адказаў Палямон, а ў блізнят запытаў: «Вы добра запомнілі, як тых рыбакоў клічуць?»

— Запомнілі.

— Не забудзьце. А то чужынцы да нашага каравана пад выглядам сінеазёрскіх суднаў падысці могуць. Што тады рабіць будзем?

— Што, што… Гарпунамі іх, — адважна адказаў Санцелямон.

— Гэта Паляндра, — ціха сказала Алеолла.

Яна думала пра смерч.

— Можа быць, — пагадзіўся з ёй Арцін.

— Наўрад ці, — з веданнем справы сказаў Панцелямон.

Слых ў блізнят быў выдатны.

— Паляндра ў асноўным на сушы круціцца, — падтрымаў брата Санцелямон.

— На моры свайго смутку досыць, — сказаў Халямон, які толькі што спусціўся са шчоглы. — Падводны цар усхадзіцца можа. Як гахне сваім цяжкім трызубцам па дне — дно захістаецца, і пойдуць па моры вялізныя хвалі. Альбо марскі дракон хвастом як махне — ведаеш, які марскі дракон вялізны! Пусціць бурун, а той бурун і ваду, і паветра закруціць — вось табе і смерч. Альбо вось гара ад падземнага жару раптам абарвецца, пад ваду бухне — а ад гэтага віхраслуп па моры-акіяне ідзе, караблі ў сябе захоплівае.

— Так, небяспечна па моры хадзіць, — пагадзілася Алеолла.

— А то! — вымавіў Панцелямон. — Па рэках спакайней.

— А па сушы, — умяшаўся Санцелямон, — наогул няма чаго рабіць, ведай ногі перастаўляй. Альбо на кані сядзіш — ніякага страху.

— Затое па вадзе — прыемна, — сказала Алеолла.

— Прыемна? Гэта таму, што нам надвор'е спрыяла, — ганарліва прамовіў Санцелямон.

— А быў бы вецер, дождж, боўталіся б у ладдзі, як жабы ў бочцы, — падтрымаў брата Панцелямон.

— Няўжо вы буры не баіцеся? — з сумненнем у голасе спытаў блізнят Арцін.

— Не-а, — амаль аднначасова адказалі блізняты. — Мы з маці не развіталіся.

— Гэта як зразумець? — спытала Алеолла.

— Бацька гаворыць, — пачаў тлумачыць Халямон, — што калі ні з кім перад паходам не развітаешся, не казаў «да пабачэння», «бывай» і рукой не махаў, а проста паглядзеў праз плячо назад, ды і паплыў, то — абавязкова вернешся. Бура не страшная, таму што ты забыў развітацца, а значыць, у цябе ёсць абавязак вярнуцца і сказаць «бывай». Грэх чалавеку з нявыкананымі абавязкамі паміраць. Вось мы ні з кім і не развіталіся.

— Таму бура нас і не забярэ, — завяршыў думку брата Панцелямон.

— Мы таксама са сваімі роднымі не развіталіся, — са смуткам сказала Алеолла.

— Значыць, і баяцца вам няма чаго, — супакоіў Алеоллу Санцелямон.

— Так, так, — пагадзілася з ім будучая яснапанна.

Алеолла пастаралася схаваць ад братоў свае перажыванні.

Тым часам скрозь шэрагі светлаазёрскай флатыліі, прыбраўшы ветразі, праплывала рыбацкая флатылія сінеазёрцаў. Палямон заскочыў на ладдзю Вялюкшы. І пакуль дзве ладдзі праходзілі побач адна з адной, два паважаныя рыбакі-завадатары пра штосьці паміж сабою перамовіліся.

Палямон саскочыў з носа сваёй ладдзі на нос ладдзі Вялюкшы, а зваротна, заскочыў ужо на карму свайго судна.

— Слухайце сюды, госці дарагія, — звярнуўся Палямон да Алеоллы і Арціна. — Наша флатылія на дзень застанецца тут. Будзе чакаць тыя тры зніклыя ладдзі сінеазёрцаў. А я тым часам адвязу вас у бухту. Там — паселішча мясцовых рыбакоў. Яны ведаюць, што мы ў моры амаль не ловім, толькі тутэйшую рыбу падкормліваем. Ім гэта на руку. Таму яны нас вельмі паважаюць. Спытаеце любога мясцовага рыбака, як дабрацца да горада Палац Садоў. Дарога да яго ідзе прамая — гэта ведае кожны. Скажаце, што вы самі светлаазёрскія рыбакі. А ты, Алеолла, маўляў, дачка рыбака, таму што іншых чужаземцаў яны могуць прыняць за шныпароў ці шпегаў. Я дам вам ільняны мяшок, у якім знаходзіцца каралеўскі вугор, прыгатаваны адмысловым чынам. Гэта вельмі смачна. Спадзяюся, вы самі не з’ясце яго. Растлумачыце мясцовым рыбакам і мясцоваму начальству, што гэта дарунак ад сінеазёрскіх і светлаазёрскіх рыбакоў іх хану Ісміраю. Хаця, — задумаўся Палямон, — наконт мясцовага начальства — гэта ідэя!

— Што ты задумаў, бацька? — спытаў Халямон.

— Нешта хітра-хітрае? — загарэліся вочы блізнят ад цікаўнасці.

Яны вельмі добра ведалі гэтую хітрую ўсмешку свайго бацькі, якая з’яўлялася ў яго на твары, калі той нешта гэтакае задумваў.

— Пабачым. Можа, і атрымаецца, — таямніча сказаў Палямон.

«Ладачка» падняла ветразь, вецер напоўніў яго. Лёгка слізгаючы па хвалях, ладдзя накіравалася да берага. Паблізу праплылі некалькі мясцовых лодак з касым ветразем. Рыбакі былі ў чалмах. Яны з цікавасцю агледалі ладдзю Палямона.

## IV

## ПРЫВІТАННЕ, НАЧАЛЬНІК!

Палямон умела правёў сваю ладдзю па вузкім праліве ў бухту.

— Глядзеце! — крыкнулі са шчоглы Панцелямон і Санцелямон. Яны стаялі на папярочцы і трымаліся рукамі за вяроўкі, якія ўтрымлівалі ветразь. — Там з-за мыса выплываюць тры ладдзі, вельмі падобныя да рыбацкіх.

— Ну, слава Богу, думаю, гэта сінеазёрцы, — з палёгкаю ўздыхнуў Палямон. — Спадзяюся, усё ў парадку. Як гаворыць мой знаёмы рыбак Вячэрыца: «Бура — яна і для піратаў бура». Калі і былі паблізу піраты, то, пэўна, і іх смерч усіх раскідаў.

Палямон стаяў ля стырна. Акуратна лавіруючы паміж мясцовымі рыбацкімі лодкамі, ён падвёў сваю ладдзю да прыстані горада, які гэтак жа, як і бухта, называўся Гняздо Рыб.

Да ладдзі адразу ж падбег бачкаватага выгляду чалавек:

— Вы капітан? — без усякага прывітання спытаў ён у Палямона.

— Так, раз я за стырном, то я — капітан. Па-мойму, гэта зразумела. Мяне клічуць Палямон.

— Я начальнік прыстані горада Гняздо Рыб — Бердыбігей Гурахмалі, — прадставіўся ён, ледзь прыкметна кіўнуў чалмой баклажанавага колеру і грозным тонам прамовіў:

— Які тавар на борце?

— Тады прывітанне, начальнік! — весела прамовіў Палямон.

Той толькі зіркнуў хціўым позіркам з-пад сваёй вялізнай чалмы. Яна адмыслова была такога ярка-сіняга, бліскучага колеру, каб яго — начальніка прыстані — здалёку ўсё прыезджыя бачылі.

Бердыбігей Гурахмалі яшчэ са сваёй глінянай хаціны, вокны якой выходзілі на мора, убачыў, як у бухту ўвайшла чужаземная ладдзя. Ён павесіў на кручок звычайную белую чалму, нацягнуў на лысую галаву чалму колеру баклажана, і з ганарлівым выглядам выйшаў на двор. Няўклюдна расстаўляючы пад сваім жыватом кароткія ножкі, ён спусціўся па каменнай лесвіцы да прыстані.

— Пільнасць нумар адзін! — сказаў ён двум вартаўнікам, якія стаялі злева і справа ад першай прыступкі лесвіцы, вядучай з прыстані ў горад.

Прыстань была маленькая, таму і начальнік таксама маленькі. Не, на выгляд-то ён быў вялікі — з круглымі шчокамі, мясістым грушападобным носам, з тоўстым, нібы кабачок-перарастак, жыватом і з насунутай на галаву чалмой начальніцкага колеру. А маленькі ён быў па рангу. Але на чужаземцаў Бердыбігей Гурахмалі жадаў зрабіць вялікае ўражанне.

— Тавар?.. Ёсць тавар? За тавар трэба плаціць мыту, — начальнік звярнуўся да Палямона на міжнародным кайнэ — гаворцы, якую ведаюць усе купцы, мараплаўцы, падарожнікі, адукаваныя альбо проста дапытлівыя людзі.

Смешна падскокваючы на караценькіх ножках, начальнік прыстані пачаў хадзіць уздоўж ладдзі і зазіраць за борт.

— Мы не купцы. Тавару няма. Мы рыбакі, — на міжнароднае кайнэ перайшоў і Палямон.

Тым часам Бердыбігей Гурахмалі наблізіўся да ладдзі ўшчыльную.

— Р'ібакі… Р'ібакі… — вымавіў начальнік прыстані на свой манер. — Усе гавораць — р'ібакі… Пр'ёстыя р'ібакі. А потым па ўсім горадзе водар заморскіх духмянаў разносіцца. А вы ведаеце, што нават за адно каліўца духмянаў вялікую мыту заплаціць належыць? — ён прыскокнуў над бортам ладдзі і шмаргануў носам.

За бортам, нахіліўшыся да самай палубы, каб яго не было відаць з берага, хадзіў Санцелямон. У руцэ ён трымаў дрэнна правяленую рыбу. Санцелямон даўно хацеў яе па кавалачках скарміць чайкам, але цяпер гэтая сапсаваная рыба была вельмі дарэчы.

Яго брат Панцелямон, тым часам сядзеў на носе ладдзі і сачыў за начальнікам прыстані. Назіраў, як той смешна скача.

Як толькі Бердыбігей Гурахмалі ў чарговы раз сагнуў у каленях таўсцюткія ножкі і прыгатаваўся прыскокнуць, Панцелямон махнуў рукой — даў знак Санцелямону.

— У мяне нос, ведаеце які! Ого-го! Я ўчую нават нязначны пах, — начальнік прыстані прыскокнуў і, выцягнуўшы да палубы свой мясісты нос, моцна пацягнуў у сябе паветра.

Панцелямон у гэты час з іншага боку борта прыпадняў дрэнна правяленую рыбу амаль да самога носа Бердыбігея Гурахмалі.

— Фу-фе-фі… — начальнік прыстані заціснуў нос рукамі, увесь счырванеў, як бурак, надзьмуўся і скрозь заціснуты нос сказаў:

— Так… духмянамі тут і не пахне…

Бердыбігей Гурахмалі адышоў ад ладдзі, пасылаючы ў яе бок страшныя зіркі. Аднак ён аніяк не хацеў суцішацца. Уважліва паглядзеў на Алеоллу, на Арціна, на Халямона, Панцелямона, і, нарэшце, на капітана-Палямона, прыжмурыў адно вока, ад чаго яго твар прыняў выраз чалавека, які ўсіх вакол ва ўсім самым дрэнным падазрае.

— А незвычайныя рэчы ёсць? — рэзка спытаў ён, каб раптоўным пытаннем ашаламіць рыбакоў-кантрабандыстаў, і самому тым часам прасачыць за іх рэакцыяй.

Аднак рэакцыя была зусім не такая, якую Бердыбігей Гурахмалі чакаў.

— Гэта якія? — спакойна перапытаў Палямон.

— Як гэта, якія… чароўныя, магічныя, чарадзейныя.

— Ёсць! — сказаў Палямон.

— Ага… Што гэта? Паказвай! — вочы Бердыбігея Гурахмалі радасна і ў той жа час зласліва ўспыхнулі.

Ён махнуў рукой двум вартаўнікам, якія ахоўвалі ўваход у горад:

— Сюды, хутчэй! Кантрабанда!

Вартаўнікі прыбеглі, спадылба зірнулі на Палямона і накіравалі вастрыё дзід у яго бок.

— І што ж гэта за чароўныя рэчы? — прыкрым голасам спытаў Бердыбігей Гурахмалі.

— Гэта толькі адна рэч, — прызнаўся Палямон.

— Хоць бы і адна, — пацёр ад задавальнення рукі начальнік прыстані.

— Гэта чароўны на смак вугор. Ён прызначаны для хана Ісмірая. Гэта дарунак ад светлаазёрскіх і сінеазёрскіх рыбакоў, а аднясуць яго да вашага хана вось гэтыя хлопец і дзяўчына, — Палямон паказаў на Алеоллу і Арціна.

— Наш хан нікога не прымае, — з пачуццём уласнай годнасці сказаў Бердыбігей Гурахмалі.

— Добра, можа быць і не прымае, але ж ён есць?

Бердыбігей Гурахмалі зірнуў на чужаземца і, вырашыўшы, што той яго падначвае, прамовіў:

— Ну вядома ж, есць. Без ежы чалавек памірае.

— Значыць, яму могуць перадаць пачастунак ад прадстаўнікоў суседніх краін.

Бердыбігей Гурахмалі трохі задумаўся, а затым сказаў:

— Могуць.

— А цяпер уявіце, што хан Ісмірай загадае прынесці сабе на абед наш пачастунак — гэтага вугра з чароўным смакам. А пасля яго асабісты дэгустатар паспрабуе і пераканаецца, што страва не атручаная...

— А вугор сапраўды не атручаны? — з падазрэннем спытаў Бердыбігей Гурахмалі.

— Можаце самі ўпэўніцца. Вугор насамрэч не атручаны, але калі вы яго паспрабуеце, тады вы памрэце.

— Гэта чаму ж?

— Скажыце, ваш Вялікі Хан дазваляе вам… як вас клічуць, прабачце?

— Бердыбігей Гурахмалі, — разгублена прамовіў начальнік прыстані.

— Няўжо Вялікі Хан дазваляе персанальна вам, начальніку прыстані горада Гняздо Рыб, Бердыбігею Гурахмалі, каштаваць яго, ханскія, стравы?

— Не, вядома, не… — Бердыбігей Гурахмалі раптам узмакрэў і пачаў аглядацца па баках.

— А што Вялікі Хан зробіць з тым, хто без дазволу пакаштуе ягоную страву?

Бердыбігей Гурахмалі збялеў, потым пабарвавеў, потым зноў збялеў, дакладней, у яго збялела толькі галава, а шыя засталася чырвонай.

— Вось вы адчуваеце правільна, што зрабіў бы Вялікі Хан з такім чалавекам — адсёк бы яму галаву.

— Мы-гы, — выціснуў з сябе ў знак згоды Бердыбігей Гурахмалі.

— А цяпер падумайце, — працягваў Палямон, — што будзе, калі Вялікі Хан альбо яго асабісты дэгустатар пакаштуе наш падарунак, а замест чароўнага смаку будзе поўная гадасць? Што ён зробіць, па-вашаму?

— Што-што? — кроў зноў прыліла да галавы начальніка прыстані.

Ён адчуў сябе значна лепш і нават, ухмыльнуўшыся, сказаў:

— Загадае адсекчы галаву паслам рыбакоў. А ўсіх рыбакоў і сінеазёрскіх, і светлаазёрскіх, і жоўтарэчанскіх загадае патапіць. Вось як паступіць наш Вялікі Хан, — ганарліва сказаў Бердыбігей Гурахмалі і з пафасам дадаў: «Няхай жыве наш Вялікі і Мудры Хан Ісмірай!»

— Няхай жыве Вялікі і Мудры Хан Ісмірай! — гыркнулі ахоўнікі прыстані.

Тут жа гыркнулі ўсе, хто гэта гырканне пачуў.

Апошнімі, па знаку Палямона, гучна ўсклікнулі: «Няхай Жыве Вялікі і Мудры Хан Ісмірай», — Халямон, Панцелямон, Алеолла, Арцін і сам Палямон.

— Заўважце, — амаль без паўзы працягваў Палямон, — усе гавораць: «Вялікі і Мудры Хан Ісмірай».

Над бухтай зноў пранеслася: «Жыве Вялікі і Мудры Хан Ісмірай!»

— Вось менавіта… Мудры. А мудры кіраўнік, не разабраўшыся, не стане галовы секчы і караблі тапіць. Ён захоча даведацца, па чыёй віне чароўны смак ператварыўся ў гідкі. І хто ж будзе ў гэтым вінаваты?

— Хто? — залыпаў вачамі Бердыбігей Гурахмалі.

— Як хто? — здзівіўся Палямон. — Хіба вы не разумееце?

— Не.

— Будзе вінаваты той, хто затрымаў ханскую страву. Бо яна з кожнай хвілінай псуецца.

— І хто яе затрымаў?

— Вы, дарагі і высокашаноўны Бердыбігей Гурахмалі, — ветліва пакланіўся Палямон.

— Дык я яшчэ яе не затрымаў! — усклікнуў начальнік прыстані, пачынаючы разумець, што да чаго.

— Дык вы яе затрымліваеце!

— Ай-ай-ай! — закруціў галавой Бердыбігей Гурахмалі, — што ж рабіць? Хто з вас паслы да Вялікага Хана?

— Вось гэты хлопец і гэтая дзяўчына. Іх завуць Арцін і Алеолла, запомніце, — сказаў Палямон.

— Ай-ай-ай! — забегаў начальнік прыстані, — хутчэй сыходзьце, мае дарагія Арцін і Алеолла, з ладдзі! Каня мне, каня! — закрычаў ён.

Ніхто з вартаўнікоў нават не паварухнуўся.

— Чаго вы стаіце? — рыкаў на ахоўнікаў Бердыбігей Гурахмалі. — Бяжыце за канём! Мігам!

— Выбачайце, — сказаў адзін з вартаўнікоў, — нашага казённага каня вы з раніцы адправілі адвезці сушаныя дулі купцу Фарэнбеку. А купец жыве з іншага боку мыса.

— Конь пакуль не вярнуўся, — дадаў другі вартаўнік.

— Што ж рабіць! Што ж рабіць? — пыхкаў Бердыбігей Гурахмалі.

— Спадар начальнік прыстані… — пачаў першы ахоўнік.

— Ну-у! — надрыўна прароў Бердыбігей Гурахмалі, ад роспачы заломваючы сабе рукі.

— У стадоле застаўся казённы ішак, — працягнуў першы ахоўнік.

Бердыбігей Гурахмалі вытарашчыў вочы і яшчэ гучней закрычаў:

— Ішака мне, ішака!

Ахоўнікі перазірнуліся і, што ёсць духу, пусціліся да дзяржаўнай стадолы.

Начальнік прыстані аддыхаўся і вярнуўся да ладдзі Палямона. Менавіта ў гэты момант Арцін спускаўся на прыстань па перакінутай праз борт дошцы. Юнак сабраў свае рэчы ў паходную торбу. Туды ж паклаў і ільняны мяшок з вугром.

Бердыбігей Гурахмалі дапамог Арціну сысці, потым дапамог сысці і Алеолле. Яны памахалі рукой Палямону і яго сынам, але тыя стаялі, нічога не гаворачы і не паднімаючы рук. Толькі Брахіндзей саскочыў з ладдзі, абабег вакол Арціна і Алеоллы, паматляў хвастом і гаўкнуў — маўляў, вы куды? Раптам востры нюх сабакі ўчуў пах туфляў Бердыбігея Гурахмалі. Яны былі зроблены з цвёрдай скуры, зялёныя, з загнутымі ўгору насамі. Брахіндзей рыкнуў на іх, нібы на яшчарак, гучна чхнуў, развярнуўся — і зноў заскочыў у ладдзю.

У гэты момант з'явіліся двое вартаўнікоў. Яны вялі ішака — адзін цягнуў яго пад аброць, другі штурхаў ззаду. З вялікім намаганнем ішака атрымалася спусціць па прыступках да начальніка прыстані.

«Ладачка» адчаліла і пачала плаўна аддаляцца ад прыстані. Палямон і яго сыны яшчэ раз зірнулі праз правае плячо на Арціна і Алеоллу.

Палямон быў упэўнены, што цяпер з іх новымі сябрамі ў чужым горадзе нічога не здарыцца.

— Да сустрэчы! — крыкнулі рыбакам юнак і дзяўчына.

На ладдзі выпрастаўся жоўты з чырвоным арнаментам ветразь.

## V

## ПАКУЛЬ ВУГОР СВЕЖЫ

— У каго… У каго пачастунак для хана? — дрыготкім голасам спытаў Бердыбігей Гурахмалі.

— У мяне, — адказаў Арцін.

— Садзіся… Садзіся, слаўны юнача, і скачы, скачы хутчэй на гэтым ішаку ў ханскі палац, — пачаў упрошваць Арціна начальнік прыстані.

— Я адзін не магу. Я еду з Алеоллай.

— О, чароўная Алеолла, — залепятаў Бердыбігей Гурахмалі, — садзіцеся на гэтага ішака, бярыце ханскія пачастункі ў вашага выдатнага сябра Арціна і скачыце, скачыце ва ўвесь апор да палаца хана.

— Я без Арціна нікуды не паеду!

— О! — выдыхнуў Бердыбігей Гурахмалі. — Садзіцеся ўдвух, высокашаноўныя юнак і дзяўчына, на гэтага маладога жвавага ішака. Ён вас дваіх хутка даімчыць да ханскага палаца.

Алеолла заскочыла ў сядло. Ёй дапамог Арцін. Арціну ўзлезці на ішака дапамог

начальнік прыстані. Сядло было шырокае, доўгае, так што юнак і дзяўчына разам выдатна змесціліся.

— Пайшоў! Пайшоў! — крыкнуў Бердыбігей Гурахмалі.

Ішак крануўся, ледзьве перастаўляючы ногі. Без сумнення, любы хлопец перагнаў бы яго нават пешкі. Начальнік прыстані ўпёрся ў ішака ззаду, пачаў штурхаць наперад, але ішак не жадаў паскорыць тэмп хады.

— Што стаіце? — крыкнуў Бердыбігей Гурахмалі на вартаўнікоў. — Дапамагайце!

Яны рукамі націснулі на ішака, аднак той, адчуўшы, што яго моцна штурхаюць, наогул стаў, як укапаны.

— Вось упартая жывёліна! — раз’юшыўся Бердыбігей Гурахмалі. — Што ж рабіць?

— Лепш мы пойдзем пешкі, — сказала Алеолла.

— Так-так. Мы пешкі вельмі хутка ходзім, — пацвердзіў яе словы Арцін. Яму не хацелася потым адказваць за «казённага» ішака. Бо яго трэба было б вярнуць.

— Добра, я вас асабіста правяду да межаў горада, — сказаў Бердыбігей Гурахмалі.

Алеолла і Арцін саскочылі з ішака, а начальнік станцыі сам узлез на яго. Ішаку ад такой перамены лягчэй не стала, і хады ён не дадаў.

— Ідзіце. Ідзіце самі, каштоўныя мае… Я з вамі пашлю свайго лепшага вартаўніка. Калі ён будзе побач, то нічога дрэннага ў дарозе не здарыцца, і я змагу спаць спакойна. Курултан! — клікнуў начальнік прыстані. — Пойдзеш з нашымі высокашаноўнымі гасцямі.

— Хм, хм, — кашлянуў у адказ першы ахоўнік.

— Што такое? — раздражнёна спытаў Бердыбігей Гурахмалі.

— Спадар начальнік прыстані, па статуту на прыстані павінны дзяжурыць два вартаўнікі.

— Ну і што з таго? Не турбуйся, Курултан, мы знойдзем табе замену.

— Але двух іншых вартаўнікоў вы адправілі разам з канём да купца Ферэнбека. Каб яны ахоўвалі яго сушаныя дулі.

— Не хвалюйцеся, спадар Бердыбігей, — сказаў Арцін, — мы самі як-небудзь дабяромся.

— І мы нікому не распавядзём, што вы аглядалі ладдзю, на якой мы прыплылі, — дадала Алеолла.

— А гэта значыць, што вы нас зусім не затрымлівалі, — падтрымаў яе Арцін.

— О, так… Добра, добра… І Вялікі Хан не даведаецца, што я хацеў адведаць яго вугра?

— Не, клянёмся! — разам сказалі Арцін і Алеолла.

— Дзякуй вам, мае вельмікаштоўныя. Дзякуй!

— Курултан, правядзі гасцей да межаў горада і пакажы дарогу. Я за цябе тут падзяжуру.

— Да пабачэння!

— Да пабачэння!

— Шчаслівага шляху! — з палёгкаю ўздыхнуў начальнік прыстані горада Гняздо Рыб.

Курултан выканаў загад свайго начальніка. Ён паказаў Арціну і Алеолле дарогу.

— Ідзіце з мірам, — пажадаў вартаўнік, звонка грукнуў дзідай у бронзавы шчыт — у знак павагі, і павярнуў назад у горад.

* * *

На ўсім шляху мясцовыя жыхары, сяляне, рамеснікі, рыбакі, якія сустракаліся Арціну і Алеолле, прыязна і ветліва з імі віталіся. Дарога насамрэч была прамая, арыентавацца на ёй проста — ведай, ідзі сабе наперад. Мясцовасць цягнулася стэпавая і толькі на недалёкім гарызонце — гарыстая. Пераначавалі пад самотным мысам. Ноч выдалася дзівосная — цёплая, зорная, ціхая. Абышлося без прыгод і здарэнняў.

Бліжэй да поўдня наступнага дня Алеолла і Арцін наблізіліся да гары, ля падножжа якой раскінуўся горад Палац Садоў. Горад апраўдваў сваю назву — пасярод яго ззяў пазалочанымі дахамі палац кіраўніка, а сам горад патанаў у пышных садах. Персікі, апельсіны, мандарыны, грушы розных памераў, яблыкі розных колераў, шаўкоўніцы, абрыкосы спелі ў садах. На раздарожжах і плошчах Палаца Садоў усімі колерамі вясёлкі ў промнях яркага паўднёвага сонца пераліваліся разнастайныя фантаны.

— Давай хуценька забяжым у палац, перададзім Вялікаму Хану падарунак ад рыбакоў і пойдзем па сваіх справах, — прапанаваў Арцін.

— Давай, — падтрымала яго Алеолла.

Юнак і дзяўчына зазначылі, што людзі на вуліцах горада амаль не трапляліся. А калі і трапляліся, то былі апрануты вельмі змрочна — з галавы да пят захутаны ў чорныя або цёмна-шэрыя ўбранні. Размаўляць з незнаёмцамі яны не мелі аніякага жадання. Алеолле і Арціну з вялікімі намаганнямі ўдалося высветліць, дзе знаходзіцца вялікаханская канцылярыя, у якой прымаюць падарункі для Вялікага Хана.

У палац яны вырашылі не заходзіць — падумалі, а раптам ім прапануюць пагасцяваць, затым запросяць на бяседу, пачнуцца роспыты: як яны жывуць, як даехалі, што маюць намер рабіць у будучыні. А гэта, напэўна, зойме безліч часу. І калі яшчэ ўлічыць усе палацавыя цырымоніі і рытуалы, то ўсё гэта можа расцягнуцца не на дзень і нават не на два. Да таго ж, ні Арціну, ні Алеолле не хацелася нічога пра сябе распавядаць незнаёмаму чалавеку, няхай ён і Вялікі Хан. Ці мала што?

Вялікаханская канцылярыя размяшчалася на рагу сцяны, якая агароджвала палац і ўяўляла сабою даволі дзіўны будынак — ці то флігель, ці то альтанку з востраканцовай страхой. З боку палаца галоўны сакратар канцылярыі заходзіў у гэтую альтанку, адчыняў закратаванае ромбікамі акенца і ўсаджваўся за ім, а грамадзяне-просьбіты па чарзе падавалі свае пісьмовыя альбо вусныя прашэнні.

Вусных прашэнняў было значна больш. Іх грамадзяне-просьбіты шапталі на вуха галоўнаму сакратару канцылярыі. Ён запісваў імя і, калі было, то і прозвішча таго, ад каго атрымліваў прашэнне, а вось само прашэнне не запісваў — проста не паспяваў. Таму сакратаром канцылярыі спецыяльна прызначалі чалавека з натрэніраванай памяццю. Ён слова ў слова запамінаў прашэнні грамадзян-просьбітаў і перадаваў іх Першаму Візіру. Першы Візір, у сваю чаргу, вырашаў, якое прашэнне самае неадкладнае, і тады ўжо ішоў з ім на прыём да Галоўнага Візіра. А той ужо да Вялікага Хана.

Калі Алеолла і Арцін падышлі да флігеля канцылярыі, на дыванках для просьбітаў, пасцеленых на зямлі, ужо сядзела, скрыжаваўшы ногі і рукі, чалавек дзевяць.

А на закратаваным акенцы вісела шыльдачка з паведамленнем, выведзеным каліграфічным почыркам. Алеолла і Арцін не ўмелі чытаць на мясцовай мове. З людзьмі яны мелі зносіны ў асноўным на міжнародным кайнэ, якое вывучалі ў школах у родным мястэчку. Алеолла — у школе для будучых яснапаннаў, а Арцін — у ліцэі для будучых віцязяў. Алеолле ўдалося высветліць у мясцовых просьбітаў, што на шыльдачцы было напісана толькі тры словы: «У Першага Візіра».

Нічога не паробіш, давялося чакаць.

Да поўдня ў флігель-альтанку ўвайшоў вартаўнік. Ён моўчкі забраў выстаўленую шыльдачку, замест яе паставіў іншую і сышоў. Цяпер надпіс на таблічцы абвяшчаў: «Трэніную памяць».

Колькі сакратар канцылярыі трэніруе памяць, ніхто не ведаў, але ніхто і не абураўся.

Яшчэ праз некаторы час, вартаўнік зноў з'явіўся і зноў памяняў шыльдачкі. Цяпер усе просьбіты прачыталі кароткае слова: «Абед», хоць зразумець, што надышоў час абедаць можна было і не ведаючы мясцовай мовы. Усе грамадзяне-просьбіты амаль адначасова дасталі з торбачак аднолькавыя перапечкі і прыняліся іх жаваць ды запіваць сокам з бутэлек, выраблены́х з гарбуза.

Пасля абеду з'яўленне вартаўніка ўжо нікога не здзівіла. Той, зноў жа моўчкі, паставіў чарговую таблічку: «Сон, спрыяльны для засвойвання ежы».

Калі сышла паўдзённая спякота, за краткамі акенца нарэшце з'явіўся галоўны сакратар канцылярыі. Балазе, што з дзевяці просьбітаў, якія занялі чаргу перад Алеоллай і Арцінам, трое былі з пісьмовымі прашэннямі. Сакратар досыць хутка распытваў іх — хто яны, чым займаюцца, што ў іх за справа — запісваў, забіраў скрутак з прашэннем і адпускаў. А вось з вуснымі прашэннямі справа ішла значна цяжэй. Кожны з просьбітаў выкладаў сваю просьбу вельмі доўга і падрабязна. Акрамя таго, выслухаўшы тры вусныя прашэнні, галоўны сакратар выходзіў з канцылярыі, пакідаючы на акенцы таблічку з надпісам: «Адпачынак для памяці». І колькі будзе доўжыцца «адпачынак для памяці» — ведала толькі сама памяць галоўнага сакратара. Нарэшце, пад вечар Арцін і Алеолла падышлі да запаветнага акенца.

— Хто вы?

— Алеолла.

— Калі ёсць, то назавіце сваё прозвішча і род заняткаў.

— Будучая яснапанна Алеолла са Светлаазёрнай краіны, — адказала маладзіца.

— Месца нараджэння?

— Мястэчка Скемень.

Галоўны сакратар канцылярыі ўсё рупліва запісаў.

— А вы?

— Я будучы віцязь Арцін са Светлаазёрнай краіны, — адказаў юнак.

— Месца нараджэння?

— Таксама мястэчка Скемень.

— Што ў вас?

— Пачастунак для хана ад светлаазёрскіх і сінеазёрскіх рыбакоў.

— Гэта значыць у вас прашэнне не ад вас саміх?

— Не.

— Так, і хто яны?

— Хто?

— Гэтыя Рыбакі. Імёны… Месца нараджэння… Усё па парадку.

— Усіх імёнаў мы не ведаем.

— Не ведаеце, тады навошта вы ад незнаёмых людзей просіце? Мы такіх просьбаў не прымаем.

— Пастойце, — знайшлася Алеолла. — Мы памыліліся. Тых, хто нас папрасіў, мы ведаем, — усміхнулася яна ў акенца як мага больш ветліва.

— Такім чынам, хто яны? — падрыхтаваўся пісаць галоўны сакратар канцылярыі.

— Палямон, Халямон, Санцелямон і Панцелямон.
— Усё?
— Быццам бы ўсё.
— Як гэта быццам бы ўсё, — нахмурыўся галоўны сакратар канцылярыі, — хто-небудзь яшчэ быў?
— Яшчэ сабака Брахіндзей, — дапамог Алеолле Арцін.
— Сабака Брахіндзей, — запісаў галоўны сакратар канцылярыі. — Месца нараджэння?
— Каго, сабакі? — здзівілся Алеолла.
— Якога сабакі? Усіх пералічаных вамі рыбакоў! Што тут незразумелага?
— А, ну так... Мястэчка Слаўбор, Паўночны бераг Малога Светлага Возера.
— Просьба?
— Чаго? — замялася Алеолла.
— Абвясціце просьбу.
— А… Просьба такая: просім перадаць для Вялікага Хана ў якасці пачастунку вугра чароўнага смаку.
Галоўны сакратар канцылярыі закаціў вочы, заварушыў вуснамі, шэптам паўтараючы кожнае слова — гэтак ён запамінаў.
— ...для Вялікага Хана чароўнага вугра… — прашаптаў галоўны сакратар і «адкаціў» вочы на месца. — І ўсё?»
— Усё, — сказала Алеолла, а Арцін працягнуў у акенца закручанага ў мяшэчку вугра.
— Гэта што?! — галоўны сакратар страшна паглядзеў на Арціна.
— Як што? Гэта вугор, — здзіўлена сказаў Арцін.
— Вугроў не прымаем. Прымаем просьбы, — ужо роўным голасам прамовіў галоўны сакратар. — Наступны!
— Гэта вугор з чароўным смакам, — паспрабавала растлумачыць Алеолла.
— Вугроў з чароўным смакам таксама не прымаем, — адчаканіў галоўны сакратар.
— Але гэта ж хуткапсавальны прадукт! — не вытрымаў Арцін.
— Прадукты прымаюць у вялікаханскай прадуктовай экспертызе. Альтанка нумар тры. І ўлічыце, просьба, якую вы мне перадалі ад светлаазёрскіх рыбакоў, якая гучыць «прыняць чароўнага вугра», будзе перададзена візіру ў першую чаргу. Бо вы самі сказалі, што прадукт хуткапсавальны. І што будзе, калі гэтага прадукту не будзе? Альбо раптам ён сапсуецца?
— Зразумела. Да пабачэння!
Алеолла і Арцін з усіх ног пабеглі да альтанкі нумар тры. Яна размяшчалася на процілеглым рагу сцяны вакол ханскага палаца.
Здалёк юнак і дзяўчына ўбачылі, што галоўны камісар вялікаханскай прадуктовай экспертызы збіраецца зачыняць прыёмнае акенца. Людзі, якія перадавалі прадукты, пачалі ўжо разыходзіцца.
Арцін, які бег хутчэй за Алеоллу, крыкнуў: «Я пабягу першым, а ты даганяй!»
Ён ледзьве паспеў прасунуць далонь за краты акенца, калі яно ўжо зачынялася.
— У чым справа? — спытаў камісар і па звычцы пацягнуў носам.
На пасаду галоўнага камісара вялікаханскай прадуктовай экспертызы прымалі людзей толькі з выключна вострым нюхам. Па сутнасці — гэта быў галоўны нюхач краіны. Ён павінен быў вызначаць ступень прыдатнасці прадукту па адным толькі паху. А пасля адправіць гэты прадукт да Трэцяга Візіра. А той да вялікаханскага повара і дэгустатара.

— У нас хуткапсавальны прадукт.

— Вы што, рассмяшыць мяне хочаце? — здзівіўся галоўны камісар вялікаханскай прадуктовай экспертызы. — Смяяцца ў нашым горадзе не паложана!

— Не хачу я вас смяшыць. Прадукт насамрэч вельмі хутка псуецца! — працягваў Арцін.

— Вялікакаштоўны мой чужаземец, усе прадукты, якія хутка псуюцца, прыносяць раніцай! А цяпер канец працоўнага дня... — галоўны камісар вялікаханскай прадуктовай экспертызы зачыніў акенца і апусціў масіўную дошку.

— Ну што? — падбегла Алеолла, — перадаў?

— Не. Сказалі, што прадукты, якія хутка псуюцца, прымаюць толькі з раніцы.

— Ну, хоць у гэтым трохі пашанцавала.

— У чым?

— Раз прымаюць з раніцы, значыць, раніцай галоўны камісар будзе на месцы.

— Правільна, — пагадзіўся Арцін.

Давялося ім пераначаваць пад гарой.

На самым світанку Арцін і Алеолла ўжо стаялі каля акенца трэцяй альтанкі. Яны былі першымі ў чарзе.

Здагадка Алеоллы аказалася правільнай — галоўны камісар вялікаханскай прадуктовай экспертызы з самай раніцы прыйшоў на месца працы.

— Вось малайцы, каштоўныя мае чужаземы. Адчуваю, адчуваю — ваш вугор свежы, свяжэй не бывае. Гэта пышны далікатэс! Будзе яшчэ што-небудзь для нашага Вялікага і Мудрага Хана — абавязкова прыносьце. Усяго найлепшага.

Нарэшце Арцін і Алеолла адчулі сябе па-сапраўднаму вольнымі і пасля снеданку — хлеб з рыбкай (таксама пачастунак рыбакоў) і мясцовага вінаграднага соку — пачалі паднімацца на гару, пра якую ім распавядаў мастак Дроздзіч.

## VI

## ЧАМУ НЕ ТРЭБА СПРАЧАЦЦА З САБАКАМІ, КАТАМІ ДЫ ІНШЫМІ САМАСТОЙНЫМІ ЖЫВЁЛАМІ

Паветра ў гарах чыстае, заўсёды свежае і карыснае для арганізма, таму і ўзыходжанне было не надта складаным.

На гары стаяў іншы горад — пячорны. Аднак пячоры былі не прыродныя, а створаныя людзьмі.

— Вось як выдатна — нічога будаваць не трэба, — адзначыў Арцін, — выдаляеш з гары лішнюю пароду — вось табе і дом!

— Будаўніцтва наадварот, — падтрымала размову Алеолла.

У пячорным горадзе жылі вельмі спакойныя людзі, яны спявалі павольныя песні, гралі на мілагучных музычных інструментах павольныя мелодыі. На вуліцах паліліся духмяны. Гэта быў горад мудрацоў. Яны ўвесь дзень сядзелі, амаль нічога не елі і думалі.

Раз на год у горадзе праводзілі вялікі дыспут па пытанні — «Што кіруе чалавечай думкай: чалавек альбо чалавечая думка сама сабою кіруе?» Мудрэц, які перамагаў на гэтым дыспуце, абіраўся кіраўніком горада і цэлы год ім кіраваў. Праз год склікалі новы дыспут, і кіраўнік горада павінен быў зноў даказваць сваю правату. Калі ж у яго гэта не атрымлівалася, месца кіраўніка горада займаў іншы мудрэц — той, хто здолеў пераспрачаць свайго папярэдніка.

Амаль год таму на апошнім дыспуце перамог Абдурахмон Улюкбабай. Ён даказаў, што чалавек сам кіруе сваёй уласнай думкай. Праз месяц меўся быць новы дыспут, і ўвесь горад — ад малога да старога — думаў, як упэўніць Абдурахмона Улюкбабая ў тым, што думка сама сабою кіруе.

Алеолла і Арцін не сталі трывожыць жыхароў пячорнага горада, тым больш, на адной з вяршынь яны заўважылі тры старыя шаўкоўніцы, што раслі блізка адна ад адной.

— Мабыць, сярод іх ёсць тая, якую мы шукаем, — выказаў здагадку Арцін.

Юнак і дзяўчына накіраваліся да вяршыні з трыма шаўкоўніцамі. Калі падышлі да іх бліжэй, убачылі, што ўсе яны амаль засохлі. Толькі сям-там на галінках зелянелі маленькія лісточкі. Як ні ўзіраліся, ніякіх завязей — не тое, што ягад, ні Алеолла, ні Арцін не заўважылі.

— Можа, гэта не тыя шаўкоўніцы? — прызадумаўся Арцін.

— А вы добра падумаць не спрабавалі? — пачуўся ціхі вуркатлівы голас.

Сярод шаўкоўніц, задраўшы хвост трубой, важна прайшоўся паласаты кот. Нейкі дзівосны — сам жоўта-апельсінавы, а палоскі чорныя. Лапкі белыя, грудка белая і кончык хваста таксама белы, а вочы — ярка-зялёныя і такія хітрыя! Кот быў вялікім, памерам з рысь, але нейкі не надта ўкормлены. «Затое, — падумала Алеолла, — кот дагледжаны».

— Прашу адзначыць — самадагледжаны, — азваўся раптам кот.

— А вы што, думкі чытаць умееце? — здзівілася Алеолла.

— Калі вы так аглушальна думаеце, то чаго тут умець? — кот прысеў перад імі і бліснуў смарагдавай зрэнкай. — Але думаць трэба правільна.

— Ну-ну, цябе забылі спытаць, як нам думаць, — буркнуў Арцін.

Юнак расхваляваўся, што шаўкоўніцы моцна засохлі, і цяпер ламаў галаву, што ж рабіць.

— Калі правільна думаць, то заўсёды можна здагадацца, што рабіць, — аксамітным голасам растлумачыў кот.

— І што нам трэба рабіць? — пацікавілася Алеолла.

— А што звычайна робяць з паўзасохлымі раслінамі? — правуркатаў кот і зачапіў хвастом камель адной з шаўкоўніц.

— Я і без цябе, ужо сам здагадаўся, — перабіў ката Арцін.

— Сам-мм, так сам-мм, — спакойна прамурлыкаў кот і пацягнуўся.

— І што? — нецярпліва спытала Алеолла ў Арціна.

Ёй не падабалася, што будучы віцязь пачынае задзірацца з гэтым хітрым катом. Яна выдатна ведала, што нельга ні чапаць, ні гладзіць незнаёмых катоў, ні дражніць іх, ні бегаць за імі, ні, тым больш, спрачацца з імі, а таксама з сабакамі ды іншымі самастойнымі жывёламі.

— Усё проста, — сказаў Арцін, — шаўкоўніцы трэба паліць.

— Н-так, так, м-малайчына... Трэба паліць, — пацвердзіў кот.

— Ой, ну што б мы рабілі без такога разумніка! — працягваў кпіць Арцін.

Юнак і дзяўчына адправіліся ў пячорны горад. Ім трэба было знайсці што-небудзь для пераносу вады, таму, нядоўга думаючы, яны зазірнулі ў першы, які трапіўся, пячорны дом над самым абрывам — а значыць, на ўскраіне горада. У глыбіні дома яны ўбачылі гаспадара.

Старац, захутаны ў чырвоны халат, з серабрыстай чалмой на галаве, сядзеў на саламяным дыванку, падціснуўшы ногі, і гладзіў сівую завостраную бараду. Ён быў пагружаны ў свае думы. Скрозь круглае акенца, высечанае ў сцяне, ён глядзеў

у неба — а неба было насупраць — гара ж высокая. У старца з-пад чалмы тырчалі шырокія, пакрытыя кароткім белым пушком, вушы. Мудрацам гэтага горада вушы былі вельмі патрэбныя для таго, каб добра і ў дэталях, чуць усё тое, што гаворыць ім іншы мудрэц. Бо калі добра пачуць якое-небудзь слова, заўсёды можна прыдумаць процілеглае яму слова.

— Тук-тук-тук, — прамовіў Арцін, бо замест дзвярэй у пячорных дамах выкарыстоўвалі дываны, яркія, пярэстыя і вельмі прыгожыя. Звычайна на іх выяўлялі закручаны спіраллю арнамент. Дываны звісалі над прахонамі, якія служылі ўваходам у пячору, дыванамі ўцяплялі сцены, іх рассцілалі на падлозе.

Біць сагнутым пальцам у дыван — няма карысці, таму Арцін агучыў ветлівы грук голасам. Але ў гэтым ціхім горадзе ніхто не ведаў, што трэба стукацца, таму і адказу не было.

— Выбачайце, калі ласка, — Алеолла шырока адкінула дыван і зазірнула ў дом. — Можа быць, у вас знойдзецца вядро альбо які-небудзь цэбар? — ветліва спытала яна на міжнародным кайнэ.

Старац у серабрыстай чалме падняў адно касматае брыво і паглядзеў на госцю адным вокам. Другім жа вокам усё яшчэ ўзіраўся ў нябесную далячынь.

— Вядро… Цікавая рэч, — пачаў услых разважаць старац. — Калі яно стаіць уніз дном, то гэта, вядома ж, вядро, а калі ўверх дном — то што гэта?

— Круглая табурэтка, — тут жа скеміў Арцін.

— Паслухайце, юнача, каб стаць мудрым, трэба шмат у сваім жыцці перадумаць, — старац падняў другое брыво і другім вокам паглядзеў на Арціна. Пры гэтым кожнае яго вока глядзела ў свой бок.

Нікольki не бянтэжачыся такога дзіўнага выгляду, старац працягнуў:

— Калі вядро перакуліць, то атрымаецца антывядро, ці не так? Тады колькі ні налівай у яго ваду, вада будзе толькі бегчы па сценках, не трапляючы ва ўнутр.

— А навошта ж наліваць ваду ў перакуленае вядро? — спытала Алеолла.

Старац перавёў на яе вока, якім глядзеў на Арціна, падняў мезенец правай рукі ўгору і павучальна вымавіў:

— Каб упэўніцца!

— Упэўніцца ў чым? — паспрабавала высветліць дзяўчына.

— У правільнасці думкі, — прамовіў старац такім тонам, быццам усміхнуўся, але ён зусім не ўсміхаўся.

Ён заплюшчыў вочы.

— Выбачайце, — Алеолла спалохалася, што старац пакрыўдзіцца з-за яе нетактоўнай настойлівасці і вельмі глыбока сыдзе ў сябе, — так можа вы ўсё-ткі пазычыце нам вядро ці мо антывядро, альбо цэбар?

Старац падняў бровы, затым расплюшчыў павекі і зірнуў на Алеоллу.

— Ні вядра, ні цэбара не пазычу, таму што мне вядро і цэбар самому патрэбны…

— Мы вам абавязкова іх вернем, — з імпэтам паабяцаў Арцін.

— Нельга вярнуць таго, што нельга ўзяць, — спакойна прагаварыў старац.

— Калі вы нам дазволіце, мы возьмем, — сказала Алеолла.

— Нельга ўзяць таго, чаго няма, — манатонна працягваў старац.

— Няма? — здзівіўся Арцін.

— Вось бачыце, юнача, думкі трэба заўсёды правяраць. Тое, што мне патрэбна, не азначае, што я гэта маю...

— А ваду вы чым носіце? — запытала Алеолла.

— Носім… — аблічча старца ажывілася. — Гэта вельмі цікава. Слова «носім» можна разглядаць дваяка. Альбо мы што-небудзь на руках носім, альбо што-небудзь нюхаем. А нюхаем мы носам, значыць, можна сказаць — «носім».

— А чым жа акрамя носа можна яшчэ нюхаць? — паціснула плячамі Алеолла. — Калі б мы маглі нюхаць ротам, то можна было б сказаць, што мы «роцім»?

— Дзяўчына, не блытайцейся і іншых не блытайце, — нахмурыўся старац, — «роцім» мы ротам, калі ямо ці п'ямо, і больш нічога да слова «роцім» прыдумаць немагчыма, у адрозненні ад слова «носім».

— Чаму толькі калі ямо… Мы яшчэ «роцім», калі размаўляем, — па-свойму разважала Алеолла.

— Добра, добра, — прымірэнча пачаў Арцін, — а з чаго вы ваду п'яце?

— З чаго мы ваду п'ямо, — задумаўся старац. — Мы п'ямо ваду з вады… Вада складаецца з празрыстай вадкасці без паху і смаку.

Арцін нават пачырванеў ад напружання — што б ён ні казаў, старац усё разумеў па-свойму.

— З якой пасудзіны вы ваду п'яце? — знайшлася Алеолла.

— Вось так бы адразу і сказалі. Выказвацца трэба дакладна. Хаця дакладна выказвацца — гэта вялікае мастацтва. Спасцігнуць яго можна толькі з гадамі… — старац падняў мезенец у гору.

— Ну так, выбачайце, з якіх ёмістасцей вы ваду п'яце? — трохі паправіўшы пытанне Алеоллы, сказаў Арцін.

— Значыць так, з далоні, кубка, піалы, са сподка… — пачаў пералічваць старац.

— Добра, добра, а ў кубак, піалу ці сподак вы з чаго ваду наліваеце? — прыпыніў яго Арцін.

— З амфар, — проста адказаў старац.

Было відаць, што старцу гутарка пераставала падабацца.

— А можна папрасіць у вас амфару? — спытаў Арцін.

— Можна, — адказаў старац. — Прасіць часам жыццё прымушае.

— Мы просім вас пазычыць нам адну альбо дзве амфары, з якіх вы наліваеце ваду ў кубак ці піалу, — ветліва сказала Алеолла.

— Калі ласка, там яны, у куце закапаныя… І прашу мне вярнуць іх моўчкі. Гэта ж трэба, — ледзь гучней звычайнага прамовіў старац, — усякая спрэчка зводзіцца да таго, каб папіць альбо паесці! Пэўна, усё-ткі не думка кіруе думкай чалавека, і нават не сам чалавек, а яго страўнік…

Але Алеолла і Арцін ужо не слухалі старца. Яны прайшлі да таго кута, на які ён ім паказваў. Там, у земляной падлозе былі закапаны пяць гліняных амфар. Адна была напоўнена вадой, другая — вінаградным сокам, трэцяя — аліўкавым алеем. А вось дзве іншыя амфары былі пустыя. Адну з іх Алеолла і Арцін адкапалі. Амфара аказалася паўтара метра ў вышыню, з дзвюма круглымі ручкамі — як быццам да яе бакоў прыляпілі па палове вялікага абаранка. А дно ў амфары было завостранае. Такое дно прыдумалі адмыслова для таго, каб амфары былі ёмісцей — бо іх укопвалі ў зямлю. Аднак з-за такога вострага дна амфару немагчыма было нікуды паставіць.

Алеолла і Арцін падхапілі адкапаную імі пасудзіну за ручкі і накіраваліся да выхада з пячорнага дома.

— Дзякуй, — сказалі яны старцу, праходзячы паблізу ад яго.

Старац прамаўчаў, закаціў вочы пад касматыя бровы. Ён працягваў узмоцнена думаць.

Алеолла і Арцін спусціліся з гары, дзе размяшчаўся пячорны горад, да самога яе падножжа. Там струменілася чыстая крыніца, у ёй юнак і дзяўчына набралі поўную амфару вады.

— Цяжкавата, — прызнаўся Арцін.

Ён узяў за адну ручку, Алеолла — за другую, і яны пацягнулі важкую амфару да вяршыні з трыма шаўкоўніцамі.

У іх з-пад ног па схіле ляцелі каменьчыкі, у Алеоллы пачалі саслізгваць сандалі. Юнак і дзяўчына спатыкаліся, але заўсёды дапамагалі адно аднаму. Ішлі ўпарта ўгару, імкнуліся, як мага менш разліць вады.

— Ну што, вельмі цяжка? — спытаў кот, які быццам чакаў іх каля шаўкоўніц.

— Не, вельмі лёгка, — раздражнёна адказаў Арцін.

— Не варта так надрывацца і нервавацца, трэба эканоміць сілы, — зноў прамуркаў кот. — Раптам яшчэ раз давядзецца па ваду ісці?

— Нічога, сходзім, — адказаў Арцін.

— А я ўжо стамілася, — Алеолла прысела на нагрэты сонцам камень.

— Добра, калі будзе трэба, я сам схаджу, — Арцін перакуліў амфару і выліў крынічную ваду пад корань кожнай шаўкоўніцы.

Было чуваць, як шумна дрэвы пілі ваду.

Прайшоў некаторы час, але з шаўкоўніцамі нічога не адбывалася. Якія былі — напалову засохлыя і амаль нежывыя — такімі і заставаліся.

— Можа, яшчэ па ваду трэба схадзіць? — прапанаваў Арцін.

— Можа і трэба, — адказаў яму кот.

— А можа, яшчэ пачакаць? — Арціну не вельмі хацелася зноў цягнуцца з цяжкай амфарай, тым больш, аднаму.

— М-можа і пачакаць, — абыякава прагаварыў кот.

— І колькі трэба чакаць, пакуль з'явяцца ягады? — не вытрымала Алеолла.

— М-можа і м-месяц, і год, а м-можа і ўсе пяць гадоў. І пры гэтым кожны дзень трэба будзе паліваць шаўкоўніцы, — далікатна правуркатаў кот.

— Так доўга... А нашыя бацькі, нашыя землякі будуць тым часам пакутаваць у скляпенні-цямніцы. Што ж нам рабіць? — засмучоным голасам спытала Алеолла.

— Перш чым засмучацца, — парэкамендаваў кот, — трэба азірнуцца вакол і ўважліва прыгледзецца.

— Дый што гэты кот нас пастаянна павучае! — абурыўся Арцін. — Больш трэба паліваць, і ўсё тут!

— Я стамілася, — сказала Алеолла.

Яна села пад адну з шаўкоўніц і заплюшчыла вочы.

— Добра, я сам прынясу вады, — усклікнуў, падахвочаны катом, Арцін.

Юнак схапіў амфару, збег па схіле да ручая, набраў вады і ўжо ў адзіночку, цалкам выбіўшыся з сіл, прынёс амаль поўную амфару.

— Навошта ж так надрывацца, — наракала Алеолла, — можна было і пачакаць, калі я адпачну.

Арцін нічога не адказаў, ад стомленасці ён проста паваліўся на зямлю, раскінуўшы рукі.

— Праца тых валіць з ног, хто паразважаць не змог, — пракаментаваў кот.

Алеолла сама ўзялася паліваць шаўкоўніцы. Дзіўна, але кот — а ён аказаўся моцным, дапамог ёй — падтрымліваў амфару сваёй руда-паласатай лапай.

Сонца паступова схілялася да захаду. Падаўжэлі цені. Аднак з дрэвамі па-ранейшаму нічога не адбывалася.

— Пэўна прыйдзецца доўга чакаць, — уздыхнуў Арцін.

— Пачакай, пачакай... — Алеолла сядзела на камяні, аглядаючы ўсё вакол, як і раіў той дзіўны кот. — Глядзі!

Дзяўчына заўважыла, што ў людзей з пячорнага горада сады на самай вяршыні гары былі пышныя і раскошныя. На дрэвах наліваліся вялікія сакавітыя плады. А вось дзікія дрэвы, якія раслі ніжэй — тыя ж грушы, алыча, персікі — выглядалі карлікавымі, і плады ў іх былі зусім дробныя.

— Ну і што, — сказаў Арцін, ён ляжаў на зямлі і адпачываў, — проста людзі з горада добра свае сады даглядаюць.

— У гэтым ты, вядома, маеш рацыю, — пагадзілася Алеолла, — але з іншага боку, чаму тады вакол той крыніцы, дзе мы ваду бралі, так мала слядоў людзей? І наогул, падаецца, мясцовыя жыхары там ваду не бяруць.

— Але ж вада не атручаная, я сам яе піў! — Арцін усё яшчэ пачуваўся стомленым і таму быў раззлаваным.

— Назіранне — шлях да спазнання, — зноў умяшаўся кот.

— Ну, што гэта за жывёліна такая прыставучая! — Арцін нацягнуў на вочы свой капялюш з пяром, дэманструючы, што не хоча слухаць гэтага ката, і, увогуле, хоча спаць.

— Адпачывай, а я пайду ў горад, паназіраю за яго жыхарамі, — сказала Алеолла.

— Праўду кажаш, праўду, — пагадзіўся кот.

Алеолла дастала сыр, адламала кавалачак і пачаставала ката, а сама адправілася ў горад.

Кот з найвялікшым задавальненнем еў сыр, акуратна трымаючы яго дзвюма лапамі, адкусваў маленькімі кавалачкамі, каб гэтыя кавалачкі паволі раставалі на яго шурпатым язычку. Кот гучна муркатаў, прымружыўшы вочы ад асалоды.

У горадзе Алеолла заўважыла, што жыхары бяруць ваду з пячоры, у якой пракапана глыбокая студня. А выцягваў ваду са студні асёл. На пляцы перад гэтай пячорай ён хадзіў па крузе і намотваў тоўстую вяроўку на вялікую драўляную шпулю. Яна ціха парыпвала, калі круцілася. На іншым канцы вяроўкі было прывязана вялікае драўлянае вядро. Вяроўка была вельмі доўгай — крокаў дзвесце.

«Нічога сабе, якая глыбокая студня, у самае чэрава гары ідзе», — падумала Алеолла і падышла да асліка.

— І не сумна заўсёды хадзіць па крузе, спачатку туды, потым сюды, — дзяўчына дала аслу хлеба.

Той пажаваў яго, праглынуў і прамовіў:

— Дзякуй. Ні-Ікольчкі-І, — гук «і» ён прамаўляў не пры выдыху, як усе людзі, а пры ўдыху. Хаця, гук «ы», ён прамаўляў гэтак жа як і «і».

Алеоллу зусім не здзівіла, што як і той кот вучоны, ослік размаўляе на чалавечай мове — за такі доўгі час аднастайнай працы ён мог папросту навучыцца.

— Так-так. Я прайшоў трыЫ міІльёны двесце пяцьдзясят тыЫсяч трыЫццаць адзіІн круг, так што выЫвучыЫў чалавечую мову, — нібы прачытаўшы яе думкі, сказаў асёл. — Так-так... Цяпер я вучуся чыЫтаць думкі-І. Нашмат лягчэй чыЫтаць думкіІ дзяцей, а вось у мудрацоў яныЫ занадта ўжо мудрагеліІстыЫя іІ нейкі-Ія-ія-ія звіІліІстыЫя-ыя-ыя. Кажуць, чыЫм болей у чалавека звіІліІн, тыЫм ён мудрэйшыЫ.

— А як ты чытаеш думкі?

— Па вачах, яснапанна Алеолла, па вачах, — адказаў ослік.

— Будучая яснапанна, — паправіла дзяўчына, — а пакуль што проста Алеолла... Значыць, ты ведаеш, чаму людзі не бяруць ваду з ручая, а цягаюць яе з такой глыбіні?

— Вядома, ведаю. Вада з ручая сама прабіІлася на паверхню, прайшла скрозь пластыЫ пяску іІ камянёў, цалкам прафіІльтравалася, стала чыЫстая-чыЫстая. Таму ў ёй вельміІ мала дробненькіІх, ледзь прыкметных крыЫшталіІкаў, міІнеральныЫх рэчыЫваў, якіІя так даспадобы расліІнам. А ў вадзе са студніІ іІх шмат, таму што вада ў студніІ настаялася іІ насыЫцілася гэтыЫміІ міІнеральныЫміІ рэчывамі. Таму лепш паліІваць расліІны гэтай чароўнай вадой.

— Дзякуй за навуку, мой дарагі ослік, — Алеолла пацалавала яго ў вялікі прахалодны нос, — ты мне дастанеш вады са студні?

— Так-так, Алеолла. Твой хлеб вельміІ смачныЫ. А каліІ тыЫ мяне адвяжаш, я прыЫвязу табе гэтую амфару да шаўкоўніІц.

Так ослік і зрабіў.

Калі яны дайшлі да вяршыні з шаўкоўніцамі, то ўбачылі, што Арцін яшчэ спіць, а побач з ім, скруціўшыся вялікім клубком, спіць паласаты кот. Вечар быў цёплы, і зямля за дзень добра прагрэлася.

Аднак у катоў вушы ніколі не спяць, таму, пачуўшы крокі асла, кот умомант прачнуўся.

— Вось што значыць розум і дабрыня, — пахваліў кот Алеоллу.

Расплюшчыў вочы і Арцін, ён адчуў каля вуха кацінае муркатанне:

— Ты мне нават паспаць не даеш!

Кот важна адышоў убок.

Арцін і Алеолла знялі са спіны осліка амфару і палілі шаўкоўніцы вадой са студні.

— Ослік, а ты выпадкова не ведаеш, якая з гэтых шаўкоўніц шчасце прыносіць? — спытаў Арцін.

— Не ведаю, мне ўсяго толькіІ дзвесце пяцьдзясят гадоў, а гэтыЫм шаўкоўніцам нашмат больш, іІ я ніІколі не бачыЫў, каб у іІх быЫліІ пладыЫ.

— Назіранне — шлях да спазнання, — паўтарыў сваю любімую прымаўку кот.

— Ну, што ты не даеш з разумнымі звярамі пагаварыць! — узʼеўся на ката Арцін.

— Дзякуй табе за дапамогу, — сказала Алеолла осліку і працягнула яму яшчэ адзін кавалачак хлеба.

Асёл падсілкаваўся і адправіўся назад у горад — вучыцца чытаць мудрагелістыя думкі мудрацоў.

Шаўкоўніцы прагна пілі ваду, але ўсё роўна з імі не адбывалася аніякіх змен.

— Вядома, на осліку прывезці вады значна лягчэй, чым прыцягнуць на сваіх плячах, — сказаў Арцін Алеолле.

— Гэта вада не з ручая, а з горада.

— А якая розніца, усё роўна шаўкоўніцы не ажываюць.

— Раніцай і неба, і галава светлыя, — прамовіў кот і знік у вячэрнім змроку.

Ноч наступіла вельмі хутка, не так, як у раўніннай краіне. Не паспела сонца зайсці за гару, як на зямлю спусціўся змрок, а на небе высыпалі зоркі.

— Насамрэч, давай пачакаем да раніцы, — сказала Алеолла.

## VII

## МЕТАДАМ СПРОБ І ПАМЫЛАК

І сапраўды, раніцай наступнага дня на ўсіх шаўкоўніцах з'явіліся кветкі. А праз дзень — завязі.

— Глядзі, ягады! — усклікнула на трэці дзень Алеолла.

На адной з шаўкоўніц ягады былі жоўтыя, на другой — чырвоныя, а на трэцяй — цёмна-фіялетавыя.

— Ну, і якая з гэтых шаўкоўніц тая, што нам патрэбна? — услых падумаў Арцін.

— Назіранне — шлях да спазнання, — замест прывітання прамовіў кот.

Ён пачуў пра ягады і прыйшоў паглядзець, што будзе далей.

— З'явіўся не запыліўся... Ізноў прыйшоў нам дакучаць, — прабурчаў Арцін.

— Я не дарога, каб пыліцца, — ганарліва адказаў кот.

— Ён прыйшоў да нас паснедаць, — растлумачыла Алеолла.

— Вось бачыш, Алеолла, пасля размоў з такімі разумнымі звярамі, як я, ты таксама навучылася думкі чытаць, — зазначыў кот.

— Так, — усміхнулася Алеолла.

— Дый што тут чытаць, калі ў цябе ўсё на тваёй хітрай пысе напісана, — абурыўся Арцін.

— Не кажы… Ты ж сам нічога не зразумеў, што ў м-мяне на м-мордачцы напісана, — прамуркатаў кот.

— Досыць ужо вам між сабою спрачацца! На галодны страўнік спрачацца вельмі шкодна, — Алеолла паспрабавала хоць неяк іх прымірыць.

Дзяўчына наліла кату на пляскаты камень смятаны.

— Алеолла, а ці няма ў цябе яшчэ хоць бы маленькага кавалачка сыру? — аблізнуўшыся, спытаў кот.

— Нічога сабе, мы яшчэ павінны гэтага назолу сваім сырам карміць, — не ўтрымаўся і буркнуў Арцін.

— Ну што ты, частуйся, на здароўе, — Алеолла працягнула кату сыру.

— Ц-ц-ц, — прыцмокнуў кот, прыжмурыўшыся, — такога смачнага я яшчэ ніколі не спрабаваў.

Арцін першы з'еў свой хлеб, вялікую лыжку смятаны, запіў крынічнай вадой і накіраваўся наўпрост да шаўкоўніц.

— Значыць так, — сказаў Арцін, — я паспрабую ягады з кожнага дрэва. Якая мне дасць прыліў радасці — тая, значыць, і ёсць шчасцядайная.

— Ну так. Метад спроб і памылак... — жуючы сыр і гучна муркаючы, — пагадзіўся кот. — Самы просты метад... Толькі вось хто тыя памылкі выпраўляць будзе.

— Можа, не трэба, а? — занепакоілася Алеолла.

— Баяцца няма чаго, — расхрабрыўся будучы віцязь. — Усе ведаюць, што плады шаўкоўніцы ядомыя. Я ж толькі па адной ягадцы паспрабую. Больш слухай гэтага разумніка. Кацяра толькі дзеля сыру з намі размовы размаўляе.

— Ну-ну, паспрабуй, паспрабуй, — вуркатаў кот.

— Ну і паспрабую...

— Можа, не трэба, — пачала ўпрошваць Алеолла.

— Не турбуйся, я ўсяго толькі пакаштую...

— Цьфу ты, гадасць якая! Ну і кісляціна! — Арцін выплюнуў фіялетавую ягаду. — Хіба можа шчасце быць такім кіслым? — разважаў ён. — Не можа!

Наступнай была шаўкоўніца з жоўтымі ягадамі.

— Фу, якая горкая... — сплюнуў Арцін, ледзь надкусіўшы ягаду. — А горкім хіба яно можа быць? Таксама не можа!

Арцін накіраваўся да шаўкоўніцы з чырвонымі ягадамі.

— Ха-ха! Я думаю, гэта яна! Ха-ха! Чацвёртага не дадзена… Ха-ха! — Арцін адкусіў чырвоную. — Сапраўды! Ха-ха-ха! Салодкая! Якая салодкая! Вось гэтых ягад нам і трэба назбіраць.

— Калі задачка лёгка вырашаецца, заўсёды варта пераправерыць, — параіў кот.

— Лёгка, а-ха-ха! Усё проста, ха-ха-ха! Салодкая — ха-ха-ха, смачная — ха-ха-ха!

Арцін стаў хутка збіраць чырвоныя ягады ў свой капялюш.

— Ха-ха-ха! Ха-ха-ха! — яму стала так весела, ён проста заліваўся смехам. — Ха-ха-ха! Усіх ашчаслівім! Ха-ха-ха!

— Што гэта з табой? — занепакоілася Алеолла.

— Нічога! Ха-ха-ха! Добра! Ха-ха-ха! Весела! Ой, не магу, усім будзе весела! Ха-ха-ха! Го-го-го! Усім! Ха-ха-ха! На, паясі чырвоных... Ха-ха-ха! — весялосць проста перапаўняла юнака.

— Не, не буду. Што гэта з ім? — устрывожылася Алеолла.

— Што-што... Ён абраў метад спроб і памылак, — насупіўся кот — паспрабаваў і памыліўся. Карацей, аб'еўся шчасцем.

— І што цяпер рабіць?

— Што рабіць, што рабіць… Трэба нейтралізаваць лішняе шчасце, якое ён з'еў.

— Ха-ха-ха! Го-го-го! Нейтралізаваць! Ха-ха-ха! — працягваў заходзіцца смехам Арцін.

— Як гэта? — перапытала ката Алеолла.

— Нейтралізаваць — значыць, зрабіць так, каб лішняе шчасце ў яго арганізме перастала дзейнічаць.

— А! Я зразумела! Трэба, каб ён больш з'еў фіялетавых альбо жоўтых ягад. Фіялетавыя — кіслыя — гэта ягады смутку. Жоўтыя — горкія — значыць, гэта ягады гора. Арцін паесць іх і нейтралізуе лішняе шчасце...

— Скажам, гэта не зусім так, — задумаўся кот. — І мой хвост не так і прост. Гэта была б залёгкая задача. Напрыклад, я ніколі не чуў, што тут растуць дрэвы гора альбо смутку. А ваш знаёмы мастак вам пра гэта казаў?

— Ха-ха-ха! Хвост не прост! Хвосцік не просцік! Хвасток не прасток! Ха-ха-ха! — смяяўся Арцін.

— Не, мастак пра гэта не гаварыў, — адказала Алеолла.

— Значыць так, мы ведаем насамрэч толькі адно: нейкая з гэтых трох шаўкоўніц — шчасцядайная, — разважаў кот. — І нам вельмі-вельмі трэба зразумець, якая менавіта.

Раптам кот прыскокнуў да Арціна, зубамі выхапіў у яго капялюш з чырвонымі ягадамі і пабег.

— Гэй! Стой, а-ха-ха! — закрычаў Арцін і кінуўся ўслед за катом. — А-ну, аддай капялюш! Ха-ха-ха!

Кот заскочыў на шаўкоўніцу з фіялетавымі ягадамі.

— Аддай, табе кажу, ха-ха-ха! Аддай, ану! — Арцін паспрабаваў заскочыць на дрэва, але ад гэтага яму стала яшчэ смяшней. — Угу-гу! Га-га-га! — ён схапіўся за жывот.

Тады кот саскочыў на зямлю і перабег на шаўкоўніцу з жоўтымі пладамі. Арцін — за ім.

І як толькі юнак апынуўся пад кронай гэтай шаўкоўніцы, ён зрабіўся сур'ёзным і прамовіў:

— Гэй, ты, кот-абармот, як я пагляджу, ты робішся ўсё больш і больш нахабным.

— Усё ясна, — мармытнуў кот.

Ён спусціўся з дрэва і аддаў Арціну капялюш.

— Чырвоныя ягады можаш есці спакойна, а вось жоўтыя, пад якімі стаіш, лепш не чапаць...

— Дык што табе ясна? — спытала Алеолла.

— Вось гэта і ёсць тая самая шаўкоўніца шчасця, — кот лапай паказаў на дрэва, пад якім стаяў Арцін.

— Гэтая? Горкая? — засумняваўся будучы віцязь.

— Ну, так.

— З чаго ты гэта ўзяў? — пацікавілася Алеолла.

— А вось, глядзі. Гэй, віцязь Арцін, выйдзі з-пад дрэва, — папрасіў кот.

— Навошта гэта?

— Ну, выйдзі, калі просяць.

Арцін зрабіў крок з-пад кроны шаўкоўніцы з жоўтымі ягадамі і тут жа пачаў смяяцца.

— Ха-ха-ха. Што гэта са мной! Ха-ха-ха!

— Давай назад! — усклікнула Алеолла.

Ён зрабіў крок назад у цень шаўкоўніцы і тут жа перастаў смяяцца.

— Ну што, зразумелі, нарэшце? — прамурмуркаў кот.

— Ну, амаль... Хоць не зусім.

— Добра, растлумачу, — кот важна падняў хвост і пачаў павольна хадзіць паміж Алеоллай і Арцінам. — Я заўважыў, што Арцін стаў смяяцца яшчэ да таго, як паеў чырвоных пладоў.

— Так-так, сапраўды, я таксама гэта заўважыла, — пагадзілася Алеолла.

— А я нічога не заўважыў, — надзьмуўся Арцін. — Мне што, проста так нельга пасмяяцца?

— Смяяцца-то можна. Але сам ведаеш, смех без прычыны прыкмета каго? — раззлавана прамовіла Алеолла.

— Як толькі ён пачаў смяяцца, — працягнуў кот, — я зразумеў, што падзейнічалі ягады шчасця, але чырвоных ягад ён тады яшчэ не спрабаваў. Таму застаецца толькі два невядомых, так? Але з двух таксама неяк трэба выбіраць. Па смаку, бачыце, не атрымліваецца. І тут мяне азарыла, — кот ганарліва ўзняў галаву, — дрэва шчасця — гэтае дрэва шчасця, і яно не можа побач з сабою ствараць няшчасце. А лішняе шчасце — гэта тое ж няшчасце. Таму дрэва само павінна лішняе шчасце нейтралізаваць. Вось яно як. Калі ты, Арцін, выходзіш з-пад яго кроны, як быццам з-пад яго апекі, то адразу атручваешся лішнім шчасцем — і ў выніку, ледзь не лопаешся ад смеху… І цяпер ты не зможаш жыць удалечыні ад гэтай шаўкоўніцы. Ты проста памрэш са смеху.

— Што мне ўсё жыццё тырчаць пад гэтым дрэвам? — раззлаваўся Арцін.

— На жаль, так, — падвынікаваў мудры кот.

Ён пашкроб лапай за вухам, потым выпрастаў на мордачцы вусы і дадаў:

— Пакуль мы не прыдумаем, як табе дапамагчы.

— Ну вось. Казала ж я табе, не спрачайся з вучонымі звярамі, не еш гэтых ягад, — сказала Алеолла.

— Нешта тут не так... — падумаў услых Арцін. — Ягады занадта ўжо горкія.

— Я думаю, — адказаў кот, — усе таму, што яны яшчэ не саспелі. Нейкае пустое шчасце ты адчуў і нейкім пустым смехам заліваўся. Гэтыя жоўтыя ягады павінны быць салодкімі, але не такімі, як чырвоныя — чыста салодкімі — яны павінны быць салодкімі, але з маленькай гарчынкай, таму што чыста салодкае шчасце — гэта таксама няпоўнае шчасце.

— Ну, так. Напэўна, ты слушна кажаш, — Арцін упершыню пагадзіўся з катом.

А кот задумаўся. Пашкроб за другім вухам — нешта ўяўляў і, нарэшце, пачаў казаць:

— Значыць так, заўтра мы з Алеоллай спусцімся ў горад Палац Садоў. Я думаю, там мы знойдзем тое, што табе, віцязь Арцін, дапаможа. А пакуль давядзецца пасядзець пад гэтым дрэвам. Толькі не адчайвайся і часу дарма не губляй. Паспрабуй высветліць, што ж ўсё-ткі перашкаджае шаўкоўніцы набрацца сіл, і што не дае ягадам цалкам наліцца. І помні, назіранне — шлях да спазнання.

Арцін засмуціўся, аднак імкнуўся не падаваць выгляду.

— А што мне рабіць? — спытала Алеолла.

— Ну, для пачатку даць мне яшчэ сыру, каб лепш думалася, — сказаў кот і выявіў падабенства ўсмешкі.

— Калі ласка, бяры.

Кот падчапіў кіпцюром працягнуты яму сыр, адкусіў добры кавалак, і, жуючы, вымавіў:

— А цяпер нам неабходна набраць жоўтых ягад і прыгатаваць з іх араматычны алей. Толькі ні ў якім разе нельга яго самім глыбока ўдыхаць. Вось, бачыш, Алеолла, пад коранем гліняны чарапок, падобны да пабітага старажытнага глячыка? Гэта маленькая араматычная лямпа. Калі-небудзь чулі пра такія? Яна адначасова і святло дае, і водар. У ёй калісьці жыў катовы джын Шэрадар. Калі я быў кацяняткам, я падняў гэтую лямпу з мора. Менавіта джын Шэрадар навучыў мяне размаўляць на чалавечай мове, чытаць думкі людзей, а галоўнае — думаць правільна.

— А дзе цяпер кот-джын? — спытала Алеолла. — Мабыць, ён зможа дапамагчы Арціну?

— Не. Ён цяпер у адпачынку.

— А калі яго адпачынак заканчваецца?

— Цяпер палічу… — кот прымружыў адно вока і палічыў у розуме, — роўна праз тры тысячы пяцьсот сарок восем гадоў, чатыры месяцы, шэсць дзён, дзевяць гадзін, дваццаць тры хвіліны і дванаццаць секунд.

— Нешта доўга.

— Доўга… Таму трэба ўсё рабіць самім.

Кот сеў, нібы ёг, скрыжаваўшы заднія лапы, і даеў пакінуты кавалачак сыра. Алеолла і Арцін таксама перакусілі.

— За працу! — натхнёна вымавіла Алеолла.

Юнак і дзяўчына набралі жоўтых ягад, каменем адціснулі з іх у гліняным чарапку алей і залілі ў лямпу. Кот ім таксама дапамагаў. Арціну больш не хацелася з ім спрачацца.

— Сумесная праца збліжае, — зазначыў кот, — таму давайце я вас буду знаёміць.

— З кім? — са здзіўленнем спыталі Алеолла і Арцін.

— Як з кім, — бліснуў вачамі кот, — з сабою.

— Ах, так, — збянтэжылася Алеолла, — мы ж самі табе не прадставіліся. Я…

— Добра, добра, я вас ужо сам сабе прадставіў. Ты яснапанна Алеолла. А ты віцязь Арцін. Цяпер вам час прадставіць і сябе, — кот прыняў ганарлівую паставу і выразна прамовіў:

— Мяне клічуць Міамурмарор.

— Вельмі прыемна, Міамурмарор, — зрабіла рэверанс Алеолла.

Арцін паціснуў кашэчую лапу.

— А чаму ты нас увесь час павучаеш? — спытала дзяўчына.

— Я не толькі вас павучаю. Я павучаю ўсіх, хто можа павучацца. Вось бачыш, аказалася, віцязь Арцін можа. Не так хутка, як ты, але ўсё ж можа. Праўда, цяпер яго памылку трэба выпраўляць нам... Калі я, кот Міамурмарор, мурлыкаю, у вас, людзей, з'яўляюцца разумныя думкі. Але часам трапляюцца людзі, у якіх — мурлыкай не мурлыкай — разумных думак ніколі не з'явіцца. Асабіста я з такімі не магу доўга знаходзіцца побач. А вось мой стрыечны брат, кот Варгін, дарэчы, ён ваш зямляк, вельмі добра ў жыцці ўладкаваўся. Сам такі бліскучы, чорны з серабрыстым адлівам і тоўсты-тоўсты. Заўсёды сыты. Ён наўмысна адшуквае пустагаловых людзей і пачынае ім вуркатаць. А вы ж ведаеце, што ў такіх людзей, замест разумных думак усялякія мухі, прусакі і нават мышы ў галаве заводзяцца. Людзі пра такога чалавека так і кажуць — у яго тараканы ў галаве. Ну вось, кот Варгін пачынае вуркатаць, людзі засынаюць, а гэтыя мухі, прусакі альбо мышы палохаюцца кацінага голасу і выпаўзаюць праз ноздры ці вушы. А Варгін толькі гэтага і чакае. Ён хоп! — лапай зловіць, паесць, паесць. Вось і сыты заўсёды. А я вось мух неяк не люблю, прусакоў увогуле трываць не магу, ды і мышэй лавіць нешта не па мне. Лепш сырам паласавацца і малачком запіць.

— Так, чула я пра ката Варгіна, — сказала Алеолла, — той яшчэ хітрахват, і таксама шмат чаго ведае.

— Так-так, ён ведае нават больш, чым я. Толькі ж не ўсё людзям распавядаць можна. Вы самі павінны дадумацца, што добра, а што дрэнна. Калі вернецеся дамоў, перадайце Варгіну ад мяне вялікае прывітанне.

***Працяг будзе.***

Дзмітрый САНЮК

# АЛЕСЬ РАЗАНАЎ І ДЭКАДАНС

Алесь Разанаў — адзін з самых нетрадыцыйных паэтаў Беларусі. Яго творчасць стала ўжо «неад'емнай часткай» нашай літаратуры. Насуперак розным догмам і канонам аўтар сцвердзіў экзістэнцыйнае права быць сабой. Ён стварае парадаксальную палітру жыцця, дзе шмат яшчэ нявырашанага і неўсталяванага.

Ірацыянальныя аспекты свету цікавяць паэта ў сваёй нерушы. Творца імкнецца дайсці ў мастацкай аналітыцы да глыбінных пластоў быцця. У аўтара існуе пэўная лучнасць інтуітыўнага і рацыянальнага, калі мысленне творцы ў яго крэатыўным запале паядноўвае разнародныя сутнасці, і ў гэтым — адметная рыса разанаўскай манеры пісьма. Паэт да гранічнай мяжы даводзіць ідэю твора і праз гэта яшчэ больш высвечвае сутнасць з'явы. Майстра парадоксу, Алесь Разанаў не праводзіць катэгарычнага падзелу паміж свядомым і падсвядомым, якія ў аўтара нібы ўзаемаадлюстроўваюцца і плаўна перацякаюць адно ў адно.

Творца мысліць адвечнымі катэгорыямі, думка ў яго заўсёды існуе ў сваім экстрэмальным выражэнні, праз што абуджаецца і абнаўляецца само пачуццё. Алесь Разанаў імкнецца ўвесь час знайсці нейкі новы, не адкрыты яшчэ сэнс. Менавіта гэтыя пошукі і спрыялі мастацкай пераканаўчасці яго паэзіі, нягледзячы на яе выразна мудрагелістую абалонку. Паэт выступае ў якасці дэміурга ўласнага эстэтычнага свету і стварае фон для пейзажа душы, якая то пакутуе, то моліцца, то знявераецца і даходзіць да пэўнай формы ерасі. Такі ўжо беларускі творца з яго прагай да парадоксу і супярэчнасці, гармоніі і адначасна да яе парушэння. Сутнасць творчай індывідуальнасці Алеся Разанава — у яе адкрытым пошуку нязведанага і амаль што невымоўнага, што цяжка перадаць словам. І беларускі паэт знаходзіць новую метамову для перадачы яшчэ неаформленага сэнсу, які толькі нараджаецца. Здаецца, што сама душа паэта бачыць сябе і сочыць за сваёй існасцю нібы збоку:

Нешта глядзіць на мяне маімі вачамі,
слухае, што кажу, маім слыхам,
думае пра жыццё маёй думкай...

Відавочна, што гэта ўжо феномен новага часу, эпохі псіхааналізу і дэкадансу, нігілізму і постмадэрнізму. І Алесь Разанаў убірае ў сваю творчую натуру ўсе парадоксы новага мыслення, для якога не існуе абсалютнай ісціны, бо:

Шукаем ісціну.
Сцюдзёна
яна ў азоне і ў вадзе...
Яе не знае здавалёны,
яна сасмяглага вядзе.

Беларускі паэт канцэнтруе ўвагу на пошуку ісціны, а не на яе канчатковым выяўленні. І таму ўвесь час ідзе працэс пазнання, але як толькі знойдзена штосьці канчатковае, тады ісціна нібы знікае. Вось такі змястоўны парадокс. Калі ж хто атрымлівае асалоду ад вынікаў гэтага працэсу, то ў той жа час становіцца палоннікам догмы, а не ісціны. Безумоўна, Алесь Разанаў падыходзіць да абранай праблемы празмерна палемічна. Паэт завастрае ўвагу на адагматызме, на вечным пошуку ісціны, якая можа ў выніку застацца невыказанай. Нездарма яна «сасмяглага вядзе». Тут з усёй сілай выражаны разанаўскі максімалізм і радыкалізм.

Алесь Разанаў — майстра «перакульваць» свет, ператвараючы традыцыйную праблему ў наватарскую. Паэт імкнецца ўзвесці ўсё існае ў разрад супярэчлівага:

З дзівоснай вечнасцю ў хаўрусе
да супярэчнасцяў прывыкну.
Застацца каб! — не застануся.
Бясследна знікнуць бы! — не знікну.

Эстэтычная прастора тэкстаў Алеся Разанава робіцца празмерна дынамічнай і адкрытай. У выніку гэтага ствараецца дадатковае асацыятыўнае поле, узнікае мноства розных сэнсаў. Паэт баіцца стаць чымсьці адным, застыць у сваім развіцці. І таму ён у вечным руху. Дынаміка яго набывае ўтрапёныя, амаль «шалёныя» формы. Алесь Разанаў шмат што перанасычае сваёй энергетыкай, якая нярэдка выглядае празмернай у сваёй бурлівай накіраванасці.

Алесь Разанаў сутыкаецца з безданню адчуванняў, якія ён хоча выразіць па-мастацку ёмка:

Зіхоткая поўня —
акно,
з якога
глядзіць у душу нябыт

Разанаў правакуе на альтэрнатыўную сістэму думання ў супрацьвагу традыцыйнай, і часта ў яго гэта робіцца самамэтай, хоць, магчыма, гэтая самамэта ў творцы набывае нейкія рысы арганічнай структуры. Паэт становіцца на абсалютную пазіцыю чалавека, які хоча аспрэчыць усё застылае і ўсталяванае, таму для яго супярэчнасць сама па сабе становіцца пэўным франтальным паказчыкам:

Уранку я выйшаў з дому
і ўвесь дзень ішоў
у кірунку да сонца.
Якім супярэчлівым аказаўся
мой шлях!..

Вобразнасць будуецца на крайняй, агаленай думцы, што лучыцца з такой жа эмоцыяй. Паэт трансфарміруе сваю энергію ў неабсяжны максімалізм адчуванняў. Такой энергетыкай валодаюць рэдка якія творцы, але яны прадстаўляюць сваю літаратуру найбольш ёміста і выразна. І калі Янка Купала распачаў такі ў добрым сэнсе «літаратурны экстрэмізм», то Алесь Разанаў нібыта яго завершыў. Нягледзячы на тое, што ў гэтых паэтаў розныя мастацкія сродкі для дасягнення эстэтычнай мэты, іх аб'ядноўвае аднолькавае імкненне да бясконцага, яшчэ неўсталяванага. Алесь Разанаў дасягае сваіх мастацкіх вяршынь у паказе велічы агульнага касмічнага светапарадку, дзе яскрава праглядваецца ўтварэнне гарманічнага з дысгармоніі і хаосу.

Супярэчлівасць і парадокс сталіся адзнакамі найноўшай паэзіі з усёй яе дынамікай і непрадказальнасцю. І тут Алесь Разанаў становіцца флагманам выражэння бясконцага зместу:

Свет у аблозе навальнічных хмараў,
агеньчык у аблозе цемры —
крык не праб'ецца,
скамяняе сказ...
Як выказаць цябе, маё маўчанне?

Спробы выказаць нешта невымоўнае, адрадзіць яго з небыцця становяцца яскравай рысай новага мастацтва, глыбока сімвалічнага ў сваёй сутнасці. Творцы імкнуцца выказаць пачуццё, якое хаваецца глыбока ў нетрах генетычнай памяці. Што гэта за пачуццё — застаецца вялікай загадкай. Але галоўнае ў тым, што яно існуе, як нейкая наканаванасць, якую вельмі востра адчуваюць паэты. Гэтую ідэю ўпершыню пачалі высноўваць творцы-сімвалісты, для якіх маўчанне стала эстэтычным кодам, спецыфічным знакавым сэнсам, які цяжка акрэсліць у якую-небудзь адназначную дактрыну. Парадаксальнасць адчуванняў сімвалістаў у шматзначнай разнастайнасці сэнсаў, калі ствараецца адпаведная аўра няпэўнасці і страчваецца магчымасць якога-небудзь аднаго прачытання тэксту твора.

Паэзія адмовіла «старога» Бога і не прыйшла да новага абсалютнага пачатку. Адсюль яе пакуты і гранічны адчай. Месца Святой Догмы заняў бясконцы і адвечны пошук сэнсу, які мігцеў у вачах творцаў і дасягаў у некаторых з іх узроўню агоніі. Апошняе прыводзіла да трагічнага надрыву і катастрафізму адчуванняў. І паэзія станавілася выразнікам гэтага хаосу душы.

З аднаго боку, Алесь Разанаў добра разумее ўсю катастрафічнасць адыходу ад

**Майстра парадоксу, Алесь Разанаў не праводзіць катэгарычнага падзелу паміж свядомым і падсвядомым, якія ў аўтара нібы ўзаемаадлюстроўваюцца і плаўна перацякаюць адно ў адно**

**Гэта ўжо феномен новага часу, эпохі псіхааналізу і дэкадансу, нігілізму і постмадэрнізму. І Алесь Разанаў убірае ў сваю творчую натуру ўсе парадоксы новага мыслення, для якога не існуе абсалютнай ісціны**

Вышэйшага прынцыпу быцця, але, з другога, ён няўмольна і нават самазабойча ставіць сябе на край бездані дзеля дасягнення яшчэ нейкага большага, чым сам Бог, сэнсу. Паэт стварае сітуацыю дэкадансу ў сучаснай беларускай культуры і з’яўляецца яе галоўным чыннікам. Творца максімальна ёмка адлюстроўвае ўвесь парадокс існавання чалавека, што страчвае веру ў адзінства і цэльнасць і па-ніцшэанску зняверліва адмаўляе прынцып Боскага. Алесь Разанаў адным з першых «узрывае» фундамент сучаснай культуры і праводзіць сваю пазіцыю самачыннага эталона ў беларускай літаратуры.

Алеся Разанава часта наведваюць станы безвыходнасці і бездані:

Выбіўся з рытму часу —
падаю
ў бездань часу

Паэты найбольш поўна рэалізуюцца ў незвычайных абставінах, бо ім дадзена адчуваць больш, чым простаму чалавеку. Творца мае абвостраную душу, зрок і слых, і ён бачыць драматычныя перыпетыі там, дзе іх не бачна звычайнай асобе. Паэзія становіцца адкрыццём, споведдзю духу. Экзістэнцыяльнае, насычанае перажыванне становіцца нязменным спадарожнікам вытанчаных натур, якія бачаць свет у асаблівым трагічным святле. Трагедыі і катастрофы быцця зведваюцца імі ў поўнай меры і ступені. Такія творцы нібы прыцягваюць да сябе боль і адчай Сусвету. Праз гэта, безумоўна, паглыбляецца іх мастацкае і эстэтычнае бачанне, калі аўтары выходзяць на новы ўзровень, у новую харызматычную прастору.

Паэзія каштоўная сваім імкненнем гучаць на апошнім дыханні, на мяжы жыцця і смерці. Але калі гэта ўзводзіцца ў вышэйшы прынцып на ўзроўні паэтычнай істэрыі, то гэта, хоць і цікава, але выглядае дастаткова павярхоўна. У выніку ўлічваецца толькі адзін пачатак быцця і ігнаруецца другі, адваротны. Адчай і туга перамагаюць творцу, які становіцца палоннікам гэтай скрухі. Алесь Разанаў змог пераўзысці самога сябе, але зерне адчаю і песімізму, шчодра пасеянае паэтам у сваёй творчасці, западае глыбока на дно жыцця і пастаянна нагадвае пра сябе.

Паэт павінен вызваліць тую энергію, што сыходзіць з глыбінь падсвядомага. Але тут можа быць і небяспека ад той празмернасці, што хлыне ў душу і свядомасць паэта. Пазітыўная ўстаноўка можа часам даць і негатыўны вынік, калі крэатыўная зона творчасці запаўняецца як святлом, так і цемрай, якая насычае твор рознымі праявамі адчаю і бязвер’я.

Паэзія ў многім падатлівая да падобных дэкадансных праяў, асабліва калі мастак мае амбівалентную прыроду мыслення, што вельмі характэрна для парадаксаліста Алеся Разанава. Творца можа адначасна то сцвярджаць, то адмаўляць адпаведную ісціну, калі яго мастацтва мае шырокі дыяпазон перажыванняў ад самых трагічна-скрайніх і да ўзнёсла-светлых. Ад скепсісу і бязвер’я паэт можа сягаць да вялікай веры. Але, тым не менш, па гэтай прычыне ў яго не стваравецца пастаяннае эстэтычнае поле, бо зменлівасць і пэўная здрадлівасць уласціва творчай манеры. Алесь Разанаў — майстра самых разнастайных метамарфоз жыцця ва ўсёй іх узаемасувязі, але паэт не можа спыніцца ў шалёнай кругаверці над безданню. Яго слова валодае энергіяй пастаяннай унутранай палемікі:

Але чакай,
няўмольны час:
я маю права
ўсё закрэсліць
і потым
нанава пачаць

Алесь Разанаў тым самым толькі паглыбляе сітуацыю няўстойлівасці і няпэўнасці.

Пісьменнік правакуе постмадэрнісцкую сітуацыю, калі адначасна канстатуе то веліч і моц чалавечай энергіі, то яе мізэрнасць. Ментальная няпэўнасць паэта аказваецца

прычынай эстэтычнага і жыццёвага хаосу, калі мы пачынаем разумець нейкую хісткасць творчай пазіцыі, усю тую «боскую непаслядоўнасць чалавечай думкі» (У. Караткевіч). Мы бачым тут і здрадлівасць натуры чалавечай, яе хістанні і пошукі. Алесь Разанаў са сваёй творчасцю — яскравы прыклад антаганістычнага сутыкнення двух разнародных пачаткаў: цемры і святла.

Паэт неверагодна востра адчуў парадаксальнасць існага і свядома абсалютызаваў многія сутнасці:

У левую руку мне даюць паражэнне,
але ў правую я пасяваю ўзяць перамогу.
Тады ў правую руку мне даюць радасць,
але я працягваю левую руку і бяру скруху...
У мяне пытаюцца: хто ты? — і хочуць спыніць.
Я не адказваю і не спыняюся.
Засяроджанаю душою я намацваю
дрогкую лінію сэнсу, па якой мушу ісці
дарэшты.

Пошукі сэнсу немагчымыя без адпаведнай працы душы, бо нельга атрымаць змястоўнасць проста так, не прыклаўшы аніякіх намаганняў. І для Алеся Разанава сам пошук сэнсу важнейшы за знойдзены сэнс, які ў паэта быў «дрогкім». Праца розуму тут была больш важнай, чым намаганні душы, таму гэтага паэта часта абвінавачваюць у празмернай «разумовасці». Алесь Разанаў наладжвае філасофскі канвеер са сваёй аналітыкі, калі прадуцыруецца адпаведная матрыца мыслення, што надае тэкстам і пэўную форму на ўзроўні парадоксу: «Аднак, перамогшы слабасць, я мушу перамагчы і сілу». Паэт нібы праграмуе сябе на пэўныя высілкі розуму без адпаведнай працы душы, і гэтая інтэлектуальная медытацыя хоць і выглядае цікавай, але робіцца ўжо даволі аднастайнай, і мы часам можам ужо пралічыць матэматычна тое, што скажа аўтар.

Алесь Разанаў адчувае ўсе тыя цянёты, якімі спавіта душа, і якія перашкаджаюць чалавеку рухацца да высокага і светлага. Паэт бачыць усю недасканаласць чалавечай прыроды. І нездарма ён адпаведным чынам рэфлексуе:

Такое маўчанне ў снезе,
такая далеч,
такая бель —
што замірае душа: не ўмее яна яшчэ
быць такой.

Творца акрыляецца ўнутранай экзальтацыяй і даводзіць свае пачуцці да крайняй мяжы. Ён сам прыцягвае да сябе розныя адмоўныя перажыванні, бо ў вірлівай плыні свядомасці няспынна наслойвае розныя эмоцыі адна на другую. Паэт то стварае адмысловыя вершы, то займаецца складаннем амаль што матэматычных рэбусаў. Аднак па глыбіні эмацыянальнага і свядомаснага рэдка хто можа з ім зраўняцца. Алесь Разанаў — паэт мяжы, і таму ў яго такія розныя і нераўнацэнныя творы, бо для яго характэрна асаблівая ўдумлівасць і дапытлівасць:

Мы і так не звяртаем даўно ўжо на
шмат што ўвагі,
нават на тое, што мы ўжо не надта і мы,
што мы падкапаны ў саміх сваіх
думках, учынках, словах,
што — невядома кім — ашуканы,
што — невядома як — страцілі
грунт...

Але гэтая «дапытлівасць» часта існуе ў яго на мяжы абсурду, і паэт ставіць многія пытанні, не маючы магчымасці іх вырашыць. Алесь Разанаў — майстра ўздымаць многія праблемы, пакідаючы іх на долю чытача, але ў яго часта праблема ставіцца дзеля самой праблемы, становячыся ў поўнай меры самадастатковай.

Паэт востра адчувае сацыяльныя абалонкі Сусвету, і яны не даюць яму магчымасці свабоднай рэалізацыі:

Я іх прыдумаў:
абавязкі!..
Я іх стварыў, я гаспадар...
Мне надакучыла іх ласка,
іх непрадбачаны цяжар.
Не адпускаюць абавязкі.

**Як толькі знойдзена штосьці канчатковае, тады ісціна нібы знікае. Вось такі змястоўны парадокс. Калі ж хто атрымлівае асалоду ад вынікаў гэтага працэсу, то ў той жа час становіцца палоннікам догмы, а не ісціны**

Алесь Разанаў ускладае на сябе суб'ектыўную функцыю стваральніка абавязкаў, ён паверыў у іх, і ад гэтага ўзніклі толькі адны пакуты. Творца выступае супраць падпарадкавання законам і канонам жыццеўладкавання. Аўтару цесна ў сваёй зямной абалонцы, якую ён зрабіў унутраным цяжарам сваёй душы.

Беларускі паэт пачувае сябе адзінока сярод людзей, сярод існуючага свету:

Ды ёсць яшчэ прастор далёкі
і сцежка — доўгая, бы ўздых...
Ты сам з сабой не адзінокі,
а між людзей:
куды ж ад іх?!

Аўтар хоча вызваліцца ад умоўнасцей жыцця, якія не даюць яму магчымасці ў поўнай меры тварыць. Паэт ідзе насуперак соцыуму, які для яго з'яўляецца абсурдным. Творца пакутуе ад свайго ўласнага «я», што з'яўляецца антысацыяльным па сваёй асноўнай скіраванасці. Паэзія Алеся Разанава становіцца ў выніку формай эстэтычнай ерасі.

Бліснуўшы маланкай у беларускай прасторы, паэт імкнуўся падарваць увесь класічны грунт нацыянальнай традыцыі. Ён выступіў супраць існуючага, супраць мінулага:

Людзі,
аблокі,
дрэвы,
з якімі ў мінулым расстаўся, —
няма да каго вярнуцца —
таксама з мінулым рассталіся.

Але, як гэта ні дзіўна, пры ўсім сваім рацыяналізме ён быў прыхільнікам інтуітыўнага, ірацыянальнага:

Як стары мудры вуж
шукае вузкае выйсце,
каб скінуць старую скуру —
так і я патаемнай вужовай натурай
шукаю сабе перашкоды,
хоць і пярэчыць гэтаму розум.

Праз свой нігілізм творца прыцягвае да сябе бездань, якая асабліва ўглядваецца ў таго, хто адпаведна доўга ўглядваецца ў яе (паводле Ф. Ніцшэ). Такія метамарфозы прыводзяць да дэкадансу духу. І Алесь Разанаў тут найпершы, хто распачаў вось гэты дэкаданс і распачаў, трэба сказаць, грандыёзна.

Творца стараўся здабыць сілу духу адваротным шляхам праз усведамленне слабасці на ўзроўні парадоксу. Паэт распачаў энергетычную гульню са словам, з формай і зместам, са сваёй уласнай душой. І гэта прывяло яго да скрухі і адчаю. «Беларускі Ніцшэ» адчуў дыскамфорт у чалавечым і з усіх сіл імкнуўся ўзняцца на пазіцыю «звыш». Але «звышчалавечыя» амбіцыі толькі прыводзілі да большай скрухі. Алесь Разанаў тады крыху адступае ад свайго ніцшэанства і вяртаецца зноўку да традыцыйнага, якое пачынае трансфарміраваць у адпаведным ключы з ужо аслабленай доляй «звышчалавечага».

Для паэта існуе пэўная зона адчужэння паміж ужо ўсталяваным і будучым. Творца бачыць фатальную матэрыяльнасць свету, без якой таксама нельга існаваць:

За рэчы трымаюся, аб рэчы абапіраюся,
атрымліваю ў спадчыну рэчы...
Рэчамі мераецца мой час, акрэсліваецца
мая прастора, без іх я губляюся,
без іх я знікаю, без іх я нічога не значу сам.

Дух і матэрыя пачынаюць узаемаадлюстроўвацца. Рэчыўнае насычаецца адчуваннямі, якія ў сваю чаргу становяцца рэальнай існасцю. Паэт паказвае ўсю складаную дыялектыку ўзаемапераходаў, калі ў межах суб'ектыўнага аб'ектывізуецца свет, і, наадварот, як аб'ектыўнае паступова абжываецца суб'ектыўным.

Беларускі аўтар, безумоўна, не такі радыкальны, як нямецкі філосаф, але падтэкст яго твораў вельмі і вельмі дынамічны і нагадвае непасрэдна ніцшэанскі кантэкст. Алесь Разанаў зняверваецца ў звычайным, чалавечым, калі людзі не рэалізоўваюць у многім свой патэнцыял і застаюцца на пэўным недасканалым узроўні.

Паэт сам патрапляе ў клетку ўласных вышукаў. Яго эмоцыі, пачуцці, розум і волю паралізуе неймаверная туга па тым, чаго нельга дасягнуць. Немагчыма ўхіліцца ад чалавечых законаў і выйсці ў іншы лёс і іншую долю. Народжаны быць чалавекам — ім і застаецца.

*Ягор КОНЕЎ*

# ПАДЧАРКА ВА ЎЛАСНЫМ ДОМЕ

Шчыра кажучы, не дужа падабаецца мне адмысловая рыса нашага менталітэту — нястомна енчыць, як усё блага, і чакаць, што ў недалёкім часе нехта вырашыць нашы праблемы. Аднак паколькі гаворка датычыць стану сучаснай беларускай драматургіі, то мне цяжка ўстрымацца ад мінорных нотак у голасе. Бо, праўду кажучы, падаецца, што беларуская драматургія пачуваецца ў нацыянальным тэатры на правах падчаркі ва ўласным доме.

Падставай для такіх высноў мне паслужылі не толькі ўласныя назіранні, але і ўдзел у журы Нацыянальнай тэатральнай прэміі Беларусі.

У час прагляду спектакляў, намінаваных на атрыманне ганаровай прэміі, я прыгадваў, як напрыканцы 1920-х у час грамадскага абмеркавання рэпертуарнай палітыкі беларускіх тэатраў адраджэнец Уладзіслаў Галубок са скрухай задаў прысутным рытарычнае пытанне: «Мо хопіць нам ужо глядзець у азадак Маскве?»

Справа ў тым, што і дзевяноста гадоў таму кіраўнікі нашых тэатраў з імпэтам прымалі да пастаноўкі галоўным чынам тыя творы, якія доўгі час ішлі на маскоўскіх сцэнах. І калі ў Маскве нешта здымалася з рэпертуару як неактуальнае і састарэлае, то яно з'яўлялася на мінскіх афішах як наватарскае і прагрэсіўнае. А рытарычным я лічу пытанне Галубка таму, што і цяпер, і ў іншую гістарычную фармацыю, кіраўнікі нашых тэатраў па-ранейшаму захапляюцца замежнымі драматургамі і падазрона ставяцца да айчынных.

Адразу зазначу, што не з'яўляюся апалагетам усяго, што пішуць нашы творцы. Самому даводзілася чытаць сучасныя п'есы з нудотнымі сюжэтамі ды нягеглымі дыялогамі. Разумею, што ад такой нуды можа павуцінне адрасці пад пахамі. Але, упэўнены, калі б творы не адбракоўвалі з парога, калі б наладжвалі з аўтарамі супрацоўніцтва, якое ўключала б і дапрацоўку, і рэдагаванне, то з сотні п'ес мог атрымацца дзясятак пастановак, што ўскалыхнулі б тэатральную грамадскасць.

На жаль, карпатлівай рэдактарскай працы часам бракуе і ў тых п'есах, якім пашчасціла ўвасобіцца ў спектакль. Такое ўражанне, напрыклад, склалася ў мяне пасля прагляду лірыка-драматычнай аднаактоўкі Ю. Сохара «Страцім-лебедзь», пастаўленай у Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі В. Баркоўскім.

Тут, здаецца, ёсць і тэма важная для нацыянальнай свядомасці — лёс Максіма Багдановіча, і надзвычайнае факталагічнае багацце яго біяграфіі ды творчасці, а ў выніку атрымалася відовішча, ад якога стомлена ўздыхаеш. Збянтэжанасць выклікае вобраз Паэта — няголены, касматы, дзікаваты і дзіўнаваты, заклапочаны пераважна тым, каб пакінуць пасля сябе нашчадкаў. Герой адразу як упадабаў падлогу, па якой параскідаў свае рукапісы, дык амаль не падымаўся з яе, бясконца трызнячы. У хваравітых мроях Багдановіча да яго чарадой ідуць сваякі ды знаёмыя цераз нацягнутыя вяроўкі, якія, пэўна, сімвалізуюць браму ўміручасці. Прыходзяць галоўным чынам, каб заявіць, што не разумелі яго. Самы часты госць у Паэта — Антон Чэхаў, які хоць і памёр на 13 гадоў раней за Багдановіча, але, як высвятляецца, быў аматарам яго паэзіі. Крыху эпатажна выглядала сцэна любошчаў Багдановіча і Клавы, якія вожкаліся на падлозе ў прысутнасці мужа Клавы. Той моўчкі круціў у руках фуражку і да залётаў жонкі ставіўся з дзэнбудысцкім спакоем. Паваляўшыся побач з Паэтам, Клава раптам заявіла, што сям'я для яе — найгалоўнае, ды сышла ўпрочкі з мужам. Паэт пашкадаваў, што, відаць, не будзе ў яго дзяцей, і з

тае нагоды прадэкламаваў урывак з верша «Страцім-лебедзь». Таксама засмучала тое, што амаль кожны выканаўца, выходзячы на сцэну, ступаў па раскіданых рукапісах Багдановіча. Верагодна, твор мог бы стацца добрай падставай для тэатральнага «капусніка», але зусім не ўспрымаецца ў якасці лірычнай драмы.

Калі «Страцім-лебедзь» падаўся мне найгоршай з пастановак па творах сучаснага беларускага аўтара, то найлепшая — «Чароўны пэндзаль» А. Сабела ды І. Казакова (ён жа па сумяшчальніцтве і рэжысёр-пастаноўшчык). Кожная з 45 хвілін гэтай пастаноўкі Магілёўскага абласнога тэатра лялек, як мне здалося, «важыць» 45 кілаграмаў дабрыні ды яскравай выдумкі. Дынамічныя прыгоды Дзяўчынкі-мастачкі, якая ратуе чароўны свет ад шэрасці караля Бязлада з дапамогай чароўнага пэндзля і сямі сябрукоў-«фарбаў», выклікаюць алюзіі з сюжэтамі «Чараўніка Ізумруднага горада» і «Хронік Нарніі». Твор арыентаваны на дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Я міжволі пашкадаваў, што не пабачыў такі спектакль у дзяцінстве — абавязкова заняўся б маляваннем. У спектаклі няма працяглых дыялогаў, затое багата дынамічных эпізодаў. Не дзіва, што «Чароўны пэндзаль» атрымаў Нацыянальную тэатральную прэмію ў намінацыі «Лепшы спектакль для дзяцей».

Калі «Страцім-лебедзь» і «Чароўны пэндзаль» стварылі ўмоўную амплітуду, у якой першы твор — ніжэйшая кропка, а другі — вышэйшая, то псіхалагічная драма Ю. Чарняўскай «Аднакласнікі», пастаўленая К. Аверкавай у Магілёўскім абласным драматычным тэатры, знаходзіцца, як мне здалося, недзе пасярэдзіне, на псіхалагічным узроўні, прыцягальным для песімістаў і адзінокіх жанчын.

Гераіні ў п’есах Чарняўскай пераважна добра выхаваныя і адукаваныя, прыгожыя знешне ды разам з тым невылечна нешчаслівыя і самотныя. Віной усяму мужчыны — занадта разбэшчаныя жаночай увагай, яны не сябруюць ані з галавой, ані з мараллю. Калі б у Беларусі існаваў сур’ёзны феміністкі рух, ён, пэўна, абвясціў бы Чарняўскую сваім гуру. Бо не магу прыгадаць твораў, прасякнутых такой антыпатыяй да мужчынскага полу. Рэалістычныя абставіны, у якіх героі Чарняўскай блукаюць па пакутах, гадоў дваццаць таму назвалі б «чарноццем». Яе персанажы асуджаны на духоўны змрок, безнадзейнасць і смерць.

Поспех Юліі Чарняўскай міжволі нагадаў мне сакрэт французскага палітыка канца 1790-х Сіеса. Той аніколі не агучваў аніякіх канструктыўных праграм, аднак лічыўся дужа разумным. Бо куды б ні прыходзіў, доўга глыбакадумна маўчаў, потым заяўляў: «*Блага, блага, усё блага*», — і сыходзіў. У такія ж словы я лакалізаваў бы ўласнае ўражанне ад п’ес Чарняўскай. Аднак многіх іншых у глядзельнай зале, асабліва жанчын бальзакаўскага ўзросту — на ўласныя вочы бачыў! — яе творы не жартам хвалююць. Таму, хоць сам наўрад ці стану аматарам творчасці Ю. Чарняўскай, я першы галасую за яе права на сцэнічнае ўвасабленне. У прынцыпе трэба, каб і псіхалагічны змрок прысутнічаў на тэатральнай сцэне. Тым ярчэйшым побач з ім будзе глядзецца маральнае святло.

Не сумняваюся, што мае заўвагі могуць выклікаць рэзкія пярэчанні. І я гатовы вітаць палеміку. Найважней — каб былі падставы для такіх спрэчак. І самае горкае — нагод для дыскусій на такую тэму з’яўляецца даволі мала. Хто зверне сур’ёзную ўвагу на падчарку, калі ў беларускім тэатральным доме паўнавартаснымі гаспадарамі пачуваюцца расійская і замежная класіка?

Сярод прычын, якія схіляюць рэжысёраў да пастаноўкі Шэкспіра або Бамаршэ, пераважаюць падсвядомая і фінансавая.

Падсвядома многія пастаноўшчыкі загадзя ўпэўнены, што суайчыннікі не здатны ствараць якасныя п’есы. Да таго ж, калі рэжысёр ставіць, напрыклад, Шэкспіра, то ўносіць скарачэнні ў акадэмічны тэкст і такая праўка лічыцца інсцэніроўкай, якая аплочваецца Міністэрствам культуры. А калі ўлічыць, што заробкі ў тэатральных дзеячаў невысокія (як і паўсюль у свеце), то такая плата будзе не лішняй. І дырэктар тэатра парадуецца: не трэба выплочваць аўтарскія адлічэнні нашчадкам класіка, які памёр сотні гадоў таму.

У выніку ж менавіта з такога стаўлення і вынікае ўяўленне пра Беларусь як «культурную правінцыю»

У апошнія два дзесяцігоддзі развіццё беларускай драматургіі было галоўным чынам справаю энтузіястаў. У 1990-я п’есам нашых

суайчыннікаў была адкрыта дарога на Малую сцэну Купалаўскага тэатра, пазней — на «Вольную сцэну», затым — на сцэну Тэатра беларускай драматургіі. Мастацтвазнаўцы могуць пералік дапоўніць. Аднак і яны наўрад ці аспрэчаць, што лозунг камерцыялізацыі мастацтва і самаакупнасці служыць кіраўнікам тэатраў апраўданнем для таго, каб ставіць п’есы, якія шмат гадоў ідуць на еўрапейскіх ці маскоўскіх падмостках. І можна было б яшчэ наракаць, ды ініцыятыва Міністэрства культуры ўсяліла ў сэрцы кволую надзею. Я маю на ўвазе мэтавы характар дзяржаўнага фінансавання. Паводле прапановы колішняга міністра Паўла Латушкі, яно гарантавалася найперш пастаноўкам паводле твораў беларускіх аўтараў.

Гэтая навацыя кардынальна пярэчыла схеме, якая працавала на працягу многіх гадоў, калі дзяржава пераводзіла грошы тэатрам і давала ім поўную свабоду творчасці — ствараймце, маўляў, што хочаце. Цяпер жа тэатры, хоць і без асалівага імпэту, сталі часцей звяртацца да творчасці суайчыннікаў. І няхай гэты працэс не набыў шырокага характару, але добра ўжо тое, што імёны беларускіх аўтараў замільгацелі паміж Грышкаўцом і Мальерам.

Мушу толькі спадзявацца, што пасля сыходу П. Латушкі з міністэрскай пасады, «новая мятла» не «вымяце» гэтую ініцыятыву. Спатрэбіцца не адзін год мэтанакіраванай культурнай палітыкі, каб нашы тэатральныя дзеячы прывучыліся ўспрымаць беларускую драматургію на сцэнічных пляцоўках не ў якасці падчаркі, але сапраўднай гаспадыні.

Дзяржаўная ідэалогія (у Амерыцы яе замяняюць паліткарэктным тэрмінам *этнацэнтрызм*) базуецца на выхаванні ў насельніцтва любові і павагі да сваёй зямлі, гісторыі, культуры. Але як укараняць у свядомасці тэатральнага гледача патрыятычныя пачуцці, калі ён бачыць пераважна расійскую або еўрапейскую класіку?

Мне падаецца, што трэба і ў тэатральнай сферы нарматыўным чынам здзейсніць тое, што ў свой час было зроблена ў айчынным радыёэфіры. Колькі гадоў таму ад радыёстанцый запатрабавалі, каб 50 % песень у эфіры спявалі беларускія выканаўцы. Памятаю, як бэсцілі гэтую ініцыятыву многія з тых, хто працаваў на радыё і слухаў яго. Але праз колькі месяцаў звыкліся з тым, што ў эфіры суверэннай краіны гучыць нацыянальная музыка. Дзякуючы гэтаму рашэнню ў нас захавалася ўласная эстрада. Можна спрачацца наконт яе мастацкага ўзроўню, аднак жа нельга адмаўляць яе наяўнасць. Калі праз парачку гадоў норму беларускіх выканаўцаў павысілі з 50 да 75 % у эфіры, гэта рашэнне ўспрынялі спакойна. Дарэчы, Беларусь не наватар у правядзенні такой культурнай палітыкі. Яна толькі паўтарыла шлях, пройдзены Украінай у 1990-х і Францыяй у 1960-х.

Я ўпэўнены, прыспеў час нашаму ўраду абавязаць беларускія тэатры паклапаціцца пра тое, каб у іхніх рэпертуарах аўтарства не меней 25 % п’ес належала беларускім драматургам (сучасным і класікам). Уяўляю, які ўзнімуць вэрхал тыя, хто ўпэўнены, што беларусы анічога вартага стварыць не могуць. Але наш культурны бамонд тым і адметны, што пабурчыць на кухнях, а потым дысцыплінавана выканае ўсё, што загадае начальства. І тады, праз колькі гадоў, можна будзе павышаць планку рэпертуарнай «беларусізацыі» з 25 да 33 ці нават 50 %.

Зразумела, што геніяльныя творы адразу не пацягнуцца чарадой да загадчыкаў літаратурных частак. Аднак з’явіцца стымул, каб нашы адораныя суайчыннікі не з’язджалі працаваць у Маскву «літаратурнымі неграмі», а шчыравалі на ніве нацыянальнай драматургіі. Верагодна, што поруч з імі рынуцца штурмаваць тэатры і графаманы. Але таленавітую п’есу або аснову для яе прасцей адшукаць сярод вялікай колькасці твораў, пададзеных, напрыклад, на конкурс. Галоўнае, каб конкурс аказаўся не дэкларатыўным, а сапраўдным, каб паводле яго вынікаў ставіліся п’есы-пераможцы, а не выпісваліся стосамі граматы.

Прапанаваная мера, можа, і не ідэальная, але даволі аптымальная для сённяшніх рэалій. У знакамітай казцы пра Папялушку, гераіня стала прынцэсай пасля таго, як ёй дапамагла добрая Фея. Такую ролю сёння можа адыграць Міністэрства культуры. І тады вельмі верагодна, што болей ані ў кога язык не павернецца назваць нашу краіну «культурным балотам», і бедная падчарка нарэшце стане гаспадыняй ва ўласным доме.

# СУЧАСНЫ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР: ПРАБЛЕМЫ, ПРАБЛЕМЫ, ПРАБЛЕМЫ…



***У адным з апошніх аглядальных артыкулаў І. Шаўлякова чарговы раз падкрэслівае, што ў беларускай літаратуразнаўчай прасторы 2000-х «даследаванні драматургіі займаюць недаравальна сціплае месца» («ЛіМ», 2012, 9 ліст., с. 6). Між тым даследчыца справядліва вылучае доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта НАН Беларусі Сцяпана ЛАЎШУКА, чыё даследаванне «Гарызонты беларускай драматургіі» (2010) «сталася самым маштабным (і паводле ахопу фактычнага матэрыялу, і паводле спектра тэарэтычных праблем, якія асэнсоўваюцца ў манаграфіі) вопытам абагульнення шляху беларускай драматургіі ад вытокаў да нашых дзён». «Праца, — як адзначае І. Шаўлякова, — засведчыла сваю важкасць і важнасць па-за межамі ўласна літаратуразнаўчай прасторы 2000-х». Адным словам, ёсць усе падставы, каб даверыцца меркаванням Сцяпана Сцяпанавіча пра стан сучаснай беларускай драматургіі.***

**— Беларуская драматургія — ці можна казаць пра такі феномен у еўрапейскім кантэксце?**

— А пра які ж яшчэ кантэкст можна гаварыць? У сваіх навуковых даследаваннях я не стамляюся паўтараць, што беларуская драматургія заўсёды была адкрытай мастацкай сістэмай, здольнай чуйна ўспрымаць навейшыя пошукі пісьменнікаў еўрапейскіх (зрэшты, і не толькі еўрапейскіх) краін. Так што беларуская драматургія ў неаглядным моры мастацкай творчасці карыстаецца агульнаеўрапейскімі лоцыямі. Купалаўцы гастралююць ва Францыі як звычайныя еўрапейцы.

Як і ў іншых развітых еўрапейскіх тэатральных культурах, у беларускай драматургіі на пачатку новага стагоддзя ўзнікла новая хваля, якая была адзначана перамогай на міжнародным конкурсе «Еўразія». Андрэй Курэйчык у 2004 г. атрымаў трэцяе месца за п’есу «Тры Жызэлі». Разам з ім спецпрыз журы завяваў і Павел Пражко за п’есу «Серпанцін». У 2006 г. колькасць пераможцаў значна павялічылася: Мікалай Рудкоўскі «Ана і ананас» і «Уварванне», Канстанцін Сцешык «Сцэны жыцця», Павел Пражко «Кэмпінг», Расолька «Пачваркі», Андрэй Курэйчык «Светлы дом», Сяргей Гіргель «Масква радыяльная» ўвайшлі ў лонг-ліст

гэтага конкурсу. У 2007 годзе пераможцам стала Дзіяна Балыка (п'есы «Жыццё ўбогае» і «Гарачая кропка»). Былі адзначаны п'есы Мікалая Рудкоўскага: «Бог казытання» заняла трэцяе месца на «Еўразіі-2011», «Дажыць да прэм'еры» атрымала 2-ю прэмію на Міжнародным драматургічным конкурсе «Бадэнвайлер імя А. Чэхава-2011».

Аднак сюды варта «ўманціраваць» і наступную выснову. Нягледзячы на ўсе гэтыя прэміі, нягледзячы на тое, што там, у Расіі, іх нібыта носяць на руках, на самай справе ніякай сапраўднай увагі няма. Нашым маладым драматургам застаюцца толькі крошкі ад вялікага пірага, які дзеліць расійскі тэатральны бамонд з іншымі драматургамі. А ў нас, на сваёй Радзіме, яны да гэтага часу не заявілі пра сябе як пра нейкую сур'ёзную групоўку нацыянальнай драматургіі. Гэта касмапалітычная драматургія. Гэта драматургія, якая не працуе на культуру Беларусі, не садзейнічае таму, каб беларускі нацыянальны тэатр стаў, па словах М. Гарэцкага, «храмам нашага Адраджэння». Не ўсведамляючы гэтага, маладыя драматургі кідаюцца на мішуру. Баюся, што вялікага толку з іх не будзе. Узяць таго ж А. Курэйчыка. Нехта назваў яго «звенящей пустотой». Але гэта няпраўда. Чалавек ён вельмі здольны. У яго актыве — звыш дзясятка п'ес. І некаторыя з іх напісаны вельмі майстравіта, але тэматыка і праблематыка іх слаба карэлюе з духоўнымі гарызонтамі сучаснага беларускага соцыуму. Ёсць п'есы А. Курэйчыка і нібыта іх няма. Таму і называем мы яго (магчыма, нават па інерцыі) усё яшчэ сярод драматургічных чаляднікаў, хай сабе і сярод тых з іх, хто падае вялікія надзеі. Добрым навыкам драматургічнага пісьма валодае і М. Рудкоўскі. А калі ён здолее абаперціся на нацыянальныя творчыя традыцыі, будзе добры плён і вынік. Але ж — гэтыя традыцыі! Маладыя драматургі бягуць ад іх не раўнуючы, як чэрці ад ладану. А між тым, традыцыі ніколі ў беларускай літаратуры негатыўнага сэнсу ці зместу не неслі. І ніколі не былі перашкодай для ўкаранення нейкіх новых творчых інтэнцый. Айчыннае прыгожае пісьменства ў параўнанні з некаторымі еўрапейскімі літаратурамі мае меншы досвед, меншы працяг развіцця, таму безагляднае эксперыментаванне з навацыямі можа абярнуцца поўным негатывам, таму нам трэба быць вельмі асцярожнымі з усім гэтым. Інакш — шлях у тупік.

**— Купала, Крапіва, Макаёнак, Дудараў... Вы можаце назваць годны працяг шэрагу? Які наш шэраг тэатральных зорак першай велічыні?**

— Я яшчэ не выкрасліў са сваіх творчых планаў напісанне кнігі, якую складуць артыкулы пра нашых драматургаў. Назва кнігі ўжо ёсць — «Сто партрэтаў». Усіх пералічваць не буду, але зазначу, што ў кнізе будуць яшчэ артыкулы пра Е. Міровіча, У. Галубка, В. Шашалевіча, Ф. Аляхновіча, М. Зарэцкага, Л. Родзевіча, А. Петрашкевіча, У. Караткевіча, М. Матукоўскага, А. Дзялендзіка, А. Папову, Г. Марчука, С. Кавалёва... Гэта — у «працяг шэрагу». А ўсіх сто! Выдзяляць тры-пяць лепшых некарэктна. Ёсць шматлікая авангардная групоўка аўтараў, якая забяспечыла беларускай драматургіі той узровень, які дазваляе нам гаварыць пра яе як пра сутнасць еўрапейскага кшталту. Гэта людзі, якія могуць параўноўвацца з самымі выбітнымі драматургамі Еўропы. Наша бяда ў тым, што мы не ўмеем прапагандаваць сваіх. А калі навучымся, то суседзі (людзі, якія абазнаны ў сапраўдным драматургічным мастацтве) з намі пагодзяцца, што гэты шэраг творцаў — першай велічыні.

Нашым маладым драматургам застаюцца толькі крошкі ад вялікага пірага, які дзеліць расійскі тэатральны бамонд з іншымі драматургамі. А ў нас, на сваёй Радзіме, яны да гэтага часу не заявілі пра сябе як пра нейкую сур'ёзную групоўку нацыянальнай драматургіі. Гэта касмапалітычная драматургія

## Традыцыі ніколі ў беларускай літаратуры негатыўнага сэнсу ці зместу не неслі. І ніколі не былі перашкодай для ўкаранення нейкіх новых творчых інтэнцый

Мне «спадабалася» спроба адной з журналістак «Звязды» вывесці іерархію сучасных творцаў. Было зададзена пытанне, хто на сёння самы магутны драматург. Быў названы не А. Дудараў, а А. Папова. Гэта ж несур'ёзна, канешне. Свае моцныя бакі мае і А. Папова. Я яе прызнаю як моцную творчую асобу. Але лепей за А. Дударава на сёння ніхто не піша п'ес. У яго інструментоўка, уменне ўбачыць п'есу ўжо на сцэне (ён жа па спецыяльнасці акцёр!) — а гэта вельмі важна. Гэта не значыць, што ўсё пішацца ім выдатна. Апошнім часам ён робіць шмат чаго і проста ва ўгоду густам сучасных гледачоў, шырпатрэб. А мы згубілі глядацкую аўдыторыю — адну з самых лепшых у Савецкім Саюзе.

**— Беларуская драматургія і тэатр — ці ёсць праблемы ўзаемадзеяння паміж імі, на вашу думку?**

— Такія праблемы існавалі заўсёды. Для кожнага тэатра найгалоўнейшым клопатам з'яўляецца рэпертуар, таму тэатр быццам бы цалкам залежыць ад драматургіі. Але не ўсё так проста, узаемаадносіны паміж рэжысёрамі і пісьменнікамі часам набываюць ледзь не антаганістычны характар па той простай прычыне, што першыя з іх схільны перабольшваць сваю ролю ў працэсах сцэнічнага тварэння. Дзеля справядлівасці хачу прызнаць, што ўсё вартае з напісанага беларускімі драматургамі ўбачыла святло рампы. Але як жа цяжка некаторыя беларускія п'есы прабіваліся пад тое святло! Не будзем чапаць «Тутэйшых» Янкі Купалы (там была задзейнічана палітыка), а вось «Трыбунал» Андрэя Макаёнка ўзгадаць варта. Менавіта спектакль па гэтай п'есе А. Макаёнка лічыцца найлепшай рэжысёрскай работай В. Раеўскага, а між тым драматург амаль штовечар доўгія тры месяцы вадзіў маладога кіраўніка Купалаўскага тэатра па алеях парку, каб растлумачыць яму пра што п'еса і чаму яе варта ставіць.

На сённяшні дзень праблема ўзаемаадносін паміж драматургамі і рэжысёрамі стала яшчэ больш вострай. Па-першае, рэжысёраў катастрафічна не хапае. Па-другое, яны ў большасці сваёй мысляць неяк неадэкватна. Напрыклад, Мікалай Пінігін, якога прызначылі галоўным рэжысёрам Купалаўскага тэатра, заяўляе ў інтэрв'ю: «Я ў сваім тэатры ні Крапівы, ні Петрашкевіча, ні Макаёнка ставіць не буду», то зразумела, што ніякаму Марчуку, Дзялендзіку ды іншым месца, канешне, там не будзе. І гэта не першая заяўка. Ён яшчэ гады два назад заявіў, што вось калі яны думаюць — гэтыя беларускія драматургі, што я іх буду ставіць таму, што яны беларускія, дык яны памыляюцца, бо Някрошус, аказваецца, не паставіў ніводнай літоўскай п'есы, а стаў класікам. Няпраўда. Я правяраў. Някрошус ставіў літоўскія п'есы. Ды нават калі б і не ставіў. Нашто нам арыентавацца на чужыя памылкі? У нас ёсць свая традыцыя. У нас тэатр забаўкай ніколі не быў. І шлях Пінігіна — гэта шлях у тупік. Харошыя былі пастаноўкі ў яго. Круці не круці, але «Пінскую шляхту» Дуніна-Марцінкевіча ён паставіў выдатна. «Сымон-музыка» — можа, нават і найлепшая яго работа. І «Тутэйшыя»... Але гэта ўчарашні дзень. І вяртацца да іх не будзем.

І што будзе з тэатрам? Нядаўна падводзілі вынікі Нацыянальнай тэатральнай прэміі. Адборачная камісія прыняла на агляд 16 спектакляў. З іх толькі тры беларускія. Незразумела, па якіх крытэрыях адбіраліся гэтыя спектаклі. Раз прэмія нацыянальная, то трэба было і не забываць пра гэта. І зноў падкрэсліваю: у кожным з тэатраў ёсць праблема рэжысёра. У глыбінцы проста вакуум.

## Па-першае, рэжысёраў катастрафічна не хапае. Па-другое, яны ў большасці сваёй мысляць неяк неадэкватна

І рэжысёры нашы непісьменныя. Не чытаюць нічога. Яны не ведаюць беларускай драматургіі. Не ведаюць беларускай культуры. На што арыентаваныя людзі? Таму і турбуюцца рэжысёры толькі пра фінансавы поспех. А мы ж павінны думаць пра беларускую культуру.

**— У 1950-70-я гады была папулярнай аднаактоўка. Аматарскія тэатры (школьныя, клубныя) актыўна спажывалі «малую» форму. Што цяпер?**

— Канешне, «няма таго, што раньш было». Справа ў тым, што пры змене вектараў развіцця нашай культуры, якая адбылася на ўзмежжы двух стагоддзяў, усім відам і жанрам беларускай драматургіі не вельмі пашэнціла нават у параўнанні з не надта спрыяльным полем іншых родаў літаратуры — паэзіяй і прозай. А малафарматнай драматургіі не пашанцавала яшчэ больш, таму што згарнулася сетка так званых народных тэатраў — сярод іх былі выдатнейшыя калектывы. Нават калі гістарычна прагледзець, у нас некаторыя народныя тэатры працавалі ўжо на ўзроўні прафесіяналаў. Таму і не дзіўна, што на базе народнага тэатра ў Мазыры цяпер працуе прафесійны тэатр. Гэтаксама ўзнік прафесійны тэатр у Пінску. Стаіць пытанне аб прафесійным тэатры ў Баранавічах і іншых мясцінах. Цяпер намнога складаней з гэтым, таму што энтузіястаў мала, увага з боку грамадскасці таксама малая. І таму менш інтэнсіўна развіваецца «малая» драматургія. А п'есы пішуцца перш за ўсё для сцэны. А потым ужо: надрукуеш — гэта добра, а не надрукуеш... Шмат п'ес у нас праходзіць як факт тэатральнай сцэны без публікацыі. Хоць зыходны матэрыял літаратурны.

Тым не менш, казаць, што на сённяшні дзень мы абсалютна згубілі «аднаактоўку», было б няпраўдай. Рэгулярна друкуюцца такія драматургічныя творы ў зборніках. Можна прывесці прыклад Г. Каржанеўскай, якая выдала колькі такіх кніг. І яны запатрабаваныя, бо яшчэ не зусім мы згубілі беларускую самадзейную сцэну. А малафарматная драматургія, магчыма, займее большы плацдарм жыццядзейнасці ў сувязі з тым, што сёння падыходы да тэатральнага мастацтва мяняюцца. Цяпер некаторыя п'есы, нават класічныя, не рызыкуюць рэжысёры ставіць з-за іх маштабнасці. А вось такая «пахватная», як кажуць у народзе, драматургічная прадукцыя можа зацікавіць. Тым больш з ёю прасцей працаваць.

**Адборачная камісія прыняла на агляд 16 спектакляў. З іх толькі тры беларускія. Незразумела, па якіх крытэрыях адбіраліся гэтыя спектаклі. Раз прэмія нацыянальная, то трэба было і не забываць пра гэта**

Існуюць пэўныя праблемы пры знаёмстве самадзейных тэатраў з патэнцыйным рэпертуарам. Скаргі такіх тэатраў пра цяжкасці ў азнаямленні з п'есамі абгрунтаваныя, але не да канца. Вядома, у свой час праблемай распаўсюджвання рэпертуару ў Савецкім Саюзе займалася спецыяльнае агенцтва. Сёння гэтага няма. Але чаму я кажу, што тыя прэтэнзіі можна толькі часткова прыняць? Бо цяпер няма вялікай праблемы, каб адсачыць выхад драматургічных твораў. Гэту інфармацыю можна знайсці на сайтах, перадусім выдавецкіх. Трэба звязвацца з творчымі саюзамі, з часопісамі. І не будуць узнікаць ніякія складанасці. Ну і, зразумела, нам трэба вяртацца да традыцый, калі ўстановы культуры спецыялізаваліся па выпуску рэпертуару для самадзейных тэатраў. Можна ўспомніць Рэспубліканскі цэнтр па эстэтычным выхаванні дзяцей, выдавецтва «Юнацтва» (там Валянцін Лукша стараўся), небезвядомы Інстытут беларускай культуры (вось гэтай установе сёння і варта было б успомніць ранейшую практыку). Многія кнігі мінулых гадоў выдання засталіся. І п'есы не так ужо састарэлі. Хаця, безумоўна, варта ставіць навейшыя творы.

**— Якія вектары развіцця сучаснай беларускай драматургіі ёсць? У які бок**

Публіку трэба выхоўваць. Вяртанне да праблем сучаснасці — гэта шлях. Круці не круці, а ў Беларусі тэатр — гэта кафедра. І людзі хочуць прыйсці ў тэатр не парагатаць, а каб зверыць сваё бачанне праблем, клопатаў і сумненняў сучаснай рэчаіснасці са сцэнічным

**варта было б скіраваць больш увагі аўтарам (тэмы, жанры, формы)?**

— Раней драматургія развівалася ў адпаведнасці са сваімі ўнутранымі праблемамі. Вядома, улічвалася, што на дадзены момант запатрабавана глядацкай сімпатыяй, але творчы пошук абумоўлены быў унутранымі патрэбамі развіцця. Менавіта яны і вызначалі характар творчага здзяйснення. Дапусцім, у 1970-я гады быў цэлы такі карпускулярны выкід камедыяграфічнай энергетыкі: Крапіва, Макаёнак, Матукоўскі, Петрашкевіч, Іскрык… Цяпер драматургі аглядваюцца на тэатральную касу. Таму казаць сёння, што ёсць вектар адзін, вектар другі, трэці — складана. Пішацца, што ставіцца. Тым не менш можна заўважыць, што ў беларускай драматургіі апошняга часу дастаткова папулярнымі сталі распрацоўкі біяграфічных старонак нашай літаратуры. Толькі пра Багдановіча: спектакль «Дзённік паэта» (аўтар п'есы С. Кавалёў) быў пастаўлены Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі, «Страцімлебедзь» (Ю. Сохар) у Бабруйску, у Магілёўскім абласным драматычным тэатры імя Дуніна-Марцінкевіча, п'еса Ягора Конева «Максім і Магдалена (каханне і смерць Максіма Багдановіча)» пастаўлена ў Гомелі. Здавалася б, Скарыніяна ўжо адпрацавана. Не. Іван Штэйнер піша п'есу «Спакушэнне Скарыны» для пастаноўкі ў тым жа Гомельскім драматычным тэатры. Далей — тэма Янкі Купалы. У свой час напісаў п'есу Леў Караічаў «Карона з кахання». Сучасны аўтар Пятро Васючэнка стварыў п'есу «Паэт і дзяўчына». Нядаўна ў Мінскім абласным тэатры (г. Маладзечна) пастаўлена п'еса А. Дзялендзіка, дзе не прыдумалі нічога лепшага, як забраць назву твора нябожчыка Караічава. Біяграфічны напрамак, як бачым, больш-менш распрацоўваецца. Але і гэта плынь п'ес вектарам не стала.

А вось пажаданні… Зыходзячы з майго вялікага вопыту працы ў драматургіі і тэатры, магу адно сказаць: велізарная праблема на сучасны момант — гэта праблема гледача. Я ж ведаю публіку. Ведаю, як у 1970-я гг., калі была якая прэм'ера, літаральна недзе чвэрць залы займалі «кондавыя» тэатралы. Яны ведалі ўсё і пра ўсё: пра драматургаў, пра акцёраў, пра тэатральнае мастацтва і г. д. З канца 1980-х мы пачалі паціху страчваць гэтую эліту. І цяпер я прыгледзеўся на пастаноўцы Віцебскага нацыянальнага тэатра паводле Караткевіча: толькі невялічкі астравок — чалавек шэсць прысутнічала. Мы можам вярнуць тую публіку. Частка, канешне, ужо адышла зусім. Незваротна. Але публіку трэба выхоўваць. Вяртанне да праблем сучаснасці — гэта шлях. Круці не круці, а ў Беларусі тэатр — гэта кафедра. І людзі хочуць прыйсці ў тэатр не парагатаць, а каб зверыць сваё бачанне праблем, клопатаў і сумненняў сучаснай рэчаіснасці са сцэнічным. Многія рэжысёры думаюць: а пастаўлю я якую-небудзь забаўляльную п'еску, вось і глядач знойдзецца. Колькі будзе, столькі і хопіць. Але неўзабаве згубяць яны ўсё. Бо гэта вельмі ненадзейная публіка, яна будзе шукаць тыя ўстановы, дзе забавы больш «крутыя». А калі будуць п'есы, якія глыбока прааналізуюць, асэнсуюць праблемы сучаснасці, калі тэатр зможа наладзіць зацікаўлены дыялог залы і сцэны, справы стануць наладжвацца. Драматургіі і тэатру неабходна пазбаўляцца ад мішуры і эрзацаў, свае мастацкія палеткі трэба ім засяваць паўнацэнным зернем нацыянальнай культуры. Трэба глыбей асэнсоўваць мінулае і сучаснае, пастаянна турбавацца пра патрыятычнае выхаванне сучаснага пакалення беларусаў.

Ягор КОНЕЎ

# СЫХОД У ВІРТУАЛЬНАСЦЬ — НЕПАЗБЕЖНЫ

Адзінаццаць гадоў таму я апублікаваў у часопісе «Маладосць» артыкул пад назвай «Будучыня беларускага друку», у якім заяўляў, што на працягу бліжэйшых гадоў наша інфармацыйная мадэль мусіць перайсці на лічбавую платформу. Я канстатаваў, што чытацкая аўдыторыя будзе пакрысе адмаўляцца ад «папяровай» версіі газет і часопісаў ды звяртацца да віртуальнай, бо гэта больш зручна для карыстальнікаў. Гэта не азначала, што «юзеры» стабільна ўтаропяцца ў экраны стацыянарных камп'ютараў. Людзі, маўляў, будуць мець пры сабе электронныя прылады, з экрана якіх будуць чытаць навіны, дзе ім заўгодна: у транспарце, на вуліцы або на працы.

Сакрэт маіх прароцтваў даволі просты. Як выкладчык замежнай журналістыкі, я рэгулярна адсочваў найноўшыя тэндэнцыі ў развіцці сусветнай інфармацыйнай прасторы і бачыў, што на мяжы тысячагоддзяў цывілізацыя апынулася на лініі камунікацыйнага разлому. Элекронныя медыя квітнелі непрадказальнымі тэмпамі. І наша краіна мусіла або ігнараваць тыя працэсы, або актыўна далучацца да іх.

Падзеі, якія адбыліся за апошнія гады, толькі пацвердзілі слушнасць маіх высноў.

Апошнія дваццаць гадоў беларускія выданні незваротна гублялі сваіх падпісчыкаў. Дзяржава скарачала фінансаванне, а паступленні ад рэкламы не пакрывалі выдаткаў. У бліжэйшай перспектыве, на вялікі жаль, гэтая тэндэнцыя не пераменіцца. Можна, бы малітву, паўтараць заклікі да моладзі, каб падпісвалася на нацыянальныя выданні, — гэта ўсё роўна застанецца страсеннем паветра. Можна пагаджацца з меркаваннем чытачоў сталага ўзросту, што, маўляў, ад чытання тэксту на экране манітора не адчуеш такой асалоды, як ад судакранання пальцамі з паперай. Ды толькі старая аўдыторыя не адыгрывае істотнай ролі ў сённяшніх камунікацыйных працэсах: ані ў падпісцы на беларускамоўныя выданні, ані ў спажыванні рэкламнай прадукцыі.

Я не лічу, быццам наша дзяржава надзвычай адстае ў інфармацыйным развіцці ад развітых краін Еўрасупольнасці. Паводле маіх разлікаў, не болей, чым на пяцігодку, і гэты разрыў можна даволі хутка скараціць.

Першыя электронныя версіі нашых выданняў з'явіліся яшчэ ў 1997-м (да прыкладу, у Вялікабрытаніі і Швецыі — у 1992—1993 гг.). Першым у гэтай чарадзе стаўся «Вечерний Минск», за ім памкнуліся астатнія рэдакцыі. Аднак эканамічны эфект ад такой навацыі быў мізэрны. Як і ў Еўрасаюзе, дарэчы.

Першапачаткова ў электронных версіях публікаваліся галоўным чынам анонсы навін і артыкулаў. Тым, хто імі зацікавіцца, прапаноўвалі звярнуцца да «поўнай» версіі выдання. А як такая дзейнасць не лічылася ў рэдакцыі ані складанай, ані ганаровай, то ў аддзелы інтэрнэт-версіі прызначалі працаваць або студэнтаў, або стажораў. Аднак даволі хутка высветлілася, што карыстальнікам сеткі анонсы не цікавыя. Яны не звярталіся да «папяровых» версій, а шукалі патрэбную ім інфармацыю на іншых сайтах і парталах.

У пачатку «нулявых» сітуацыя падкарэктавалася іншым чынам. Электронныя версіі займелі пашыраныя штаты супрацоўнікаў і «зажылі» ўласным жыццём. У іх цяпер змяшчаліся не толькі поўныя варыянты тэкстаў, але і матэрыялы, напісаныя выключна для інтэрнэт-версіі. Яны суправаджаліся відэа- ці аўдыёзапісамі, а таксама адсылкамі да архіўных матэрыялаў. Раз адбылося спалучэнне на адзінай платформе тэксту, гуку і відарыса, то такая з'ява атрымала назву *канвергенцыі*. Яна масіравана адбі-

**Можна, бы малітву, паўтараць заклікі да моладзі, каб падпісвалася на нацыянальныя выданні, — гэта ўсё роўна застанецца страсеннем паветра**

рала ўсё болей спажыўцоў аналітычнай і забаўляльнай інфармацыі ў «традыцыйных» медыя — друку, тэлебачання і радыё.

У сярэдзіне «нулявых» канвергенцыя спрычынілася да таго, што ў віртуальнай прасторы з’яўляліся выданні, тэле- і радыёканалы, якія дзейнічалі толькі ў сетцы. Існавалі ды прыносілі прыбытак яны галоўным чынам за кошт нізкіх вытворчых выдаткаў і вялікага прытоку рэкламадаўцаў, якія, як вядома, хутка дазнаюцца, куды перамясціўся перспектыўны спажывец.

Крызіс 2008 года, які дагэтуль не завяршыўся, нанёс «традыцыйным» сродкам масавай інфармацыі зруйнавальны ўдар. Тысячы выданняў, тэле- і радыёстанцый страцілі рэнтабельнасць, дзясяткі тысяч журналістаў пазбавіліся працоўных месц і мусілі перакваліфікавацца ў пазаштатнікаў-фрылансераў. Такія аўтарытэтныя выданні, як брытанская «Таймс» або французская «Фігаро» хоць і ўтрымаліся на інфармацыйным рынку, але істотна зменшылі ганарары для сваіх аўтараў. Галоўны рэдактар «Пары матч» не так даўно наогул заявіў, што друкавацца ў газеце — справа гонару, а ганарары, маўляў, з’ява другасная.

Шэраговыя журналісты нідзе і ніколі не з’яўляліся высокааплатнай катэгорыяй. (У нямецкіх журналістаў, якія лічацца элітай сярод іншых еўрапейцаў, заробак складаў 2200—2400 еўра.) Цяпер жа многія «акулы пяра» выконваюць прафесійныя абавязкі з ранку да абеду, а потым зарабляюць на жыццё або рыэлтарамі, або афіцыянтамі, або прыбіральшчыкамі. Як вынік, паводле сацыялагічных апытанняў, сучасная амерыканская моладзь у рэйтэнгу 100 жаданых прафесій змяшчае журналістыку на 96 месца. (Да го-нару Еўрасаюза зазначу, што там яна займае 79-ю пазіцыю).

Галоўнай праблемай нашых рэдактараў, як мне здаецца, з’яўляецца тое, што яны дагэтуль не могуць паверыць: людзі ахвотней чытаюць тэксты ў віртуальнай прасторы, бо так ім зручней. Масавы спажывец, як вядома, заўсёды кіруе туды, дзе лепей пачуваецца.

Між тым з арганізацыйнага пункта гледжання пераход на віртуальную мадэль выдання з’яўляецца даволі аптымальным. Не трэба болей клапаціцца наконт аплаты паперы і тыпаграфскіх выдаткаў. Не трэба арэндаваць памяшканні, бо журналісты могуць працаваць дома, — абы рыхтавалі якасныя матэрыялы і здавалі іх своечасова. Сувязь рэдактара з падначаленымі падтрымліваецца праз мабільны тэлефон або скайп. Планёркі ды лятучкі адбываюцца ў рэжыме відэаканферэнцыі, у час якой начальнік можа «накруціць хвост» і зрабіць вымову карэспандэнту гэтак жа строга, як і пры асабістай сустрэчы. Да таго ж, у віртуальным выданні журналісту лягчэй суправадзіць свой тэкст спасылкамі, шэрагам ілюстрацый, фотаздымкаў, відэа- і аўдыёзапісаў. Усё гэта не ўтоўпіцца на папяровы аркуш фармату А3, аднак лёгка змесціцца ў беспамернай сетцы.

А як выгод такое становішча мае болей, чым недахопаў, то не дзіва, што паступова ўсё болей выданняў спыняюць выхад сваіх папяровых версій і цалкам сыходзяць у сетку. У якасці найбольш яскравага прыкладу хацеў бы адзначыць амерыканскую газету «Дэйлі мейл». Яшчэ ў студзені 2012 года яна з’ўлялася, як і на працягу папярэдніх трох дзесяцігоддзяў, трэцім па тыражных паказчыках англамоўным выданнем у свеце (першае месца займала «Нью-Ёрк Таймс», другое — «Файнэншэнал Таймс»). На працягу апошніх чатырох гадоў «Дэйлі мэйл» цярпела фінансавыя страты, пакуль у лістападзе яе кіраўніцтва не абвясціла пра выхад апошняга папяровага нумара. Ад гэтай пары выданне функцыянуе ў якасці віртуальнага. Як вынік, спынілася скарачэнне рэдакцыйнага і тэхнічнага персаналу. Заробкі, праўда, пакуль істотна не змяніліся, затое павялічыўся прыток рэкламных інвестыцый.

Значна прасцей працаваць і тым карэспандэнтам, якія ўтвараюць уласныя тэлеканалы. Ім не патрэбны буйныя вытворчыя памяшканні і процьма тэхнікі. Тэлевядучы сам мантажыруе сюжэт з дапамогай камп’ютар-

най праграмы, сам начытвае тэкст, уключае і выключае камеру, усталяваную ля экрана манітора. Шырокая аўдыторыя такім тэлеканалам не гарантавана, аднак яны дзейнічаюць паводле тых жа прынцыпаў, паводле якіх працавалі кабельныя студыі ў 70—80-я гады XX стагоддзя — пакрысе адваёўваюць вузкія сегменты аўдыторыі ў буйных медыякарпарацый. Каб добра пачувацца цяпер на медыйным рынку, рэдакцыя павінна арыентавацца на пэўную аўдыторыю — няхай і невялікую, але стабільную на падставе ўласных інтарэсаў.

Мне падаецца, беларускамоўны друк такую аўдыторыю мае. Няхай і не такую шматлікую, як хацелася б, але нязменную ў прыхільнасцях. Такую аўдыторыю ўжо не загоніш на пошту просьбамі пра падпіску, бо яна існуе ва ўмовах насычанага інфармацыйнага абмену і разнастайнага багацця выбару. Але яна ўсё роўна будзе імкнуцца да беларускага мастацкага і публіцыстычнага слова — калі толькі слова тое будзе мудрым, якасным і ствараць падставы для роздуму. Таму, лічу, трэба, не марудзячы, нашым выданням пераходзіць на лічбавую платформу, а папяровыя версіі пакідаць у якасці рарытэтных падарункаў для аматараў традыцыйнага друку. Раз нашу інфармацыйную мадэль усё роўна чакае такая будучыня, дык навошта з ёй марудзіць? Інакш давядзецца, вобразна кажучы, заскокваць у апошні вагон цягніка найноўшых тэхналогій, які імкліва паскарае рух.

Дзяржава ў выніку атрымае добрую эканомію, вызваліўшыся ад выдаткаў на арэнду памяшканняў, аплаты паперы, тыпаграфіі ды інш. На зэканомленыя грошы можна істотна павысіць заробкі журналістам, каб зрабіць гэтую прафесію больш прывабнай у нашым грамадстве.

Віртуальны варыянт выданняў вырашае і яшчэ адну важную праблему — недахоп аб'ёмаў для публікацыі тэкстаў. Інтэрнэт, як я ўжо казаў, беспамерны, а вось каб змясціць задуманае на папяровым аркушы, трэба доўгі час рэдагаваць тэкст, «прыбіраючы» слоўца, сказ ці абзац. Цяпер такая праблема знікне — але ані ў якім выпадку не павінна знікнуць якасная рэдактура, апошняя лінія абароны перад наступам графаманства і бездухоўнасці. Адбор твораў да публікацыі або іх адбракоўка ці вяртанне на дапрацоўку, рэдактура прынятых тэкстаў і давядзенне іх да ладу — усё гэта мусіць застацца ў рэдакцыйнай практыцы, як і раней. На такіх прынцыпах заўсёды трымалася і заўсёды будзе трымацца якасная журналістыка. Зменіцца толькі форма данясення інфармацыі да чытача, але не яе сутнасць.

Я пагаджуся з тымі, хто заявіць, што рана «хаваць» друк. Маўляў, яму прарочылі знікненне яшчэ сто гадоў таму, калі бурнымі тэмпамі развівалася радыё. Потым гэтак жа апантана ў 1950-я гады спявалі паніхіду друку і радыё, — маўляў, іх «пахавае» тэлебачанне. Цяпер спяшаюцца ўвагнаць у магілу друк, радыё і тэлебачанне. Гэта азначае, што насамрэч захаваюцца газеты, часопісы, тэле- і радёканалы, — праўда, будуць мець больш абмежаваную аўдыторыю. Таксама гэта азначае, што праз колькі дзесяцігоддзяў і электронныя медыя закляймяць як састарэлыя, бо навукоўцы вынайдуць нейкія найноўшыя, больш зручныя ў карыстанні сродкі інфармацыі.

Але, упэўнены, і тады прынцыпы журналісцкай творчасці не пацерпяць кардынальных змен, а вялікая мара пра СМІ як «чацвёртую ўладу» ў грамадстве не страціць актуальнасці. Аднак цяпер нам належыць не азірацца з настальгіяй у мінулае і не са страхам глядзець у будучыню, але адаптавацца да новых рэалій ды карыстацца іх выгадамі, засвойваць новыя тэхналагічныя ўмовы працы з найменшымі стратамі.

Паводле маіх назіранняў, кіраўніцтва нашай дзяржавы разумее сутнасць гэтых тэндэнцый. Недарма ў Год кнігі было прынята рашэнне выдаць электронны збор твораў сяброў Саюза пісьменнікаў. На папяровы спатрэбіліся б значныя выдаткі, якія наўрад ці акупіліся б. Да таго ж, усялякі папяровы том усё роўна потым пераводзіцца ў лічбавую форму, выпраўляецца ў сетку і там знаходзіць сваіх зацікаўленых чытачоў. Дык прасцей адразу накіроўваць кнігу ў сетку, куды яна ўсё роўна патрапіць.

Такім чынам я ўпэўнены, што сыход у віртуальнасць — гэта непазбежны шлях для беларускага друку і кнігавыдання. Можна гараваць з гэтай нагоды, не разумеючы сутнасці, а можна сустракаць яго з адкрытым сэрцам. Я раю апошняе.

Ігар МУЗЫКА

# ШТО НІ КАЖЫ, А Ў ПАПЕРЫ СВАЕ «ПЛЮСЫ»

З нядаўняга часу я з'яўляюся супрацоўнікам інтэрнэт-СМІ. Наша газета «Прэсбол» — лідар на рынку спартыўнай прэсы — вялікія надзеі ўскладае на віртуальную частку выдання. І канкрэтна я 80 % матэрыялаў «цісну» ў сусветнае павуціннe. Ведаеце, зручна: увернеш бязглузды выраз — і можна выправіць. Скончыўся матч — і праз гадзіну твой рэпартаж ужо абмяркоўваюць. І чытачу добра: не трэба ў шапік бегчы па газету, не трэба грошы аддаваць. Тэлефон з кішэні — і чытай. А яшчэ больш прыемна тое, што можна каменты пакідаць.

Калі артыкул змешчаны ў газеце, выказаць аўтару сваё незадавальненне (або наадварот) можна толькі пры выпадковай сустрэчы ў краме. А вось у інтэрнэце — гэта ўжо зусім іншая справа! Ды матч «Манчэстэр Юнайтэд — Чэлсі» усё роўна як і не адбыўся, калі асабіста вы не вылілі ў сеціва сваё абурэнне наконт судзейства або захопленасць дзеяннямі Фернанда Торэса.

Мой аднакласнік Аляксей кажа, што газету ці часопіс даўно не трымаў у руках. На яго думку, папяровая прэса будзе паступова паміраць, а інтэрнэт працягне пераможнае шэсце. І ў гэтай думцы ён не адзінокі.

Аднак мне будучыня інтэрнэт-СМІ не бачыцца такой ужо бясхмарнай. Поспехі вэбжурналістыкі ў XXI стагоддзі відавочныя, і перспектывы яе здаюцца велічнымі, гэтаксама як відавочнымі і велічнымі здаваліся некалі перспектывы ядзернай энергіі і харчовых дадаткаў. Разгінаючы сшэрхлую ад сядзення за кампом спіну, да якой, паводле папярэджвання доктара, ужо падкрадваецца астэахандроз, і на імгненне прымружваючы стомленыя вочы, я магу ўспомніць іншыя адкрыцці чалавецтва, ад якіх чакалі поўнага перавароту нашага жыцця. Узяць хаця б касмічныя ракеты…

Разгледзім першы аспект. Інтэрнэт будзе пашырацца? Сёння сусветным павуціннем зацягнута 75 % насельніцтва краін Заходняй Еўропы. Рызыкнём выказаць меркаванне, што адсюль недалёка да крытычнай мяжы: 100 % ніколі не паварочваецца ні ў якую веру, заўсёды застаецца 15—25 % «белых варон», якія не вераць, што Зямля змяшчаецца ў цэнтры Сусвету і мае пляскатую форму, аб'яўляюць сябе атэістамі, замест таго каб пакланяцца адзіна правільнаму богу (Асірысу, Адонісу, Зеўсу і гэтак далей), не купляюць пральны сродак той самай маркі, што выбірае тэлезорка, не аддаюць галасы за правільных кандыдатаў на выбарах, не жадаюць набываць новы айфон і гэтак далей.

У Беларусі сеткай ахоплена 50 % насельніцтва. Хутчэй за ўсё, да еўрапейскіх 75 % мы дацягнем. Гэта будзе азначаць, што за кошт свайго экстэнсіўнага развіцця вэб-СМІ змогуць павялічыць аўдыторыю яшчэ ў паўтара разы. Але велізарныя скачкі першых гадоў новага тысячагоддзя сніцца ім ужо не будуць. Нельга выключыць і верагоднасць адкату: нагуляўшыся ў айпады і айфоны, чарговае пакаленне падлеткаў захоча цешыцца нечым іншым. Мода на перманентную прысутнасць у віртуальнай рэальнасці можа аднойчы пайсці на спад, як кожная іншая мода.

Аспект другі. Якасць. Так, у інтэрнэт інфармацыя трапляе хутчэй. Так, за яе не трэба плаціць. Аднак бясплатны сыр — гэта не заўсёды якасны сыр. Калі за працу ніхто не плоціць, то энтузіязм рабіць яе якасна паступова сыходзіць на нуль. Працаваць, зыходзячы з фанабэрыі (ура, на маім сайце 100 наведвальнікаў і 30 камента ў!), доўга

**Так, у інтэрнэт інфармацыя трапляе хутчэй.
Так, за яе не трэба плаціць.
Аднак бясплатны сыр —
гэта не заўсёды якасны сыр**

будзе хацець не кожны. Проста таму, што могуць з'явіцца іншыя захапленні. Калі ж аўтар вэб-рэсурсу прафесійны журналіст, за «дзякуй» ён не будзе рызыкаваць сваёй спінай дакладна. Канкрэтна ў Беларусі рынак інтэрнэт-рэкламы невялікі, самаакупных рэсурсаў — што котка наплакала. У Расіі сітуацыя трошкі лепшая, але і ў рунэце матэрыялы не захапляюць — ні зместам, ні стылем… Зноў жа, пабочны эфект мае — як бы гэта сказаць? — непазбежнасць аператыўнасці: самі разумееце, адна справа пісаць рэпартаж за 30 хвілін, іншая справа — сядзець над ім вечар або нават увесь дзень.

Аспект трэці. Зручнасць. Што ні кажы, а ў паперы свае «плюсы». Не толькі таму, што ёсць у што загортваць абчысткі селядца. З газетай або часопісам можна ехаць у цягніку, які перасякае межы роўмінгу, сядзець у амбасадзе, дзе просяць выключыць тэлефоны, газету можна згарнуць і пакласці ў кішэню, з яе можна выразаць заметку са сваім партрэтам і павесіць на сценку, ад яе менш стамляюцца вочы, яе не боязна выраніць у снег, калі падчас чытання вас штурхане развясёлы мінак, яе не адбяруць хуліганы, і ніякі вірус, і нават адключэнне электрычнасці не перашкодзяць яе чытаць. Нарэшце, з газетай ці часопісам у руках вы заўсёды будзеце выглядаць інтэлігентным чалавекам. Бо калі 10 гадоў таму паненка, якая бясконца тыцкае клыпажкі мабільніка, выклікала асацыяцыю з элітай, то сёння пра яе ў лепшым выпадку падумаюць: «Правінцыялка!»

Аспект чацвёрты. Здароўе. Як ужо зазначалася, карысць ад бесперапынных стасункаў з ЭВМ і мабільнікам даволі сумніўная. Уласна кажучы, маштабы гэтай карысці нам пакуль дакладна невядомыя, бо эксперымент над грамадствам доўжыцца ўсяго гадоў 10—15 і таму яшчэ не вядома, наколькі бляклы выгляд будуць мець гадоў у сорак людзі, якія распачалі свае стасункі з віртуальным светам ва ўзросце немаўлят.

Пагроза нашаму самаадчуванню расце з году ў год. Аказваецца, напрыклад, што 84 % раслін у Еўропе, у тым ліку 70 % харчовых, маюць залежнасць ад апылення пчоламі, а пчолы хварэюць і паміраюць ад пестыцыдаў і перанасычэння паветра прамысловымі выкідамі. Пытанне: што рабіць? Адказ дае нейкі шматразумны навуковец:

**Заўсёды застаецца 15—25 % «белых варон», якія не вераць, што Зямля змяшчаецца ў цэнтры Сусвету і мае пляскатую форму, аб'яўляюць сябе атэістамі, замест таго каб пакланяцца адзіна правільнаму богу не купляюць пральны сродак той самай маркі, што выбірае тэлезорка, не аддаюць галасы за правільных кандыдатаў на выбарах, не жадаюць набываць новы айфон і гэтак далей**

трэба распрацоўваць больш дасканалыя лекі для пчол. Тут панявол задумаешся: напэўна, напічканыя пестыцыдамі і лекамі, пчолы будуць насіць такі мёд, што спажыўцам яго таксама спатрэбяцца больш дасканалыя лекі? Вось так працуе навукова-тэхнічны прагрэс.

Ёсць яшчэ момант. Кажуць, быццам у інтэрнэце больш свабоды. Фармальна — так. Але ж магутныя вэб-рэсурсы жывуць па тых жа прынцыпах, што і друкаванкі, у іх такія самыя рэдактары, тыя ж спонсары, выдаўцы і цэнзары. А свабода адкрыць асабісты сайт на бясплатным хостынгу і галасіць на ўвесь свет дзеля дваццаці наведванняў на дзень… самі разумееце, з гэткім жа поспехам вы можаце і на вуліцы свае меркаванні выкладаць: больш «праглядаў» набераце. Раскруціць асабісты сайт да больш-менш прыстойнай лічбы наведванняў без капіталаўкладанняў — надзея марная.

Карацей, наконт поўнай перамогі інтэрнэт-СМІ над друкаванымі я б не спяшаўся. Асабліва калі ў беларускіх друкаванках пакінуць эканоміць на фондзе заработнай платы. Калі пішуць добра, не грэх і газету зранку прачытаць, і па сайтах прайсціся пасля абеду…

**Ад рэдакцыі.** Часопіс «Маладосць» і яго сайт запрашаюць чытачоў і аўтараў да адкрытай гутаркі на акрэсленую тэму. Дасылайце свае думкі на **maladost@bk.ru**

Уладзімір СОДАЛЬ

# ЯНКА КУПАЛА І УЛАДЗІСЛАВА ФРАНЦАЎНА Ў ЗГАДКАХ ТАМАРЫ СЦЯПАНАВАЙ



*Вось такой была Тамара, калі ўпершыню сустрэлася з паэтам.*

Тамару Сцяпанаву, дзявочае прозвішча Мішакова, тата яе быў у даваенным Мінску вайсковым лекарам, ведаю досыць даўно. Напачатку мы з ёй працавалі на тэлебачанні, а пасля нам выпала з 1977 года жыць у адным доме пад адной страхой, ездзіць у адным ліфце — я на восьмы паверх, а яна на дзявяты. І вось у Купалаў год я пачуў ад Тамары, што ёй у даваенную пару часта даводзілася наведваць Купалаў дом і падворак, балазе, ён туліўся ва ўтульным куточку Мінска на беразе Свіслачы.

— І што ж вам з той пары даваеннай помніцца на Купалавай сядзібе? — цікаўлюся я.

— А шмат чаго... Я ўжо была не такая малая. Тамара з 1927 года. Запомнілася ёй магутнае вузлаватае дрэва.

— Расло яно за Купалавым домам… Ліпа ці што… Яно было такое магутнае і таўшчэзнае, што мы ўтраіх не маглі яго ахапіць, абняць. Што яшчэ добра помніцца? Вакол гэтага дрэва была паўкругам змайстравана лава з вялікім прамежкам — каб зайсці і выйсці. А пры той лаве быў невялічкі столік. За ім Луцэвічы пілі гарбату з абаранкамі ды сушкамі. Пад гэтым дрэвам (мабыць, усё ж ліпа) Янка Купала, надаралася, чытаў свае новыя вершы. Хочаце верце, а хочаце не, але мне выпала адной з першых, яшчэ да публікацыі, чуць верш. Які, спытаеце? А «Хлопчык і лётчык». Я яго, васьмідзесяцігадовая, і цяпер памятаю.

І Тамара сцішана дэкламуе той верш з памяці, як чула яго з Купалавых вуснаў, захоўваючы інтанацыю. Цікаўлюся далей: «Як вам выпала гэтак зблізіцца з Луцэвічамі?»

— Была ў мяне сяброўка Міра. А яе матуля, ужо яе імя я не прыгадаю, забылася, хоць і ведала... Дык от яе матуля слыла ў тагачасным Менску як знаная краўчыха. І абшывала ўсіх блізкіх да яе людзей. То праз гэтую швачку нам часта з той Мірай даводзілася завітваць да Луцэвічаў — то нешта ў памерах удакладніць-узгадніць, то яшчэ нечага. Мы з гэтай Мірай ад Луцэвічаў не вылазілі. Бачылі часта і самога Янку Купалу — у ягоным дамку і на падворку, за столікам пад той ліпай ці таполяй. Ды і жылі мы ад Купалавай сядзібы непадалёк — насупраць таго сквера, дзе цяпер Купалаў тэатр, дзе скульптура хлопчыка з лебедзем. А яшчэ больш дакладна — на цяперашняй Кастрычніцкай плошчы, дзе Палац Рэспублікі. Тата мой быў у Менску знаным вайсковым лекарам. Звалі яго як хто: хто Піліпам, а хто Філіпам Мікалаевічам, — як каму чулася, як каму было зручна. То і ён быў вядомы Луцэвічам.

Што яшчэ запомнілася Тамары ў Купалавым доме?

— Ну, канешне, Уладзіслава Францаўна. Мы ўсе яе

**Пры той лаве быў невялічкі столік. За ім Луцэвічы пілі гарбату з абаранкамі ды сушкамі**

тады звалі цётачка Уладзя. Яе роля ў маім жыцці найвялікшая. Яна ў даваенныя гады працавала ў Доме піянераў. А ў ім было ў тыя часы шмат творчых гурткоў. І шмат якімі апекавалася менавіта Уладзіслава Францаўна. Далучыла яна да іх і мяне. Я там спявала, танчыла і дэкламавала — да ўсяго душа ляжала, гарнулася, на ўсё патрэба была.

Апроч таго, што наведвала ўсе гурткі Уладзіславы Францаўны, Тамара неяк «прыбілася» ў спеўны гурт дрэваперапрацоўчага прадпрыемства. Яна і яго не прапускала. І вось гэты спеўны гурт у 1938 годзе пасылаюць у Маскву. І яна з ім едзе: як жа без яе! Там шмат дэкламавала беларускіх вершаў. Сярод іх, вядома, і Купалаў верш «Хлопчык і лётчык».

— У Купалавым доме мне запомніўся сабачка з абвіслымі вушамі. Калі мы пілі гарбату, то і ён месціўся з намі за стол і харчаваўся са сваёй місы. І гэта забаўляла дзяцей.

Цікаўлюся ў Тамары: хто з сучасных музейшчыкаў цікавіўся яе расповедамі пра Луцэвічаў, ці даводзілася ёй гутарыць пра Купалу з яго пляменніцай Ядвігай Раманоўскай. На ўсе свае пытанні чую: не і не! Ніхто з ёй, Тамарай Сцяпанавай, пра яе

**Хочаце верце, а хочаце не, але мне выпала адной з першых, яшчэ да публікацыі, чуць верш. Які, спытаеце? А «Хлопчык і лётчык». Я яго, васьмідзесяцігадовая, і цяпер памятаю**




*У Мінску 1940-х гадоў кінатэатр «Чырвоная Зорка» быў насупраць цяперашняга ГУМа. На гэтым здымку Тамара з сяброўкай Мірай.*



*Тамара Сцяпанава ў 76-гадовым узросце.*

пабыўкі ў Купалавай сям'і не заікаўся. Хаця чаго там! Тамара Сцяпанава, працуючы на тэлебачанні, не адзін раз рабіла здымкі ў Купалавым музеі. Здымала па чужых сцэнарыях. А свае ўражанні пра Янку Купалу і яго жонку пакідала на потым. І наадкладалася! А шкада!

Тамара Сцяпанава — чалавек цікавы і самабытны. Апрача таго, што працавала на тэлебачанні, была дырэктарам сувораўскай бібліятэкі. Чуеце? Дырэктарам сувораўскай бібліятэкі!

Цікаўлюся ў Тамары Сцяпанавай, дзе прыспела яе вестка пра смерць нашага Янкі ў 1942 годзе. І чую:

— Майго тату ў 1939 годзе паслалі ў Польшчу. І ўся наша сямейка разам з ім пераязджае тады ў гэту краіну. Там нас і прыспела вайна. Пасля нас перакінулі на

**Здымала па чужых сцэнарыях. А свае ўражанні пра Янку Купалу і яго жонку пакідала на потым. І наадкладалася! А шкада!**

**Тыя сутарэнні мне мроіліся, сніліся не адзін раз, і не адзін раз бачылася, як Янка Купала па іх прабіраецца, а яго зламыснік спіхвае з тых прыступак...**

Урал. Ужо там мы ўсе пачулі пра зыход Купалы з жыцця. Вядома, вельмі бедавалі. Але што зробіш, калі вайна. Такое ж ліхалецце перажывала ўся тагачасная наша краіна, магутная, непераможная.

Адной парой, згадвае далей Тамара, ёй давялося жыць у Маскве ў нейкіх сутарэннях.

— То тыя сутарэнні мне мроіліся, сніліся не адзін раз, і не адзін раз бачылася, як Янка Купала па іх прабіраецца, а яго зламыснік спіхвае з тых прыступак…

Тамарынага чалавека, з якім яна падзяліла свой жыццёвы лёс, звалі Барысам Міхайлавічам. Ён быў знаным у Беларусі кінематаграфістам. Ягоныя фільмы, такія, як «Альпійская балада», «Францішак Скарына», «Бацька Мінай» і шмат якія іншыя ведала ўся Беларусь. Цікаўлюся, ці распавядала хоць калі Тамара яму пра сваю такую блізкасць да Купалавай сям'і.

— Яшчэ колькі! Ён быў у захапленні ад гэтых маіх сутрэч з Луцэвічамі.

Хілю сваю гаворку да пытання, ці ўзнікала калі ў Барыса думка зняць Тамарыны расповеды на стужку — для нашчадкаў, для наступных пакаленняў.

— Мо і ўзнікала. Але ён заўчасна памёр. Я ўжо дваццаць гадоў без яго. Ды і сама, кажу ж, мела гэты шанец, калі працавала на тэлебачанні…

На развітанне прашу шаноўную Тамару Сцяпанаву пра такую незабыўную з ёй сустрэчу пакінуць мне аўтограф славутага Купалавага верша «Хлопчык і лётчык». І Тамара без натугі, без заглядкі ў зборнік выпісала мне згаданы верш. Літаркі ў яе пісьме роўненькія, усе чытэльныя. Між іншым, Купалаў уплыў на Тамару быў неймаверна вялікі. Яна прызналася, што ў юнацтве мроіла вершамі, а яе выпускное сачыненне надрукавалі ў газеце «Комсамольская правда».

Але пра гэта іншая размова, іншым разам.

Андрэй КУВАЕЎ

# РАДЗІВІЛЫ. СКАРБНІЦА. ЗАНЯПАД

## *Нарыс-разважанне**

XVII стагоддзе, поўнае крывавых войнаў, скончылася. Але на самым пачатку наступнага стагоддзя новыя няшчасці сценам нясвіжскага замка прынесла Паўночная вайна.

Горад, які атрымаў ад караля Яна Сабескага прывілеі на гандаль, кірмашы, купецкія цэхі, паслабленне на падаткі і пошліны, у сакавіку 1706 года быў абложаны войскам падпалкоўніка Траутфетэра. Да апошняга абараняліся ў сценах езуіцкага калегіума казакі атрада Мазепы. Мужныя абаронцы загінулі толькі пасля таго, як Траутфетэр падцягнуў да сцен старого кляштара цяжкія гарматы і падпаліў горад. Тое, што пашкадаваў агонь, стала здабычай пераможцы. Аднак захапіць замак падпалкоўніку не ўдалося. Ён толькі разрабаваў маёнткі і вёскі, што належалі Радзівілам і іх паплечнікам, аслабляючы моц супраціўлення.

Даведаўшыся пра тое, што замак не ўзяты, праз два месяцы на Нясвіж накіраваўся з войскамі Карл XII. Нясвіжская фартэцыя пад камандаваннем каменданта Балімана налічвала каля 200 абаронцаў, з якіх толькі 90 былі сапраўднымі жаўнерамі. Апынуўшыся пад сценамі замка, Карл XII накіраваў да каменданта таго самага Траутфетэра і генерала Россенштэрна з патрабаваннем здацца. Маўляў, толькі ў такім выпадку абаронцам замка будзе даравана жыццё. Карл XII спасылаўся на тое, што ён кіруецца ўказаннямі супраць «бунтаўшчыкоў» сеўшага на трон Станіслава Ляшчынскага. Верагодна, гэты факт паслужыў прычынай, па якой замак здалі на літасць пераможцы.

Адпусціўшы людзей, шведы жорстка расправіліся са старадаўнім гняздом Радзівілаў. Была спалена ўся ваенная амуніцыя, у тым ліку зброя, шчыты, штандары, патоплены гарматы, узарваны магутныя бастыёны, разбураны замкавыя сцены. Вось так апісвае знішчэнне замка сведка трагедыі — нясвіжскі адміністратар Ежы Таурыловіч (май 1706 года): «…на наступны дзень усіх людзей з Нясвіжа прыгналі для знішчэння фартыфікацый. Спачатку была ўзарвана мінамі частка гармат. Затым на працягу двух тыдняў мінамі ўзрывалі сцены, вынесеныя людзьмі гарматы былі ператоплены і спалены. Разбітыя гакаўніцы скінуты ў роў, валы таксама мінамі завалілі і засыпалі. Браму дзесяццю мінамі ўзарвалі дашчэнту. Арсенал і вежы, стайні, даверху дровамі заклаўшы, спалілі і ў нішто ператварылі, усюды попелу нарабілі». Праз нейкі час такі ж лёс чакаў радзівілаўскія крэпасці ў Алыцы і Біржах.

Княская сям'я, на чале якой стаяў унук Аляксандра Людвіка, Караль Станіслаў Радзівіл па мянушцы Справядлівы, аж да 1719 года жыла далёка ад Нясвіжа, у асноўным у Бялай Падлясцы ў Польшчы. Што з нясвіжскай скарбніцы было вывезена ці схавана ў бяспечным месцы далей ад захопнікаў — застаецца таямніцай. Але так было, бо рабіць падчас вайны хованкі або эвакуіраваць рэчы было звычайнай практыкай. Да таго ж, у больш позніх апісаннях скарбніцы сустракаецца вялікая колькасць фамільных каштоўнасцей XVI—XVII стагоддзяў.

Доўга пасля не мог адбудавацца Нясвіж. Чарговы князь Міхал Казімір Радзівіл па мянушцы Рыбанька ў сямнаццацігадовым узросце страціў бацьку, але пры дапамозе сваёй разумнай маці Ганны з Сангушак пачаў маштабную працу па ўзнаўленні прэстыжу княскай кароны — арганізаваў будаўнічыя і рэстаўрацыйныя работы. Больш як дваццаць гадоў працягвалася гэта праца, дзякуючы чаму замак зноў заззяў у сваёй

* Заканчэнне. Пачатак ў № 12 за 2012 г.

велічы, ператварыўся з грознай цытадэлі ў парадны і раскошны палац у стылі барока. Старыя бастыёны, валы і равы толькі надавалі яму сярэднявечнага шарму.

Пагаворвалі, што князь Міхал знайшоў на сваёй зямлі вялізны скарб — татарскае золата, схаванае яшчэ ў часы Вялікіх князёў Міндоўга і Вітаўта. Як бы там ні было, адбудаваўшы Нясвіж, князь адкрывае новыя прадпрыемствы-мануфактуры па вытворчасці знакамітых на ўвесь свет слуцкіх паясоў у Альбе пад Нясвіжам, габеленаў у Карэлічах, фаянсавага посуду ў Свержані і Бялай, крышталю і шкла ва Урэччы і Налібоках.

Маёнтак у Бялай ператварыўся ў сапраўдны прамысловы цэнтр: тут дзейнічалі майстэрні і мануфактуры фаянса, парцаляну, сукна лепшых гатункаў, каштоўных упрыгожанняў, мэблі ў кітайскім стылі і гэтак далей. Па-новаму быў пабудаваны замак у Бялай. Трэба сказаць, што Радзівілы самі пільна сачылі за якасцю прадукцыі, запрашалі на прадпрыемствы, якія працавалі па прынцыпе «лепш менш ды лепш», толькі лепшых майстроў. Бо цудоўныя люстэркі, упрыгажэнні, мэбля і танюткі парцэлян прызначаліся ў першую чаргу для саміх Радзівілаў, а ўжо ў другую ішлі на продаж багатай, з вытанчаным густам, магнатэрыі, а таксама за мяжу, для падарункаў і прэзентаў знакамітым гасцям. Нездарма і іншыя магнаты следам за Радзівіламі пачалі заводзіць такія ж фабрыкі, а кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі так пісаў пра налібоцкія келіхі: «…І загадаў я цяпер, каб у рэзідэнцыі маёй у Лазенках (*каля Варшавы*) іншага шкла не падносілі мне да стала. Няхай кожны ведае, што ўмеюць рабіць у Налібоках». Нават цяпер мець гэтыя ўнікальныя рэчы ў калекцыі справа гонару для любога музея свету.



*Вялікі палац Радзівілаў у Варшаве.*

На жаль, беларускія музеі гэтыя экспанаты абышлі, і раскіданы яны цяпер па калекцыях свету. У пачатку 1990-х на еўрапейскіх аўкцыёнах, напрыклад, слуцкі пояс каштаваў каля 300 000 доляраў ЗША.

Князь Міхал Казімір Радзівіл узнавіў друкарню, і ў нясвіжскую замкавую бібліятэку зноў сталі прыходзіць кнігі: з друкарняй існавала адпаведная дамоўленасць. У Нясвіж Рыбанька перавёз і вялізны кнігазбор сваёй маці — так званую бібліятэку бяльскую, а таксама збор, куплены ў каралеўскага міністра Якуба Генрыха Флемінга, замаўляў і купляў кнігі ў Еўропе разам з жонкай, Францішкай Уршуляй з Вішнявецкіх. Замкавую бібліятэку ўзбагацілі таксама зборы езуіцкага калегіума, кнігі іншых галін роду Радзівілаў.

Значныя намаганні зрабіў князь і для папаўнення карціннай галерэі, замаўляючы партрэты прадстаўнікоў сям'і і роду як вядомым еўрапейскім, так і таленавітым мясцовым жывапісцам. Менавіта да гэтага перыяду аднесена серыя з болей чым сотні партрэтаў Радзівілаў «У лаўровым вянку», замоўленая для дэманстрацыі ў палацавых апартаментах. Апісанні таго часу ўзгадваюць вялікую калекцыю палотнаў Рэмбрандта, якая знаходзілася ў замку, а пасля, у 1794 годзе, была падорана Кацярынай II Платону Зубаву, а ў яго куплена волжскім купцом Сапожнікавым. Пры князе Міхале скарбніцу замка ўзбагачаюць каштоўнейшыя прадметы з калекцыі караля Яна Сабескага, а самі былыя каралеўскія замкі ў Жоўкве і Злочаве на тэрыторыі Украіны трапляюць у рукі магнатаў разам з дзясяткамі новых маёнткаў, якія Рыбанька разумна купляе ў збяднелай шляхты, а часам і з дапамогай подкупу вяльможаў зрывае буйны куш, як было з набыццём зямель Слуцкага княства, так званых нейбургскіх зямель, спадчыны біржанскай лініі Радзівілаў. Купленыя землі і маёнткі надзяляліся лепшымі адміністратарамі і ўпраўляючымі.

Грошы ракой ліюцца ў радзівілаўскую скарбніцу. Менавіта тады казачна багаты замак у Нясвіжы пачынае рабіцца прадметам легенд і паданняў, якія дайшлі і да нашых дзён, а ўзрушаныя паслы, прынятыя

ў замку па-каралеўску, апісваюць яго ў сваіх мемуарах: «Багаты замак у Нясвіжы. У яго 18 залах адных толькі ўпрыгажэнняў на 5 ці 10 мільёнаў дукатаў. Але нічога няма даражэй, чым калекцыя дванаццаці апосталаў. Пяць з іх з чыстага золата і ўсыпаны каштоўнымі камянямі».

Для Нясвіжа гэта была сапраўды залатая эпоха. Такім пакінуў яго Міхал Казімір свайму сыну Каралю Станіславу па мянушцы Пане Каханку.

Заглянем у апісанні радзівілаўскай скарбніцы хаця б на хвіліну, каб уявіць сабе некаторыя з яе каштоўнасцей: «…шабля пазалочаная дыяментамі ўпрыгожаная, у яе эфес распісны, там дыяментаў 72, з абодвух бакоў малых дыяментаў 6, на похвах дыяментаў 58, на канцы похваў вялікіх дыяментаў 2, на падручніках дыяментаў вялікіх 4, пры аснове дыяментаў такіх самых 2, на саміх похвах малых дыяментаў 24, ды яшчэ 13, а вялікіх 21. Ручка шаблі старасвецкім крыжам выраблена». І далей: срэбраны коўш вагой 82 злотнікі і вышынёй 5 вяршкоў, «агромністы, з устаўленымі наскрозь медалямі XVI—XVII стагоддзяў... Пасярэдзіне герба тры шлемы, на якіх леў, арол і грыф; рукамыйнік цалкам пазалочаны з гербам Радзівілаў і надпісам: «вагі 13 фунтаў 85 залатнікоў, вялікая, выцягнутая, з абодвух бакоў пазалочаная балея з гербам Радзівілаў, акружаным лаўровым вянком і чаканкай бітвы палякаў са шведамі, плашч кавалера ордэна Святога Духа, выраблены па загадзе Вялікага Магістра ордэна Святога Духа ў Парыжы і падораны каралю Яну III Сабескаму ў 1676 годзе каралём Людовікам XIV разам з іншымі сімваламі ордэна. З чорнага аксаміту, з падоўжаным шлейфам, вышыты золатам і серабром, з вышыўкай і аплікацыямі, даўжыня 270 см, сярэдзіна авала 430х330 см. На грудзях вышыта зорка ордэна… Пасвечаны меч караля Яна III Сабескага. Рымская работа, 1675 год. Клінок сталёвы, часткова пазалочаны, пакрыты траўленай вітай акантоўкай і даравальнымі надпісамі. Ручка срэбная, пазалочаная, у выглядзе ліста акацыі з гербам роду Альціеры (Папы Клеменса X) з папскімі сімваламі… Канцэж з парай пісталетаў і похвамі. Германія, XVI ст. Палаш парадны турэцкі XVII стагоддзя з похвамі ў выглядзе галавы пацвары. Клінок сталёвы стальны, еўрапейскі, XVI стагоддзя. Ручка і акоўка похваў ножнаў, пакрытых аксамітам чаканнага пазалочанага срэбра з выразанымі расліннымі арнаментамі, упрыгожана бірузой і інкруставанымі золатам кавалачкамі нефрыту…»



*Іеранім Фларыян Радзівіл.*
*Партрэт XVIII стагоддзя.*

Спіс можна працягваць бясконца…

Наступны нясвіжскі Радзівіл быў фігурай арыгінальнай і легендарнай. Нехта называе яго патрыётам, нехта, наадварот, здраднікам і палітычным шулерам, пра яго пісалі цэлыя раманы і прыдумвалі тысячы анекдотаў. І было пра што. Гэты князь любіў гаварыць: «Кароль сабе каралём у Варшаве, а Радзівіл у Нясвіжы».

Ад 20 да 40 мільёнаў злотых гадавога даходу. Гэта падчас пераўзыходзіла даход караля і дазваляла князю і ардынату нясвіжскаму Каралю Станіславу Яну Ануфрыю Непамуцэну па мянушцы Пане Каханку жыць не проста на шырокую нагу, але і рабіць такія прыёмы, паляванні і балі, на якія з'язджалася паўкраіны. Князь жартаваў,

што смецце за дарагімі гасцямі вымяталі з замка паўгода.

Радзівілам у той час належала толькі з пажалаваных каралём 16 гарадоў і мястэчак, каля 600 вёсак, каля 30 староstваў. На паляванне, па ўспамінах сяброў, князь выязджаў у атачэнні некалькіх тысяч пяхоты прыдворнага войска, уланаў, коннай шляхты, псярні, звыш таго, павозкі з сеткамі, для чаго былі асобыя мулы ў вельмі прыгожай са званочкамі ўпражцы, затым з палаткамі ішло болей за дзесяць вярблюдаў. Сам князь апранаўся звычайна сціпла «па-старасвецку», але пры гасцях любіў паказацца ў цёмна-сінім кунтушы з лепшага танюткага галандскага сукна з пунцовымі абшлагамі, у пунцовым жупане з тоўстага шоўку з золатам. Запанкі і гузікі з рубінамі, багаты шаўковы пояс пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі, на баку — каштоўная, апраўленая ў золата, крывая шабля, магчыма, такая, якую мы згадвалі ў апісанні скарбніцы.

Князь славіўся не толькі раскошнымі прыёмамі, але палітычнымі інтрыгамі і гульнямі пры расійскім і еўрапейскіх дварах, асабліва Францыі, Італіі, нават аттаманскай імперыі. Справа ў тым, што ў 1772 годзе пасля першага падзелу зямель Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй нясвіжскі князь страціў значную частку сваіх уладанняў — яны адышлі да Расіі. Так князь апынуўся ў апазіцыі да Кацярыны II. Магчыма, у імператрыцы проста не было дастаткова грошай, каб падкупіць ганарыстага князя, які меў асабістае войска. Але ў ваенных спрэчках рэгулярная армія на чале з Суворавым была больш вопытнай, і Пане Каханку быў вымушаны бегчы за мяжу.



*Палац Радзівілаў у Бялай.*
*Гравюра пачатку XIX стагоддзя.*

У маёнтках яго гаспадарылі расійскія генералы. Шматтысячная бібліятэка была адпраўлена ў Маскву і Санкт-Пецярбург, адкуль ужо не вярнулася — стала асновай для бібліятэкі імператарскай Акадэміі навук. Самыя каштоўныя рэчы з родавай скарбніцы часткова накіраваліся ў паўночную сталіцу, часткова — у Смаленск. Адзін з сяброў князя, Сабескі, 27 мая 1773 года піша яму за мяжу пра тое, што адбываецца ў яго родавым гняздзе: «…нясвіжскі замак пасля паведамлення няверных слуг вашых пра тое, што там павінны захоўвацца гарматы і многія скарбы, ужо тры разы быў перарыты». У наступным сваім лісце ад 12 лютага 1774 года ён паведамляе, што «…скарбніца ў замку пасля агляду яе нябожчыкам генералам Татлебенам была запячатана, цяпер жа з прыбыццем на некалькі тыдняў на пастой новага легіёна пад камандаваннем князя Фабулава, пячатка зламана, і наўрад ці трэба думаць, што ў скарбніцы нешта засталося».

Караль Радзівіл быў вымушаны пісаць імператрыцы 22 сакавіка 1774 года прашэнне, у якім угаворваў, каб «…ваша светлость со своего высокого трона обратила внимание на несчастного, который припадает к стопам твоим, дабы просить справедливости и милосердия», каб Кацярына II вярнула князю яго маёнткі, выключаючы нарабаваную маёмасць. Пры ўмове, што ён не будзе баламуціць навакольную шляхту. Але ў хуткім часе Пане Каханку зноў завёў ліставанні з французскімі і турэцкімі дварамі, шукаючы падтрымкі для звяржэння расійскага суседа з польска-літоўскай тэрыторыі. Забягаючы наперад, трэба сказаць, што гэта няблагая мэта правалілася. Турцыя хутка будзе разгромлена Расіяй, Францыя захлынецца ў крыві Вялікай рэвалюцыі, за першым падзелам шматпакутнай радзімы Пане Каханку прыйдуць другі і трэці. А сам Пане Каханку зноў будзе вымушаны хавацца за мяжой, пакідаючы свае багацці ворагам. А потым зноў прасіць прабачэння і дазволу вярнуцца. У перапынках паміж гэтымі прыгодамі яму ўдавалася заставацца прыкладным абаронцам айчыны для большасці шляхты. У ім яны бачылі апошнюю надзею на ўзнаўленне былых вольнасцей і правоў, свабоды і незалежнасці сваёй краіны ад магутнай усходняй імперыі.

Пане Каханку рабіў усё, каб быць такім кумірам, каб паказаць у апошні раз уплыў і раскошу старадаўняга магнацкага роду.

Прыбыткі зноў дазволілі залатаць дзіркі ў скарбніцы, быў адноўлены тэатр, яшчэ працавала слуцкая фабрыка паясоў, інвентар карціннай галерэі за 1779 год налічваў 984 творы на палатне і дрэве, але галоўным козырам князя былі нястрымна раскошныя прыёмы. Так, на Ражаство 1780 года ў Нясвіж з Рыгі было прывезена 1500 бутэлек шампанскага, 300 рэйнскага, 200 бургундскага, 3 бочкі англійскага піва, 1000 фунтаў воскавых свечак, 10 бочак пораху для феерверкаў, 15 бочак свежых і марынаваных вустрыц. Праз некалькі гадоў Нясвіж святочна адзначаў стагоддзе бітвы пад Венай. З гэтай мэтай былі запрошаны сотні гасцей, на стол падаваліся самыя далікатэсныя прадукты з Парыжа, Гамбурга і Вены, а князь адкрыў скарбніцу, і госці маглі глядзець на старадаўнюю радзівілаўскую зброю, а таксама вялікую колькасць зброі турэцкіх ханаў і караля Яна III Сабескага — героя той бітвы. Але самай грандыёзнай падзеяй тых гадоў быў прыезд у Нясвіж апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1784-м. Некалькі месяцаў запар ішла падрыхтоўка — рэпетыцыі тэатралізаваных шэсцяў, будаўніцтва трыумфальных варот, мэбліроўка каралеўскіх пакояў, дзе стаяў ложак самога караля-сонца Людовіка XIV! Пра той візіт пісалі потым многія мемуарысты. Асноўным сюрпрызам для караля павінна было стаць наведванне скарбніцы. Князь М. В. Рапнін, які суправаджаў караля, апісаў гэта падрабязна: «…после блестящего фейерверка и обеда на 300 персон король спустился в подземелье — фамильную сокровищницу. Он увидел слитки золота, сложенные до самого потолка. Золота было на сотни пудов, множество вещей из этого металла, да 12 апостолов из золота и серебра, усыпанных драгоценными камнями…»

Гэты спіс дапаўняе Уладзіслаў Сыракомля ў сваіх «Вандроўках…»

Святкаванні, балі, спектаклі, паляванні, ілюмінацыі і феерверкі доўжыліся некалькі дзён і выліліся ў суму болей 2 мільёнаў злотых. Апошні раз Радзівіл не толькі прадэманстраваў моц і бляск свайго роду. Правільна



*Партрэт пэндзля Ціцыяна. 1550 год.*

меркаваць, што мэтай было паказаць каралю, выхадцу з небагатага роду, сваё месца. Недарэмна слуга, спецыяльна наняты, сачыў за каралём падчас агляду каштоўнасцей, каб вызначыць, што спадабаецца таму больш за іншае, каб пасля велікадушна паднесці гэта манарху. Над самім жа Каралем Станіславам лёс пажартаваў нявесела: князь памёр бяздзетным, у 1790 годзе, перадаўшы ўсё, чым валодаў, а таксама немалыя даўгі пляменніку Дамініку Іераніму.

Наступныя падзелы Рэчы Паспалітай аднялі ў Радзівілаў яшчэ большыя кавалкі родавых уладанняў. Дамінік Радзівіл адышоў ад палітыкі і больш клапаціўся пра паляванні, псярню і пародзістых коней. Апранаўся згодна з новай модай XIX стагоддзя, чым раздражняў старое дваранства. Даволі няроўна дыхаў да жаночага полу.

У 1809 годзе складаецца апошні з вядомых сёння інвентароў яшчэ багатай нясвіжскай скарбніцы, які, між іншым, узгадвае і славутых апосталаў з золата і срэбра, упрыгожаных каштоўнымі камянямі. Гэтыя

сярэдняга памеру, 70—90 см, фігуркі раней былі часткай кампазіцыйнага ўпрыгожвання так званага цыборыума — канструкцыі на алтары касцёла Святога Міхаіла каля Нясвіжа. Верагодна, пазней з-за каштоўнасці статуэткі перанеслі з касцёла ў скарбніцу.

Часы Дамініка Радзівіла ў Нясвіжы завяршыліся разам з пачаткам вайны 1812 года. Дамінік далучыўся да войскаў Напалеона. Пазней апошні пра яго скажа: «Самы мужны і надзейны з палякаў». Напалеон меў рацыю, і калі разгром яго арміі быў ужо непазбежным, князь не здрадзіў свайму палкаводцу, а толькі разам з ім адступаў, пакідаючы рускім новыя тэрыторыі.

Урэшце, Дамінік апынуўся бліз Нясвіжа і заехаў на некалькі гадзін у замак аддаць распараджэнне пра вываз маёмасці, у прыватнасці скарбаў, следам за напалеонаўскім абозам. Праз некалькі гадзін да Нясвіжа падышлі рускія войскі, і замак разам з маёмасцю быў аб'яўлены здабычай расійскіх генералаў. Абозы з амаль спакаванымі рэчамі пацягнуліся ў бок Масквы і Санкт-Пецярбурга. Камендант Альберт Бургельскі паспеў толькі схаваць скарбніцу і паслаў ганца следам за князем з запіскай: «…верны слуга Адам схаваў у надзейным месцы дванаццаць апосталаў, сталовае срэбра, карціны і частку рэчаў з Масквы, астатняе вывозіць Чычагаў». Магчыма, тут ідзе гаворка пра нарабаванае Напалеонам у Маскве. Але ганца злавілі ля сцен замка і расстралялі за сувязь з ворагам, а даведаўшыся пра змест запіскі, пачалі дапытваць каменданта. Пад страхам смерці камендант выдаў месцазнаходжанне схованак, пра што сам прызнаваўся ў справаздачы пасля адыходу расійскіх войскаў.

Першымі руку на каштоўнасці наклалі генералы Кнорынг і Тучкоў. Даведаўшыся пра гэта, адмірал Чычагаў стварыў камісію па цэнтралізаваным опісе прадметаў і вывазе іх пад аховай. Камендант замка пасля чарговых допытаў адкрываў усё новыя тайнікі, і накопленыя пакаленнямі княжацкай сям'і скарбы ішлі на ўсход. Потым камендант складзе астранамічны рахунак за разрабаванае і сапсаванае дабро — болей як 6 125 000 расійскіх рублёў. Для параўнання: шкода за пастой французскіх войскаў па ўсяму Нясвіжскаму княству трохі пераўзыходзіла 13 тысяч рублёў. Курс куплі расійскага рубля на той час складаў 10 злотых. Куды ж накіравалі нарабаваныя каштоўнасці?

У загадзе № 284 ад 9 студзеня 1813 года адмірала Чычагава пазначана: «…все древние монеты и медали, коих числом 13 256 штук отправить в Харьковский университет, самые ценные и редкие вещи, коим учинить подробную опись, отправить советнику Валуеву, где решится их судьба, церковные вещи передать Успенскому московскому собору, прочие же малоценные предметы продать с аукциона». У замку заставалася толькі невялікая частка партрэтаў і развернуты архіў. Пасля сюды зноў наведаўся генерал Тучкоў — забраць усё, што магло застацца ў замку карыснага, у тым ліку экіпажы, бялізну, абіўку сцен і гэтак далей. Кончылася тым, што ён трапіў пад следства, але ў 1826 годзе суд прызнаў яго «…ни в каких злоупотреблениях не доказанным». А пакуль нагружаныя вазы марудна цягнуліся з нясвіжскага замка ў бок Масквы, у Францыі 11 лістапада 1813 года ціха памёр смяротна паранены ў баі пад Ганаў апошні з прамых нашчадкаў нясвіжскіх ардынатаў — князь Дамінік Іеранім Радзівіл, самы храбры і адданы з палякаў. Разам з ім скончыўся век росквіту Нясвіжа. Славе радзівілаўскіх багаццяў болей ужо не свяціць сваім бляскам.

Толькі праз паўстагоддзя, калі ў Нясвіж вернуцца нашчадкі славутага роду, ужо з прускай лініі, і першая прыгажуня Еўропы маркіза Марыя дэ Каштэлян, са слязьмі на вачах разгледзеўшы рэшткі былой раскошы, пачне рэстаўрацыйную працу і ў асабістых лістах перакане расійскага самадзержца ў 1905 годзе вярнуць замку хаця б малую частку фамільных каштоўнасцей з Пецярбургскага Эрмітажа, збярэ рэшткі скарбніцы па іншых маёнтках мужа, у тым ліку амаль дзвюхтысячную калекцыю рыцарскіх даспехаў, часткі бібліятэкі, партрэтныя зборы, дапоўніць гэта асабістымі калекцыямі, прывезенымі з Еўропы, пасадзіць вакол замка цудоўны парк і сама з сям'ёй назаўсёды паселіцца там, — толькі тады зноў пачнуць гаварыць пра раскошу і прывабнасць гэтага месца, а таксама пра вытанчаны густ яго насельнікаў. Шкада толькі, што гэтае кароткае імгненне славы хутка зноў растворыцца ў буры рэвалюцый, войн і бяздушшы наступных пакаленняў яго гаспадароў…




*У выдавецтве «Тэхналогія» па замове Нацыянальнага гістарычнага музея выйшла першая кніга серыі «Кніжныя цэнтры Беларусі». У чытачоў «Маладосці» ёсць магчымасць не толькі ацаніць працу аўтара, але і захапіцца гісторыяй царкоўнай кнігі. Хвароба гэта рэдкая, а пакуты ад яе — салодкі смак маюць.*

*Юрась ЛАЎРЫК*

# КНІГІ КУЦЕЙНЫ

***Царкоўныя кнігазборы Богаяўленскага Куцеінскага манастыра дагэтуль не з'яўляліся аб'ектам адмысловай увагі даследчыкаў, што, быць можа, звязана з малалікасцю ацалелых да нашага часу дакументаў і, у прыватнасці, адсутнасцю манастырскіх інвентароў. Тым не менш, дбайнае збіранне і аналіз паасобных фактаў і сведчанняў, раскіданых па розных крыніцах, можа даць інфармацыю пра яго склад і функцыянаванне.***



*Аўтар кнігі Юрась Лаўрык. За працай.*

## ЯК ГЭТА БЫЛО

На Беларусі традыцыйна пры заснаванні манастыра, незалежна ад таго, быў ён грэка-візантыйскага ці лацінскага абраду, спачатку будавалася невялікая драўляная цэркаўка або капліца, побач з якой ставіліся келлі і сялілася купка манахаў. І толькі пазней узносілася мураваная бажніца, ды і тое пры ўмове дастатковай шчодрасці фундатараў і наяўнасці іншых спрыяльных абставін. Такая традыцыя дазваляе выказаць меркаванне, што і ў Куцейне спачатку была збудавана драўляная капліца, у якой адпраўлялася літургія, пакуль не была ўзведзена вялікая царква. Яшчэ адной уласцівасцю беларускіх манастыроў з ліку заможных была наяўнасць дзвюх цэркваў: вялікай — «сабornай» і меншай — «цёплай» (апошняя звычайна была мураванай). У Куцеінскім манастыры менавіта Свята-Духаўская царква ацяплялася і была прызначана для адпраўлення набажэнства ўзімку. Зыходзячы з «сезоннасці» ўжывання, можна меркаваць, што гэтая бажніца пасля 1635 года не мела ўласнага камплекта богаслужбовай літаратуры, а для служэння літургіі ў ёй (а таксама ў згаданай вышэй капліцы) выкарыстоўваліся кнігі з



***Багаяўленская царква, якая пазней дала сваё найменне Куцеінскаму манастыру, была пабудавана з дрэва і асвечана ў 1635 годзе мітрапалітам Пятром Магілам; яе аздабленне працягвалася да 1639 года.***

*Паводле гравюры XIX стагоддзя.*



***Мураваная Святадухаўская царква, якая згадваецца ў найдаўнейшым з ацалелых актаў, што датычаць Куцейны (датаваным 1627 годам лісце Жыгімонта III Вазы), была збудавана ў 1624—1626 гадах.***

*Здымак 1955 года.*

Багаяўленскай царквы. Сёння кнігі ды абразы таксама не пакідаюцца на зіму ў неацяплялыных капліцах.

Згадкі пра існаванне такіх кнігазбораў, «супольных» для некалькіх манастырскіх цэркваў, мы знаходзім і ў інвентарах айчынных манастыроў усходняга абраду, пачынаючы з канца XVI стагоддзя. Напрыклад, у інвентары Лешчынскага манастыра 1588 года пасля апісання цэркваў Унебаўзяцця Найчысцейшае Багародзіцы і Сыходу Святога Духа пададзены вопіс царкоўнае кніжніцы, якi пачынаецца са словаў: «Книги тых церквей…» У дачыненні да Куцеінскіх бажніц гэтую думку пацвярджае адна з кніжных правіненцый: «Книга глаголемая Ирмолой, монастыря общежительного Кутейнского, Храмов Святых Богоявления и Рождества Христова». Ва ўсіх іншых Куцеінскіх царкоўных інскрыпцыях на кнігах, што дайшлі да нашага часу, згадваецца толькі Багаяўленская царква.

## У ДНІ РУХОМЫЯ І НЕРУХОМЫЯ

Прыгледзімся, якія ж кнігі былі патрэбны куцеінцам для выканання службы Божай.

Тыпікон (або «ўстаў»-статут) рэгламентаваў парадак службы. Непасрэдна тэксты вячэрні, ютрані і літургіі чыталіся ды спяваліся святаром-іераманахам і дыяканам паводле службоўнікаў (літургіярыёнаў), а патрэбныя ў належных месцах фрагменты Святога Пісьма — паводле Евангелляў ды Апостала (на пэўныя святы — і з Парэмійніка). Чытальнікі і спевакі пры гэтым карысталіся часоўнікам, якi, да таго ж, змяшчаў і іншыя тэксты штодзённай багаслужбы (літургіі гадзін). Для спявання малітваслоўяў седмічнага кола быў патрэбен актоіх; у рухомыя дні гадавога кола выкарыстоўвалася трыёдзь кветная (пентыкостарыён або трыёдыён) ды посная (трыёдыён), а ў нерухомыя — мінеі: месячная (на кожны месяц), святочная (трыфалагіён або, інакай, анфалагіён) і агульная (пры агульных службах святым). Ірмалой ужываўся для спеваў як на рухомыя, так і на нерухомыя дні. Падчас штодзённага набажэнства выкарыстоўваўся і Псалтыр. Памінанне дабрадзеяў царквы адбывалася паводле сінодыкаў (памяннікаў).

Паколькі вопіс Куцеінскай царкоўнай кніжніцы не захаваўся, мы можам разважаць пра яе велічыню і склад толькі абапіраючыся на тыя фрагментарныя звесткі, што ацалелі да сённяшняга дня або дайшлі ў сведчаннях нашых папярэднікаў, якія працавалі са зніклымі пазней матэрыяламі. Куцеінскі царкоўны кнігазбор быў вывезены разам з бібліятэкай і іншай маёмасцю Богаяўленскага манастыра на Валдай. Большасць кніг з яго згарэла падчас пажараў або была забрана патрыярхам Ніканам у свае рэзідэнцыйныя манастыры Узвышэння Святога Крыжа ды Узнясення Гасподняга, і гэта ўскладняе выяўленне такіх выданняў і манускрыптаў. А некаторыя кнігі гэтага збору (у тым ліку, з куцеінскімі ўладальніцкімі надпісамі) яшчэ нават у XIX стагоддзі захоўваліся ў рызніцы Іверскай царквы. Магчымасць больш упэўнена разважаць пра склад куцеінскіх збораў даюць нам згадкі пра старадрукі і рукапісы, што сустракаюцца ў актах Іверскага манастыра. Дакументы гэтыя, разам са спісам старадаўніх кніг з рызніцы, былі апублікаваны расійскім археографам і гісторыкам, настаяцелем Уваскрэсенскага манастыра, архімандрытам Леанідам (Кавеліным) у 5-м томе «Русской исторической библиотеки».

Верагодна, што віленскія, львоўскія ды кіеўскія старадрукі, выдадзеныя да сярэдзіны 1650-х гадоў, у большасці сваёй, трапілі ў Іверскі царкоўны кнігазбор менавіта шляхам праз Беларусь — бо ён на той момант толькі заканчваў будавацца і мала верагодна, каб бібліятэка пачала сваё камплектаванне з замежных выданняў — даступных адносна цяжэй, чым маскоўскія, а ў святле Ніканаўскай рэформы часам і «неисправных». Затое беларусы менавіта гэтымі — айчыннымі для сябе — кнігамі зазвычай і карысталіся.

З апублікаваных архімандрытам Леанідам актаў вынікае, што ў зборах Іверскага манастыра знаходзілася літаратура, якая выклікала зацікаўленне патрыярха Нікана: ён пазычаў гэтыя кнігі з мэтаю перапісвання альбо проста забіраў сабе. Некаторыя з іх былі раней укладзены ў манастыр самім патрыярхам, большая, аднак, частка іх з'явілася там менавіта пасля пераезду куцеінцаў на Валдай. І калі беларускія манахі перасяліліся



*Будынак у Куцейне, дзе, верагодна, размяшчалася манастырская друкарня.*



*Галерэйная частка манастырскага будынка, дзе знаходзіліся келлі брацііі.*



*Талеркі, якая выкарыстоўваліся ў Куцейне.*



***У XVII стагоддзі для пісання ўжываліся гусіныя пёры.***

***Баркалабаўскі ірмалой з фондаў нацыянальнага гістарычнага музея, як сведчыць уладальніцкі надпіс, бытаваў у дзявочым манастыры ў Баркалабаве, дзякуючы якому манускрыпт і атрымаў сваю назву ў сучаснай літаратуры. Аздабленне яго дае падставы меркаваць пра наяўнасць у манастыры шэрага кніг, выкарыстаных мастаком у якасці ўзору. Багата дэкараваны тытульны аркуш і ініцыялы дазваляюць прасачыць (часам даволі дакладна), якія друкаваныя выданні і рукапісы выкарыстоўваліся мастаком пры аздабленні кнігі, а значыць прысутнічалі ў Богаяўленскім манастыры. Па-першае, агульная кампазіцыя тытульнага аркуша, а таксама яе паасобныя элементы сведчаць, што мініяцюрыст падчас працы меў перад вачыма іўеўскае «Евангелле навучальнае» 1616 года. Па-другое, правобразам мініяцюры «Узнясенне Гасподняе» на тытульным аркушы манускрыпта стаў вельмі падобны паводле кампазіцыі і асобных дэталей дрэварыт з выдадзенага Слёзкам у 1639 годзе ў Львове Апостала. Па-трэцяе, арыгінальны ініцыял «Б» на першым аркушы кнігі, трэба думаць, скапіраваны з мсціслаўцавай Псалтыры 1576 года. Ініцыял на аркушы 187 рысаваны ў манеры, што наследуе тэраталагічны стыль — і гэта таксама ўказвае на наяўнасць у Богаяўленскім манастыры досыць старажытных рукапісаў.***



***Тытульны аркуш «Ірмалоя», перапісанага ў 1651 годзе ў Куцейне для Баркалабаўскага манастыра.***

ся ў толькі што збудаваны манастыр ды перавезлі туды маёмасць з Куцейны, Нікан, замест таго каб і далей папаўняць сховішчы новымі рэчамі ды кнігамі, пачаў усё адтуль вывозіць. Дзеля прыкладу назавём спеўныя кнігі, пра якія мы чытаем у патрыяршай грамаце ад 7 ліпеня 1664 года. Нікан у ёй піша: «…вам бы прислать к нам в Воскресенской монастырь, с нашим сыном боярским с Самуилом Марисовым, девятиголосные кантики, зеленые, да осмоголосные псальмы и Миневскаго обедню, да треголосные концерта; а мы, великий господин, велим их здесь переписать и к вам отошлем». Гаворка тут ідзе пра кнігі партэснага спеву, актоіх і іншую літаратуру, што выкарыстоўвалася на літургіі.

## НЕ ТОЛЬКІ МАНАХАМ, А НАВАТ І ПАСЛУШНІКАМ

Досыць складана акрэсліць велічыню кнігазбору Куцеінскіх цэркваў, паколькі мы не маем адносна гэтага пытання больш ці менш пэўных сведчанняў. Савецкі гісторык кнігі Б. Сапуноў, які вывучаў царкоўныя бібліятэкі Русі дамангольскага перыяду, прапаноўваў для вызначэння велічыні храмавага кнігазбору абапірацца на колькасць неабходных для службы кніг: паводле меркавання навукоўца, мінімальная кніжніца пры манастырскай царкве павінна была налічваць 26 кніг. Калі параўнаць названую лічбу з колькасцю кніг у царкоўных зборах айчынных манастыроў канца XVI — першай паловы XVII стагоддзя, то высветліцца, што

менавіта 26 кніг знаходзілася ў 1579 годзе ў царкве менскага Узнясенскага манастыра: «Уволтари … на престоле Евангелие старое троха медю оправленое … Утойже церкви книг менеи месечных двонадцать Евангелие Учительное Устав церковныи Охтаихи три прелог один треоди две постная ицветная Требникъ один Апостол один книги две старые поркгаминовое пора… псалтырь писаная одна…» Літургічны збор Лешчынскага манастыра нават у 1620 годзе налічваў 24 асобнікі: «На престоле евангеліе на полъ десты писаное, желизомъ оправное, (…) въ той церкви книги Треоди две, посная и цветная, друкованые, охтаиковъ два писаных на осмигласов, апостолъ друкованый оденъ, Петръ оденъ, а другий писаный, уставъ писаный оденъ и … друкованый, трефологій списаный, миний оправныхъ деветь, десятая миния старая, служебникъ друкованый оденъ, служебникъ писаный оденъ, часовниковъ друкованыхъ старыхъ два».

Як бачым, абодва згаданыя вышэй манастырскія кнігазборы дасягаюць велічыні, блізкай да названай, толькі дзякуючы наяўнасці ў сваім складзе некалькіх асобнікаў тых ці іншых кніг. Разам з тым, яны сфарміраваліся раней, у больш бедны на кнігу час, і былі ў значнай ступені ўкамплектаваны манускрыптамі. Куцеінскі ж манастыр ад моманту свайго заснавання актыўна карыстаўся плёнам кірылічнага кнігадруку, а ад пачатку 1630-х і сам пачаў весці выдавецкую дзейнасць. Таму названая лічба ў 26 тамоў — гэта толькі ніжняя кропка адліку колькасці тамоў царкоўнай кніжніцы. Больш верагодным з'яўляецца меркаванне, што кнігазбор Богаяўленскай царквы ў сярэдзіне XVII стагоддзя мусіў налічваць не менш за пяцьдзясят, а хутчэй — да сотні тамоў. Такое меркаванне выказваецца як з увагі на значныя магчымасці манастыра ў забеспячэнні сябе кнігай, так і на яго запатрабаванні ў апошняй. Напрыклад, паводле іераманаха Васіля (Жудро) ў Куцейне на час прыезду мітрапаліта Пятра Магілы (1635 год) знаходзілася каля 200 манахаў. Нават улічыўшы, што частка брацііі мела ўласныя кнігі для спеваў і малітвы, а іншыя маглі карыстацца адной кнігай на некалькі асоб, цяжка ўявіць, што багаслужба пры такой колькасці ўдзельнікаў магла абыходзіцца ўсяго некалькімі актоіхамі ці трыфалагіёнамі — асабліва пры тым, што літургічныя кнігі закупаліся ў Кіеве ды Львове, не кажучы ўжо пра ўласныя куцеінскія выданні.

Нават у больш позні час царкоўны збор Богаяўленскага манастыра быў дастаткова вялікі, каб кнігі з яго выдаваліся для карыстання не толькі манахам, а нават і паслушнікам, на увесь час іх побыту ў манастыры. Падставы для такога меркавання даюць нам інскрыпцыі, што знаходзяцца на Актоіху з бібліятэкі Нацыянальнага гістарычнага архіва.

Першым паводле храналогіі з'яўляецца ўкладны запіс былой манахіні Куцеінскага Успенскага манастыра, а пазней (пасля перасялення куцеінак у Маскву) намесніцы і, затым, ігуменні Новадзявочага манастыра Антаніды Данілаўны: «Сия кн[и]га гло[голе]моя Октаи Пр[е]ч[и]стыя Б[огороди]цы Новаго д[е]в[и]ча м[о]н[а]ст[ы]ря наместницы ст[а]р[и]цы Антониды Даниловны. А дала сию кн[и]гу в ц[е]рк[о]вь Б[о]жию Б[о]гоявлению Хр[и]стову в Кутеинскои м[о]н[а]ст[ы]рь по своих родителях въ вечищи поминок. А тое кн[и]ги іс тое ц[е]ркви Б[о]жіи никому крадучи не вынесть, ни продат, ни заложит, ни по д[у]ше не отдат, а будет кто сию кн[и]гу украст чи продастъ іли заложит іли по своеи д[у]ше отдастъ і нас с нимъ разсудит Б[о]гъ на втором пришествіи Хр[и]ст[о]ве».



*Пры пісанні кніг куцеінскія манахі маглі выкарыстоўваць падобную атрамантніцу.*







## НАПРЫКАНЦЫ

Паспрабуем разважыць, дзе непасрэдна размяшчалася царкоўная кніжніца. Дакладных звестак пра месца яе знаходжання ў Богаяўленскай царкве ў нас няма, таму будзем разглядаць гэтае пытанне ў кантэксце тэндэнцый, супольных для праваслаўных цэркваў і манастыроў усходнееўрапейскага рэгіёна.

Адразу зазначым, што царкоўны кнігазбор не мусіў знаходзіцца увесь цалкам у адным месцы. Так, Евангелле традыцыйна клалася на алтары і, як слушна адзначае расійскі кнігазнаўца С. Клепікаў, складала частку яго дэкаратыўнай аздобы (менавіта таму ў інвентарных вопісах царкоўнай маёмасці Евангеллі зазвычай указваюцца асобна ад астатніх кніг). Іншыя прыналежныя да манастырскіх цэркваў кнігі найчасцей перахоўваліся ў рызніцы ці ў скарбцы. Калі архітэктура бажніцы абумоўлівала наяўнасць дзвюх рызніц, то нярэдка скарбцам служыла адна з іх (як, напрыклад, гэта было ў Лешчынскім манастыры). У нашым выпадку, праўда, скарбец размяшчаўся ажно ў падмурку — таму, хутчэй за ўсё, літургічная літаратура ўсё ж знаходзілася ў рызніцы дзеля больш вольнага доступу пры падрыхтоўцы да літургіі. Пэўная частка кніг — рукапісы і друкаваныя выданні, па якіх спявала брація, — магла пакідацца на клірасе, дзе станавіўся падчас набажэнства хор. Уласна кажучы, адсюль паходзіць і тэрмін «крыласныя кнігі», які часам сустракаецца ў царкоўных вопісах, напрыклад, у «Інвентары царквы Супрасльскага манастыра» 1668 года…

*Фота В. Брусінскага, Ул . Суцягіна, А. Крапіўкі.*



# ВАКОЛ КАЛІНОЎСКАГА

***Сёлета Кастусю Каліноўскаму спаўняецца 175 гадоў, паўстанню пад яго кіраўніцтвам — 150, і ці не веліч гэтых лічбаў прымружвае пагляды на імя? ЯН МЯЛЬНІЦКІ, гід-экскурсавод і юрыст-міжнароднік, прыводзіць некаторыя развагі, а таксама адказы на пытанні, якія могуць узнікнуць у чытача, так бы мовіць, не вельмі абазнанага ў тэме.***



*Кастусь Каліноўскі.*

## ЦІ МОЖНА АБАБРАЦЬ БЕДНАГА?

Каб у таго селяніна, сучасніка Каліноўскага, была свая зямля і ён на ёй працаваў, як цяперашні фермер, тады ён плаціў бы падаткі без аніякіх праблем. Але ж яму не было чым плаціць: апошняе селянін аддаваў, у самым літаральным сэнсе. Таму што, калі не аддасі, будзеш пакараны. За гэта заканадаўствам былі прадугледжаны вязніца і Сібір. А вышлюць бацьку — з чаго жыць сям'і?

Ці можна абабраць беднага? Калі задаецца пытанне такога кшталту, не бярэцца пад увагу, колькі людзей загінула тады праз гэты самы голад, колькі жыццяў знішчана было такой вось палітыкай: «Ага, вы плоціце? Ну, плаціце. А мы вам падаткі павялічым. Зноў плоціце? Не? Памерлі? Нічога, іншыя за вас заплоцяць. І там паўміралі? Іх долю можна перакінуць на сюседнюю веску: так ці інакш — неяк будзе».

Чалавека, насамрэч, можна абабраць незалежна ад яго матэрыяльнага становішча, і самы вялікі скарб, які ў яго можна адабраць, гэта, напэўна, яго жыццё, якое, па словах Каліноўскага, панам Богам дадзена.

> Калі ў кожнага з нас на адным плячы сядзіць анёльчык, а на другім д'ябал, то за святаром, трэба ведаць, гэтых д'яблаў цэлы легіён ходзіць, штурхаючы яго на розныя спакусы

## НАКОНТ «ПАПОЎ» І ВЕРЫ Ў БОГА

Аб'екты, праз якія турысты знаёмяцца з нашай гісторыяй і архітэктурай, — гэта ў асноўным бажніцы, каталіцкія ці праваслаўныя. Бывае так: едзеш з групай праз невялікую вёсачку — і разумееш, што царква XVIII стагоддзя ледзь не адзіны яе здабытак. Але калі ў групы ёсць жаданне, мы спыняемся, каб зайсці ў гэту бажніцу. І пачынаецца размова пра рэлігію. І вось што я заўсёды заўважаю. Сучаснаму чалавеку, які жыве пасля вялікага перыяду атэізму і таму яшчэ шукае свой шлях да Бога, цяжка

зразумець, што святар, незалежна ад таго, каталіцкі ён ці праваслаўны, — гэта перш за ўсё такі самы чалавек. Такі ж грэшны. І калі ў кожнага з нас на адным плячы сядзіць анёльчык, а на другім д'ябал, то за святаром, трэба ведаць, гэтых д'яблаў цэлы легіён ходзіць, штурхаючы яго на розныя спакусы. (Калі ўжо на тое пайшло, дык гэта ж святары распялі Хрыста. Можа, яны цвікі і не забівалі, але гэта было іх рашэнне).

Чаму Каліноўскі называе святароў «папамі», чаму не кажа «бацюшка»? Прадстаўнікі царквы ў той час надта шчыльна былі звязаны з дзяржаўнай уладай. Каліноўскі ж выступаў, варта разумець, не супраць веры, Бога і нейкіх тэалагічных пытанняў, а супраць таго, што святары прамаўляюць словамі ўлады, цара. І на канкрэтных прыкладах, на пэўных адрэзках часу ён дэманстраваў, як прамовы цара, а значыць, і «папоў» разыходзяцца з тым, што адбываецца насамрэч. Ён выступаў супраць тых святароў, што ўжо мо нават і забыліся пра сваё прызначэнне.

На экскурсіях часта надараецца такі выпадак, калі хтосьці з турыстаў кажа: я не пайду ў царкву, бо там, маўляў, бацюшка такі-та, робіць або не робіць тое і тое. Чалавек проста не разумее, што ці ў царкву, ці ў касцёл, ці ва ўніяцкую бажніцу ён не да бацюшкі ідзе, а да Бога. Каліноўскі вельмі добра гэта аддзяляў — малітоўныя стасункі чалавека з Богам і ўсё астатняе, вонкавае.

## ПА МОВЕ

Не так шмат, канешне, нумароў «Мужыцкай праўды» было Каліноўскім выдадзена, але праблему мовы ён, шчыра кажучы, не здолеў акрэсліць шырока. Ды гэта можна зразумець. Нават і сёння гэта складана. Хаця б таму, што праблему ў гэтым бачыць толькі катэгорыя людзей, якія адносяць сябе да інтэлігенцыі. З пункта гледжання астатніх ніякай праблемы няма: навошта, маўляў, нам кіно на беларускай мове, калі ёсць на рускай, навошта чытаць па-беларуску, тым больш сусветныя здабыткі? Каліноўскаму ж — уявіце толькі! — трэба было простай мовай данесці да селяніна, які не ўмее ні чытаць, ні пісаць, што ўлада дзяржавы, на тэрыторыі якой Беларусь апынулася пасля ліквідацыі Рэчы Паспалітай, улада, якая казала «мы вольность несём», не прынесла нічога добрага.

## СУПРАЦЬ РЭКРУЦТВА

З моманту ўключэння тэрыторыі Беларусі ў склад Расійскай імперыі з'явілася сістэма нясення вайсковай службы, якая дагэтуль вядомай не была. На нашай зямлі нікому не магло прыйсці ў галаву, каб чалавек некуды сыходзіў на 25 гадоў.

Армія ў Рэчы Паспалітай была прафесійная: займацца палітыкай і несці вайсковыя абавязкі было справай шляхты. А калі надаралася бяда кшталту вайны, кожнаму шляхціцу рэгламентавалася, колькі хто са сваіх маёнткаў можа вылучыць сялян. Гэта апраўдвалася неабходнасцю, гэта была справа дзеля абароны Айчыны. І вось — рэкруцтва. І людзі не разумеюць, куды і дзеля чаго яны ідуць. Бо адна справа абараняць Айчыну і зусім іншая проста ваяваць, невядома за што. І трэба ж яшчэ ўлічваць, што ў XIX стагоддзі адрэзак жыцця чалавека быў значна меншы, чым сёння. І ў лепшым выпадку салдат вяртаўся дадому не скалечаны, але ж усё роўна — на пятым дзясятку, у сталым веку. А што было рабіць сям'і, ад якой адарвалі гаспадара? Жанчыны бралі мужчынскую працу на сябе і за гэта ім не было ніякай палёгкі — ні прывілеі, ні кампенсацыі. І пенсіі потым, трэба ведаць, ніякай не налічвалася.

## ПУНКТЫ ГЛЕДЖАННЯ НА НАШУ ПАМЯРКОЎНАСЦЬ

Чаму Каліноўскі, юрыст па адукацыі, не абраў «інтэлігентны» спосаб вырашэння праблем, а заклікаў сялян да агрэсіі?

Гэта сённяшняе заканадаўства прадугледжвае мажлівасці для выражэння пратэсту. А што можна было лічыць сродкам абароны правоў сялян тады, у сярэдзіне XIX стагоддзя? Калі ты не згодзен, ты вораг, а калі вораг, то цябе трэба знішчыць — ды так, каб ніякай памяці пра цябе не засталося. І дагэтуль вядуцца спрэчкі пра месца, дзе

пахаваны Каліноўскі, і невядома нават, куды прынесці кветкі. Гэта і разумелі тыя, хто яго катаваў. Яны ведалі, што з часам гэты чалавек будзе ўспрымацца як нацыянальны герой, бо ён абверг думку пра тое, што беларусы — памяркоўныя і сціплыя. Так, нікога не чапаюць нашы людзі. У тым сэнсе, што не вядуць агрэсіўныя войны. Але ваяры з тэрыторыі Беларусі сваімі мячамі і коп'ямі здабылі славу і ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, і ў складзе Рэчы Паспалітай. І ніхто пры гэтым не ведаў, што наш народ можа падняцца з косамі ды віламі супраць рэгулярнага войска. Напэўна, каб такога не здаралася, і ўбівалася ў галовы, мэтанакіравана і натхнёна: «Вы такія добрыя, ціхія, спакойныя»...

## ПРАЗ САМААХВЯРНАСЦЬ

У яго была мажлівасць пазбегнуць шыбеніцы. Яму прапаноўвалі палёгку. Калі б ён выдаў сваіх паплечнікаў, або, як сказаў бы сучасны чалавек, калі б згадзіўся супрацоўнічаць са следствам, то жыццё яму захавалі б. Але ён вырашыў ісці па абранай сцяжыне да канца. І ў выніку дзякуючы гэтай ахвяры шмат жыццяў ацалела. Фактычна гэта ахвяра за бліжняга. Мажліва, сучаснаму чалавеку гэтага не зразумець. «Чаго ён там хацеў, той Каліноўскі? Каб сяляне былі вольныя? I што? Што б гэта яму дало? Што б ён з гэтага меў?» Бо ён пісаў у сваёй «Мужыцкай праўдзе»: «Я такі ж, як вы», а сам пры гэтым быў шляхціцам. І сучаснаму чалавеку незразумела: а навошта ён так хварэў за тое, што яму асабіста не патрэбна было?

Каліноўскі атрымаў юрыдычную адукацыю. І цяпер юрыдычная адукацыя лічыцца марай: шмат хто грошы вялікія плоціць, каб мець яе. А ён фактычна паставіў крыж і на гэтай адукацыі, і на кар'еры, з галавою сышоўшы ў праблемы іншых людзей. І за гэта быў павешаны! Следства вынесла яму прыгавор: «расстрэл», але Мураўёў-вешальнік абраў для Каліноўскага больш жорсткую форму пакарання, бо куды больш цяжкія пакуты атрымлівае чалавек, калі ў яго вяроўка зацягваецца на шыі і ламаюцца пазванкі.

Ці пайшоў бы на такое дзеля іншых сучасны чалавек?

## ПРА ПАЛІТЫЧНЫХ БЛАЗНАЎ

Калі б народу не было цікава, што кажа Каліноўскі, не было б ніякага паўстання. А за ім народ пайшоў! Ці здолеў бы Каліноўскі дасягнуць таго, на што прэтэндаваў? Гэта пытанне трэба разглядаць шырэй: ці здолеў бы народ у тых абставінах, у якіх ён знаходзіўся, дасягнуць таго, да чаго яго прызываў Каліноўскі? Ён быў чалавекам справы. Гэта не палітычны блазень кшталту некаторых сённяшніх палітыкаў, якія і крычаць, і рукамі размахваюць, і вадою шпурляюцца, быццам бы выступаючы супраць таго, што дзеецца навокал. Іграючы на публіку, яны спрацоўваюць на карысць таго, што дзеецца, — бо нічога ж не робяць, каб тое, што кажуць, выканаць.

Калі б Каліноўскі паспеў больш, то, можа быць, часы самавызначэння беларусаў як нацыі надышлі б раней. Але трэба разумець, якая рэчаіснасць атачала Каліноўскага. Трэба мець на ўвазе, што ён быў чалавекам не свайго часу.

## ПРА СВЕТАПОГЛЯД І МАГЧЫМАСЦІ

Улады апякліся Каліноўскім. Раней яны думалі, што гэты кубак можна ўзяць голымі рукамі, а пасля зразумелі: голымі — нельга, патрэбны ўжо рукавіцы, прычым шчыльныя. Гэта вельмі лагічны ланцужок: дзякуючы паўстанню Каліноўскага, у 1918 годзе была створана БНР, а дзякуючы абедзвюм гэтым абставінам, была створана БССР. Інакш Беларусь была б, як цяпер Алтайскі край ці Паволжа. Ці не дзякуючы Каліноўскаму цяпер мы жывём у хаця б намінальна незалежнай дзяржаве?

Чаму намінальна? Таму што актуальнасць тых падзей і сёння прасочваецца. Тады закрываліся беларускамоўныя школы — і цяпер выкладання на беларускай мове амаль няма. Іншае пытанне, трэба гэта нам ці не трэба. Але гэта ўжо пытанне кожнага чалавека. Мудрасць Кастуся Каліноўскага была ў тым, што ён даваў чалавеку магчымасць самастойнага выбару. Рабіце, як кожнаму раіць сумленне, — вельмі актуальныя словы і цяпер. І пры гэтым сёння для стварэння асабістага светапогляду ў нас ёсць усе магчымасці.

# СТАГАДОВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

***Адлік сцэнічнага жыцця вядомай беларускай п'есы пачаў весці залаты гадзіннік з надпісам: «Аўтару "Паўлінкі" віленскія беларусы» — яго Янка Купала атрымаў 27 студзеня 1913 года пасля прэм'еры ў віленскім рабочым клубе. Не так ужо і цяжка падлічыць, што калі б мы сёння трымалі гэты гадзіннік у руках, ён паказваў бы не гадзіну, не дзве — а сто год.***

## ПЕРАДГІСТОРЫЯ

Напісаная ў чэрвені 1912 года, п'еса літаральна праз год была надрукавана ў Пецярбургу асобным выданнем. Усе вобразы Янка Купала «спісаў» з натуры. Паўлінка, якую насамрэч звалі Ядвігай, Ядзечкай Аўлачымскай, жыла за кіламетр ад вёскі пісьменніка і вельмі яму падабалася. У ролі бацькі гэтай дзяўчыны Купала ўбачыў Сцяпана Крыніцкага. А Пранцыся Пустарэвіча спісаў з дзядзькі. З настаўніка Мечыслава Багдановіча, які жыў у іх сям'і, стварыў вобраз Якіма. Адольфа Быкоўскага Купала знайшоў у ганарыстым шляхцюку Павэлаку Ваяводскім.




## ПРАЙШОЎ ВЕК

Сёння «Паўлінка» ўжо не толькі тэкст у кнізе ці брэндавы спектакль, але і значная частка нашай гісторыі, сімвал краіны, візітоўка тэатра. Паўлінка ў беларусаў — як Вікторыя ў замежнай культуры — спрыяе перамогам. Менавіта за «Паўлінку» Купалаўскі тэатр у 1955 годзе атрымаў званне акадэмічнага. І найвышэйшай тэатральнай узнагародай у нашай краіне таксама стала яна — «Крыштальная Паўлінка». Жыццё самой п'есы поўніцца цікавосткамі, якія часам прэтэндуюць на занатаванне ў кнігах рэкордаў.

З тых 100 год, што існуе п'еса, 68 яна ставіцца на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Некалькі дзесяцігоддзяў запар тэатр адкрывае сезон знакамітай пастаноўкай Льва Літвінава, якую трупа ажыццявіла, знаходзячыся ў эвакуацыі ў Томску ў 1944 годзе.

Пакаленні акцёраў выконваюць у «Паўлінцы» па некалькі розных роляў па меры сталення. Напрыклад, народны артыст Беларусі Арнольд Памазан граў у спектаклі з пяццю рознымі Паўлінкамі! Сам ён спачатку выходзіў на сцэну ў ролі пана Быкоўскага, а цяпер — у ролі Пранцыся Пустарэвіча.

## ГЕАГРАФІЯ

Першым за пастаноўку легендарнай п'есы ўзяўся аматарскі Беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні. Прэм'ерны спектакль у студзені 1913 года гралі ў рабочым клубе «Сокал».

# Юлія ШПІЛЕЎСКАЯ: «Паўлінка змяніла ўсё»



**— Паўлінку граю ўжо дванаццаты год. Гэта мая першая роля ў вялікім прафесійным тэатры, пасля якой мяне і запрасілі працаваць у Купалаўскі. Мне як актрысе падабаецца магчымасць выконваць шмат песень. Калі пачынала рэпеціраваць, любімым момантам у спектаклі была заключная песня Паўлінкі. Такая сумная, шчымлівая, вельмі эмацыйная.**

## ПАЎЛІНКІ, НА СЦЭНУ!

Паўлінку ігралі каля дваццаці актрыс, але гледачам вядомыя, натуральна, не ўсе. Першая — **Сафія Маркевіч**, ці Маркавічанка, як называлі яе гледачы. Затым гэтую ролю атрымалі **Аляксандра Ліпніцкая** і **Паўліна Мядзёлка**.

**Раіса Кашэльнікава** (1936—1965) — першая Паўлінка, якая заспявала на сцэне. Партыя, якую напісалі для яе тады, не змянілася і дагэтуль. Цікава яшчэ, што Кашэльнікава атрымала ролю 18-гадовай дзяўчыны, калі ёй было ўжо за трыццаць, і працягвала выходзіць на сцэну нават у шасцідзесяцігадовым узросце.

**Бірута Дакальская** (1953—1963) марыла пра ролю Паўлінкі, і таму вывучыла ўсе вакальныя партыі самастойна. У жаданым вобразе яна выйшла на сцэну выпадкова — трэба было падмяніць Раісу Кашэльнікаву, якая захварэла.

**Ала Доўгая** (1963—1982). Яе Паўлінка была такой папулярнай, што выяву актрысы змясцілі на цукерках. Цяпер актрыса грае ў спектаклі ўжо маці Паўлінкі.



**Зоя Белахвосцік** (1982—2000) — знакамітая Паўлінка пакалення 80-х. Яна перадавала гэтую роль усім маладым актрысам, што іграюць у спектаклі сёння. Цяпер іх у Купалаўскім тэатры ажно чатыры: **Юлія Шпілеўская**, **Святлана Зелянкоўская**, **Валянціна Гарцуева** і **Кацярына Яворская**.

## Галоўны крытэрый, па якім і дасюль абіраюць Паўлінак, — гэта голас: актрыса павінна лёгка браць соль другой актавы

Літаральна праз месяц «Паўлінку» ўбачылі ў Пецярбургу са знакамітай Паўлінай Мядзёлкай у галоўнай ролі. Над спектаклем тады працаваў Беларускі літаратурна-навуковы гурток Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта.

У жніўні 1913 года спектакль сыгралі ў радашковіцкім будынку пажарнай каманды. Упершыню ў Беларусі! Намаганнямі Фларыяна Ждановіча.

У красавіку 1917 года Фларыян Ждановіч распачаў гэтым спектаклем дзейнасць Першага беларускага таварыства драмы і камедыі ў Мінску. Пастаноўку паказалі ў Асіповічах, Бабруйску, Жлобіне, Магілёве, Оршы, Слуцку — па ўсёй краіне.

З таварыства драмы і камедыі фактычна вырас Беларускі дзяржаўны тэатр. З верасня 1920 года прадстаўленая там «Паўлінка» пачала свой шлях у прафесійным тэатры. Мяняліся яго назвы і будынкі, а «Паўлінка» ідзе і дасюль.

## У ПЕРШАПАЧАТКОВЫМ ВАРЫЯНЦЕ

У Купалавым тэксце справа заканчвалася арыштам Якіма. Рэжысёр Павел Малчанаў папрасіў у аўтара дазвол на больш аптымістычны фінал — і вось ужо Якім разам з Паўлінкай збягае на пошук лепшага жыцця. Рэжысёр угаварыў Купалу яшчэ на адзін крок — дадаць у п’есу ўрывак з «Песні пра Буравесніка» Максіма Горкага. І гэта напярэдадні 1937-га!

## У КІНО

У 1952 годзе «Беларусьфільм» экранізаваў п’есу. Рэжысёр Аляксандр Зархі, сцэнарыст Максім Лужанін.

«Пасля кірмашу» ў 1973 годзе на Беларускім тэлебачанні зняў рэжысёр Юры Цвяткоў па сцэнарыі Андрэя Макаёнка.

***Падрыхтавала Вераніка МОЛАКАВА***

*Вера МІЦКЕВІЧ*

# «…ХТО РОДНЫ СКАРБ ШАНУЕ…»



*Якуб Колас. 1939 г. Фота Рыгора Вайля.*

Мне, самай малодшай з Коласавых унукаў, на жаль, не давялося пабачыць ніводнага з родных дзядоў, ні бабулю Марыю Дзмітрыеўну. Песціла, любіла і выхоўвала мяне бабуля па матчынай лініі — Аляўціна Галубкова. Але ўсё жыццё я адчуваю непарыўную сувязь з роднымі дзядамі і бабуляй Марусяй. У нашай сям'і заўсёды гучалі іх імёны, пра іх распавядалі бацькі, шматлікія родзічы, сябры і знаёмыя. І гэтая цудоўная добразычлівая атмасфера падштурхоўвала спачатку да пытанняў і разважанняў, а ў больш сталыя гады — да пошукаў і даследаванняў свайго радаводу.

Мне пашчасціла ў жыцці. Яно ў кожнага чалавека не бывае адназначна «белым зайкам» або «чорным воранам», у ім ёсць моманты шчасця і роспачы, радасці і гора, абароненасці і неўладкаванасці. Кажуць, жыццё як тая зебра — у «палосачку». Так вось, «белых палосачак» у маім жыцці было значна больш. І за гэта я ўдзячна сваёй сям'і і бацькам.

Гісторыя знаёмства, шлюбу маіх бацькоў заслугоўвае асобных старонак, і я не сумняваюся, што пра гэта цікава напіша мая маці, але толькі адзначу, што сустрэліся мае бацькі Данііл Міцкевіч і Аляўціна Міцкевіч (так-так, у дзявоцтве Міцкевіч) сталымі людзьмі ў 1959 годзе. На той час у бацькі не склаліся адносіны з першай жонкай Зарынай Уладзіміраўнай, сыну Андрэю было 7 гадоў, а дачцэ Алене ўсяго адзін гадок; бацька пакутаваў ад сямейных непаразуменняў. Маці пераехала з Ленінграда пасля разводу з першым мужам у Мінск да сваіх бацькоў. 14 жніўня 1959 года ў няпоўныя 57 гадоў памёр яе бацька, мой дзед Цімафей Міцкевіч. Здароўе яго аказалася падарваным за гады сумленнай працы на адказных дзяржаўных пасадах: да вайны — у Ленінградзе, падчас вайны ён будаваў ваенныя аэрадромы па лініі фронту, пасля быў накіраваны ў Літву аднаўляць народную гаспадарку, але так хацелася вярнуцца на радзіму, у Беларусь, быццам прадчуваў, што зямнога часу адмерана недаравальна мала, апошнія гады ў Мінску, як і ў Вільнюсе, працаваў на пасадзе намесніка міністра будаўнічых матэрыялаў. Бабуля Аляўціна Пятроўна паходзіла з сям'і чыгуначніка, у маладосці вучылася на балерыну ў знакамітай Агрыпіны Ваганавай, у замужжы была хатняй гаспадыняй, гадавала траіх дзяцей — дзвюх дачок і сына. Старэйшая — мая маці Аляўціна (Аля, Ала), геолаг-географ, была названа ў гонар сваёй маці. Сярэдні — сын Леў Цімафеевіч — у будучым таленавіты мастак, архітэктар, адзін са стваральнікаў Кургана Славы пад Мінскам. Малодшая — Ірына Цімафееўна (па мужу — Юшкевіч) — у будучым выкладчыца дзіцячай музычнай школы № 4 г. Мінска, цудоўны педагог, якая аддала

48 гадоў музычнаму выхаванню маладога пакалення.

У маі 1960 года бацькі стварылі новую сям'ю, а праз год, 25 чэрвеня 1961-га, у нядзелю, калі адзначаўся дзень савецкай моладзі, нарадзілася я. Мяне назвалі Верай. З аднаго боку, у гонар бацькавай стрыечнай сястры па лініі маці, жонкі Якуба Коласа, — Веры Каменскай (Канавалавай), з якой я і цяпер тэлефануюся і з радасцю бачуся, калі бываю ў Маскве. З другога боку, у маёй другой бабулі, Аляўціны Пятроўны, была блізкая па адносінах родзічка — Вера Жадаўская.

Хацелася б таксама расказаць, чаму майго бацьку назвалі Данілам, правільна Даніілам. Такое імя не сустракалася ні ў блізкім радаводзе дзеда Якуба, ні сярод родных яго жонкі, бабулі Марусі. Маруся — Марыя Дзмітрыеўна — назвала свайго першынца Даніілам, таму што ў маладосці была закахана ў семінарскага сябра свайго старэйшага брата Аляксандра Каменскага. Сябра звалі Данііл Цэбрыкаў. Ён часта бываў у гасцях у сям'і Каменскіх у Вільні і ў Мэйшаголе ў доме маёй прапрабабулі, калі яны разам з Аляксандрам спачатку вучыліся ў Віленскай духоўнай семінарыі, а пасля ў 1906—1910 гадах у Казанскім універсітэце, прыязджалі на вакацыі ў Вільню. Пра гэта мне расказаў у 1996 годзе Пётр Цімафееў, родзіч бабулі Марусі, у іх была адна родная бабуля, але розныя дзяды. Пётр Міхайлавіч пражыў 105 гадоў, а мая бабуля пайшла з жыцця на 55 годзе… Дзед Канстанцін Міхайлавіч не стаў пярэчыць маладой жонцы, а можа і самому спадабаўся такі выбар імя. Даніла — Божы дар — гучыць і ў Коласавых паэмах «Сымон-музыка», «Рыбакова хата». І калі ў апошні год свайго жыцця мой бацька праглядаў для ўдакладнення збор твораў Якуба Коласа ў 14-ці тамах, дапісваў прама на старонках тамоў, рабіў зноскі, разумеючы, што будуць перавыданні, і не павінна застацца невядомым, нерасшыфраваным тое, што захавала ягоная, не пабаюся сказаць, фенаменальная памяць, ён пагадзіўся з аповедам Пятра Міхайлавіча і зрабіў зноску ў 13-м томе да ліста Якуба Коласа да жонкі, 1925 год, дзе згадваецца сон: «*17.VI. Сніўся мне сон. Шукаў цябе дзесь у Мінску у нейкіх бясконцых дамах-пакоях. А ты ўсё старалася зызнуць ад мяне. Ідзеш-ідзеш — і чуць я зазяваўся, чуць напаткаўся выпадак схавацца ад мяне, ты старалася знікнуць. Ну, сюды яшчэ прымяшаўся нехта Д.*» (Збор твораў у 14-ці тт. Мн. : Мастацкая літаратура, 1977. Т. 13. С. 59). «Нехта Д.» — Данііл Цэбрыкаў.

Калі адгарнуць каляндар часу на 100 гадоў назад і зазірнуць у тагачасную Вільню — беларускую «мекку», прайсці па яе вузкіх брукаваных вулках, можна сустрэць там і Коласавага роднага дзядзьку Антося, прататыпа «новазямельскага» Антося, які прыехаў у Зямельны банк вырашаць пытанне з пакупкай зямлі, можна патрапіць у рэдакцыю славутай «Нашай нівы», а потым прагуляцца ў Гуры-Кальварыю (Павільнюс), што ў 3-4 кіламетрах ад тагачаснай гарадской мяжы. Там, у Гуры-Кальварыі, на пачатку XX стагоддзя група чыгуначных служачых атрымала тэрыторыю для збудавання сабе дамоў на асобных дзялянках зямлі. Адным з першых заснавальнікаў Віленскай чыгуначнай калоніі быў старэйшы брат маёй бабулі Марусі Іван Каменскі. Дом, які пабудавалі ў 1910 годзе ўсёй сям'ёй пад кіраўніцтвам прабабулі Марыі Каменскай, афармілі на Марыю Дзмітрыеўну ў якасці пасагу. Іван Дзмітрыевіч, дзядзька Ваня, — гаварун, весялун, аматар картачных гульняў — працаваў тады на тэлеграфе ва Упраўленні Палескіх чыгуначных дарог. Дарэчы, чыгунка дала працу і маёй бабулі, яна была настаўніцай чыгуначных школ спачатку ў Віленскай губерні, а пасля ў Пінску, дзе і пазнаёмілася з дзедам Якубам. Яшчэ адзін старэйшы бабулін брат Міхаіл Каменскі таксама служыў на чыгунцы Палескіх, а пазней Паўночных дарог у 1896—1927 гадах. У чэрвені 1913 года, калі Марыя Дзмітрыеўна і Канстанцін Міхайлавіч пабраліся шлюбам у Пінску, яны паехалі ў шлюбнае падарожжа да родных нявесты ў той самы дом у Павільнюс. На Віленскі вакзал сустракаць маладых прыехаў на аўтамабілі самы старэйшы брат бабулі Васіль Дзмітрыевіч, ён жа і падарунак зрабіў багаты па тым часе — самавар. Служыў ён тады памочнікам прыстава 1-га ўчастка Вільні. І калі ў 1915 годзе маладая сям'я Міцкевічаў зноў наведала Павільнюс, а было гэта неафіцыйна і небяспечна па тым часе, швагер Васіль Дзмітрыевіч спрыяў іх нелегальнаму знаходжанню. П. Цімафееў успамінаў, што ён у чэрвені-ліпені 1915 года прыехаў паступаць у сельскагаспадарчую школу, жыў у Павільнюсе. Кожную раніцу

разам з Аляксандрам Дзмітрыевічам прыносілі ваду з крыніцы, гатавалі чай. Якуб Колас быў бодрым, рухавым, жыццярадасным, шмат працаваў, чытаў, пісаў. Запомнілася Пятру Міхайлавічу лёгкая летняя накідка, якую Колас браў з сабой, пераклаўшы на руцэ, калі адыходзіў некуды па справах. А Маруся сядзела на адкрытай верандзе дома і трымала на руках пухленькае немаўля, сына Даніка. Па просьбе Якуба Коласа Пётр Міхайлавіч пасадзіў у Павільнюсе пладовы сад.

Падчас той незабыўнай для мяне сустрэчы з Пятром Міхайлавічам я атрымала ад яго сапраўды царскія падарункі: стары пацёрты ў выглядзе кнігі фотаальбом з металічнай зашчапкай (на вялікі жаль, без фотаздымкаў) з таго Павільнюскага дому, фотаальбом, якога калісьці датыкаліся рукі маёй прыгожай маладой бабулі Марусі, а ў дадатак некалькі папак з дакументамі і фотаздымкамі яе братоў Васіля і Івана Каменскіх. Сярод фотаздымкаў Івана Дзмітрыевіча асобна прадстаўлена серыя пазітываў часоў Першай сусветнай вайны. І. Каменскі служыў камандзірам нестраявой роты і казначэем 3-га Нарвскага палка, захаваўся яго паслужны спіс. Адзін з фотаздымкаў, на якім група вайскоўцаў адпраўляецца на фронт па чыгунцы, выкарыстаны ў апошняй IV экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа як мастацкае параўнанне: Якуб Колас адпраўляецца на Румынскі фронт начальнікам эшалона дэзерціраў, швагер паэта — у Курляндыю.

Вільня адыграла значную ролю ў жыцці майго дзеда. Тут ён загучаў як паэт, калі ў першым нумары газеты «Наша Доля» (1906 г., № 1, 1 верасня) быў надрукаваны верш «Наш родны край», падпісаны ўпершыню псеўданімам «Якуб Колас». Псеўданімаў у Канстанціна Міхайлавіча было больш як сорак, але менавіта «Якуб Колас» назаўжды замацаваўся за яго ўладальнікам. Гісторыя выбару псеўданіма атрымалася цікавая. Папершае, падпісвацца ў друку ўласным імем было рызыкоўна, Канстанцін Міхайлавіч знаходзіўся пад следствам па справе ўдзелу ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе, які адбыўся 9-10 ліпеня 1906 года ў маляўнічай мясціне Прыстанька на беразе Нёмана непадалёк ад роднай вёскі паэта Мікалаеўшчыны. Але чаму Канстанцін Міцкевіч абраў сабе гэты псеўданім для першай публікацыі?



*Якуб Колас у грыбах на Пухавіччыне. 1946 г.*

*Фота з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.*

У тыя далёкія гады ён захапляўся творчасцю рускага паэта і пісьменніка, рэвалюцыянера-«народавольца», вязня царскай катаргі Пятра Якубовіча (Мельшына). Асабліва яму падабаўся верш пра калоссі ці колас. Таму паэт і вырашыў назваць сябе Якуб(овіч) Колас. Так прыгадваў пазней адказ Якуба Коласа на запіску з залы на адной з юбілейных сустрэч 1952 года сябра і калега Пятро Глебка. На пачатку 1990-х гадоў, працуючы ў фондах музея, мне ўдалося наблізіцца да расшыфроўкі гэтага псеўданіма. Зачэпку я знайшла ў трылогіі «На ростанях», аўтабіяграфічным творы Якуба Коласа: «*...На памяць прыйшлі радкі верша Мельшына (Якубовіча):*

В колосьях желтеющих нив утопая,
По узкой меже, сквозь редеющий мрак,
В убогой сермяге, кряхтя и вздыхая,
Проходит свободный батрак.

*Такім «свободным» батраком уяўляўся сабе адстаўны настаўнік Верханскай школы*». (Збор твораў у 20-ці тт. Мн. : Беларуская навука, 2011. Т. 14. С. 155—156). Лабановіч (Міцкевіч) быў звольнены з працы за ўдзел у з'ездзе настаўнікаў. Як высветлілася, вышэйпамянёныя радкі з'яўляюцца выдатным перакладам П. Якубовіча на рускую мову з польскай верша «Батрак» — у арыгінале «Wolny najmita» — вядомай польскай пісьменніцы Марыі Канапніцкай. Пераклад П. Якубовіча, зроблены ў 1890 годзе, упершыню надрукаваны ў 1898 годзе, быў папулярным, уключаўся ў 1902—1907 гадах у наступныя паэтычныя зборнікі рускага паэта і перакладчыка: «Песни борьбы», «Зарницы», «Перед рассветом», «Песни труда и неволи». Адшукаліся цікавыя параўнанні. П. Якубовіч і К. Міцкевіч нарадзіліся ў адзін дзень і месяц — 22 кастрычніка, ці 3 лістапада па новым стылі, адпаведна ў 1860-м і 1882-м гадах. Першы паэтычны зборнік Якуба Коласа выйшаў у Вільні ў 1910 годзе, калі паэт яшчэ адбываў пакаранне ў турме, і называўся «Песні-жальбы». А само слова «колас» для Канстанціна Міхайлавіча было дарагім, блізкім, сялянскім, напоўненым самым глыбокім сэнсам, сімвалам жыцця, ураджаю, святла і сонца. У той жа час слова «колас» рэальна бытавала ў якасці сялянскага прозвішча ў межах этнічнай Беларусі.

Захапленне, глыбокае разуменне рускай класічнай літаратуры, безумоўна, спрыяла развіццю паэтычнага таленту Коласа. А пачыналася ўсё ў дзяцінстве. Аднойчы дзядзька Антось Казіміравіч прывёз з кірмашу кніжку баек Крылова і падараваў яе маленькаму Кастусю, які ўжо тады навучыўся чытаць. Гэта, па словах будучага паэта, быў найдаражэйшы падарунак. Пасля ў пастушковай торбе з'явіліся кнігі Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Кальцова. Цэлыя старонкі хлопчык з асалодай завучваў на памяць. Як успамінаў мой бацька Даніла Канстанцінавіч у кнізе «Любіць і помніць», «*падросшы Колас чытае і захапляецца творамі Талстога, Някрасава, Чэхава, Цютчава, Нікіціна, Тургенева. Гэта з рускіх. Чытае Тараса Шаўчэнку, Адама Міцкевіча, іншых украінскіх і польскіх пісьменнікаў. У яго была выдатная памяць. Да канца жыцця ён мог на памяць чытаць амаль усе байкі Крылова, вялікія ўрыўкі з твораў Пушкіна, Лермантава, Някрасава і іншых любімых ім паэтаў. Часам любіў цытаваць радкі з Бібліі*».

Вядома, што кніга займала прыярытэтнае месца ў жыцці дзеда. З 1921 па 1941 год у сям'і была сабрана багатая бібліятэка, якая разам з рукапісамі, архівам паэта, усёй маёмасцю, на вялікі жаль, згарэла на пачатку вайны 24 чэрвеня 1941 года. У эвакуацыі — Ташкенце, Падмаскоў'і, пасля ў вызваленым Мінску хатняя бібліятэка аднаўлялася наноў Коласам і яго сямейнікамі. У нашай сям'і таксама шануюць кнігу. Мой бацька набываў не толькі мастацкую літаратуру, але энцыклапедыі, даведнікі, мемуары. Як і ў дзеда, у бацькі захавалася шмат кніг з дарчымі подпісамі беларускіх, украінскіх, расійскіх пісьменнікаў. У мяне даўно існуе задума апрацаваць гэтыя інскрыпты пад адну вокладку. Любоў да кнігі, да самастойнага чытання перадавалася і нам, дзецям. Спачатку гэта былі казкі. Бацька расказваў і чытаў іх па-майстэрску, з інтанацыяй, я сама нібыта пераносілася ў казачнае дзеянне, дзе магло быць цікава, весела і калі-нікалі страшна. З урыўкаў дзіцячай памяці: прашу пачытаць вялікую па памерах, як тады здавалася, кніжку «Диво» з беларускімі народнымі казкамі, апрацаванымі і перакладзенымі Якубам Коласам, з каларытнымі малюнкамі Валянціна Волкава. Другі выпадак такі. Намагаюся чытаць самастойна, атрымліваецца наступнае: «Смар-шак. Сказ-ки. Песни. За-гад-ки». Маці пасміхаецца і тлумачыць: «Трэба чытаць “Маршак”, а літару “С” наперадзі не дадаваць, яна азначае імя паэта, якое запісана скарочана “С” з кропкай». Але я не зусім разумею яе довады, таму што бачу на вокладцы «С. Маршак», і працягваю чытаць па-свойму «Смар-шак». Гэта старая пацёртая з адарваным вугалочкам кніга і сёння займае месца на паліцы. Яна яшчэ тым дарагая, што падпісана мне ў 1963 годзе Марыяй Камісаравай. Сямейны паэтычны дуэт ленінградцы Марыя Камісарава і Мікалай Браун ведалі майго дзеда, былі яго перакладчыкамі і сябравалі з маімі бацькамі. А Самуіл Маршак у 1935 годзе даў высокую ацэнку дзіцячай паэме Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды» (цытую на мове арыгінала): «*Книга написана большим мастером и подлинным поэтом. Поздравляю ребят, для которых написана книга*» (ліст Якуба Коласа да С. Гарадецкага ад 16.11.1935 г.).



*Петрапаўлаўскі сабор, каля надмагілля Пятра І (злева направа): Максім Танк, Міксім Лужанін, Якуб Колас, Мікалай Браун, Марыя Камісарава. Жнівень 1947 г., Ленінград.*

*Фота з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.*

Пазней, ужо школьніцай, па парадзе бацькоў, падчас летніх вакацый я старалася перачытаць увесь спіс літаратуры па школьнай праграме на наступны навучальны год. І калі бацька адвозіў мяне на «газіку» ў Мікалаеўшчыну, то ў машыне разам з рэчамі і роварам быў кардонны кораб, поўны кніг, асабліва шмат іх набіралася ў старшых 8-10 класах. У сучасным жыцці ў кнігі з’явілася шмат «канкурэнтаў»: тэлевізар, кіно, інтэрнэт, электронная кніга. Але, на маю думку, ніштo не зможа замяніць друкаваную кнігу, яе рэальную наяўнасць, калі можна памацаць вокладку, перагарнуць старонкі, пачуць іх шамаценне і пах друкарскай фарбы. Добра чытаецца перад сном, калі сам-насам застаешся з кнігай пасля турботнага дня і можна перанесціся ў дзеянне аповеду. Чытанне для мяне адначасова і адпачынак для душы і, у нейкім сэнсе, работа для «шэрых клетачак». Перавагу аддаю мемуарнай, гістарычнай літаратуры, паэзіі і эпісталярыю.

Мая цікавасць да перапіскі мае спадчынную глебу. Якуб Колас за сваё жыццё напісаў тысячы лістоў і запісак. Захавалася пэўная частка з эпісталярнай спадчыны дзеда, але нават гэтае, надрукаванае і даследаванае, дае магчымасць удакладніць біяграфічныя звесткі, адчуць эпоху, у якой жыў і працаваў народны паэт, даведацца, як ствараліся творы, пераклады, якія задумы засталіся нядзейсненымі, што хвалявала, радавала і засмучала. У адрозненні ад Янкі Купалы Якуб Колас любіў пісаць лісты, па словах паэта «*без гэтага пуста і нецікава*». Кола яго адрасатаў было велізарным. Чаго вартая толькі адна перапіска з рускім паэтам і перакладчыкам Сяргеем Гарадзецкім! Асабіста мне бачыцца ў будучым выдадзеная асобнай кнігай іх перапіска. Дазволю сабе працытаваць С. Гарадзецкага з лістоў, дасланых Якубу Коласу ў 1950-я гады (цытую на мове арыгінала): «*Я так светло мечтал о нашей встрече в эти дни! Что-то договорить хотелось о философских корнях и взлётах твоей наскрозь земной, родниковой, пьющей силу из чистейших криниц народной души поэзии*» (ліст ад 05.11.1955 г.), «*Скоро вечность сомкнёт нам уста, и хотел бы я посмотреть, как обеднеет почта без нашей переписки!*» (ліст ад 20.10.1954 г.).

А ці зможа даследчык наступных стагоддзяў мець магчымасць вывучаць эпісталярную спадчыну творцаў XXI стагоддзя? Сумняваюся: перапіска па электроннай пошце, тэлефонныя размовы, жыццё на бягу. Так што меў рацыю рускі паэт.

Якуб Колас быў шчодрым чалавекам у перапісцы, часамі ўкладваў у лісты свае вершы, фотаздымкі. І многія адрасаты паэта, якія добра разумелі, што ў будучым гэта будзе вялікая каштоўнасць, захавалі і перадалі ў музей народнага паэта, а таксама ў архівы тое, што мы сёння ведаем. У апошнім 20-томным зборы твораў песняра лісты, дзённікі, дарчыя запісы складаюць тры тамы. Але, безумоўна, ёсць яшчэ людзі, якія маюць коласаўскія аўтографы, ёсць і не даследаваныя на гэты прадмет архівы. Так што пошукавае поле (не блытаць з інтэрнэтам!) тут шырокае. І гэта датычыць спадчыны не толькі Якуба Коласа, але і многіх беларускіх творцаў.

У лістах і дзённіках дзеда, якія люблю перачытваць, рассыпаны залацінкі мудрасці, вобразнасці, гумару: «*Ну, як не параўнаць жыццё з возам сена, які шыбуе па няроўнай дарозе і атрасае самыя малюпасенькія часцінкі таго, што паложана на возе…*» (ліст да А. Смоліч ад 29.01.[1951 г.]); «*Няхай пуховіцкая муза калыша вашы паэтычныя сны і прынясе вам па конскай торбе трапных метафар, эпітэтаў, параўнанняў*» (ліст да П. Броўкі і П. Глебкі ад 16.04.1937 г.); «*Хоць мая бальнічная палатка прыстасавана так да пісання, як свіння да верхавой язды, я ўсё ж прыладзіўся напісаць вам… Быў Колас Якуб, ды вецер яго аскуб*» (ліст да М. Лынькова ад 07.11.1950 г.).

Ведаю, што дзед Якуб быў просты ў жыцці, не любіў раскошы. Па ўспамінах майго бацькі, Канстанцін Міхайлавіч апранаўся звычайна, нават крыху старамодна, ужываў у ежу простыя стравы — бульбу з кіслым малаком, верашчаку з blінамі, — любіў піць чай з лімонам, наліты ў шклянку з падшклянкай. Пісаў пер'евымі ручкамі з чарніліцы, насіў кішэнныя гадзіннікі. Адзін з першых такіх гадзіннікаў цяпер упрыгожвае экспазіцыю коласаўскага сталічнага музея. Гісторыя яго такая. Падчас Першай сусветнай вайны перад ад'ездам з сям'ёй у Маскоўскую губерню Якуб Колас падараваў свой кішэнны гадзіннік фірмы «Павел Буре» малодшаму брату Міхасю, які заставаўся у Мікалаеўшчыне. У 1930-я гады, калі Стаўбцоўчшына знаходзілася пад Польшчай, Міхаіл Міхайлавіч падараваў гэты гадзіннік старэйшаму сыну сястры Міхаліны — роднаму пляменніку Уладзіміру Міцкевічу. Уладзімір Іванавіч — равеснік майго бацькі — з 1921 года і да дня смерці ў 1991 годзе жыў і працаваў у Мікалаеўшчыне. У 1996 годзе гадзіннік быў перададзены ў музей яго ўдавой Яўгеніяй Мікалаеўнай. Праз кола часу, ад Коласа-пісьменніка, праз Міхася Міцкевіча — «*спадзейнага белетрыста і паважнага публіцыста*» (выступаў у друку пад псеўданімам Антось Галіна) да Уладзіміра Міцкевіча — захавальніка коласаўскай спадчыны на радзіме паэта, кішэнны гадзіннік адслужыў верай і праўдай тром адметным асобам сялянскага роду Міцкевічаў, а сёння з'яўляецца маўклівым сведкам падзей мінулага стагоддзя.

А пра сям'ю Уладзіміра Іванавіча і Яўгеніі Міцкевічаў скажу самыя ўдзячныя цёплыя словы. Мая Мікалаеўшчына ў першую чаргу звязана з гэтай сям'ёй і іх гасціннай хатай. Маё ўспрыманне Коласавай Малой Радзімы, правобраза чароўнай «Новай зямлі», пачалося менавіта тут. Гаспадар хаты Уладзімір Іванавіч, настаўнік па адукацыі, спачатку працаваў у Мікалаеўшчынскай сярэдняй школе, у 1965—1985 гадах быў першым загадчыкам філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Смольні. Стварыў школьны коласаўскі музей. Сабраў, апрацаваў асноўную частку экспанатаў, запісаў успаміны жыхароў Мікалаеўшчыны, склаў радаводы па лініі бацькі і маці Якуба Коласа. Перапісваўся з родным дзядзькам Канстанцінам Міхайлавічам, вырашаў розныя надзённыя пытанні: па добраўпарадкаванні вясковых могілак Церабяжы, пабудове лазні ў вёсцы, прызначэнні настаўніка спеваў і музыкі ў школу і доктара ў бальніцу. Канстанцін Міхайлавіч любіў свайго пляменніка, адчуваў яго сціплую працавітую натуру, добразычлівыя адносіны яго сям'і. Яўгенія Мікалаеўна, спадарожніца жыцця дзядзькі Валодзі, сапраўдная гаспадыня, трымала гаспадарку, расціла дзяцей — сына Мікалая і дачку Галіну. Цётка Жэня, як яе называюць, расказвала мне, што ў пасляваенны час, калі жылося цяжка і не хапала самага неабходнага, дзед падараваў ёй сукенку, якая засталася ад маёй роднай бабулі, са словамі: «Насі, Жэня, на здароўе, ты такая ж добрая і чулая як мая Маруся». «Доўгі час апранала я гэту прыгожую шоўкавую карычневую сукеначку ў белы гарох, маладая была, не падумала захаваць яе як памяць пра Марыю Дзмітрыеўну, а цяпер

шкадую, але ж і не было ў той час, дзе і што набыць, сама ўсё перашывала са старога, а словы дзядзькі Коласа мне такія дарагія», — узрушалася, расказваючы мне, цётка Жэня. У апошні прыезд Канстанціна Міхайлавіча на радзіму ў Мікалаеўшчыну, а было гэта 30 красавіка 1956 года, цётка Жэня парупілася набраць лячэбнай гліны для хворых суставаў рук паэта.

Яўгеніі Мікалаеўне ўжо пад 90. У 1991 годзе памёр Уладзімір Іванавіч, а праз паўтара года трагічна загінуў сын Мікалай, галоўны інжынер аднаго са слуцкіх заводаў. Жыве цётка Жэня з дачкой Галінай, маёй траюраднай сястрой, доктарам-стаматолагам, у той жа хаце ў Мікалаеўшчыне. Якія яны цудоўныя людзі! Гаспадаркай апякуецца Галіна. Двор увесь у кветках і раслінах, як батанічны сад, а ў хаце шмат падзелак цёткі Жэні. Яе працавітымі рукамі зроблены цэлыя кампазіцыі паводле твораў Якуба Коласа з розных матэрыялаў: дрэва, імха, тканіны, пацерак, нітак і, нават, цеста і кабачкоў. Цётка Жэня і сёння на памяць шмат чытае з паэзіі Коласа, асабліва з «Новай зямлі». Кожны дзень назірае за прыродай, надвор'ем, запісвае свае ўражанні, складае няхітрыя вершы ў сшытак.

Мікалаеўшчына, безумоўна, змяніла свой выгляд. Адышлі ў лепшы свет пакаленні мікалаеўшчынцаў, якія ведалі, памяталі Якуба Коласа. У сяле з'явіліся новыя людзі, пабудовы, нядаўна аднавілі царкву. Вёска папоўнілася дачнымі катэджамі, але не згубіла сваёй прыцягальнасці. Хуткаплынны Нёман агінае вёску паўдугой, часам мяняючы ручво, рака то падыходзіць бліжэй да смальнянскага лесу і могілак Церабяжы, то адступае назад. Жоўтыя пяскі высцілаюць рачныя берагі, а спякотнымі летнімі днямі адчуваеш сябе як на Поўдні, ідучы басанож па гарачым пяску. Бывае чуеш раскаты грому, бачыш, як за Нёманам ідзе дождж, а тут суха, як у зачараваным коле, не выльецца ні кроплі вады. Ці наадварот, навокал няма дажджу, а ў Мікалаеўшчыне грыміць, лье дождж, тут жа прабіваюцца сонечныя промні і раптоўна з'яўляецца вясёлка — нябесная дарога да Бога. Вечарамі можна наглядаць сонца на захадзе, якое паважна садзіцца за Нёманам. І калі яно яркім чырвоным шарам апускаецца за даляглядам, то можна спадзявацца, што заўтра будзе сонечна і бязветрана. Мікалаеўшчына сталася для мяне дзедавай калыскай. Мая дачка Ціна школьніцай праводзіла тут частку канікул. Прыязджае з задавальненнем і цяпер у вёску, ходзіць у лес і на начную рыбалку. Мае сябры, сямейныя пары, любяць прыязджаць сюды з Мінска нават на адзін выхадны дзень, каб адпачыць на Нёмане, пагуляць у лесе, набыць мёду. Не здраджваюць сваім караням і многія вяскоўцы, прыстасоўваючы хаты сваіх дзядоў і бацькоў пад дачы. Бывае летам у Мікалаеўшчыне часцей пабачыш родных і знаёмых людзей, чым у Мінску. Так, з радасцю і замілаваннем сустракаюся тут з пляменніцай Анжалікай Міцкевіч. Яна — праўнучка дзеда Юзіка, роднага брата Якуба Коласа. Яе бацькі працуюць у філіяле коласаўскага музея на Стаўбцоўшчыне. Сама Анжэла, малодшая за мяне на пяць гадоў, біёлаг па адукацыі, рэстаўратар вышэйшай кваліфікацыі, мае залатыя рукі, душу і сэрца. Вось хто дасканала ведае лес, усе расліны, збірае поўныя кошыкі грыбоў і ягад!

Колькі сябе памятаю, з самага ранняга дзяцінства, прыгадваю побыт у Мікалаеўшчыне. Тут мне ўпершыню далі паспрабаваць даіць карову, дакладней пару разоў пацягаць яе за цыцку. Мне было гадоў 4-5, і карова ўяўлялася агромістай, ад яе пахла малаком і свежай травой, якую яна жавала. Гэта карова была добрая да дзяцей. Пазней, у мае 11-12 гадоў, іншых каровак я пабойвалася, асабліва рудую наравістую Малышку, якая аднойчы прыціснула мяне рогамі да плота, але баба Міхаліна паспела яе адагнаць. Я падрастала, і мае «вясковыя заняткі» мяняліся: паганяць з агарода курэй, назбіраць травы і пакарміць трусоў, грэбсці-«перабіраць» сена для прасушкі. Радасцю было праехацца на возе з сенам, пайсці на Нёман купацца ці ў лес па ягады і ў грыбы.

Лес быў і застаецца для мяне сапраўднай таямніцай, ахоўнікам душы, доктарам Айбалітам. Люблю нетаропка хадзіць па лесе, абапіраючыся на палку-кульбу, дыхацьляснымі пахамі, атрымліваць асалоду ад спеваў птушак, трэску-шэпту дрэў. Лес заваражвае сваёй прыгажосцю. Відаць, гэта любоў да лесу закладзена недзе на генетычным узроўні, ад прадзедаў, якім лес даваў працу і карміў сям'ю. Лясы навокал Мікалаеўшчыны змяніліся за апошнія сто гадоў. Пасля ўрагану 1997 года няма той казачнай дарогі праз гушчар з Бервянца да Альбуці, абмялела Альбуцкая крыніч-



*Злева направа: Данііл Цэбрыкаў, Марыя Каменская (будучая жонка Якуба Коласа), Іван Каменскі, Аляксандр Каменскі, Міхаіл Каменскі, насупраць М. Каменскай сядзіць Аляксандр Кукен. Вільня. 1910—1912 гг. Архіўнае фота.*

*Фота з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.*

ка. Яшчэ малой дзяўчынкай я бачыла там бабровыя «хаткі» і саміх баброў, якія часам вынырвалі і моцна білі хвастамі па вадзе. А каля Смольні вырас сасновы лес, мой равеснік, дзе так добра збіраць грыбы. З мяне зборшчыца грыбоў і ягад непатрабавальная, зразумела, жанчына гарадская, а вось дзед Якуб быў выдатным майстрам па зборы грыбоў. Збіраць грыбы, гаварыць і пісаць на грыбныя тэмы — гэта было неад'емнай часткай яго жыцця. На адным з пасяджэнняў Якуб Колас пажартаваў, што хацеў бы атрымаць пасаду «грыбнога міністра». А колькі ён пісаў пра грыбы свайму маскоўскаму перакладчыку Сяргею Гарадзецкаму, як сумаваў па іх у далёкім Ташкенце падчас вайны: «*Вось ужо другі год, як не збіраю я баравікоў...калі я кажу пра баравікі, то я хачу сказаць аб маёй вялікай тузе па роднай зямлі*» (ліст да М. Лынькова ад 19.08.1942 г.); «*Божа мой, як хацеў бы я пахадзіць па лесе, па свіслацкіх грудах! Калі б найшоў першага баравіка, дык стаў бы перад ім на калені, пацалаваў бы яго, як брата, і прачытаў бы яму верш, спецыяльна зложаны для яго*» (ліст да К. Крапівы ад 14.04.1943 г.). У працяг думкі пра галоўны псеўданім паэта, ці не першыя чэрвеньскія баравікі-каласавікі зніталаваны ў гучным «Якуб Колас»?

Канстанцін Міхайлавіч, селянін па паходжанні, і, як ён сам вызначаў, чалавек «паганскай веры», пакланяўся зямлі-карміліцы. Сапраўды, Колас быў непарыўна звязаны з роднай зямлёй, вясковым укладам жыцця, прыроднымі з'явамі. Любіў назіраць за надвор'ем, яго зменай, ведаў народныя прыкметы, штогод клапаціўся, які будзе ўраджай. Музыкай гучалі для яго раскаты грому. Умеў убачыць, адчуць сваім паэтычным сэрцам незвычайнае ў самым простым: «*Нядаўна... наглядаў дзівосны захад сонца. Наўперад снег быў цёмна-малінавы, потым ружовы з блакітнымі адсветамі. Колеры снегу і неба мяняліся на вачах, а ўсё разам давала такі малюнак, што трудна было адвесці вочы ад яго...*» (ліст да М. Міцкевіч ад 03.02.1942 г.). Прыродныя з'явы ўплывалі на дзедаў настрой, асабліва, калі хацелася

зазірнуць «у тайну заўтрашняга дня», калі доўга не было дажджу: «*Маё мужыцка-беларускае сэрца пачынае балець, а вочы мае ўсё часцей падымаюцца ўгору. Мяне забірае злосць на старога Іллю. Відаць, загуляўся і закінуў нямазанай сваю каламажку, каб ездзіць па хмарах*» (ліст да М. Лужаніна ад 18.06.1948 г.). А ў спякотным Ташкенце падчас вайны, адарваны ад роднай беларускай зямлі, Якуб Колас радаваўся «*бясцэннаму дару*» з радзімы — васільку, дасланаму ў лісце Міхасём Лыньковым, марыў «*стаць хмаркай і плыць на захад*», у Беларусь.

Якуб Колас і прырода — вечная і жыватворная тэма. Дзіцячыя гады маленькага Кастуся прайшлі ў самых маляўнічых куточках Стаўбцоўшчыны. Памятаў ён сябе з Ластку (Сухошчыны), далёкай глухой леснічоўцы, дзе сям'я Міцкевічаў пражыла пяць гадоў. Сялянскаму хлопчыку лёсам было наканавана стаць паэтам. Ён рос і ўбіраў у сябе сілы зямлі і свайго роду, раскрываючы, як кветкавы бутон, свой талент. Пра ўплыў рускай класічнай літаратуры на фарміраванне Коласа сказана нямала. Але вось яшчэ адзін цікавы штрых. У 1927 годзе па ініцыятыве рускага паэта і перакладчыка Івана Белавусава народны паэт Беларусі Якуб Колас быў прыняты ў сапраўдныя члены «Таварыства аматараў расейскай славеснасці», чым вельмі ганарыўся. У лісце да І. Белавусава ў тым жа годзе пісаў, што знаёмы з вершамі рускага паэта яшчэ са школьных гадоў, асабліва падабаўся верш «Дождж у засуху», які ведаў на памяць і ў свае 44 гады. Першы паэтычны зборнік Коласа «Песні-жальбы» адкрываецца ўжо хрэстаматыйным вершам 1904 года:

Не пытайце, не прасеце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Для параўнання прывяду пачатак аднаго з вершаў Івана Белавусава:

От меня вы ждёте песен? —
Не пою я их весной:
Божий мир зимой так тесен,
А теперь простор какой…

Іван Белавусаў пераклаў два вершы Якуба Коласа на рускую мову: «Наша доля» (1907) і «Кіньце смутак» (1907).

…Ішлі гады, мянялася жыццё, накладвала свой адбітак на Паэта. Як на пачатку, так і напрыканцы жыцця яго «*заядала адзінота*», пакутлівая спадарожніца. А вось шчаслівым бываў у тыя гадзіны і імгненні, калі была разам уся сям'я: сам гаспадар Канстанцін Міхайлавіч, «*слаўная, дарагая*» жонка Маруся, «*мілыя хлопцы*» — сыны Даніла, Юрка, Міхась. «Без вас я, як птушка без крылаў», — казаў Колас. Можа, таму пасля вайны больш любіў наведвацца на Пухавіччыну, дзе ў 1930-я гады і да пачатку вайны летаваў з сям'ёй. Талька, Загібелька, Падбярэжжа, Вусце, Беразянка, а пасля вайны і Балачанка… Колькі падзей і сустрэч адбылося ў гэтых мясцінах! Якуб Колас усім сэрцам палюбіў гэты куток Беларусі. І Пухавіччына ўдзячная песняру. У мастацкай галерэі (г. Мар'іна Горка) раённага краязнаўчага музея ў адной з залаў дзейнічае пастаянная экспазіцыя «Якуб Колас: прырода і людзі роднага краю». Апякуецца экспазіцыяй, аддае сваё шчырае сэрца Аляксандр Пpановіч. Дарэчы, мне, як унучцы Якуба Коласа, шчасціць на супольную працу па ўшанаванні памяці дзеда з цудоўнымі працавітымі людзьмі. Гэта незабыўныя Генадзь Кісялёў, сябра нашай сям'і, выдатны вучоны, навуковы рэдактар кнігі Данілы Міцкевіча «Любіць і помніць» і Віталь Скалабан, які значна пашырыў коласаўскае архівазнаўства і аказваў мне падтрымку ў навуковых даследаваннях. Таленавіты журналіст, паэт, мастак Валерый Дранчук; нястомны старшыня беларускага грамадскага аб'яднання асацыяцыі экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў Мікалай Чырскі; добразычлівая сціплая жанчына, удзельніца амаль усіх коласаўскіх «Каласавінаў» мовазнаўца Надзея Чабатар. Коласаўская Лунінеччына адгукаецца галасам адданай сваёй справе журналісткі і краязнаўцы Таццяны Канапацкай. Памяць пра Канстанціна Міхайлавіча шануюць у Слонімскай раённай бібліятэцы, якая носіць імя Якуба Коласа з 1944 года, кіруе бібліятэкай Ларыса Рэпінская. Мае самыя цёплыя словы падзякі Міхасю Шавыркіну, які амаль 20 гадоў узначальваў выбітны навукова-метадычны часопіс «Роднае слова» і на пачатку 1990-х гадоў далучыў мяне да літаратурна-даследчыцкай работы па фактах з жыцця і творчасці майго дзеда. У сваім доме я і мая маці заўсёды рады бачыць Валерыя Стралко, паэта, бліскучага

перакладчыка паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» на ўкраінскую мову. Колас прадбачыў у 1938 годзе, што “*Новую зямлю” ацэняць людзі потым…*» (ліст да П. Глебкі ад 13.04.1938 г.). Мая любімая паэма «Новая зямля» поўнасцю перакладзена і выдадзена на расійскай (калектыў перакладчыкаў), польскай (у перакладзе Чэслава Сэнюха), украінскай (у перакладзе Валерыя Стралко) мовах, маецца няпоўны пераклад на англійскую мову Веры Рыч. Як бы ўзрадаваўся мой дарагі бацька! Даніла Канстанцінавіч так марыў пра гэта і высока цаніў думку выдатнага беларускага пісьменніка і публіцыста Алеся Адамовіча: «*За гэтым творам сапраўды стаіць цэлы народ. Калі б патрэбна было для будучых часоў пакінуць толькі адзін твор, які б даў уяўленне аб тым, што такое беларускі народ, хіба не “Новую зямлю” назваў бы кожны з нас!*» (А. Адамовіч. Беларускі раман. Мн. : выд-ва АН БССР, 1961, С. 53). Нядаўна парадавала мяне выпадковая кароткая размова з маладой выпускніцай ВНУ, якая у захапленні казала пра сваю дыпломную работу па «Новай зямлі» Якуба Коласа, даследаванне яе колеравай палітры.

Даваенны (ды і пасляваенны) дом Якуба Коласа заўсёды поўніўся людзьмі. У сям’і жылі і гадаваліся выхаванцы, кватаравалі родзічы і знаёмыя. Цёплую ўтульную абстаноўку, умовы для працы дзеда стварала мая бабуля Маруся. Шмат перабывала тут рознага люду: родзічаў, сяброў, знаёмых, гасцей з іншых гарадоў і рэспублік. Пра гэта напісана-расказана нямала. Мне з самага дзяцінства гэта знаёма. Я вырасла ў атмасферы такой жа гасціннасці і добразычлівасці сваіх бацькоў. Памятаю, зусім малая, у 4-6-гадовым узросце чытаю верш на памяць перад гасцямі, стоячы на табурэце — умоўнай сцэне — у сталовай, дзе накрыты стол. Пасля мяне адпраўляюць у свой пакой, трэба класціся спаць. Ужо позні вечар. На лесвіцы паміж першым і другім паверхамі са мной ласкава развітваецца сівы кучаравы дзядзька громкім, але прыгожым голасам. Гэта Павел Кабзарэўскі, пісьменнік-перакладчык з Ленінграда. Школьніцай, пасля студэнткай я ўжо дапамагала маці з бацькам сабраць на стол, дапамагчы па кухні. Кухня знаходзілася, як і цяпер, на першым паверсе дома, а вось сталовая і ўсе пакоі — на другім. Трэба было спачатку ўсе стравы занесці на другі паверх, а пасля адыходу гасцей посуд вярнуць на першы паверх, перамыць, прыбрацца ў пакоях. Сёння проста дзіўлюся, як гэта хапала сіл і часу ў маёй маці ўсё гэта перарабіць, заставацца заўсёды гасціннай, ветлівай гаспадыняй і яшчэ працаваць васьмігадзінны дзень! Але ж яна такі адкрыты чалавек па натуры. Адзначалі ў нашым доме розныя юбілейныя і неюбілейныя даты Якуба Коласа. Збіраліся родзічы, сябры, пісьменнікі, гучалі прамовы, тосты, было весела, шумна, цікава. Такім «нечаканым і арыгінальным», па словах майго бацькі, аказаўся імправізаваны прыём, наладжаны для артыстаў Віцебскага тэатра імя Якуба Коласа, якія перад гэтым удзельнічалі ў запісе тэлеперадачы з мінскага музея песняра 26 чэрвеня 1971 года. Прыём адбыўся ў садзе, я яго добра памятаю. Было цёплае надвор’е, у садзе паставілі часопісны столік з пачастункам. Саспявала чарэшня, можна было паласавацца, працягнуўшы руку да дрэва. Сад поўніўся прыгожымі людзьмі, іх звонкімі галасамі, пэўна ж, артысты! Дырэктар тэатра заслужаны дзеяч культуры Беларусі Геральд Асвяцінскі быў з сынам прыблізна майго ўзросту. Захаваўся асобны альбомчык з фотаздымкамі той падзеі. Даніла Канстанцінавіч да канца жыцця перапісваўся з народнай артысткай Беларусі Зінаідай Канапелькай, упадабаў ён спектакль паводле паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», пастаўлены калектывам Віцебскага тэатра ў 1970-я гады.

…Чалавек, як любая жывая істота, прыходзіць у жыццё на імгненне. Дваццаць, пяцьдзясят, сто гадоў — гэта пясчынкі касмічнага Сусвету. Пражыць гэта імгненне па-людску здольны любы, хто мае чыстыя думкі, жыве ў суладдзі з прыродай, самім сабой і не забываецца на свае карані, шануе продкаў і гісторыю сваёй Бацькаўшчыны. Веру, што коласаўскія традыцыі будуць жыць у наступных пакаленнях беларусаў, і завяршу сваё эсэ-замалёўку паэтычнымі радкамі Паэта:

Ідзе жыццё, буяюць яго сілы, —  
Хай паспрабуе хто суняць яго, спыніць.  
Снуе жыццё за ніццю сваю ніць,  
І моцныя для ўзлёту яго крылы.

# Бярозка

№ 1/2013(1016)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





● **Верасок**

# «Снежань паліць свае вогнішчы...»



## Восеньскі ліст

Над шэрым светам па сінім небе плывуць аблокі. Закапаў дождж. Падняўся вецер. Апошні ліст трымаецца на дрэве, дрыжыць ад кожнага яго подыху. Вось-вось сарвецца. Будзе кружыцца ў нябёсах, удыхаць апошнія глыткі волі. Кружыцца і падаць уніз. Ён, прыгожы і жоўты, будзе лётаць сярод шэрых дамоў, цыбатых дрэў. А затым упадзе, панікне пад нагамі прахожых.

Ён будзе ляжаць і думаць пра лета. Як яму было хораша! Вакол — тысячы лістоў, сотні дрэў! Яны ўсе радаваліся жыццю, усміхаліся сонейку...

Галіны апусцелі. Адзін ён хістаецца на ветры і вось-вось сарвецца. Але трымаецца з ўсёй моцы. І ўсё роўна зляціць, панікне, згіне...

*Ганна ДЗЕМЕШ, 13 гадоў, Маладзечна*

* * *

Не хачу, не хачу ведаць, што будзе далей.
Не, не зараз, не потым, усё праз вечнасць.
Мы бяжым, урываемся ў граніт, зямлю, хвалі.
Мы губляем, заўсёды губляем сваю чалавечнасць.

Дык навошта ўсё гэта: намаганні, мітусня і ідэі?
І чаму так хочацца жыць, разумееце, жыць?!
Думкі блытаюцца, і губляюцца зноў усе надзеі
не загінуць, не звар'яцець, але дзверы адкрыць.

Большасць свету — гэта пачуцці і людзі.
Людзі любяць людзей, ды чамусьці не прызнаюцца.

Цяжкай лёгкасцю напаўняюцца грудзі,
Чалавек — ён здольны зламацца альбо не сагнуцца.

Немагчыма даведацца зараз, што будзе далей.
Трэба нам пакідаць у кожным частку сябе.
Пакідаць у памяці старонкі, зараз — файлы.
Помніць: звон заўсёды звініць па табе.

Не хачу, не хачу ведаць зараз, што будзе далей.
Не, не зараз, не потым, усё праз вечнаць.
Дабяжым, уварвемся у мора, гранітныя хвалі.
Ды загубім, напэўна, ўсё ж згубім сваю чалавечнасць.

* * *

Пуста. Толькі маскі і імёны
не вартыя тэатру ўнутры.
Услед — дарожны пыл, туман, праклёны.
Два разы выбухнуць, перажагнацца — тры.

Тапіся ў промнях, пі сваё паветра,
субстанцыя вільготная вакол,
душа размалявана пад стыль «рэтра»,
застыла сэрца — не разрубіць ледакол.

Расплюшчы вочы — не загінь толькі ад жаху,
аддай усё дарма, ці за капейку,
ператварыся ў здань, кладзі сябе на плаху —
парвалі казкі і забілі чарадзейку.

Намылены паркет нібы люстэрка,
ты бачыш твар не ў небе — на падлозе.
А галава — з жалеза табакерка,
сарвеш свой голас і забудзешся ў трывозе.
І смех згарыць, і згінеш на марозе.

*Марыя БАДЗЕЙ, 15 гадоў, Мінск*

## Скончыцца зіма

Больш мяне не цягне да вакзала,
Уцячы адсюль  няма жадання.
Ў горадзе мне зноў утульна стала,
Тут вітаю кожнае світанне.



І зімовым ранкам, недзе ў восем,
У натоўпе, што імчыць на працу,
Я іду, нібы знайшоўшы штосьці —
Без прычыны хочацца смяяцца.

І няхай настрой мой часам скача,
А характар цяжкі і нясцерпны.
Мне ўсміхнешся ты, а гэта значыць
Будзе зноў утульна ад надзеі.

У тваіх вачах — зялёны промень,
Але будзеш пад маім абцасам.
Або знікну я ў тваім палоне.
Скончыцца зіма — мы будзем разам.

* * *

Снежань паліць свае вогнішчы,
Ад якіх цягне холадам.
Мне зіма здавалася сховішчам,
Але гэта пакута новая.

Зямля снегам рэдкім прысыпана,
Або ахвярным попелам?
Мае думкі зноў пераблытаны,
Маё сэрца ізноў у полымі.

*Анастасія ХУРСЕВІЧ,*
*Інстытут журналістыкі БДУ*

## Адна сустрэча

Снежань. Новы год: сябры, смех, цукеркі... Я ж у сваей вёсцы вельмі рэдка выходжу гуляць з кім-небудзь. Сяброў няма, бо ім заўсёды ад мяне нешта было патрэбна. Адчуваю на сабе погляд, дзіўна неяк. Звычайны юнак, крыху вышэйшы за мяне, з блакітнымі вачыма. Ніколі раней не бачыла яго...

Час спяшацца дадому. Як заўсёды — адна. Усе астатнія вырашылі павесяліцца, ім патрэбны алкаголь. Трэба паслухаць мелодыі, якія запампавала некалькі дзён назад, навушнікі з сабой. Знаёмыя выканаўцы не расчаравалі, а новыя, якіх не ведала раней, ускалыхнулі мае пачуцці. Гурт Skillet, песня Comatose, вельмі выдатна апісвала мой стан, настрой, пачуцці.

Ідзе снег. Такі прыгожы і мяккі. Адзінокі ліхтар фарбуе срэбрам знаёмую з дзяцінства вуліцу. Час ісці дадому, але няма настрою, магчыма, жадання. Лаўка каля двара. Своечасова пра яе ўспомніла. Пазваніла матулі, каб не хвалявалася. Музыку не чула. Толькі думкі, думкі, думкі...

У цемры з'явілася постаць чалавека. Яна набліжалася. З-за снегападу цяжка было разгледзець чалавека, яго твар. Гэта той самы юнак. Спяшаўся. Яго я заўважыла не адразу, а толькі калі ён сеў побач са мной.

— Хутка Новы год... З кім сустракаць будзеце? — парушыў цішыню незнаёмец. — Да яго засталося каля гадзіны...

— Настрою няма яго суст-ракаць. Што зменіцца?

— Новы год — гэта пачатак новай старонкі ў жыцці. Нельга сумаваць у святочную ноч.

— Ведаю... Але я не адчуваю свята...

— Вельмі дрэнна. А што для Вас Новы год?

— Новы год — шакаладныя цукеркі, цёплая печ і агні вялікай ёлкі... А хто вы? Я не разумею, чаму вы вырашылі сядзець побач са мной на лаўцы ў навагоднюю ноч?..

Зноў цішыня. Цяпер адна на дваіх. Цішыня — часам лепшы адказ на пытанні. Сняжынкі асцярожна падалі на вейкі, нібыта баючыся спалохаць. Зазірнула ў яго вочы. Чамусьці маё сэрца крыху хутчэй пачало біцца. А можа, падалося. Прытулілася да яго, баючыся нечага. Боючыся зноў закахацца і параніцца. Малады чалавек не здзівіўся, нават абняў. Яго рукі былі гарачыя. Цікава. А што будзе далей?



Час ішоў хутка. Мы нават не заўважылі, што настаў Новы год. Так і сядзелі. Хацелася проста адчуваць яго прысутнасць, патанаць у яго вачах. Аднак не ўсё так проста. Я разумею, што пачынаю прывыкаць да незнаёмца, які́м я яго ўжо не назвала б. Разумею, што мы нават не ведаем імёны адно аднаго, і цяжка здагадацца, як блакітнавокі юнак ставіцца да мяне...

Раптам мне захацелася пагаварыць з ім, пачуць яшчэ раз яго голас, такі прыемны і мілагучны... Захацелася адчуваць цеплыню яго рук, дакрануцца да валасоў... Захацелася быць з ім...

Адна сустрэча. Адна мелодыя. Адно паветра. Адзін раз і назаўжды.

***Кацярына ЛЯСУН,***
***18 гадоў, Магілёў***

# Спыніся і... азірніся




Напэўна, кожны з нас у сеціве, па тэлебачанні, у часопісе (газеце) сустракаў «лозунгі»: «А што ты паспеў зрабіць за свае гады?», «Трэба паспрабаваць усё ў гэтым жыцці!» або такі:«Хто ты ў свае 15 гадоў?» А можа, хтосьці не толькі сустракаў такія «дэвізы», але і сам прыходзіў да падобных высноў, усведамляў іх правільнасць. Вядома, гэта выдатна: да нечага імкнуцца, нешта паспець зрабіць за кароткі тэрмін. І для доказу мы можам узгадаць мноства вялікіх людзей, якія ўжо ў нашым узросце, а то і раней, дамагліся грандыёзных поспехаў, ці проста знаёмага, які паспявае і конкурс выйграць, і на гурток які-небудзь схадзіць, і верш напісаць. Ды яшчэ і застаецца пры гэтым цікавым, дапытлівым, таварыскім чалавекам, якога атачае вялікая колькасць сяброў і знаёмых. Сустракаючы такіх асоб, мы, вядома, задаемся пытаннем: «А як жа ён (яна) паспявае ўсё гэта рабіць?» Затым мы кажам самі сабе: «Галоўнае — не спыняцца ні на хвіліну! І тады, можа, я даб'юся такіх жа вышынь». Але ў спешцы ўпускаецца нешта значнае і нават большае, чым нашыя жаданыя мэты.

Мы любім прыдумляць для сябе непатрэбныя дзеянні — абы толькі плённа правесці час. А што для нас спешка або пагоня за часам? На мой погляд, гэта спосаб скараціць усё магчымае. Кнігі (звычайна аб'ёмам ад 100 і болей старонак) мы замяняем чытаннем кароткага зместу ці рэцэнзіяй, а то і проста аповедам таго, хто не пашкадаваў свайго часу. Мы скарачаем сон, эмоцыі, нават словы і выказванні. Усе ўпадабалі слоўка «карацей»! Але куды так спяшаемся? Можа, спяшаемся абагнаць кагосьці ў вучобе, дасягненнях? Ці проста паддаёмся агульнай паніцы? Але, здаецца, мы забываем адно: усе тыя людзі, якія вельмі рана нечага дамагліся, прыйшлі да сваіх адкрыццяў і вышынь не праз спешку, а праз стараннасць, спакойныя думкі і абдуманыя рашэнні. Яны прыбіралі са свайго жыцця тое, што ім перашкаджала, ахвяравалі чымсьці дзеля больш вялікага і карыснага. А ў нас, на маю думку, усё наадварот... Мы жада-

ем усё і адразу (і пажадана ў адзін момант!), не ўмеем і не хочам чымсьці ахвяраваць. І да таго ж, бывае, што хвілінныя неабдуманыя жаданні бяруць верх над намі. Часам мне здаецца, што многія развучыліся выбіраць сапраўды патрэбнае ім у жыцці. Гэта тычыцца выбару прафесіі і інтарэсаў. Кудысьці спяшаючыся, баючыся нешта не схапіць, мы выбіраем моднае, а не «сваё». Аднак пакуль не зразумеем, што ўсё самае глыбокае, каштоўнае і цікавае патрабуе часу, так і застанемся «паглынальнікамі fast-food-a», які так актыўна сёння прапагандуецца.




Час — гэта жыццё, якое павінна быць нашай і толькі нашай уласнасцю! А гэта значыць, што не трэба спрабаваць быць да кагосьці падобным і рабіць тое, што зусім вам не трэба, проста дзеля чужога адабрэння. Кіньце зайздросціць! Бо ты, я, ён, яна — гэта ўсё вялікія галактыкі, са сваімі плюсамі і мінусамі. І гэтыя галактыкі могуць узаемадзейнічаць, але ж заставацца пры гэтым унікальнымі і непадобнымі.

Не імкнецеся быць непаўторнымі праз бегатню і хаос! Будзьце асэнсаванымі. У меру маруднымі. Глыбокімі. Будзьце сабой!

*Алена БІРУКОВА, 16 гадоў, Мінск*



# We are from Tolochin!




***Мы карыстаемся сецівам, марым пра грандыёзныя вандроўкі. Межы паміж краінамі становяцца ўсё больш умоўнымі. Цяжка аспрэчыць, што ведаць сёння замежную мову — карысна ды важна. І, у прыватнасці, неабходна валодаць адной з самых папулярных моў — англійскай. Бо з ёй і падарожжы ўтульныя, і раптоўнаму замежніку ў роднай краіне можна дапагчы.***

Выпадкова ўбачыла ў сацыяльнай сетцы відэаролік: «Замежнікі ў Талачыне» і задумалася. Па сюжэце тутэйшыя дзяўчаты, ператварыўшыся ў замежніц, падыходзяць да мясцовых жыхароў і пытаюцца па-англійску самае элементарнае: «Дзе тут у вас кафэ?», «Дзе можна разменяць грошы?», «Як прайсці да крамы?»

Вольга Сушчая, пад кіраўніцтвам якой здымалі ролік, пагадзілася адказаць на некаторыя пытанні.

**— Вольга Вадзімаўна, каму належала ідэя зняць «Замежнікаў»?**

— Ідэя была Ірыны Сушчай, загадчыцы метадычнага кабінета замежных моў раённага аддзела адукацыі. Ролік здымалі да пленарнага пасяджэння настаўнікаў. Справа ў тым, што цяпер вялікая ўвага надаецца замежным мовам: у гэтым годзе дзеці ўпершыню будуць здаваць абавязковы экзамен. Мы сваімролікам хацелі звярнуць увагу на няведанне англійскай мовы сярод дарослага насельніцтва, паказаць, што, нават жывучы ў невялікім Талачыне, можна сустрэць замежніка, якому спатрэбіцца ваша дапамога.

**— А хто выступіў у ролі тых «замежнікаў»?**

— Вучаніцы сярэдняй школы № 2 г. Талачына — Алена Дубіцкая і Кацярына Майбародава. Некаторыя людзі нават і не здагадваліся, што да іх падыходзяць школьніцы.

**— Што больш за ўсё запомнілася са здымкаў сюжэта?**

— Мяне непрыемна здзівіла, што тых, хто валодае англійскай мовай, амаль не было. Дзяўчынкі не задавалі звышскладаных пытанняў. Людзі спрабавалі

пабудаваць сказы, але часцей гэта былі проста словы ці нейкія словазлучэнні. Многія ўцякалі, калі бачылі, што мы з камерай. Але, думаю, нам удалося паказаць усім, хто бачыў ролік і прыняў у ім удзел, што валодаць англійскай мовай неабходна.

Свае ўражанні з нагоды эксперымента распавялі і «іншаземкі».

**Алена Дубіцкая:**

— Падобная праца для нас была ўнавіну, і таму было вельмі цікава праводзіць яе. Спачатку прысутнічала хваляванне: як людзі нас прымуць? На жаль, былі такія моманты, калі людзі папросту не хацелі ісці на кантакт. Магчыма, яны баяліся камеры, альбо, з-за нечаканасці моманту, не ведалі, што сказаць. Але іх таксама можна зразумець. Я баюся ўявіць, якая б у мяне была рэакцыя, калі б да мяне на вуліцы падышлі незнаёмыя людзі з камерай у руках, якія яшчэ і на замежнай мове нешта пытаюць. Аднак былі і пацешныя моманты. Адзін хлопец сапраўды прыняў нас з Кацяй за іншаземак і вельмі здзівіўся, калі на яго пытанне: «Адкуль вы?», мы адказалі «We are from Tolochin». Гэты хлопец распавёў, што акрамя англійскай мовы, ён яшчэ ведае іспанскую і арабскую! Нечаканым было і тое, што ахоўнік ва ўніверсаме прапанаваў дапамагчы ў нашай нялёгкай справе, адказаўшы ўсё ж на пытанне: «Як прайсці ў кафэ?» А наогул, было весела.



**Кацярына Майбародова:**

— Знаходзіліся, вядома, людзі, якія памяталі са школьных гадоў англійскую, таму жэстамі, узгадваючы словы, яны спрабавалі нешта адказваць. Уражанні? Іх было шмат. Наогул, мы спачатку трохі саромеліся падыходзіць да незнаёмых людзей, але потым стала весела і мы ўжо рабілі гэта з энтузіязмам. Здымалі шмат дубляў, таму часам было вельмі смешна, проста невядома ад чаго я пачынала смяяцца.

Гётэ калісьці сказаў: «Той, хто не ведае замежных моў, не ведае нічога пра сваю родную мову». Веданне англійскай мовы — гэта, безумоўна, бонус табе як асобе, новыя магчымасці і лёгкая дарога для падарожжаў па іншых захапляльных краінах.

*Святлана СМЫК, 16 гадоў, Талачын*



# На парозе сталага жыцця

Мне 15 гадоў. Многа гэта ці мала? Для маёй сястрычкі Леркі я вельмі вялікі. Матуля думае пра мой узрост па-рознаму. Калі ўсё добра і гладка ў маім жыцці, значыць, я ўжо досыць вялікі, разумею што да чаго. Калі штосьці не заладзілася, пачынае дакараць: «Ці ж так можна? Ты ж такі вялікі!» Але ёсць месца, дзе лічаць маленькім і асабліва хвалююцца за мяне. Гэта дом майго дзядулі з бабуляй.

З кожным годам усё часцей бываю там. Пятніца — мой апошні вучэбны дзень. Хочацца хутчэй пакінуць шумны горад. І вось я ўжо ў другім родным для мяне доме. Ён стаіць у зеляніне бэзу, груша пад акном, якую пасадзіў яшчэ прадзед.

Хочацца распавесці менавіта пра дзеда. Самая адметная рыса яго характару — працавітасць. Вялікі сад, мноства кустоў і кветак — заслуга яго рук. Я ведаю, што раней тут, дзе цяпер сад, было балота, нізіна. Але ж ён працай і любоўю выгадаваў прыгожы сад. Дзядуля — уважлівы, умелы гаспадар. І сад з'яўляецца яго ўцехай, крыніцай радасці.

«Расліну трэба шанаваць, — гаворыць ён мне. — Яна прыносіць карысць чалавеку, ачышчае паветра, аздабляе зямлю і прыносіць багатыя дары».

Яшчэ дзядуля мне казаў, як ён пазнае дрэннага чалавека. Зломіць той вершалінку маладога дрэўца, каб адагнаць ад сябе камароў, знарок пройдзе па траве, па кветках, дык ці ж гэта чалавек? Каб усе людзі былі такімі, як бы тады было жыць на свеце?

З маленства я чуў ад яго такія словы: пазнаёміўся з чалавекам — пабагацеў на чалавека. Тады я не разумеў: як гэта — пабагацець на чалавека? І толькі з гадамі адкрылася мне, што самы найвялікшы чалавечы скарб — скарб душэўны. Мы багатыя не тады, калі маем шмат грошай, а тады, калі ў нас вялікі душэўны набытак. А набытак гэты папаўняецца праз адносіны з іншымі людзьмі.

Я на парозе вялікага жыцця. Думаю, не ўсё ў ім будзе лёгка і гладка. Зрэшты, гэта было б і нецікава. Чалавек, каб быць чалавекам, павінен перадольваць перашкоды, набываючы ўпэўненасць у сваіх сілах. І я спадзяюся, што тыя парасткі дабрыні, цвёрдасці, спагадлівасці, закладзеныя ў маю душу дзядулем, дапамогуць мне на парозе сталага жыцця.

Калі б не было майго дзядулі, не было б і мяне...

***Віталь ДРАБЫШЭЎСКІ, 15 гадоў, Гомель***

# Творчыя тынэйджары прасторнага Маладзечна

***У Маладзечне прасторна, і так лёгка дыхаецца пасля шумлівага, загрувашчанага шматпавярховымі гмахамі Мінска. Мілая пешаходная вуліца ад вакзала ў горад, трох-чатырохпавярховыя дамкі — ёсць яшчэ і даваенныя! Светлае, спакойнае Маладзечна, не сталічнае, але і не правінцыйнае.***

***Ехала сюды з Мінска, каб убачыць зацікаўленыя, уважлівыя вочы падлеткаў са школы журналістыкі «Маладзік». І іх кіраўніка Наталлю Шульжыцкую, якая працуе на гэтым месцы ажно 12 гадоў — з самага заснавання гуртка.***

***Хацелася, каб унёсак у нашую сустрэчу зрабіў кожны. Таму не толькі я распавядала пра журналістыку, запрашала да творчага супрацоўніцтва ўсіх прысутных. Выказваўся кожны. Юнакі з «Маладзіка» задавалі надзённыя пытанні, цікавіліся дробязямі. І гэта была такая радасць у халодную восень: вялікая колькасць разумных і творчых падлеткаў.***

***Хтосьці з гурткоўцаў піша прозу, паэзію. Хтосьці хоча стаць журналістам. Бо журналістыка — гэта людзі! «Пасля амаль усіх інтэрв'ю, якія брала ў сваім жыцці, я была шчаслівая, — дзялюся са сваімі будучымі калегамі. — І, дарэчы, журналістыка і літаратура сапраўды вельмі розныя рэчы. Абумоўлены журналістыкай, чалавек прывыкае пісаць сцісла, лаканічна. Літаратурнае ж апісанне рэальнасці вымагае большай "прамаляванасці", дэталёвасці і глыбіні».***

***А што могуць самі пра сябе распавесці творчыя тынэйджары Маладзечна?***



**Аліна Літвіненка, 15 гадоў:**

— Не магу сядзець без справы. Як бы мне не было лянотна, як бы я не супраціўлялася, а справа дапамагае, натхняе, справа і ёсць справа. У сваім класе я не аўтарытэт, але і не выгнаннік. Магу прысутнічаць, але не кожны мяне заўважыць. Я чалавек-хамелеён: не тое каб я была крывадушнай, не. Проста я магу знайсці ў сабе тое, што падабаецца канкрэтнай кампаніі, магу прыстасавацца да асяроддзя.

Я стаўлю сяброўства вышэй за каханне. Каханне прыходзіць і сыходзіць. А сяброўства — сапраўднае апірышча.

Я — цяжкі чалавек, з «цяжкім мозгам». Не люблю планаваць, не люблю дзяцей і гатаваць. Люблю прамалінейнасць, катэгарычнасць, канкрэтыку і праўду. Можа быць, таму я і выбрала прафесію журналіста.



**Марта СЕМЯНОВІЧ, 16 гадоў:**

«Гэта ж няцяжка — напісаць пра сябе», — падумала я, узяла асадку і зразумела, што амаль нічога пра сябе не ведаю. Маё імя — Марта. Але ж колькі яшчэ існуе дзяўчынак з такім імем!

Гэта толькі кажуць, што лёс чалавека залежыць ад яго імені. На самай жа справе чалавек сам выбірае сваю будучыню. Я вучуся ў выпускным класе і таму трэба рабіць выбар. Штодзень задаю пытанне: «Кім хачу быць?» Пераглядаю свае інтарэсы... Люблю чытаць. Больш за ўсё мне падабаецца паэзія Уладзіміра Маякоўскага, Аляксандра Пушкіна. Яшчэ люблю назіраць за жыццём людзей, іх паводзінамі ў розных жыццёвых сітуацыях.



**Карына ЧУЕС, 12 гадоў:**

— Маё захапленне — глядзець анімэ і чытаць мангу. Мне вельмі цікавая японская культура. А мая самая запаветная мара — пабываць у Японіі і яшчэ на анімэ-фестывалі «Higan», які штогод адбываецца ў Мінску. Таксама вельмі хачу вывучыць японскую мову!

Многім людзям падаецца, што я маўклівая, але гэта, напэўна, таму, што я крыху сарамлівая. Я не адкрываю сваю душу кожнаму чалавеку. Але мае сябры вельмі мяне любяць, бо з імі я вельмі адкрытая і вясёлая.

Я пазітыўны чалавек, бесклапотны, але часам у маім сэрцы адбываецца нешта дзіўнае: я разважаю пра сэнс жыцця ці пра нешта падобнае. І станаўлюся сур'ёзнай.



**Кацярына ДЫЛЕЎСКАЯ, 15 гадоў:**

— Я люблю чытаць. Бывае, зачынішся ў пакоі з кнігай — і ніякія праблемы цябе не хвалююць! Кантактнасць і таварыскасць, магчыма, галоўныя добрыя рысы майго характару. Люблю ёгу: гэта своеасаблівае паглыбленне ў сябе, свае думкі і пачуцці. Ёга дапамагае мне расслабіцца і зняць напружанне. Таксама люблю пісаць апавяданні.



**Багдан РАМАНОЎСКІ, 12 гадоў:**

— Захапляюся біялогіяй, хаджу на гурток па кветкаводству. Хачу стаць журналістам. У дадзены момант у мяне ў жыцці адно пытанне: кім я стану — біёлагам ці журналістам? Але я спадзяюся, што ўсё вырашыцца само сабой.



**Наталля СКАРЫНКА, 16 гадоў:**

— Мой псеўданім — Ленская. Сказаць, што проста пішу, не магу. Я дыхаю гэтым. І, напэўна, пісаць — гэта адзінае ў маім жыцці, што я магу рабіць добра. Ці хаця б нядрэнна. Пісьмо — гэта мой асабісты спосаб выказвання думак, пачуццяў, жаданняў. Я люблю пісаць вобразамі, абстракцыямі, каб прымусіць людзей думаць. У тым, што я пішу, заўжды ёсць загадка, таямнічасць людзей, прадметаў, іх думак і выказванняў. Сказаць, што стаць вядомай — мая мара, не магу. Гэта мэта! Так яно і будзе! Я ведаю, як я пішу, і ведаю, што нямногія сёння так могуць. І ацэньваю я сябе адэкватна! Яшчэ ведаю, што магла б змяніць свет тым, што пішу.



**Дар'я ЦАУНЯ, 15 гадоў:**

— Аднойчы, ідучы з сяброўкай, убачыла сляпога хлопчыка. Хацела яго правесці, але не змагла. Нават не ведаю, што мяне спыніла. Увесь далейшы шлях мне было няўтульна. Гэта добра ці дрэнна, што я не дапамагла? Я ж адчула жаль да яго, а шкадаваць чалавека — узвышацца над ім. А зрэшты, можна было і дапамагчы. Пасля той сітуацыі я разумею, што ўсё ў жыцці мае два бакі. Нельга дзяліць жыццё на добрыя і дрэнныя ўчынкі.

Але хто я, якая па характары? Мне падабаецца чытаць. У наш час мала хто чытае. Значыць, гэта мне ў плюс. Гадоў у дзесяць я пачынала чытаць любоўныя раманы і дэтэктывы. Потым захапілася кніжкамі па псіхалогіі. А цяпер люблю фантастыку. Ці стала я разумнейшай дзякуючы гэтаму чытанню? Не ведаю. У сваім жыцці я прачытала ўсяго толькі каля дзесяці сапраўды годных кніжак. Мне падабаецца пісаць апавяданні. Але, напэўна, я ніколі іх нікому не пакажу. Навошта? У параўнанні з вядомымі аўтарамі мае апавяданне нішто. Хаця многія і так, як я, напісаць няздольныя.

Напрыканцы зраблю выснову, што я — нешта сярэдняе паміж добрым і дрэнным, таленавітым і не.



**Настасся ГОРБАТ, 16 гадоў:**

— Я — рыжавалосая ляўша. Многія кажуць, што ў мяне нестандартнае мысленне. Не ведаю, ці так гэта, але часам я разумею, што бачу некаторыя рэчы не з такога боку, як іншыя.

Ува мне ўвесь час спрачаюцца два бакі маёй душы (як у Раскольнікава!). Бывае, што эмоцыі паглынаюць, і я не магу выказаць іх словамі. Зрэшты, мне заўжды цяжка дакладна ўвасобіць у словы тое, што я думаю і адчуваю, і правільна данесці гэта да людзей.

Мая мама часта распавядае, што я з дзяцінства рабіла ўсё наадварот. Напэўна, тое самае я раблю і цяпер. Таму нехта кажа, што я вар'ятка, а нехта філосафам называе.



**Ганна ФІЛІСТОВІЧ, 15 гадоў:**

— Хто ведае, якім быў той дзень пятнаццаць гадоў таму... Можа, неба было зацягнута хмарамі, а можа, летні дождж грукатаў па даху маладзечанскай радзільні. Але мне здаецца, што ў дзень майго нараджэння надвор’е было асаблівае, бо праз пятнаццаць гадоў я не страціла дзіцячых радасцей жыцця, засталася сціплым і радасным дзіцем. Я вучуся і бачу крыніцу ведаў у кожным чалавеку. Памятаеце, як маці альбо старэйшая сястрычка вучыла нас літарам, а сябры — завязваць матузкі «на банцік»? А як бабуля раскрывала свае кулінарныя сакрэты, памятаеце? Сёння ж падлеткі не здольныя бачыць у сваіх аднагодках унікальныя веды. Аднак я стаўлюся да кожнага чалавека як да крыніцы інфармацыі, бо кожны можа навучыць нас нейкай мудрасці.



**Ганна ДЗЕМЕШ, 13 гадоў:**

— Нейкі чалавек спытаў мяне:

— Хто ты?

— Я пісьменннік.

— Славуты?

— Не, але гэта і няважна. Галоўнае, што я сапраўдны пісьменнік у душы!

— А як гэта?

— Я люблю прыроду і гэты свет. Люблю людзей, жывёл і часам пішу пра іх. Люблю вясну і сонейка, мне падабаюцца спевы птушак.

— Ці жадаеш ты стаць сапраўдным, усімі прызнаным пісьменнікам?

— Не ведаю. Ды гэта і няважна... Пісаць — стыль майго жыцця, спосаб дзяліцца эмоцыямі, якія жывуць у сэрцы.

— Калі даць табе тэму, напішаш?

— Тэму трэба перажыць. Усю душу трэба аддаць твору, каб чытачы адчулі ўсё тое, што адчуў ты.

— Распавядзі пра сябе, пра свой унутраны свет.

— Не трэба. Ты і сам усё зразумееш і адчуеш, калі будзеш чытаць мае творы.



**Ксенія РАГЕЛЬ, 14 гадоў:**

— Лічу, што я — аптыміст. Заўжды імкнуся заўважаць у жыцці нешта добрае, імкнуся выціснуць з жыцця больш пазітыву і радасці. Вельмі люблю жывёл. Да таго, як хацела стаць журналістам, я думала пра тое, каб стаць ветэрынарам. Удзельнічала ў валанцёрскай дзейнасці. Вельмі люблю падарожнічаць. Але ў маёй скарбонцы вандровак не так ужо і шмат месцаў, якія наведала. Люблю каву. Мне заўжды здавалася, што калі я яе п’ю, яна саграваюе мне сэрца і супакой-

вае. Люблю слухаць музыку, бо яна з'яўляецца лекамі для маёй душы. Люблю праглядваць фільмы. Так, не проста глядзець, а перараглядваць, бо, гледзячы на гісторыю паўторна, я адкрываю шмат новага, што не заўважыла ў папярэдні раз. Ну, а ў цэлым, я звычайны чалавек, які любіць кантактаваць з людзьмі і цягнецца на спазнання свету.

**Насця СКРЫЦКАЯ, 17 гадоў:**



— Я натуральная бландзінка. У многіх мой колер валасоў выклікае смех і скептыцызм. Але ж я лічу, што глупства бландзінак — стэрэатып. І я люблю даказваць гэта ў гутарках з людзьмі. Нарадзілася я 31 сакавіка. Яшчэ крыху — і магла б нарадзіцца 1 красавіка! У жыцці люблю жартаваць. Можа, менавіта таму я хацела стаць у дзяцінстве блазнам.

Люблю фатаграфаваць, назіраючы такім чынам за эмоцыямі і мовай цела. Але больш за ўсё хачу стаць журналістам.

Напрыканцы хацелася б сказаць: любіце, хлопцы, дзяўчат і слухайце іх! Без нас вам будзе сумна!



*...Наталля Віктараўна дастае з шафы стос родных «Бярозак» — за шэраг гадоў. Гартаем, размаўляем, падводзім вынікі сустрэчы, будуем планы... Кацярына Пільнік, маладзечанскі філолаг, прыхільніца творчасці Юрыя Станкевіча, журналіст і педагог, праводзіць мяне да электрычкі. Па-сяброўску абдымаемся... Непаўторнасць кожнага імгнення, і такія звычайныя словы, накшталт: «Прыемна было з вамі пазнаёміцца!»*

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***

# Адкрыццё. Здзіўленне. Захапленне. Каханне...



Звычайны ранак. Прачынаемся. Не заўсёды з ахвотай. Аднак не кожны раз падхопліваешся, нібы ў азарэнні: «Вось яно — геніяльнае». Калі не ўстаць у гэты момант, ідэя знікае, нібы яе і не было. Заўсёды спрабую лавіць такія моманты. Гэта можа адбыцца ў любы час. Я не ведаю дакладна, калі накрые наступная хваля захаплення, палёту душы або крыку сэрца. Заўсёды неспадзявана прыходзіць, калі нават не чакаеш. Такі стан вельмі цяжка прадбачыць, тым больш выклікаць штучна. Творчы ўздым — паветра, якога не хапае чалавеку.

Вось ідзеш ты па вуліцы і назіраеш. Як падаюць сняжынкі, як сонейка блішчыць, як прыемная моразь дакранаецца да твару. Аднак лепей ісці з кім-небудь са сваіх сяброў, кідацца снежкамі, усміхацца і жартаваць. Або з каханым чалавекам, трымаючыся за рукі. Бегаць адзін за адным ці пісаць на снезе прызнанні ў каханні. Ці стаяць, абняўшыся, і моўчкі дзяліць думкі на дваіх.

Цішыня. Затрымаеш погляд на сняжынцы. Яна нечым прывабіла цябе. Назіраеш, як яна кружыць, нібы здагадваецца, што спадабалася. Раптам — бух! — у плячо снежка. І тут цябе азарае. Вочы заблішчэлі і эмоцыі ўжо не стрымаць. Колькі прыгажосці, мяккасці і пазітыву ў адной снежцы! Успамінаецца дзяцінства, калі вялікаю грамадой з гаманкімі хлапчукамі і дзяўчатамі хадзілі на горку. Яна на той момант здавалася такой вялізнай і высокай, нават дрыжыкі бралі. У дзяцінстве заўсёды так: усё здаецца вялікім і непрыступным. Уволю накатаўшыся, ідзём «мераць» снег, нават бяжым. Коля забурыўся, зарагатаў і кінуў снежку ў Лёшу, Лёша ў Таню... Пачалася забава.

Прыцемкі. Неахвотна ісці дадому і рабіць ўрокі. Але трэба, каб маці з татам не хваляваліся.

Сярэдзіна снежня. Падступае навагодні настрой, з кожным днём усё больш адчуваеш прыбліжэнне свята.

— Як думаеш сустракаць Новы год?

— У атачэнні родных і блізкіх сэрцу людзей. Каб на вуліцы быў невялікі снегапад, у руках — бенгальскія агні, а ў пакоі — пах мандарынак!

*Кацярына ЛЯСУН, 18 гадоў, Магілёў,*
*фота Рагнеда Малахоўскага*

# Яшчэ адна гісторыя пра Папялушку



Той раніцай ты прачнулася ад таго, што буйныя кроплі дажджу грукаталі па шыбах. Дзіўна, ім хацелася не даць табе адпачыць. А ці ведаюць яны, што ты ўсю халодную ноч прахадзіла па вуліцах, адкуль цябе праводзілі позіркі збянтэжаных мінакоў. Але ты ўжо забылася на гэта. Ды і не звярнула ўвагі, бо ўжо звыклася.

Дождж ліў безупынку. І ты вырашыла перамагчы грукат: накрыла галаву падушкай, а зверху коўдрай. На хвіліну заснула. Але хутка прачнулася ад гучнага будзільніка. «Што, і ён хоча паздзекавацца з мяне?» — падумала ты. Сон больш не прыходзіў.

Так пачаўся твой дзень, сумны, як звычайна. Ты апранула сваё шэрае ўлюбёнае паліто, мужчынскую шапку і акуляры з расколінай на шкле. Глянуўшы ў люстэрка, выйшла з дому.

Бясконцыя косы дажджавых кропляў і шпаркія раўчукі суправаджалі цябе ўсю дарогу. А цікаўныя людзі, як заўсёды, пазіралі на тваю вопратку і на твар, які то ўсміхаўся без прычыны, то злаваў на ўсіх. Ты апусціла вочы і ішла, гледзячы пад ногі. Надакучыла сустракацца позіркамі з чужымі людзьмі.

Ты ішла і не спадзявалася, што жыццё ў адно імгненне можа змяніцца да лепшага, што заўтра будзе значна адрознівацца ад сумнага ўчора. Але што гэта? Дзіўную песеньку спяваў мужчынскі голас. Пачуўшы яе, падняла галаву. Насустрач рухаўся вясёлы хлопец, спяваючы: «Які цудоўны дзень...» І зноў тыя самыя мінакі паказвалі пальцам на яшчэ аднаго дзівака. А хлопец, не звяртаючы ўвагі на холад, ішоў у адной футболцы і з яркім парасонам у руках. Ты заўважыла, што на футболцы быў надпіс: «Happy birthday».

Праз некалькі хвілін з-за хмар паказалася сонца. Яно і той хлопец з парасонам прымусілі цябе зрабіць тое, без чаго ты жыла шмат гадоў. Ты ўсміхнулася і ціхенька вымавіла: «З Днём народзінаў, Саша!»

***Яўгенія РУЛЬ,***
***малюнак аўтара***

# Паўкаралеўства — за каня!



Што ж такое конны спорт? У даўнія часы нашы продкі выпрацавалі правілы абыходжання з коньмі. Гэтыя правілы ўсё ўдасканальваліся — і з часам сталі ператварацца ў спорт. Цяпер існуе мноства конна-спартыўных дысцыплін. І па сваёй разнастайнасці конны спорт стаіць на другім месцы пасля атлетытыкі.

Коннікам-прафесіяналам пляскае ў ладкі ўся планета: Алімпійскія гульні, чэмпіянаты свету і Еўропы, Сусветныя конныя гульні, Кубкі кантынентаў і краін... Вялікі конны спорт адкрыты для тых, каго вабяць складанасць, рызыка, хто ўмее ставіць мэты і дасягаць іх.

На жаль, беларускі конны спорт моцна адрозніваецца сваім узроўнем ад сусветнага. Але пры гэтым некаторыя ўсё ж дасягаюць поспехаў. Напрыклад, нашы майстры міжнароднага класа, якія ездзілі на алімпіяду ў мінулым годзе: гамяльчанін Аляксандр Фамінаў і магіляўчанка Алена Целяпушкіна. Першых узнагарод яны там не заваявалі. Але, на маю думку, тое, што наша краіна адправіла на алімпіяду спартсменаў-коннікаў, — гэта ўжо дасягненне.



Што дае мне конны спорт? Перш за ўсё радасць зносін з коньмі! А ўжо потым нейкія спартыўныя дасягненні і поспехі. Займаючыся, я пачынаю разумець многае пра ўзаемаадносіны паміж чалавекам і канём. Я назіраю, якія стасункі складваюцца паміж жывёлай і спартсме-



намі, трэнерамі, конюхамі, ветэрынарнымі лекарамі. Там наладжваецца давер, які на ўсё жыццё застаецца! А калі ўзгадаць, колькі маленькіх напалоханых жарабят адаграваюць конюхі сваёй дабрынёй! Жарабя — тое ж дзіця. І часам доўга, з жалезным цярпеннем даводзіцца яго выхоўваць.

Маё любімае хобі, як само жыццё: тут і расчараванне, і шчасце. Глыбока сумуеш, калі твайго сябра-каня прадаюць альбо ён памірае. Пакутуеш, калі бачыш боль хворай жывёлы... І радуешся вельмі простым рэчам: падысці, абняць свайго сябра, пачаставаць кавалачкам цукру, сухарыка альбо морквы, паляпаць па карку, пагладзіць ці, седзячы верхам, адчуць неверагодную моц каня.

Коні — сапраўдныя сябры. І любяць яны вас не таму, што вы багатыя альбо разумныя. Яны любяць безумоўна! Проста таму што вы ёсць... У кожнага каня ёсць чалавек, які змяніў яму ўсё жыццё. Да такога чалавека конь моцна прывязаўся і запомніў яго назаўжды.

Конь — гэта не толькі жывёла або інвентар для спорту, як думаюць многія. Яны і нашыя музы, што прымушаюць захапляцца сабой і зайздросціць. Для хворых людзей проста пабыць побач з гэтай высакароднай жывёлай — вялікая радасць. Хворыя дзеткі, вядома, адчуваюць сваё адрозненне ад аднагодкаў. Але калі бацькі прыводзяць іх да коней і яны садзяцца на магутную жывёлу, то дзеці адчуваюць сябе моцнымі! Дарослыя, праўда, баяцца, што конь ударыць, скіне дзіця... Але ж гэтыя шляхетныя жывёлы — разумныя! Яны адчуваюць бездапаможнасць маленькага чалавечка — і паводзяць сябе вельмі добра. Бацькі нават адзначаюць, што дзеці ўжо пасля першага занятку становяцца спакайнейшымі, пачынаюць больш размаўляць, менш бянтэжыцца і баяцца, больш актыўна рухацца.

І як жа тут не працытаваць на развітанне шэкспіраўскае: «Каня, каня! Паўкаралеўства — за каня!»

***Вераніка ГАМЗЮКОВА, 15 гадоў, Гомель,***
***фота з архіваў аўтара***

# «Бярозка» наведала Марка Шагала



*Марк Шагал «Дом у Віцебску», 1922 год.*

Рэдакцыя літаратурна-мастацкага часопіса — паштовая скрынка, куды можна дасылаць свае творы? Не толькі! У нашых пакоях — архівы часопіса за дзясяткі гадоў, тут клапоцяцца пра стварэнне чарговага нумара, прымаюць гасцей, п'юць каву, гутараць пра сэнс жыцця ды крытэрыі сапраўднай літаратуры. І — каб было яшчэ больш жыцця, яшчэ больш свежых думак! — мы прыдумалі Творчую майстэрню «Бярозкі». Для ўсіх жадаючых школьнікаў, ліцэістаў і студэнтаў малодшых курсаў.

Кожны панядзелак, а 19 гадзіне, дзверы нашыя ўсё яшчэ адчынены. Шэрым вечарам у пакоях часопіса пануе не звыклая працоўная будзённасць, а гучыць ціхая музыка таемнасці і святочнасці. Вось літаратарскія, са стосамі тэкстаў і кніжак сталы — паэткі Вікі Трэнас і крытыка Ціхана Чарнякевіча. А ў пісьменніка Анатоля Казлова прасторна на працоўным месцы: усяго некалькі кардонных папак, восеньскія каштаны ды стос аркушаў — чыйсьці яшчэ недачытаны раман. Працоўны дзень гэтых людзей ужо завяршыўся, але нашыя вячоркі суправаджае іх загадкавы дух. Заварваем гарбату, рассаджваемся на парэпаныя рэдакцыйныя крэслы, якія памятаюць багата літаратараў і гісторый.

І няхай наша майстэрня — невялікая кампанія зацікаўленых. Усё адно кожны панядзелак здараецца маленькі цуд. І кожная сустрэча ўнікальная: то мілыя тэксты-«паштовачкі» студэнта-першакурсніка Уладзіслава Калеснікава абмяркоўваем, то эсэ ліцэісткі Алены Біруковай. А, бывае, пра ідэальную літаратуру разважаем. Практычныя заняткі чаргуюцца з майстар-класамі. Гурткоўцы ўжо пазнаёміліся з нашым галоўным рэдактарам Святланай Дзянісавай, рэдактарам аддзела паэзіі «Маладосці» Вікай Трэнас, музычным крытыкам Вітаўтам Мартыненкам.

А яшчэ мы — лёгкія на пад'ём і цікаўныя! Ведаючы, што спазнаваць жыццё захапляльней усім разам, выправіліся ў Нацыянальны мастацкі

музей — на выставу «Марк Шагал: жыццё і каханне». Валодзя Валодзін, супрацоўнік аддзела рускага мастацтва, зладзіў нам экскурсію. Дзякуй яму за гэта ад усіх нас! Мы ж у сваю чаргу паабяцалі размясціць водгукі на старонках «Бярозкі».

*Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ*

## Адзін з маіх улюбёных мастакоў!

Калі я вучылася ў мастацкай школе, у апошні год навучання дадаўся прадмет «Гісторыя мастацтваў». Нам расказвалі пра культавыя творы мастакоў, архітэктараў, скульптараў. І пра людзей, якія стваралі гісторыю. Аднойчы наш выкладчык прынёс на заняткі кнігу, прысвечаную Марку Шагалу. Нам распавялі пра яго жыццё, лёс і творчасць. Рэпрадукцыі Шагала тады мне здаліся незямнымі: цудоўнае пачуццё колеру спалучалася з багатай фантазіяй. Тады я зразумела, што Шагал — адзін з маіх улюбёных мастакоў.

Прайшло некалькі гадоў, і ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску адкрылася выстаўка работ Марка Шагала. Мне пашчасціла ўбачыць яе адной з першых. У прасторным зале — работы алеем, графіка і акварэль. Усё гэта суправаджаецца цікавымі расповедамі экскурсаводаў — шмат цікавых падрабязнасцей з жыцця мастака. Мабыць, гэта адна з самых значных выстаў у мастацкім музеі за апошні час… Але пра Шагала немагчыма ўсё напісаць: яго творы трэба ўбачыць!

*Паліна БУЧЭЛЬ, 18 гадоў, Інстытут журналістыкі БДУ*

## Марк Шагал як тэрапія

Пастаянныя праблемы, пошук недахопаў у сабе, думкі, накшалт, «усё кінуць і з’ехаць як мага далей». Няма ў душы спакою! А потым заходзіш у Нацыянальны мастацкі музей, падымаешся да залы, дзе знаходзіцца выстаўка Марка Шагала і... неверагодна: з цягам часу дрэнны настрой проста сыходзіць. Замест песімізму — захапленне, замілаванне, прамяністыя эмоцыі.

Карціны Шагала прыцягваюць увагу нават звычайнага чалавека, які амаль нічога не разумее ў жывапісе. Асноўнае, што кідаецца ў вочы ў творах «віцебскага парыжаніна» — гэта матывы кахання і кветак. Лёгкасць, узнёсласць, моц пачуццяў выходзяць за мяжу палатна. Таксама вельмі шмат выяў простых людзей, у якіх Шагал заўважыў штосьці незвычайнае… І тым жахлівей, кантрастней выглядаюць побач малюнкі Шагала, што адлюстроўваюць вайну ды знішчэнне яўрэўскага народа.

Наогул, пасля наведвання выстаўкі застаецца дзівоснае адчуванне. Здаецца, што дакрануўся да чагосьці вельмі тонкага і ў той жа час моцнага. І, відаць, гэтая тонкасць і моц, гэты ўспамін пра сутыкненне з мастацтвам застанецца ў душы яшчэ надоўга.

*Маша БАДЗЕЙ, 15 гадоў, Ліцэй БДУ*

● **Дынамік**

# Да Бога з рок-н-ролам




***Алеся Унукоўская. «Не разбіцца», Мінск, 2012, «БМАgroup».***

Песні Алесі Унукоўскай запомніліся многім яшчэ з касетных рэлізаў, з удзелу ў папулярных CD-складанках серыі «Беларускі хрысціянскі хіт» або трыб'юта Наталлі Арсенневай «З крывіцкай сям'і». І вось цалкам новая праграма амаль на гадзіну. Назву альбома Алесі Унукоўскай — «Не разбіцца» — цудоўна тлумачыць мастацкае аздабленне выдання, зробленае Кірылам Мусіенкам: жыццё чалавека інтэрпрэтуецца як пільны кантроль раўнавагі, пастаўлены перад гужаходцам. Гартаючы буклет, мы назіраем пакручасты працяг гэтага жыццёвага гужа, у якім цяжка, але можна (і трэба) не разбіцца. Ды і мудрасць народную не забывайма: «Узяўся за гуж — не кажы, што не дзюж».

Праўда, вобраз не назавеш рэвалюцыйным. Аматары бардаўскай песні цудоўна памятаюць альбом Уладзіміра Высоцкага «Натянутый канат» (1977, «Polydor»), дзе таксама ёсць словы: «Он по жизни шагал над помостом / По канату, натянутому, как нерв». Але наша зорка бардаўскай песні не паўтарае, а развівае класічны вобраз, знаходзячы падмацоўку той самай раўнавагі ў хрысціянскай веры. Фрагмент загалоўнай песні ў буклеце кружэлкі нават вынесены на асобную старонку разам з партрэтам артысткі на малюнку Аляксандра Ліпоўскага:

Госпад вялікі трымае зямлю,
Ведае крокі мае. І душу маю
Ён сцеражэ ад бедаў і зла,
Каб душа магла не разбіцца.
Не разбіцца, а ляцець вышэй,
Прыгажосцю боскіх ідэй захапіцца.

Стылістычна не кожны назаве ўзорнымі ў бардаўскай плыні песні гэтага альбому Алесі Унукоўскай (хоць на прэзентацыі кружэлкі ў мінскім Палацы ветэранаў падчас фэсту: «Цуд на Каляды» спевы гучалі пад гітару), бо выразна тут паўплывала на ейную творчасць і так званая «эпоха рок-н-рола». А праз гэта ў сферы гукавага ўвасаблення сучаснасці ў беларусаў з'яўляецца надзвычай нечаканы, але прывабны досвед. Калі вас уразіў недзе «Калядны рок-н-рол» гурта P.L.A.N., дык тут парадуе і гэткі «велікодны вальс» пад назвай «Гэй, everybody!»:

Хрыстос уваскрос! І я...
Хрыстос уваскрос! І ты...
Хрыстос уваскрос! І мы...
Радасцю, радасцю свецімся.




*Алеся Унукоўская.*

І не толькі музычны фармат або тэкст набліжае Алесю да рок-плыні (хай сабе і акустычнай). Тут жа і пільна распрацаваныя аранжыроўкі, і кантынгент музыкаў класічнага рок-бэнда: сама яна, Алеся Унукоўская (гітара, вакал, кампазіцыя, тэксты), Паўлюк Рысь (гітара, клавішныя, аранжыроўка), Аляксандр Гурын (бубны), Вадзім Кулік (пузон, саксафон).

«Не разбіцца» запісваўся ў дыхтоўнай баранавіцкай студыі «Селах», дзе ўвасаблялі свае творы: мінчане Tesaъrus, гарадзенец Віктар Шалкевіч. Таксама бралі ўдзел у гукасесіі альбома запрошаныя музыкі: аранжыроўшчык Аляксандр Панін, бэк-вакалісты Артур Мадатаў, Вольга Барок і Альбіна Калінкіна. Ім усім удалося стварыць эмацыйна цёплы, канцэптуальны альбом, выразна акцэнтаваны гук якога чапляе ўжо з першай песні («Толькі Бог, толькі ты»).

Праўда, не трэба шукаць тут нейкіх наватарскіх памкненняў шоу-бізнесу, бо альбом вытрыманы ў класічнай традыцыі дабравесця. Аўтарка не толькі прапагандуе пастулаты хрысціянскай веры, але і акцэнтуе ўвагу на светлых баках жыцця, тым самым дапамагаючы людзям, надта засяроджаным на адваротным. Па сутнасці, прымаўку «што ні робіцца, да лепшага» Алеся Унукоўская па-свойму — мякка і пяшчотна — разгортвае ў песнях: «Я ехала дамоў», «Мой доўгі шлях», «Кліч», «Нябёсы», «А я свабодны», «Золатка», «Смакоўніца» ды іншых. Найбольш знакамітая з песень, бадай, «Зоркі далёка», якая стала культавай і часта выконваецца вернікамі ў касцёльных песняспевах. Не памятаю, дзе пачуў яе ўпершыню, але ў альбом яна ўвайшла своеасаблівым бонусам.

І хоць да напісання тэкстаў некалькіх песень далучыліся іншыя людзі (Аляксей Шэін, Марыя Савушкіна), слухачу ўсё ж карціць запытаць спявачку: «А чаму яна занадта часта гаворыць ад імя мужчынскай асобы?» Бо гэта не толькі ў трэках з суаўтарствам Аляксея, але і ў дамскіх вытворах. Але спыняцца над гэтым залішне не варта, бо, пэўна, тое можна ўспрымаць у якасьці абагульненага звароту да Бога ад імя Чалавека, не ператвараючы яго ў жаноцкае памкненне. Магчыма, такім шляхам Алеся Унукоўская і заваявала сабе стабільную армію прыхільнікаў на розных фэстах, вандроўках, камерцыйных канцэртах.

**_Вітаўт МАРТЫНЕНКА,_**
**_музычны крытык_**

***Льготная падпіска для ўстаноў***
***Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі***
***Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;***
***падпісная цана на 1 месяц — 27 720 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 13 800 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 35 080 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.***
***Цана на 1 месяц — 9700 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.01.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,93. Тыраж 2406 экз. Заказ 107. Кошт нумара ў розніцу 13 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**